# Пад скіпетрам Расейскай імперыі



**АЛЯКСАНДР РАДЗЮК**

# ПАД СКІПЕТРАМ РАСЕЙСКАЙ ІМПЕРЫІ: РЭПРЭСІЎНАЯ ПАЛІТЫКА ЦАРЫЗМУ НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX СТ.



**ГАРОДНЯ-КРАКАЎ 2017**




*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.*

*Дзякуем усім, хто з намі.*

**Каардынатар кніжнай серыі «ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»:**
Павал Мажэйка
**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

**УДК 93/94**
**ББК 63.3(2)47**
**Р15**

**"Пад скіпетрам Расейскай імперыі: рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст." Аляксандра Радзюка** – чарговае выданне кніжнай серыі ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА.

**Рэдактар**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт Анатоль Брусевіч

**Рэцэнзент**
праф., доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук

У манаграфіі разгледжаны асноўныя элементы рэпрэсіўнай палітыкі царскіх уладаў у дачыненні да беларускіх зямель у канцы XVIII – першай палове XIX ст. Аўтар прасачыў эвалюцыю гэтай палітыкі, вызначыў яе адметнасці, а таксама наступствы. Значнае месца ў кнізе адведзена даследаванню механізмаў, праз якія царызм ажыццяўляў увесь комплекс мерапрыемстваў рэпрэсіўнага характару.

Кніга скіравана да тых, хто цікавіцца гісторыяй роднай краіны.

ISBN 978-83-947242-0-7

Беларускае таварыства ў Кракаве
Towarzystwo Białoruskie w Krakowie

# Змест

# ПРАДМОВА

Рэпрэсіўны складнік з'яўляецца неад'емнай часткай палітыкі любой дзяржавы ў дачыненні да сваіх грамадзян. Яго ўдзельная вага, асноўныя формы і элементы залежаць ад многіх фактараў, сярод якіх на першае месца трэба паставіць палітычную стабільнасць у краіне, ступень развіцця дзяржаўна-прававых інстытутаў і адметнасці гістарычнай эпохі ў цэлым.

Рэпрэсіі адыгрывалі істотную ролю ў сістэме мерапрыемстваў дзяржаўнага характару ў дачыненні да беларуска-літоўскага рэгіёну ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. Пачынаючы з самых сваіх першых распараджэнняў па далучэнню беларускіх земляў да Расейскай імперыі, новыя ўлады далі зразумець, што любыя праявы незадаволенасці ці непадпарадкавання будуць жорстка пакараныя. І ў далейшым, на працягу ўсяго XIX ст. рэпрэсіўны складнік з'яўляўся важным элементам імперскай палітыкі. Пры гэтым, царскія ўлады актыўна карысталіся метадамі і сродкамі, якія пры іншых абставінах імі не ўжываліся. Аналіз зместу, метадаў і мэтаў санкт-пецярбургскага двара выяўляе пэўныя аналогіі з той палітыкай, якую праводзілі буйныя дзяржавы-метраполіі ў дачыненні да сваіх калоній. Адпаведным было і стаўленне імперскіх уладаў да мясцовага насельніцтва як да "туземцаў"[1].

Аўтар некалькіх кніг, аб'яднаных агульнай назвай "Рэпрэсіўная палітыка", амерыканскі гісторык Роберт Голдстэн акрэсліў прадмет свайго даследавання наступным чынам: "*Палітычныя рэпрэсіі складаюцца з дзеянняў дзяржавы, якія груба ўшчамляюць інтарэсы людзей і арганізацый, бо яны з яе пункту гледжання ўяўляюць надзвычайную небяспеку існуючай уладзе або ключавым элементам дзяржаўнай палітыкі з-за сваіх палітычных перакананняў*"[2]. Ад сябе дададзім, што такія дзеянні заўсёды носяць выразны гвалтоўны характар і могуць мець як калектыўную, так і індывідуальную скіраванасць. Пры гэтым, дзеля дасягнення сваіх мэт, дзяржава выкарыстоўвае ўсе даступныя сродкі, у тым ліку надзвычайныя, а таксама дзеянні неправавога характару.

Сістэма рэпрэсіўных мерапрыемстваў, што стасавалася царызмам на тэрыторыі Беларусі і суседніх рэгіёнаў, уключала ў сябе мноства элементаў. Галоўная роля ў іх пераліку належала вайсковым аперацыям. Праз ужыванне ваеннай сілы царызмам былі задушаны паўстанні 1794 і 1830–1831 гадоў. Таксама армія была важным кампанентам усёй сістэмы пакарання палітычных "злачынцаў" і ў мірны час. Іншымі важнымі сродкамі прыцягнення да адказнасці ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху былі канфіскацыя маёмасці, ссылка, смяротнае пакаранне і паліцэйскі нагляд. Пры гэтым, аўтар не ставіў

[1] Российский государственный архив. Фонд 1266, опись 1, дело 8, лист 69.

[2] Goldsten J. Political Repression in Modern America from 1870 to 1976. Illinois, 2001. — P. XXVIII; Goldsten J. Political Repression in 19th century Europe. London and Canberra, 1983. — P. IV.

перад сабой мэты паказаць абсалютна ўсе элементы карнай палітыкі царскіх уладаў у вызначаны перыяд. Таму некаторыя яе складнікі засталіся па-за межамі даследавання. Тое самае тычыцца і суб'ектаў, супраць якіх яна была скіравана. У сувязі з тым, што дадзеная кніга прысвечана пераважна вывучэнню рэпрэсій у кантэксце развіцця нацыянальна-вызваленчага руху (у розных яго формах) на землях Беларусі і Літвы, то ў яе не ўвайшлі розныя праявы гэтай палітыкі ў адносінах да некаторых сацыяльных, рэлігійных і нацыянальных груп (шляхта, сяляне, стараабрадцы, габрэі і пад.) або інстытуцый (навучальныя ўстановы, уніяцкая царква, касцёл і пад).

Усе азначаныя віды пакарання не з'яўляліся прадметам асобнага вывучэння. Натуральна, што ў часы існавання Савецкага Саюза на падобную тэму было накладзена "табу", паколькі яна не ўпісвалася ў агульнапрынятую канцэпцыю барацьбы беларускага народу "за ўз'яднанне з Расіяй". У апошнія дзясяцігоддзі ў незалежнай Беларусі з'явіўся шэраг гістарычных прац, прысвечаных палітыцы санкт-пецярбургскага двара ў цэлым, або ў адносінах да некаторых сацыяльных груп тагачаснага грамадства (шляхта, каталіцкае духавенства), а таксама рэлігійных інстытуцый (уніяцкая царква і каталіцкі касцёл). Тут можна адзначыць работы Вольгі Гарбачовай[3], Вячаслава Шведа[4], Уладзіміра Сосны[5], Валянціны Янкоўскай і Алёны Філатавай[6], Дзмітрыя Матвейчыка[7], Святланы Лугаўцовай[8]. Разам з тым можна канстатаваць, што адсутнасць сур'ёзных даследаванняў па дадзенай тэме спарадзіла мноства недакладнасцей і міфаў. Тое самае можна сцвярджаць і пра польскую гістарычную навуку, якая асноўную сваю ўвагу засярodзіла на вывучэнні тэмы палітычнай ссылкі, пакінуўшы ўсе іншыя элементы карнай сістэмы па-за межамі навуковага вывучэння.

Падставай для напісання кнігі ў першую чаргу сталі архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў архівасховішчах Беларусі, Літвы, Расіі і Польшчы. Абсалютная большасць з іх упершыню ўводзіцца ў навуковы зварот. Паколькі большасць крыніцаў дадзенага тыпу адносяцца да групы так званага афіцыйнага справаводства і, адпаведна, фіксуюць бачанне тых працэсаў выключна з пазіцыі расейскіх уладаў, аўтар імкнуўся па-магчымасці шырока выкарыстоўваць гістарычныя дакументы, якія паходзяць ад непасрэдных удзельнікаў тых падзей, але прадстаўляюць іншы бок канфлікту. Да ліку апошніх адносяцца ме-

---

[3] Гарбачова В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. Мінск, 2001; Гарбачова В. Удзельнікі паўстання 1830–1831 гг. на Беларусі. Біябібліяграфічны слоўнік. Мінск, 2004.

[4] Швед В. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). Гродна, 2001.

[5] Сосна У. Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. Мінск, 2000; Сосна В. Конфискация помещичьих имений и крестьянский вопрос в Белоруссии (30–40-е годы XIX в.) // Роль крестьянства в социально-экономическом развитии общества. Минск, 1984.

[6] Канфесіі на Беларусі. Мінск, 1998; Канфесійны фактар у сацыяльным развіцці Беларусі (канец XVIII — пачатак XX ст.). Мінск, 2015.

[7] Матвейчык Д. Выгнаныя з роднага краю. Мінск, 2011.

[8] Луговцова С. «Заговор Конарского» и его организатор на страницах следственного дела 1838–1839 гг. (По материалам Литовского государственного исторического архива в г. Вильнюсе) // Российские и славянские исследования, Вып. 5, Минск, 2010. — С. 106–112.; Луговцова С. Репрессии против повстанцев (1830–1831 гг.) // Гісторыя: праблемы выкладання. 1999. № 2. — С. 30–42.

муары, дзённікі, успаміны і іншыя крыніцы, якія досыць шырока прадстаўлены ў дадзеным даследаванні.

Усебаковы аналіз рэпрэсіўнай палітыкі закранае праблему становішча беларуска-літоўскага краю ў складзе Расійскай імперыі ў цэлым і вылучэння палітыка-прававых адметнасцей згаданых тэрыторый у межах гэтай дзяржавы. Канец XVIII — пачатак XIX ст. — гэта эпоха, калі ў адносінах да дадзенага рэгіёна расійскія ўлады яшчэ не сфармавалі адзінага, канцэптуальнага падыходу адносна месца і ролі гэтых земляў у складзе імперыі. Менавіта пагроза страты заходніх абшараў падштурхнула царызм да распрацоўкі новых элементаў урадавага курсу, элементаў, якія ў значнай ступені былі заснаваныя на рэпрэсіўнай аснове. Выпрацаваныя ў рамках гэтай дыскусіі падыходы хоць і не былі цалкам рэалізаваны ў акрэслены час, сталі, між тым, падставай для дзяржаўнай палітыкі ў другой палове XIX ст. У кнізе аналізуюцца не толькі маштабныя захады царскай адміністрацыі па задушэнню нацыянальна-вызваленчага руху, іншадумства і інтэграцыі беларускіх земляў у склад імперыі. У ёй прасочаны і вызначаны вынікі гэтай палітыкі, што аказалі адчувальны ўплыў на многія бакі сацыяльна-эканамічнага, культурнага, рэлігійнага і палітычнага жыцця дадзенага рэгіёна.

Кніга складаецца з трох асноўных раздзелаў. Яны нераўназначныя па аб'ёме, што абумоўлена перш за ўсё той роляй, якую адыгрывала тое ці іншае пакаранне ў агульнай сістэме карнай палітыкі, а таксама даступнай базай крыніц па гэтай тэме. У кожным з раздзелаў па-магчымасці падрабязна разгледжана гісторыка-прававая эвалюцыя асноўных відаў рэпрэсій (*канфіскацыя, ссылка, смяротнае пакаранне, паліцэйскі нагляд*), выяўлены і прааналізаваны найбольш важныя іх адметнасці і выпадкі стасавання ў вызначаны перыяд. Усе гэтыя элементы мелі сваю спецыфіку, якая ў значнай ступені адрознівала іх выкарыстанне на землях Беларусі і Літвы ад іншых рэгіёнаў імперыі. Таксама аўтар палічыў неабходным падвергнуць дэталёваму аналізу асаблівасці судова-следчага працэсу па справах палітычнага характару, без разумення якіх немагчыма спасцігнуць логіку сістэмы пакарання ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Акрамя таго, у главе, што прысвечана ссылцы, разглядаюцца некаторыя іншыя, спадарожныя віды пакарання: поўнае ці частковае пазбаўленне маёмасных правоў і правоў стану, фізічныя пакаранні, турэмнае зняволенне і інш.

Вывучэнне рэпрэсіўнай палітыкі патрабуе грунтоўнага аналізу юрыдычна-прававой базы асобных яе элементаў. Вось чаму дадзеная праца выканана на стыку гістарычнай і юрыдычных навук. Выкарыстанне падобнага падыходу дазволіла выявіць адметнасці прававога становішча беларускіх земляў, якія, у тым ліку, былі абумоўлены і іх геапалітычным размяшчэннем. Прадстаўленыя высновы выразна засведчылі пашыраную практыку стасавання царызмам юрыдычных норм і мер, якія не адпавядалі агульнаімперскай тэорыі і практыцы. У кнізе старанна прааналізаваны ўсе падобныя нюансы, а таксама выяўлены прычыны, што іх абумовілі.

У геаграфічным плане даследаванне ахоплівае тэрыторыю сучаснай Беларусі і Літвы. Паколькі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. гэтыя землі складалі адзінае тэрытарыяльна-палітычные аб'яднанне, злучанае агульнасцю гістарычнага лёсу, супольнасцю гаспадарчага, сацыяльнага, культурнага і ду-

хоўнага жыцця, то аўтар не палічыў неабходным вылучаць абшары Беларусі ў якасці асобнага суб'екта даследавання. Але разам з тым, у тых выпадках, дзе гэта ўяўлялася магчымым (у першую чаргу гэта тычыцца выяўлення геаграфіі канфіскаваных маёнткаў), былі прадпрынятыя спробы дакладнага акрэслення колькасных паказчыкаў таго ці іншага элементу карнай палітыкі царызму ў дачыненні да Беларусі.

Даследаванне дадзенай тэмы дае магчымасць не толькі спасцігнуць спецыфіку эпохі, выявіць тое месца, якое займалі заходнія губерні ў складаных і супярэчлівых узаемаадносінах цэнтра з рознымі нацыянальнымі ўскраінамі імперыі, але таксама дазваляе лепш зразумець спецыфіку нацыянальна-вызваленчага руху на гэтых абшарах, вылучыць і сістэматызаваць усе яго формы, выявіць новыя, невядомыя імёны яго ўдзельнікаў.

*Аляксандр Радзюк*

# РАЗДЗЕЛ 1

# КАНФІСКАЦЫЯ ЗЯМЕЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У КАНЦЫ XVIII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

## ПРАВАВОЕ АФАРМЛЕННЕ ІНСТЫТУТА КАНФІСКАЦЫІ

Канфіскацыя (ад лац. confiscatio — адабранне ў казну) азначае прымусовае бязвыплатнае адчужэнне ва ўласнасць дзяржавы ўсёй або часткі маёмасці, якая з'яўляецца асабістай уласнасцю асуджанага[9]. Канфіскацыя як мера пакарання вядома са старажытных часоў. У сваім развіцці механізм канфіскацыі, яго заканадаўчая база зведалі значную эвалюцыю. У залежнасці ад ступені развіцця палітычнай сістэмы і юрыдычнай думкі канфіскацыя ў розныя гістарычныя эпохі мела шэраг спецыфічных рыс, якія былі характэрныя толькі для гэтага перыяду. Адначасова з гэтым працэсам адбывалася складванне рэгіянальных адметнасцяў. Менавіта асаблівасці, якія гістарычна скласіся ў прававых сістэмах краін, у склад каторых на працягу розных эпох уваходзілі беларускія землі, шмат у чым і абумовілі спецыфіку ажыццяўлення канфіскацый зямельнай уласнасці ў Беларусі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст.

Фармаванне спецыфічных рыс ужывання пакарання ў выглядзе пазбаўлення маёмасці адбывалася ў некалькі этапаў. Канфіскацыя маёмасці пад рознымі назвамі была вядома ўжо ў першых славянскіх дзяржавах. Пацверджанне гэтаму можна знайсці ў старажытных зборніках тагачаснага права. Так, у розных рэдакцыях Рускай Праўды дадзеная мера сустракаецца пад назвай "поток" і "разграбление", якія, на думку некаторых даследчыкаў, разам складалі адно пакаранне[10]. Ад разумення канфіскацыі ў цяперашнім сэнсе гэтага слова "поток" і "разграбление" адрознівалася не толькі назвай, але і мэтамі — падчас рэалізацыі гэтай меры ў раннефеадальным грамадстве асноўны акцэнт рабіўся на задавальненне тых страт, якія нёс пацярпелы бок, і толькі рэшта канфіскаванай маёмасці шла на карысць князя. У XI–XIVст. азначаная мера ўздзеяння стасавалася за розныя віды крымінальных злачынстваў (падпал, разбой і інш). Тым не менш, як лічыць гісторык рускага права Міхаіл Уладзімірскі-Буданаў, ужо ў перыяд ранняга сярэднявечча ва ўсходнеславянскіх дзяржавах практыка распаўсюдзіла гэты від пакарання і на палітычныя злачынствы[11].

---

[9] Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 1992. — С. 277.

[10] Тихомиров М. Пособие по изучению Русской Правды. Москва, 1953. — С. 104, 164.

[11] Владимирский-Буданов М. Обзор истории русского права. Киев, 1886. — С. 25.

У раннефеадальным праве польскіх земляў канфіскацыя выступала пад назвай "злупення", якое заключалася ў разрабаванні маёмасці злачынцы і спаленні яго дому. У XI–XIII ст. канфіскацыя ў розных рэгіёнах тагачаснай Польшчы выступала як дадатковы від пакарання падчас выканання смяротнага прысуду, выгнання і іншых відаў кары, але таксама была вядома як і самастойнае пакаранне[12]. У адрозненне ад рускага права, фарміруючаяся прававая сістэма польскіх земляў ужо ў той час сярод злачынстваў, якія караліся пазбаўленнем маёмасці, на першае месца высоўвала процівапраўныя дзеянні супраць дзяржавы і царквы[13]. Іншым адрозненнем ад рускай прававой традыцыі было тое, што адабраная маёмасць паступала ў поўнае распараджэнне князя, які па ўласнай волі мог задаволіць страты пацярпелых. Але нягледзячы на гэтыя адрозненні, канфіскацыю маёмасці ўжо ў перыяд ранняга сярэднявечча ў абодвух прававых сістэмах можна аднесці да ліку найбольш цяжкіх відаў пакарання. Канфіскацыя прыводзіла не толькі да страты маёмасці. І асоба, і ўся яго сям'я гублялі сацыяльны статус і прывілеяванае становішча ў грамадстве. Калі ад смяротнага прысуду і іншых відаў пакаранняў можна было ўратавацца ўцёкамі, то супраць канфіскацыі ратунку не было.

Найбольш важным этапам у развіцці прававой базы канфіскацыі, на нашу думку, з'яўляюцца XV–XVII ст. Менавіта ў гэты час пазбаўленне маёмасці становіцца адным з галоўных відаў пакарання за дзяржаўныя злачынствы і дзеянні супраць вышэйшай улады. Тагачасныя прававыя сістэмы ВКЛ, Польшчы (пазней Рэчы Паспалітай) і Маскоўскай дзяржавы дэманструюць амаль што поўнае супадзенне ў вызначэнні тыпаў супрацьпраўных дзеянняў, якія караліся пазбаўленнем маёмасці. Заканадаўчае замацаванне канфіскацыі ў ВКЛ адбываецца ў XVI ст. у Статутах ВКЛ 1529, 1566, 1588 г. У Польшчы, а пазней у Рэчы Паспалітай ужыванне дадзенай рэпрэсіўнай меры зацвярджаецца некаторымі соймавымі канстытуцыямі. Так, напрыклад, адпаведным прававым актам 1588 г. прадугледжвалася пазбаўленне асобы "гонару, жывата і маёмасці" за здрадніцкія дзеянні супраць Гасудара сумесна з непрыяцелем ці за здрадніцкую здачу крэпасці "альбо якое іншае зробіць супраць гасудара злачынства"[14]. У Маскоўскай дзяржаве працэс стварэння агульнадзяржаўнага збору законаў завяршаецца прыняццем у 1649 г. Саборнага Улажэння. Паколькі непасрэднай крыніцай для вызначэння ў ім паняцця палітычнага злачынства стаў Статут ВКЛ, то гэтым і тлумачацца шматлікія супадзенні, што існавалі ў практыцы выкарыстання канфіскацыі гэтых краін.

Наступны этап у гісторыі развіцця і станаўлення канфіскацыі звязаны з пранікненнем у сярэдзіне — другой палове XVIII ст. у прававую сістэму Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ідэй Асветніцтва. Гэтыя погляды, якія ў значнай ступені змянілі тагачасныя погляды на сутнасць і мэты пакарання, аказалі ўплыў на далейшую эвалюцыю разумення ролі і месца канфіскацыі. Змяненні ў практыцы выкарыстання кары ў першую чаргу выявіліся ў адмове ад празмернай жорсткасці, якая была характэрна для папярэдняй эпохі. Згодна з новым разу-

[12] Бардах Ю., Леснодорский Б., Пиетрчак М. История государства и права Польши. Москва, 1980. — С. 156.

[13] Rzeplińska I. Konfiskata mienia. Studium z historii polityki kryminalnej. Warszawa, 1997. — S. 12.

[14] Российский государственный исторический архив (РГИА). Ф. 1263, оп. 1, д. 69, л. 141.

меннем права, пакаранне, якое накладалася на асуджанага, павінна было быць справядлівым, гэта значыць сувымерным ступені шкоды і не занадта жорсткім. Новыя падыходы вымагалі індывідуалізацыі адказнасці асобы за зроблены ўчынак, адмаўлення ад усіх форм яго калектыўнай праявы. Адным з наступстваў гэтых новых павеваў прававой думкі стала змяншэнне ролі ці нават поўнае адмаўленне ў большасці заходнееўрапейскіх краінаў ад практыкі выкарыстання канфіскацыі[15]. Ад гэтага часу дадзеная мера ўздзеяння ў прававых сістэмах многіх дзяржаў пачынае трактавацца як несправядлівая, неабгрунтаваная і няслушная[16]. З цягам часу новыя тэндэнцыі таксама пранікаюць і замацоўваюцца ў прававой думцы як Рэчы Паспалітай, так і Расейскай імперыі.

У Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. Чатырохгадовым сеймам была зроблена спроба рэформы дзяржаўнага ладу, у рамках якой планавалася правесці і кадыфікацыю права. У выніку працы над новым кодэксам законаў на свет з'явіліся два праекты: каронны і літоўскі. Ніводзін з іх, у адпаведнасці з новым разуменнем мэтаў пакарання, не прадугледжваў кары канфіскацыі маёмасці. Аўтар аднаго з праектаў — Юзаф Шыманскі так аргументаваў адмаўленне ад гэтай меры пакарання: "канфіскацый маёнткаў сярод пакаранняў крымінальных мецць не хочам, таму што яны датычаць не толькі аднаго злачынцы, але закранаюць і бязвінных яго нашчадкаў, што не можа адпавядаць правілам справядлівасці"[17]. Аднак складаныя ўнутраныя і, у першую чаргу, знешнепалітычныя абставіны перакрэслілі ўсе памкненні сойму на шляху рэформ, таму ніводзін з гэтых праектаў не быў рэалізаваны на практыцы.

У Расейскай імперыі адным з галоўных адэптаў і праваднікоў новых павеваў у галіне права была імператрыца Кацярына II. Яе погляды на інстытут, мэты і сутнасць пакарання былі ўвасоблены ў "Наказе" 1767 г. Напісаны пад непасрэдным уплывам ідэй італьянскага асветніка і юрыста Чэзарэ Бекарыя, кацярынаўскі "Наказ" дэклараваў новы падыход у вырашэнні праблемы адпаведнасці пакарання ўчыненаму злачынству ў расейскай прававой думцы. Таксама ў "Наказе" знайшлі адлюстраванне ідэі суадноснасці і індывідуалізацыі пакарання, за якія так актыўна выступалі асветнікі.

Некаторыя з палажэнняў, выказаных у "Наказе", былі пазней часткова рэалізаваны ў "Грамаце на правы, вольнасці і прывілеі шляхетнаму Расійскаму дваранству" 1785 г. Сярод тых прававых палажэнняў, што замацоўваліся гэтым дакументам за прывілеяваным саслоўем, найбольшую цікавасць для нас уяўляе права на недатыкальнасць дваранскай маёмасці ад замаху з боку вярхоўнай улады. "Без суда ды не пазбавіцца шляхетны маёмасці" — дэклараваў 11-ы артыкул гэтага дакумента. Гэта палажэнне, напэўна ў сілу сваёй важнасці, дублявалася ў іншым раздзеле "Граматы", але ўжо ў больш разгорнутым выглядзе. Прынцып індывідуалізацыі пакарання і неадчужальнасці маёмасці дваран пры канфіскацыі таксама закранаюцца і ў 23-м артыкуле гэтага дакумента: "Шляхетнага спадчынны маёнтак у выпадку асуджэння яго па важнейшаму злачынству ды аддасца законнаму спадчынніку яго, альбо спадчыннікам"[18].

---

[15] Rzeplińska I. Konfiskata mienia… S. 104.

[16] Пропостин А. Конфискация имущества: прошлое, настоящие, будущие. Москва, 2011. — С. 13.

[17] Rzeplińska I. Konfiskata mienia… S. 18.

[18] Полное собрание законов Российской империи (ПСЗРИ) (собрание первое). Т. XIX, № 16187.


ЖАЛОВАННАЯ ГРАМОТА

БЛАГОРОДНОМУ РОССІЙСКОМУ ДВОРЯНСТВУ,

СЪ

ПРИНАДЛЕЖАЩИМИ КЪ ОНОЙ

УЗАКОНЕНІЯМИ.

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

Въ Типографіи Правительствующаго Сената.

1827.

*Дарчая грамата расейскаму дваранству (тытульны ліст)*

Такім чынам, як вынікае з тэксту вышэй прыведзеных артыкулаў, "Дарчая грамата" хоць і не ліквідавала канфіскацыю цалкам, аднак уводзіла значнае абмежаванне на яе выкарыстанне. У першую чаргу гэтае абмежаванне тычылася спадчынных (родавых) маёнткаў, у той час як на набытую ("благоприобретённую") уласнасць гэтыя нормы не распаўсюджваліся. Падобная дыферэнцыяцыя ва ўжыванні канфіскацыі была выклікана тым, што менавіта спадчынныя маёнткі, якія складалі вызначальную большасць усіх дваранскіх зямельных валоданняў, карысталіся большым аб'ёмам падтрымкі, абароны і апекі з боку вышэйшай улады.

Прынянцце "Дарчай граматы" азначала пачатак новага этапу ў развіцці заканадаўства і практыкі ўжывання канфіскацыі ў Расейскай імперыі. На думку некаторых савецкіх даследчыкаў, узгаданыя прававыя нормы "не мелі практычнага значэння"[19]. Аднак заканадаўства і судовая практыка канца XVIII-першай паловы XIX ст. сведчаць аб адмове расейскіх манархаў (за выключэннем Паўла I) ад практыкі ўжывання канфіскацыі маёнткаў у адносінах да рускіх дваран. Больш за тое, указам 1802 г. забарона адбіраць маёнткі была распаўсюджана і на асоб іншых саслоўяў. Палажэнні аб абмежаванні канфіскацыі маёмасці, што былі замацаваны "Дарчай граматай" 1785 г., увайшлі і ў некаторыя кадыфікаваныя агульнадзяржаўныя зборы законаў эпохі Мікалая I[20]. Заканадаўства гэтай эпохі сведчыць аб тым, што і ў выпадку пазбаўлення асобы дваранства ці іншага саслоўнага стану, яго маёмасць не адчужалася. Нават у прысудах дзекабрыстам і петрашэўцам, якія былі перададзены суду за цяжкія ў разуменні тагачасных улад палітычныя злачынствы, адсутнічае такі від пакарання, як канфіскацыя. Гэтыя і іншыя факты прывялі некаторых расейскіх правазнаўцаў да супрацьлеглых высноў, быццам бы ў той час у Расейскай імперыі канфіскацыі не існавала ўвогуле[21].

---

[19] Российское законодательство X–XX вв. Т. 5: Законодательство периода расцвета абсолютизма. Москва, 1987. — С. 57.

[20] Свод законов о состоянии людей в государстве. СПб., 1832. — С. 49.

[21] Пропостин А. Конфискация имущества: прошлое, настоящие, будущие. Москва, 2011. — С. 13; Степанищев А. Проблема правового регулирования применения конфискации имущества. Москва, 2002. — С. 8.

І ўсё ж такі канфіскацыя, як мера пакарання, не была ліквідавана цалкам у Расейскай імперыі. У канцы XVIII-першай палове XIX ст. царызм неаднаразова звяртаўся да гэтага віду пакарання ў адносінах да дваранства так званых "заходніх губерняў" імперыі, якія ўключалі ў сябе тэрыторыю сучаснай Беларусі, Літвы, Украіны. Правядзенне канфіскацый у гэтым рэгіёне ў розныя часы было звязана з ажыццяўленнем трох падзелаў Рэчы Паспалітай, задушэннем паўстанняў 1794 і 1830–1831 г., падрыхтоўкай і ажыццяўленнем паходу Напалеона, узнікненнем тайных таварыстваў і інш.

Што тычыцца агульнай тэндэнцыі ўжывання царызмам канфіскацыі на гэтых землях пасля далучэння да Расейскай імперыі, то тут варта спыніцца на асаблівасцях развіцця заканадаўства па гэтым прадмеце. Галоўнай адметнасцю правядзення канфіскацый у азначаны перыяд (за выключэннем першага падзелу) на землях Беларусі было тое, што яны ажыццяўляліся ва ўмовах афіцыйнай адмовы расейскіх улад ад выкарыстання гэтай нормы пакарання. У прававым абгрунтаванні падобнай практыкі адступлення ад дзеючых норм права можна вылучыць два этапы: першы з іх звязаны з імкненнем царызму паказаць уяўную законнасць сваіх дзеянняў. Падобнае абгрунтаванне адбывалася ў 1794–1795 г. пры дапамозе прававой эквілібрыстыкі, шляхам выбарачнага прыпынення дзеяння некаторых норм агульнадзяржаўнага права і выкарыстання ў адносінах да мясцовага дваранства прававых норм ужо неіснуючай краіны.

Наступны этап звязаны з распрацоўкай новай заканадаўчай базы дзеля правядзення канфіскацыі ў асобным рэгіёне імперыі. Гэтая база хоць і была часткова заснавана на папярэдніх пастановах па гэтым прадмеце, аднак цалкам не адпавядала агульнадзяржаўным нормам існуючага права і тагачаснай прававой практыцы. Пачатак новаму этапу паклала заканадаўства Аляксандра I, які ў адрозненне ад Кацярыны II дзеля ажыццяўлення канфіскацыі ўжо не шукаў прававога абгрунтавання сваіх дзеянняў у нормах Статута ВКЛ. Імператар пайшоў па шляху стварэння новага прававога поля ў стасаванні дадзенай меры, не зважаючы на тое, што падобныя акты супярэчылі дзеючым нормам агульнарасейскага права. Велізарная роля ў распрацоўцы заканадаўства аб канфіскацыі аляксандраўскага перыяду належала Камітэту міністраў, які падрыхтаваў большасць пастаноў па гэтым прадмеце.

Адступленні царскіх уладаў ад літары закону нават у асобным рэгіёне імперыі не прайшлі незаўважанымі для сучаснікаў тых падзей. Яны выклікалі негатыўную рэакцыю і непаразуменне з боку некаторай часткі расейскай эліты, у асяроддзі каторай глыбока ўкараніліся прававыя ідэі таго часу. У канцы XVIII ст. такім праціўнікам практыкі ўжывання канфіскацый выявіў сабе літоўскі генерал-губернатар Мікалай Рапнін. Пасля прыняцця пастановы аб канчатковай канфіскацыі маёнткаў у 1795 г. ён у даволі эмацыйнай форме пісаў генерал-губернатару мінскаму, ізяслаўскаму і брацлаўскаму Цімафею Туталміну аб несправядлівасці падобнага рашэння: "...але дзеці іх ці вінаватыя, і ці можна пазбаўляць іх спадчыны ... калі і нашы законы дакладна злачынствы бацькоў на дзяцей не распаўсюджваюць?"[22]. У 1810 г. сенатар Васіль Ланской у нататцы да міністра ўнутраных спраў, аналізуючы імператарскія ўказы аб пазбаўлен-

---

[22] Сборник императорского Русского исторического общества. СПб., 1875. Т. 16. — С. 197.

ні маёмасці дваран у заходніх губернях, прыйшоў да высновы, што "падобнае адабранне права … выклікаць хутчэй можа выснову наконт парушэння карэннага закона"[23]. Можна быць пэўным, што прыведзеныя тут прыклады былі не адзінымі выпадкамі выступлення супраць практыкі выкарыстання царызмам канфіскацый, бо расейскія землеўладальнікі ў падобных дзеяннях у першую чаргу бачылі небяспеку парушэння ўласных правоў. Аднак усе пратэсты гэтай часткі дваранства былі пакінуты без увагі з боку ўлады.

У часы Мікалая І адбывалася далейшае пашырэнне сферы выкарыстання канфіскацыі і ўдасканаленне заканадаўчай базы яе ажыццяўлення. Новы імператар, абапіраючыся на створаны яго папярэднікам прэцэдэнт, пайшоў па шляху стварэння ўласнага заканадаўства адносна канфіскацыі маёмасці ў заходніх губернях імперыі. Менавіта ў часы Мікалая І адбываецца канчатковае замацаванне канфіскацыі як меры пакарання за здзяйсненне палітычных злачынстваў. Калі пры Кацярыне ІІ на "новадалучаных" тэрыторыях фармальна канфіскацыя ўжывалася за непрынясенне прысягі ці яе парушэнне, пры Аляксандры І — за выезд за мяжу без дазволу ўрада, то ў заканадаўчых актах 30-х гадоў ХІХ ст. выразна прасочваецца яе трансфармацыя ў санкцыю за злачынствы супраць вярхоўнай улады. Як адлюстраванне падобнага стану рэчаў, менавіта фармулёўка "за бунт і ўдзел у ім", за каторыя прызначалася канфіскацыя ўсёй спадчыннай і набытай маёмасці, замацоўваюцца ў кадыфікаваным Міхаіл Сперанскім "Зборы законаў", а пасля ўключаюцца ў "Ваенна-крымінальны статут", ва "Улажэнне аб пакараннях крымінальных" 1845 г. і пазнейшыя яго рэдакцыі[24]. Акрамя таго, у гэты час заканадаўцам былі зроблены спробы па сістэматызацыі ўжо існуючых пастаноў аб прымусовым пазбаўленні маёмасці ў заходніх губернях. Гэта было рэалізавана праз выданне зборніка "Пастаноў, якія датычацца канфіскацыі маёнткаў польскіх мяцежнікаў"[25]. Дадзены зборнік, нягледзячы на тое, што ў яго былі ўключаны далёка не ўсе заканадаўчыя акты па гэтым прадмеце, налічвае 40 распараджэнняў адносна пазбаўлення маёмасці, якія ўвайшлі ў "Поўны збор законаў" за час панавання Мікалая І.

Аналіз прававых актаў па дадзеным прадмеце дэманструе, што значная роля ў распрацоўцы заканадаўства адносна канфіскацыі маёмасці, акрамя непасрэдна цара, належала Камітэту міністраў, але яго роля ў параўнанні з аналагічнай дзейнасцю ў часы Аляксандра І зменшылася. Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы заканадаўчых актаў па гэтым прадмеце прымалі таксама асобныя міністры, Камітэт па справах заходніх губерняў, у меншай ступені Дзяржаўны Савет і Сенат. Апошні быў галоўным апеляцыйным органам. У яго кампетэнцыю ўваходзіла ўрэгуляванне маёмасных спрэчак, асобных пытанняў, якія ўзнікалі падчас правядзення канфіскацыі. Не дзіва, што большасць рашэнняў Сената не было ўключана ў "Поўны збор законаў".

Некаторая частка заканадаўства адносна канфіскацыі маёмасці ў першай палове ХІХ ст. была пабудаваная на прэцэдэнце. Гэта азначае, што пастановы па тых справах, якія напачатку тычыліся толькі асобных спраў, пасля прымаліся як

---

[23] РГИА. Ф. 1286, оп. 54, д. 92, л. 46.

[24] Свод законов о состоянии людей… С. 58; Свод законов уголовных. СПб., 1833. — С. 49; Уложение о наказаниях уголовных и исправительных. СПб., 1845. — С. 71.

[25] Постановления относящиеся до конфискации имений польских мятежников. СПб., 1868.

прыклад і ўзор для іншых рашэнняў і, такім чынам, набывалі агульны, абавязковы характар у дачыненні да ўсіх аналагічных выпадкаў[26].

У другой палове XVIII-першай палове XIX ст. разам з далейшым удасканаленнем заканадаўчай базы, якая тычылася ўжывання канфіскацыі, адбываліся пэўныя змены як у юрыдычнай тэрміналогіі, так і ў самім механізме гэтага працэсу. Толькі ў XVIII ст. у расейскім заканадаўстве з'яўляецца і паступова выціскае з ужытку ўсе ранейшыя формы акрэслення гэтага віду пакарання сам тэрмін "канфіскацыя". Тым не менш, яго замацаванне адбылося не адразу. На працягу яшчэ даволі доўгага часу ў заканадаўчых актах і справаводстве дзяржаўнага апарату другой паловы XVIII ст. сустракаюцца іншыя назвы для азначэння пазбаўлення маёмасці. Толькі ў першай палове XIX ст. "канфіскацыя" становіцца адзіным спосабам акрэслення гэтага віду крымінальнай адказнасці.

Развіццё маёмаснага права імперыі, далейшае ўдасканаленне паняцця ўласнасці і сістэмы дзяржаўнай абароны маёмасных правоў дваранства непасрэдным чынам паўплывалі і на развіццё інстытута канфіскацыі. У першую чаргу гэта выявілася ў стварэнні надзейнай сістэмы абароны правоў трэціх асоб, чые інтарэсы закраналіся падчас правядзення канфіскацый, а таксама ў з'яўленні пэўных папярэдніх этапаў, прамежкавых стадый на шляху канчатковага пераходу прыватнай уласнасці ў казну. Такімі стадыямі ў XVIII-першай палове XIX ст. сталі забарона і секвестр.

Тэрмін "секвестр" прыйшоў з рымскага маёмаснага права. У класічным разуменні гэтага слова ён азначае від дамовы, пры якой два бакі добраахвотна ці ў прымусовым парадку перадаюць аб'ект спрэчак на захаванне і кіраванне трэцяй асобе[27]. У такім сэнсе ён і выкарыстоўваўся ў большасці еўрапейскіх прававых сістэм у XVIII–XIX ст. У расейскім маёмасным праве паняцце "секвестр" з'яўляецца ў кацярынаўскі перыяд. Аднак, у адрозненне ад іншых краін, тут паняцце секвестрацыі маёмасці ўжывалася ў іншым значэнні. У дадзеным выпадку, больш правамоцна казаць аб разнастайнасці зместу гэтага паняцця ў юрыдычных дакументах таго часу. Афіцыйныя акты канца XVIII ст., напрыклад, сведчаць, што з секвестрам улады тады даволі часта атаясамлівалі і канчатковую перадачу маёмасці ва ўласнасць казны ці, інакш кажучы, канфіскацыю. Доказам гэтаму могуць служыць, апроч іншага, шматлікія ўказы Кацярыны II аб раздачы ў поўнае валоданне маёнткаў, што былі "секвестраваны ў польскіх мяцежнікаў", расейскаму дваранству[28]. Заканадаўства аб канфіскацыі першай паловы XIX ст. сведчыць аб тым, што ў гэты час налажэнне секвестра папярэднічала непасрэднай канфіскацыі маёнтка.

Пад секвестрам у гэты адрэзак часу трэба разумець усталяванне часовай казённай адміністрацыі над маёмасцю (рухомай і нерухомай) прыватных асоб[29]. У справаводстве гэтага перыяду вельмі часта сустракаецца таксама фармулёўка "узяць у казённы нагляд", што фактычна азначала тое самае. Стасаванне секве-

---

[26] Журналы Комитета министров. Царствование императора Александра I, 1802–1826 гг. Т. 1: 1802–1810. Спб., 1888. — С. 319; ПСЗРИ (собрание второе). Т. XX, № 7616/а.

[27] Большая энциклопедия. Т. 17. СПб., 1904.

[28] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 333, воп. 1, спр. 126, арк. 99; Ф. 299; воп. 2, спр. 56, арк. 5–6.

[29] Никонов С. Секвестрация в гражданском праве. Ярославль, 1900. — С. 196.

стру кожны раз адбывалася на аснове спецыяльна выдадзенага вышэйшага ўказа ў адносінах да маёмасці асоб, якія сваімі дзеяннямі парушалі ці пагражалі "законнаму парадку". Праўда, аналізуючы тэорыю і практыку ўжывання секвестру ў заходніх губернях імперыі падчас паўстання 1830–1831 г., чыноўнікі з Міністэрства дзяржаўнай маёмасці ў 1838 г. прыйшлі да высновы, што гэтая мера пакарання прызначалася губернскімі следчымі камісіямі ў адносінах да маёмасці асоб, якія ўжо былі прызнаны вінаватымі[30]. Аднак заканадаўчыя акты і мясцовае справаводства таго часу сведчаць аб іншым. Так, у адпаведнасці з імператарскім указам ад 6 мая 1831 г., секвестр прадпісвалася накладаць на маёмасць дваран "дастаткова выкрытых у дзейсным распаўсюджванні мяцяжу". Яшчэ да стварэння адпаведных губернскіх следчых камісій, цэнтральнымі і мясцовымі ўладамі былі выдадзены першыя пастановы аб секвестрацыі маёмасці паўстанцаў. Згодна з законам ад 1838 г., маёмасць, у акрэсленым гэтым палажэннем выпадку, загадвалася браць у секвестр адначасова з прыцягненнем асобы да следства ці ўзяццем яе пад варту[31]. Зразумела, што ў падобных выпадках секвестр накладаўся толькі пры падазрэнні ў здзяйсненні нейкіх супрацьпраўных дзеянняў, ні аб якім папярэднім прызнанні віны тут казаць немагчыма.

Узнікненне секвестру, як папярэдняй у адносінах да канфіскацыі меры пакарання, было выклікана шэрагам прычын. Па-першае, асоба, чыя маёмасць знаходзілася пад секвестрам, была пазбаўлена асноўнай крыніцы існавання. Падчас паўстанняў улады такім спосабам, апроч іншага, імкнуліся не дапусціць продажы маёмасці, ці выкарыстання даходаў ад яе на "злачынныя мэты". Па-другое, праз ужыванне падобнай, папярэдняй да канфіскацыі меры пакарання, царскія ўлады стараліся засцерагчы сябе ад магчымых памылак у працэсе канчатковай перадачы маёмасці ў казну. Але разам з тым секвестр меў і іншую мэту — застрашыць, адвярнуць ад удзелу ў нацыянальна-вызваленчым руху найбольш заможную праслойку мясцовага насельніцтва. "Гэтаю мераю, — адзначалася ў Камітэце міністраў падчас распрацоўкі чарговага закона аб налажэнні секвестру на маёнткі "злачынных памешчыкаў" у маі 1831 г., — дасягнуты будуць неабходныя намеры ўрада: узмацніць пачуцце страху ў іншых памешчыкаў, для паўстрымання іх ад падобных злачынстваў…"[32].

Падчас накладання секвестру былы ўладар, яго давераныя асобы ці сваякі адхіляліся ад кіравання маёнткам. Такі маёнтак пасля яго апісання перадаваўся ў распараджэнне мясцовай казённай палаце. У кампетэнцыю гэтага органа ўваходзіла і прызначэнне новых адміністратараў. Новае кіраванне ў секвестраваных маёнтках арганізоўвалася па прыкладу старасцінскіх. Даходы з секвестраваных маёнткаў таксама павінны былі паступаць у распараджэнне казённай палаты. Тым не менш, з юрыдычнага пункту гледжання маёнтак пры гэтым заставаўся ўласнасцю ранейшага гаспадара, які, аднак, пры гэтым губляў права ім распараджацца па ўласным жаданні. У такім стане маёнтак мог знаходзіцца даволі працяглы час, пакуль над яго ўладаром цягнулася следства. Пасля прыняцця адпаведнага рашэння аб вінаватасці ці невінаватасці гаспадара і зацверджання

---

[30] РГИА. Ф. 384, оп. 15, д. 1242, л. 27.

[31] ПСЗРИ (собрание второе). Т. XII, № 11572.

[32] РГИА. Ф. 384, оп. 15, д. 1, л. 65.

гэтай пастановы вышэйшымі органамі ўлады, секвестраваная маёмасць альбо вярталася былому гаспадару, альбо пераходзіла ў разрад казённай.

Даволі значнае месца ў заканадаўчых актах аб канфіскацыі адводзілася забароне. Падчас выкарыстання гэтага віду пакарання заканадаўца ставіў перад сабой тыя самыя мэты, што і пры стасаванні секвестру. Аднак паводле зместу і формы ажыццяўлення гэтыя два віды пакарання ўсё ж такі розняцца. Практыка ўжывання забароны атрымала даволі значнае распаўсюджанне ў расійскім маёмасным праве канца XVIII-першай паловы XIX ст. У гэты час забарона найбольш часта выкарыстоўвалася ў дачыненні да маёмасці, на якую было ўскладзена забеспячэнне грашовых прэтэнзій, як у адносінах да іншых асоб, так і да дзяржавы, якія не былі своечасова пагашаны ўладаром. Дадзены від маёмасных абмежаванняў таксама стасаваўся ўладамі ў выпадках маёмасных спрэчак, нявыплаты экдывідарскіх пошлін і г.д. Аб тым, што ўжыванне забароны ў Расейскай імперыі набыло даволі значныя памеры, сведчыць, між іншым, факт выдання Сенатам спецыяльнага штогадовага зборніка (сустракаюцца некалькі варыянтаў яго назвы) "Аб забароне на нерухомую маёмасць". Падобныя зборнікі ўключалі ў сябе тысячы прозвішчаў асоб, чыя маёмасць знаходзілася пад забаронай, з указаннем яе месцазнаходжання, складу, колькасці сялян і прычыны, па якой яна трапіла ў гэты пералік[33].

Забарона, як і секвестр, прадугледжвала пэўнае абмежаванне правоў уласніка на распараджэнне сваёй маёмасцю. Гэта выяўлялася ў тым, што пры ўжыванні гэтай меры забаранялася прадаваць, дарыць, закладаць маёнтак ці праводзіць з ім іншыя маёмасныя аперацыі. Як і пры секвестры, пры налажэнні забароны маёнтак апісваўся, чысты даход з яго паступаў у прыказ грамадскай апекі[34]. Нягледзячы на гэта, забарона можа лічыцца больш "лагодным" відам пакарання ў параўнанні з секвестрам. Гэта відаць ужо з таго, што падчас стасавання дадзенага віду пакарання ўладар альбо арандатар не адхіляліся ад кіравання сваім маёнткам, а далейшыя адміністрацыйныя дзеянні ўладаў у адносінах да падобнай маёмасці абмяжоўваліся ўсталяваннем пільнага нагляду з боку мясцовай цывільнай адміністрацыі. Аналіз заканадаўчых актаў аб канфіскацыі першай паловы XIX ст. дэманструе, што ў заходніх губернях імперыі азначаная мера пакарання ў большасці выпадкаў ужывалася царызмам у дачыненні не да ўсяго маёнтка, а толькі да асобных яго частак. У такіх выпадках дзяржава імкнулася да забеспячэння сваіх прэтэнзій на тую долю маёмасці, якую яна па той альбо іншай прычыне не магла адабраць у казну адразу. Як тлумачыў міністр фінансаў, "няма сумненняў, што без гэтай меры засцярогі (забароны — А.Р.) уладары … будуць пераводзіць маёнткі свае ў чужыя рукі, каб папярэдзіць іх канфіскацыю"[35].

Такім чынам, з прыведзеных фактаў вынікае, што забарона і секвестр адыгрывалі важную ролю ў механізме канфіскацыі маёмасці на тэрыторыі Беларусі. Іх месца і роля ў гэтым працэсе пастаянна змяняліся. Канчаткова паслядоўнасць працэсу ажыццяўлення канфіскацыі была замацавана толькі ў 1842 г., калі ўказам ад 29 мая было загадана на маёмасць асоб, якія абвінавачваліся ў бунце аль-

[33] Запрещения на недвижимые имения. — Б/м, б/д.

[34] РГИА. Ф. 384, оп. 15, д. 1242, л. 27.

[35] РГИА. Ф. 384, оп. 1, д. 2057, л. 22.

бо іншых палітычных злачынствах, разам з прыцягненнем іх да следства, перш накладаць забарону, а секвестр толькі пасля прызнання такіх асоб вінаватымі[36].

Да іншых агульных тэндэнцый у развіцці заканадаўства аб канфіскацыі таго часу можна аднесці з'яўленне новых санкцый, якія прадугледжвалі канфіскацыю ўсіх тыпаў маёмасці. Так, напрыклад, у канцы 30-х гг. XIX ст. у дадатак да існуючай ужо санкцыі "за бунт" з'яўляецца яшчэ і "змова". Гэтае дапаўненне было звязана з раскрыццём і расследаваннем царскімі ўладамі ў 1838 г. у заходніх губернях так званай "змовы Канарскага". Зрэшты, варта адзначыць, што гэта быў не першы выпадак выкрыцця царызмам падобнага тыпу "злачынства" на гэтых землях. У далейшым, на аснове раней прынятых заканадаўчых актаў, канфіскацыя маёмасці выкарыстоўвалася царызмам і за іншыя віды палітычнай дзейнасці: за ўдзел ураджэнцаў заходніх губерняў Расейскай імперыі ў рэвалюцыйных падзеях у розных краінах Еўропы; супраць эмісараў, якія накіроўваліся на беларускія і літоўскія землі з-за мяжы і асоб, якія аказвалі ім падтрымку; а таксама, як і ў часы Аляксандра І, супраць асоб, якія не вярталіся ў вызначаны тэрмін з-за мяжы па патрабаванню ўрада.

Падводзячы вынікі эвалюцыі заканадаўчай базы стасавання канфіскацыі, можна канстатаваць, што гэтая кара належыць да найстарэйшых відаў пакарання, ці, хутчэй, нават тыпаў рэакцый на супрацьпраўныя дзеянні. У сваім развіцці заканадаўства аб канфіскацыі прайшло некалькі этапаў. У краінах, часткай якіх на працягу розных перыядаў гісторыі з'яўляліся землі Беларусі, Літвы, Украіны, гэтыя этапы мелі шмат агульных рыс. У першую чаргу да іх можна аднесці замацаванне на пэўным этапе канфіскацыі, як адной з галоўных мер пакарання за палітычныя злачынствы. Аднак, не гэтыя агульныя тэндэнцыі, а хутчэй наяўнасць пэўных асаблівасцей у прававых сістэмах тых дзяржаў, у склад якіх у розны час уваходзілі тэрыторыі былога ВКЛ, вызначылі прававую адметнасць правядзення на гэтых землях канфіскацый у канцы XVIII-першай палове XIX ст. Гэтая спецыфіка была абумоўлена перш за ўсё тым, што ўжыванне царызмам канфіскацыі маёмасці адбывалася пры наяўнасці законаў, якія не дапускалі яе выкарыстання ў падобным выглядзе. Акрамя таго, функцыяванне законаў аб прымусовым пазбаўленні маёмасці ў Расейскай імперыі ў гэты час было абмежавана толькі "пагранічнымі губернямі", пад каторымі, як вынікае з прыведзеных пры гэтым указаў, разумеўся выключна Заходні край. Такім чынам, канфіскацыя ў даследуемы перыяд можа быць смела аднесена да разраду надзвычайных мер пакарання.

Чаму менавіта гэты рэгіён імперыі стаў тым месцам, дзе царызм свядома пайшоў на прыняцце заканадаўчых актаў, якія не адпавядалі агульнадзяржаўнай прававой сістэме? Ужыванне расейскімі імператарамі канфіскацыі на гэтых землях, на нашу думку, было абумоўлена тым, што ў адрозненне ад астатніх абшараў імперыі, іншыя віды пакаранняў тут часцей за ўсё аказваліся неэфектыўнымі. Прычына, па якой карная сістэма царызму на гэтых абшарах у некаторых выпадках аказвалася недзеяздольнай, крыецца ў факце наяўнасці блізкай мяжы, за якой палітычныя "злачынцы" маглі ўкрыцца ў выпадку небяспекі прыцягнення іх да адказнасці. У такіх абставінах толькі забарона, секвестр і канфіскацыя маёмасці заставаліся адзіным дзейсным сродкам у ру-

[36] ПСЗРИ (собрание второе). Т. XVII, № 15697.

ках царскіх уладаў, каб прыцягнуць асобу да адказнасці за супрацьпраўныя палітычныя дзеянні.

Заканадаўства канца XVIII-першай паловы XIX ст. дэманструе амаль што поўнае адзінства ў вызначэнні ступені пакарання тым, хто сваімі дзеяннямі пагражаў палітычнай стабільнасці ў заходніх губернях імперыі. Аднак, нягледзячы на гэта, кожным імператарам у кожным канкрэтным выпадку стасавання дадзенай меры пакарання выдаваліся асобныя прававыя акты. Як трапна зазначыў у 1873 г. міністр унутраных спраў Аляксандр Цімашоў, "закон аб канфіскацыі не мае ў нашым заканадаўстве трывалых і вызначаных правіл, выкліканы надзвычайнымі абставінамі і залежны ад палітычных меркаванняў ураду, ён вызначаецца кожны раз асобымі пастановамі..."[37].

У часы Мікалая I у заканадаўстве аб канфіскацыі назіраецца канчатковы зварот да прававой традыцыі выкарыстання гэтай меры пакарання за дзяржаўныя злачынствы, што было ў цэлым характэрна для эпохі Статутаў ВКЛ і Саборнага Улажэння. Удасканаленне і распрацоўка прававых норм правядзення канфіскацыі вельмі актыўна вяліся і тады, калі ў царызму не было ніякіх падстаў ужываць гэтую меру пакарання ў Заходнім рэгіёне імперыі. Да іншых адметных рыс ужывання канфіскацыі на землях Беларусі ў гэты час таксама можна аднесці і той факт, што на працэс пазбаўлення маёмасці аказвалі пэўны ўплыў нормы мясцовага заканадаўства, а менавіта, некаторыя палажэнні Статута ВКЛ 1588 г., якія дзейнічаў на тэрыторыі Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губерняў да 1840 г. У прыватнасці, дзякуючы нормам Статута, некаторыя сваякі асоб (па жаночай лініі) здолелі атрымаць пэўныя грашовыя кампенсацыі ад расейскага ўрада за канфіскаваную ў іх бліжэйшых родзічаў зямельную маёмасць. Замацаванне адпаведнай санкцыі, этапаў і механізму канфіскацыі ў падобным выглядзе ў зборніках законаў у 30–40-я гады XIX ст. мела вялікае значэнне яшчэ і таму, што ў будучым гэтыя нормы і выпрацаваныя механізмы сталі падставай для далейшага развіцця заканадаўства і ажыццяўлення канфіскацыі маёмасці падчас і пасля задушэння паўстання 1863–1864 г.

## КАНФІСКАЦЫЯ ЗЯМЕЛЬНАЙ МАЁМАСЦІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ЧАСЫ ПАДЗЕЛАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Канфіскацыя прыватнай уласнасці на тэрыторыі Беларусі расейскімі ўладамі пачалася адначасова з далучэннем гэтых земляў да Расейскай імперыі. Ужо ў першым юрыдычным дакуменце "аб прыняцці пад Расейскую дзяржаву саступленых ад Польшчы правінцый", датаваным 16 жніўня 1772 г.,[38] утрымлівалася пагроза пазбаўлення маёмасці. Сярод іншага, гэтым актам прадпісвалася маёнткі тых землеўладальнікаў, якія ў трохмесячны тэрмін не прысягнуць на вернасць новаму гаспадару, секвестраваць (браць у казну)[39].

Афіцыйна расейскія ўлады абгрунтоўвалі падобныя свае дзеянні тым, што землеўладальнікі, якія не прынялі прысягі, не маглі лічыцца грамадзянамі Ра-

[37] Lietuvos valstybinis istorijos archyvas (LVIA). F. 525, ap. 1, b. 1340, l. 225.

[38] Тут і далей даты падаюцца па так званым старым стылe.

[39] Рубинштейн С. Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет, с 1652 по 1892 г. Вильна, 1894. — С. 108.

сейскай імперыі, і адпаведна, не мелі юрыдычнага права на валоданне землямі ў межах гэтай краіны. У такім выпадку маёнтак з фармальнага пункту гледжання аказваўся "нічыйным", а казна замяняла сабой асобу яго ўладара. Факты сведчаць, што абсалютная большасць памешчыкаў новаўтвораных губерняў паспяшалася скласці вернападданніцкія прысягі ў азначаны тэрмін[40]. Не апошнюю ролю ў праяўленні такога адзінства, пэўна, адыграла пагроза пазбаўлення маёмасці.

Паколькі тэрмін прысягі ў хуткім часе царскімі ўладамі быў падоўжаны, а некаторым землеўладальнікам было дазволена прынесці клятву вернасці ў выглядзе асобай манаршай ласкі і пасля вызначанага тэрміну, даволі цяжка падлічыць колькасць маёнткаў і сялян, якія канчаткова перайшлі да казны. У беларускай гістарыяграфіі замацаваліся наступныя лічбы: у 15 асобаў было секвестравана 84 тыс. душ (без уліку габрэяў) у сельскай мясцовасці дзвюх новаўтвораных губерняў[41]. У польскіх гісторыкаў, якія займаліся гэтай праблематыкай[42], таксама існуюць розныя данныя аб колькасці сялян, што перайшлі ў казённае ведамства: 44767 і 110357 душ. Такую вялікую розніцу паміж лічбамі можна растлумачыць тым, што Генрыкам Масьціцкім, а затым і Вацлавам Шмідтам у спіс канфіскаваных маёнткаў былі ўключаны дзяржаўныя староствы і эканоміі, якія знаходзіліся ў розных асоб на правах арэнды, пажыццёвага валодання і г.д. Розніца паміж вышэй прыведзенымі дадзенымі вынікае і з таго, што даследчыкі падаюць лічбы секвестраваных маёнткаў і сялян за розны адрэзак часу. Так, лічбу ў 116 тыс. душ хрысціян, якая прыводзіцца ў працы Яўгена Анішчанкі, трэба прыняць як максімальную колькасць сялянства, якое было секвестравана царызмам у 1772–1773 гадах[43]. Аднак не ўсе маёнткі, якія былі адабраны ў казённы нагляд, пасля падвергліся канчатковай канфіскацыі. Канчаткова паступілі ў казну прыватнаўласніцкія маёнткі толькі чатырох асоб: Міхала Казіміра Агінскага, Караля Радзівіла, Міхала Чартарыйскага і маршалка Мнішка, якім разам належала больш за 32 тыс. хрысціян. З іх болей за 30 тыс. пражывалі ў вёсках[44]. (Табл. 1) Астатнія ж землеўладальнікі, чыя маёмасць была раней секвестравана, у розны час атрымалі дазвол на прынясенне прысягі расейскаму гаспадару, пасля чаго ім былі вернуты ўсе іх валоданні.

---

[40] Mościcki H. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. Wilno, 1910. — S. 17.

[41] Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 3: Воссоединение Белоруссии с Россией и ее экономическое развитие в конце XVIII — первой половине XIX в. Минск, 1961. — С. 41–43.

[42] Iwaszkiewicz J. Wykaz dóbr ziemskich skonfiskowanych przez rządy zaborcze w latach 1773–1867. Warszawa, 1929. — S. 5; Kaczkowski J. Konfiskaty na ziemiach polskich pod zaborem rosyjskim po powstaniach roku 1831 i 1863. Warszawa, 1918. — S. 241; Mościcki H. Dzieje porozbiorowe... S. 18.

[43] Анішчанка Я. Інкарпарацыя Беларусі ў Расейскую імперыю за Кацярынаю II // Спадчына, 1996, № 3. — С. 44–45.

[44] Жукович П. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II // Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 1. — С. 77, 82; Анішчанка Я. Інкарпарацыя Беларусі ў... С. 44–45.

## Табліца 1
### Колькасць прыватнаўласніцкіх маёнткаў, канфіскаваных пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай

| Імя гаспадара | Назва маёнтка | Губерня | Правінцыя | Колькасць душ (хрысціян) |
|---|---|---|---|---|
| К. Радзівіл | Невель | Пскоўская | Полацкая | 10859 |
| К. Радзівіл | Себеж | Пскоўская | Полацкая | 4966 |
| К. Радзівіл | Раманава | Магілёўская | Аршанская | 1952 |
| К. Радзівіл | Копысь | Магілёўская | Аршанская | 7230 |
| К. Радзівіл | Тарантова | — | — | 3006 |
| К. Радзівіл | Казадаўе | — | — | 182 |
| М.Чартарыйскі | Буева | Пскоўская | Віцебская | 1104 |
| М.Чартарыйскі | Серуты | Пскоўская | Полацкая | 488 |
| Мнішак | Халаблін | Магілёўская | Мціслаўская | 64 |
| М.К. Агінскі | Круглае | Магілёўская | Аршанская | 2797 |
| М.К. Агінскі | Паўловічы | Магілёўская | Аршанская | 119 |



*Першы падзел Рэчы Паспалітай. Брытанская палітычная карыкатура*

Галоўнай прычынай, па якой імператрыца вырашыла вярнуць былым уладарам каля 30 тыс. сялян, несумненна была палітычная. Справа ў тым, што ўсе тыя вяльможы, якім было дазволена ў выглядзе выключэння прынесці прысягу значна пазней вызначанага тэрміну, належалі да прарасейскай партыі і былі надалей патрэбны Кацярыне II на дзяржаўных пасадах Рэчы Паспалітай. Пацверджанне гэтаму факту мы знаходзім у пратаколах пасяджэння Савета пры "імператарскім двары" ад 17 студзеня 1793 г. На гэтым пасяджэнні было прынята рашэнне аб устрыманні ад канчатковай канфіскацыі маёнткаў напольнага гетмана Сапегі і пакіданні ранейшых яго адміністратараў па "яго да нас дабранадзейнасці" і "улічваючы будучую на сейме патрэбу"[45]. У дачыненні да іншых асоб, якія не прынеслі прысягі ў вызначаны для гэтага тэрмін, станоўчае вырашэнне маёмаснага пытання было пастаўлена ў залежнасць ад ступені "стараннасці іх аб аднаўленні ў айчыне сваёй цішыні і спакою"[46].

---

[45] Архив Государственного Совета. Т. 1, ч. 1: Совет в царствование Екатерины II. Отделение историческое. СПб., 1869. — С. 227.

[46] Ibidem.

Праявіўшы лагоднасць да прыватных маёнткаў, імператрыца заняла даволі цвёрдую пазіцыю ў адносінах да старасцінскіх, каралеўскіх і інш. земляў, якія знаходзіліся ў розных формах карыстання і валодання ў даволі значнай колькасці асоб. Згодна з палажэннямі "Плаката" ад 16 жніўня 1772 г., права на карыстанне са староствах і эканомій былі пазбаўлены ў першую чаргу асобы, якія не паспелі скласці вернападданніцкай прысягі ў вызначаны тэрмін. Як следства гэтай акцыі, на тэрыторыі Беларусі ў расейскую казну перайшло каля 100 тыс. душ насельніцтва, што раней знаходзіліся ў валоданні 27 асоб[47]. Акрамя таго, у некаторых выпадках падобная маёмасць адбіралася і ў тых асоб, якія прысягнулі расейскаму прастолу. Такая непаслядоўнасць імперскай палітыкі ў дадзеным выпадку тлумачыцца тым, што ў цэнтральнай Расіі да гэтага часу былі вычарпаны крыніцы зямельных наданняў. Таму новыя набыткі на захадзе прыйшліся пецярбургскаму двару вельмі дарэчы. Ужо ў вельмі хуткім часе атачэнне Кацярыны мела магчымасць атрымаць новыя валоданні на тэрыторыі, што яшчэ не так даўно належала іншай дзяржаве. За 3 гады (з 1773 па 1775) у межах дзвюх новаўтвораных губерняў расейскай імператрыцай было здзейснена 90 наданняў. Гэты працэс працягваўся і надалей. Да 1795 г. на гэтых тэрыторыях былі зроблены яшчэ 85 падараванняў. Большая частка наданняў прыходзіцца на вайскоўцаў (у асноўным за падаўленне пугачоўскага паўстання і першую турэцкую вайну), і толькі $^1/_5$ частка на цывільных чыноўнікаў[48].

"Апрабаваўшы" прымяненне секвестру з далейшай канфіскацыяй у межах усходнебеларускіх земляў, расейскія ўлады падобным чынам дзейнічалі і на тэрыторыі другога і трэцяга падзелаў. Маніфест ад 27 сакавіка 1793 г. аб далучэнні новых тэрыторый да Расіі амаль што цалкам паўтараў асноўныя палажэні "Плаката" 1772 г. Быў тут пункт, які тычыўся прымусовага адабрання нерухомай маёмасці за непрынясенне своечасовай прысягі. У межах другога падзелу (уключаючы сюды і ўкраінскія землі) з-за адмаўлення прынясення прысягі да лютага 1794 г. была секвестравана маёмасць толькі 10-і чалавек, якія ў сукупнасці валодалі 4687 душамі[49].

Як і пры правядзенні папярэдняга падзелу, розным асобам прадстаўляліся пэўныя ільготы, якія тычыліся тэрміну і месца прынясення абавязковай прысягі. Так, напрыклад, у 1793 г. асобы, якія не мелі магчымасці скласці прысягу асабіста Міхаілу Крачэтнікаву, са згоды Савета пры "Найвышэйшым двары" атрымалі права зрабіць гэта на тэрыторыі Рэчы Паспалітай у прысутнасці расейскага пасла Якава Сіверса[50]. Некаторыя памешчыкі, што на той час знаходзіліся за мяжой, складалі прысягу пры расейскіх пасольствах. Таксама дазвалялася ў некаторых выпадках рабіць гэта і праз давераных асоб. Што тычыцца тэрыторыі будучых Літоўскіх губерняў, то тут няма звестак пра факты адмаўлення прынесці прысягу. Як сведчыў Мікалай Рапнін у верасні 1795 г.

---

[47] Жукович П. Сословный состав населения Западной России… С. 84–89.

[48] Жукович П. О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени его присоединения к России. СПб., 1895. — С. 6.

[49] Жукович П. Сословный состав населения …// Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 2. — С. 144.

[50] Архив Государственного Совета. Т. 1, ч. 1: Совет в царствование… С. 228.

у лісце да Дзмітрыя Трашчынскага: "Тут, мой дружа, усе прысягалі, усе ў наяўнасці, як свецкія, так духоўныя..."[51].

Фармальныя падставы для выкарыстання секвестру з наступнай канфіскацыяй маёнткаў на новадалучаных да імперыі землях з'явіліся ў расейскіх уладаў пасля пачатку нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Некаторыя польскія гісторыкі даваеннага перыяду сур'ёзна разглядалі верагоднасць таго, што паўстанне 1794 г., калі і не было цалкам справакавана расейскімі ўладамі, то з іх боку свядома не былі прыняты адпаведныя прэвентыўныя захады. На думку Юзафа Качкоўскага, Леана Жытковіча і інш. даследчыкаў, зроблена гэта было толькі дзеля таго, каб мець магчымасць канфіскаваць маёнткі ўдзельнікаў паўстання "post factum"[52].

Падрыхтоўка да паўстання на землях Польшчы, заходняй Беларусі, Літвы і Украіны праводзілася патрыятычнымі коламі на працягу восені 1793 — вясны 1794 г. Нягледзячы на глыбокую канспірацыю, да расейскіх улад даходзіла пэўная інфармацыя аб існаванні патрыятычных спісаў. Тым не менш, пачатак паўстання ў Кракаве, захоп паўстанцамі Варшавы, а пасля і Вільні, былі для Санкт-Пецярбурга пэўнай нечаканасцю і выклікалі калі не паніку, то вялікую заклапочанасць у прыдворных колах. Асноўная стаўка падчас задушэння вызваленчага руху была зроблена на армію.

Дзеля вызначэння ступені віны і віду пакарання найбольш актыўных удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху, у красавіку 1794 г. у Смаленску была створана спецыяльная следчая камісія. Вельмі істотнае месца ў комплексе мер па барацьбе з паўстаннем займалі мерапрыемствы па пазбаўленню ўдзельнікаў паўстання зямельнай і іншай маёмасці. Пры гэтым дадзеная мера выкарыстоўвалася як для ўстрымання маёмаснага класа ад удзелу ва ўзброеным руху, так і для пакарання за ўдзел у ім.

Кацярына II даволі аператыўна адрэагавала на выбух паўстання ў Літве. Ужо праз некалькі дзён пасля захопу паўстанцамі Вільні, а дакладней, 19 і 22 красавіка 1794 г., ёй былі выдадзены імянныя ўказы на імя Ц. Туталміна і М. Рапніна. Гэтыя дакументы маюць форму інструкцый, у якіх падрабязна выкладзены асноўныя захады па задушэнню нацыянальна-вызваленчага руху ў межах Літоўскіх правінцый і па недапушчэнню далейшага распаўсюджвання паўстання на суседнія тэрыторыі. Указ, адрасаваны Мікалаю Рапніну, паводле зместу больш нагадвае ваенную дыспазіцыю, у якой вызначаны асноўныя крокі падпарадкаваных яму войск. Генерал-губернатар мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі Цімафей Туталмін не дыспанаваў значнымі вайсковымі сіламі, і таму галоўная задача яго дзеянняў была вызначана наступным чынам: "...адшукваць усе сродкі і выкарыстоўваць усе спосабы, з аднаго боку ў змяншэнні колькасці праціўнікаў ... і, нарэшце, у паступленні па ўсёй строгасці з закаснелымі злачынцамі і ў пакаранні іх узорным чынам..., а з іншага, падбадзёрваць і падтрымліваць добранадзейных..., узнагароджваць шчодра і прывязваць іх да ўлады і да кіравання расейскага ўласнай іх выгодаю"[53].

---

[51] Сборник императорского Русского... Т. 16. — С. 286.

[52] Kaczkowski J. Konfiskaty na ziemiach polskich... S. 245; Żytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie w latach 1794–1797. Wilno, 1938. — S. 187.

[53] Восстание и война 1794 года в Литовской провинции. Минск, 2001. — С. 36.



*Мікалай Рапнін*

Нягледзячы на розныя падыходы, абраныя Кацярынай II для дасягнення мэты, абодва згаданыя дакументы маюць шэраг агульных палажэнняў. У гэтых указах прадпісвалася выкарыстоўваць секвестрацыю зямельных валоданняў удзельнікаў паўстання. Зыходзячы з таго, што тэрыторыі, на якіх павінны былі дзейнічаць расейскія саноўнікі, мелі розны статус, існавалі і розныя падыходы ў вызначэнні падстаў для ўзяцця маёнткаў у казённы нагляд. Так, у прадпісанні да Цімафея Туталміна, секвестр загадвалася неадкладна накладваць на маёмасць тых, хто "… выкрыецца яўна, альбо ў змове доказаны будзе…"[54]. Яшчэ большае поле дзейнасці ў адносінах да зямельных валоданняў жыхароў Літоўскіх правінцый адкрываліся перад Мікалаем Рапніным. Вось што было зазначана ў адрасаваным да яго ўказе: "Ва ўсім наваколлі .., маёнткі памешчыкаў павінны ўзяты быць у секвестр…"[55]. Праўда, далей у тэксце рабілася агаворка, што такая мера не павінна тычыцца асоб, якія ў паўстанні ўдзелу зусім не прымалі і заставаліся на месцы свайго сталага жыхарства. Падобны крытэрый падчас ажыццяўлення секвестрацыі маёмасці выкарыстоўваўся як у адносінах да тых, што знаходзіліся на месцы сталага жыхарства, так і тых, што выехалі за мяжу. У адпаведнасці з распараджэннем Кацярыны II ад 18 мая 1794 г., уладамі была апісана і ўзята ў казённы нагляд маёмасць тых асоб з Полацкай і Магілёўскай губерняў, аб якіх было вядома, што яны знаходзіліся ў гэты час у Польшчы[56].

Прыкладна ў гэты ж час падзеі ў Польшчы і Літве сталі прадметам пільнай увагі і з боку Савета пры "Найвышэйшым двары". На пасяджэнні гэтага органа, спецыяльна прысвечаным распрацоўцы мер па задушэнню паўстання, было вырашана нерухомыя маёнткі, што знаходзіліся ў новадалучаных ад Польшчы абласцях, Станіслава Панятоўскага, а таксама іншых асоб, якія з'яўляліся ўдзельнікамі паўстання, "секвестраваць і трымаць у казённым кіраванні да адпаведнага разгляду"[57]. Звяртае на сабе ўвагу той факт, што ў першых распараджэннях царскіх уладаў адносна секвестру прыватных маёнткаў няма ніводнага слова аб тых, хто парушыў прысягу вернасці. Між іншым, пасля падаўлення паўстання

[54] Ibidem.

[55] Ibidem. С. 40.

[56] РГИА. Ф. 1400, оп. 1, д. 92. л. 4.

[57] РГИА. Ф. 1146, оп. 1, д. 16. л. 117.

менавіта гэты крытэрый стане галоўным для вызначэння асоб, чыя маёмасць прызначалася для канчатковай канфіскацыі.

Няведанне рэальнай абстаноўкі на новадалучаных землях, а таксама боязь перад тым, што паўстанне ахопіць ніжэйшыя класы і распаўсюдзіцца на новыя землі, прывяло да ўключэння ў некаторыя дакументы шэрагу дэкларацый прапагандысцкага характару. Абяцанні гэтыя тычыліся раздачы на тэрыторыі другога падзелу секвестраваных маёнткаў асобам, якія словам і справай дакажуць сваю адданасць новай уладзе[58]. У адносінах да Літоўскіх правінцый, пэўна, з-за нявызначанасці іх будучага лёсу, падобных дэкларацый не рабілася, але і там рускія войскі павінны былі ўсялякімі сродкамі падтрымліваць тых, хто не далучыўся да ўзброенай барацьбы. З мэтай прыцягнення большай колькасці землеўласнікаў на свой бок, царызм, у адрозненне ад 1772 г., не пайшоў на канфіскацыю старасцінскіх, дзяржаўных эканомій і іншых падобных зямельных маёнткаў, якія на той час знаходзіліся ў карыстанні (арэнда, пажыццёвае альбо пяцідзесяцігадовае валоданне) розных прыватных асоб. Між іншым, планы перадачы ў казну гэтага тыпу земляў выношваліся ў вышэйшых колах яшчэ да пачатку паўстання[59]. Указам ад 19 красавіка 1794 г. падобныя валоданні загадана было пакінуць ранейшым іх гаспадарам "як неад'емную іх уласнасць" да таго часу, пакуль яны захаваюць вернасць імперыі[60]. Не выклікае сумненняў, што на такі крок улады пайшлі толькі дзеля захавання палітычнай лаяльнасці ўладароў маёнткаў.



*Кацярына II*

Адсутнасць на тэрыторыі другога і трэцяга падзелаў склаўшайся расейскай адміністрацыйнай сістэмы прывяло да таго, што секвестр маёнткаў ажыццяўляўся пры дапамозе вайсковай сілы. Аб гэтым сведчаць інструкцыі Кацярыны II, адрасаваныя галоўнакамандуючаму расейскімі войскамі Мікалаю

[58] Восстание и война 1794 года в Литовской… С. 36.

[59] Жукович П. Сословный состав населения …// Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 2. — С. 145.

[60] Рубинштейн С. Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений… С. 156.

Рапніну: "Ва ўсім наваколлі войскамі, якімі вы камандуеце, маёнткі памешчыкаў павінны быць узяты ў секвестр..."[61]. У казённае кіраванне прадпісвалася браць не толькі зямельныя валоданні, але і іншую маёмасць паўстанцаў, у тым ліку мануфактуры з прыналежнымі да іх угоддзямі. Таксама ў секвестр бралася маёмасць паўстанцаў, якая знаходзілася ў гарадах — дамы, млыны і іншыя пабудовы. Прыклады канфіскацыі рухомай маёмасці (у першую чаргу капіталаў) 1794 г. не сустракаюцца. У адносінах да ўласнасці, што паступала ў казну, Мікалай Рапнін быў надзелены самымі шырокімі паўнамоцтвамі. Як сведчыць кацярынаўскі рэскрыпт ад 30 лістапада 1794 г., галоўнакамандуючаму дазвалялася рабіць з ёй "усё тое, што казне карысным будзе"[62].

Імкнучыся адабраць у "злачынных" уладароў іх маёнткі як мага хутчэй, расейскае камандаванне было вымушана ахвяраваць на гэта пэўныя армейскія адзінкі, у якіх на тэатры баявых дзеянняў адчувалася нястача. "Без увядзення вайсковых каманд" — канстатаваў у лісце да Мікалая Рапніна мінскі, ізяслаўскі, брацлаўскі губернатар Цімафей Туталмін — "і секвестр маёнткаў будзе толькі марным абвешчваннем"[63]. Фактычна ж, прыняцце ў казённы нагляд таго ці іншага маёнтка пры дапамозе армейскіх частак вяло да яго цалкавітага спусташэння. Ужо 20 красавіка 1794 г. Савет пры "Найвышэйшым двары" прыняў пастанову, згодна з якой па меры прасоўвання расейскіх войск углыб краю, належала маёнткі паўстанцаў браць у секвестр, а даходы з іх ужываць на пакрыццё ваенных выдаткаў. Як гэты ўказ выконваўся на практыцы, становіцца відавочна з інструкцыі М. Рапніна генералу Ота Дэрфельдэну. Між іншым, апошняму прадпісвалася ўзяць маёнткі навагрудскага ваяводы Юзафа Несялоўскага і аднаго з Тызенгаўзаў у сваё кіраванне, "збожжа ... выкарыстаць на правізію (корпуса), грошы, якія будуць, ... скарыстаць на пакупку правіянту і фуражу, быдла і авечак выкарыстаць для харчавання салдат колькі пану заўгодна будзе; сена забраць на фураж палкоў, а коней адаслаць на продаж у Нясвіж..."[64]. У дадзеным выпадку звяртае на сябе ўвагу той факт, што падобным чынам ваеннае камандаванне ў роўнай ступені распараджалася не толькі маёмасцю тых, хто раней склаў прысягу вернасці (як Тызенгаўз), але і тых, хто гэтага не зрабіў (як Юзаф Несялоўскі). Такім чынам, у ходзе баявых дзеянняў на тэрыторыі другога і будучага трэцяга падзелаў асноўным крытэрыем прымянення секвестру да маёмасці той ці іншай асобы быў не факт парушэння прысягі, а яго асабісты ўдзел у паўстанні. Толькі пасля канчатковага задушэння нацыянальна-вызваленчай барацьбы палітыка царызму ў дачыненні да ўдзельнікаў паўстання і іх маёмасці пачынае змяняцца. Пры вызначэнні ступені пакарання пачынае стасавацца падзел на тых, хто ў акрэслены тэрмін склаў прысягу на вернасць імператрыцы, і тых, хто гэтага не зрабіў.

Вялікая роля надавалася ўладамі і праблеме даходаў, якія паступалі з секвестраваных маёнткаў. Праўда, распараджэнні па гэтым прадмеце часта мелі супярэчлівы характар. Непаслядоўнасць палітыкі ў вырашэнні дадзенага

[61] Восстание и война 1794 года в Литовской... С. 40.
[62] LVIA. F. 1219, ap. 1, b. 133, l. 47.
[63] Энгель А. Архив виленского генерал-губернаторства: В 2 т. — Вильно, 1870–1872. — С. 174.
[64] Żytkowicz L. Rządy Repnina... S. 349.

пытання прасочваецца ўжо на прыкладзе імператарскага ўказа ад 22 красавіка 1794 г. Як і ў папярэднім выпадку, калі рашэнне прымалася Саветам пры "Найвышэйшым двары", імператрыца дазваляла грошы з маёнткаў, якія знаходзіліся пад забаронай, выкарыстоўваць на пакрыццё неабходных для арміі паставак[65]. Аб тым, што менавіта так і паступалі з даходамі з секвестраваных валоданняў, сведчыць данясенне князя Барыса Галіцына, адрасаванае Мікалаю Рапніну: "Маёнткі, якія належаць такім памешчыкам, што ў мяцежным войску знаходзяцца і да цяперашняй польскай сістэмы прыхільнасць маюць, загадаў я ...секвестраваць і даходы з іх збіраць, якімі выдаткі на закупку правіянту і фуражу грошы часткова заменены быць могуць"[66]. Разам з тым, у згаданым ужо ўказе Кацярыны II, а таксама іншых, больш пазнейшых яе распараджэннях, секвестраваныя даходы загадвалася накіроўваць непасрэдна ў казну. Грошы, накіраваныя ў казённыя палаты, захоўваліся там да часу вырашэння лёсу самога маёнтка. Пасля прыняцця адпаведнага рашэння, яны разам з зямельным валоданнем альбо вярталіся старому гаспадару, альбо адыходзілі да новага ўладара[67].

Налажэннем секвестру на зямельныя валоданні ўдзельнікаў паўстання займаліся часткі пад камандаваннем кн. Паўла Цыцыянава, кн. Барыса Галіцына, Багдана Фёдаравіча Кнорынга. Так, апошнім падчас ваеннай кампаніі 1794 г. быў узяты ў казённы нагляд маёнтак актыўнага прыхільніка паўстання падкаморыя Ф. Каменскага ў Лідскім уездзе, а ў Вільні ён непасрэдна кіраваў аддачай у арэнду секвестраванай нерухомай маёмасці падскарбія Міхала Клеафаса Агінскага[68]. Пасля ўзяцця таго ці іншага маёнтка ў секвестр, ваенныя чыны на працягу пэўнага часу ажыццяўлялі не толькі нагляд за ім, але і непасрэднае кіраванне. Толькі ў 1795 г. губернскае начальства ў якасці адміністратараў такіх маёнткаў на тэрыторыі другога падзелу пачало выкарыстоўваць памешчыкаў "з нацыянальных", звяртаючы пры гэтым у першую чаргу ўвагу на тых, "каторыя вылучаюцца ў адданасці манаршаму прастолу і шчырасцю"[69].

Для барацьбы з паўстанцамі і іх прыхільнікамі, ваенным камандаваннем была арганізавана актыўная прапагандысцкая кампанія. Адным з яе элементаў было выданне спецыяльных адозваў на польскай мове да мясцовага насельніцтва. У гэтых афіцыйных зваротах, побач з пагрозай прымянення вайсковай сілы супраць тых, хто выкажа непаслушэнства расейскім уладам, прысутнічала пагроза секвестравання маёмасці. Напрыклад, Мікалай Рапнін падчас свайго ўступлення ў Літву папярэджваў мясцовых жыхароў аб неабходнасці выконваць прадпісаныя пастаўкі на карысць расейскай арміі, у адваротным выпадку пагражаў "апісваннем маёмасці і адабраннем усяго". Генерал-маёр Багдан Кнорынг пасля атрымання паведамлення аб паўстанцах, што хаваліся па лясах, загадаў па ўсёй акрузе распаўсюдзіць улёткі, у якіх быў вызначаны тэрмін вяртання інсургентаў на месца жыхарства. У адносінах да тых, хто не прыняў гэты ўльты-

[65] Восстание и война 1794 года в Литовской... С. 40.
[66] LVIA. F. 378, ap. 1, b. 15, l. 39.
[67] LVIA. F. 378, ap. 1, b. 17, l. 34; F. 375, ap. 2, b. 76, l. 3.
[68] LVIA. F. 378, ap. 1, b. 29, l. 4; F. 1219, ap. 1, b. 38, l. 80.
[69] НГАБ. Ф. 333, воп. 1, спр. 9а, арк. 75.

матум, загадвалася выкарыстаць вайсковую сілу і канфіскацыю. Князь Павал Цыцыянаў пасля задушэння паўстання ў сваім пісьмовым звароце да жыхароў Гародні нагадваў, што любое супраціўленне, ці спроба арганізацыі змовы з боку кожнага жыхара, прывядзе да секвестру ўсёй яго маёмасці[70]. Усе гэтыя факты дазваляюць зрабіць выснову, што ў адрозненне ад 1772 г., калі секвестр ужываўся толькі ў дачыненні да маёнткаў, якія намінальна лічыліся нічыйнымі з-за таго, што іх уладары не склалі прысягі новаму гаспадару, у 1794 г. улады пачалі выкарыстоўваць секвестр непасрэдна як меру рэпрэсіўную і прэвентыўную.



PAWEŁ XI ... CYANOW

*General Major Woyſk Roſſyjſkich i Kawal... Orde... kiego Zwycięzcy Jerzego Męczennika i Apoſtolſkiego Xiążęcia Włodzimierza, Dywizya Woyſka ... G... mendą JO. Xcia Mikoł... Repnina Orderow Roſſyjſkich i Polſkich Kawalera, Generała en ... ef ... Polſkiey i W. X. Lit. Kommenderujący.*

Za odebranien wyraźnego Ordynansu od Naywyżſzey Kommendy w dniu dziſieyſzym mnie przeſłanego, oznaymuię całemu Obywatelſtwu Województwa Grodzień: i przybyłemu do Miaſta Grodna, o nieuchronney konieczności wykonania przyſięgi; na rzetelne wyrzeczenie ſię teraznieyſzey Rewolucyi i wſzelkiego z oną uczęſtnictwa, oraz na nieſkażoną wierność teraznieyſzemu Rządowi Nayjaśnieyſzey Imperatorowey Całey Roſsyi, Rotą niżey przepisaną.

Nie wątpię, że przezacne Obywatelſtwo okazawſzy powolność ſwoię w czynieniu Receſsow, takowy nakaz wyżſzey Kommendy, przezemnie ogłoſzony, ochoczo wypełni, lecz razem przymuſzony jeſtem, oſtrzedz zdrowomyślących Obywateli, że naymnieyſzy opor, lub zwłoka, przez któregobądźllwiek Obywatela ninieyſzemu zaleceniu okazany, ściągnie nieochybnie ściſły ſekweſtr wſzelkiego Maiątku, ale nad Łaſk Nayjaśnieyſzey Imperatorowey, przez JO. Xcia Jmci Mikołaja Repnina Woyſk Niezwyciężonych Roſsyiſko-Imperatorſkich, Generała en Cheff, powyżſzemi Uniwersałami przyrzeczonych, ſtanie ſię nie godnym. — Dla czego termin wykonania takowey przyſięgi dla Obywateli jakieybądźkolwiek kondycyi w Mieście Grodnie mieſzkaiących dzień 17. teraznieyſzego Mieſiąca, tym zaś, którzy mieſzkaią w Województwie dzień 25. 9bra, bawiącym ſię zaś za Granicą dwa tygodnie przeznaczaiąc, takowy Uniwersał Kommiſsyi Porządkowey Województwa Grodzień: ogłoſić, i jak nayakkuratniey do Exekucyi przywieść zalecam. Dan w Grodnie 14. 9bra 1794. Roku.

*Rota Przyſięgi.*

„ Ja NN. którego tu Bòg przytomnym widzi, Przyſięgam Panu Bogu Wſzechmogącemu, w Tróycy S. Jedynemu: że odſtępuiąc od Rewolucyi powſtania Narodowego i związku Aktu Krakowſkiego, pod Naczelnictwem Tadeuſza Kościuſzk do dalſzego czynu tey Rewolucyi łączyć ſię, ani pomagać nie będę: korreſpondować z nikim na zdradę Woyſk Roſyiſkich, i żadną radą, pomocą, i uczeſtnictwem nie przyſtąpię; lecz wierność teraznieyſzemu Rządowi Nayjaśnieyſzey Imperatorowey Całey Roſsyi i poſłuſzeńſtwo zachowam; ani jakich drugich Rozkazow, oprócz od Roſsyiſkich Imperatorſkich Generałow i Naczelnikow dawanych, nietylko dopełniać, lecz i przyimować nie będę; a jeżeliby przeciwko wſzelkiey nadziei, jakie rozkazy, Obwieſzczenia, lub drugie jakie Papiery Rewolucyi tyczące ſię mię doſzły, obiecuię ſię i przyſięgam, nie ukrywaiąc tych, bez żadney odwłoki donoſić Woiennym Naczelnikom w bliſkości znayduiącym ſię; Tak mi Panie Boże dopomoż i niewinna męka Syna Jego.

PAWEŁ Xże CYCYANOW.

*Універсал кн. Паўла Цыцыянава з пагрозай секвестру маёмасці і тэкстам прысягі (LVIA)*

У сувязі з актыўнымі дзеяннямі па секвестрацыі маёмасці ўдзельнікаў паўстання, да казны павінны былі перайсці толькі ў межах Літоўскай губ. звыш 175 тыс. душ. Па Мінскай губ. секвестр закрануў 16% усіх сялян[71]. Не засталася па-за ўвагай уладаў маёмасць паўстанцаў, якая знаходзілася на тэрыторыі першага падзелу. Імянным указам Кацярыны ад 12 мая 1794 г. у Полацкай і Магілёўскай губернях на маёнткі некаторых асоб, якія абвінавачваліся ва ўдзеле ў паўстанні (Аляксандра Пацэя, Францішка Сапегі

[70] Сборник императорского Русского… Т. 16. — С. 9; Станкевич А. Очерк возникновения русских поселений на Литве. Вильна, 1909. — с. 194; LVIA. F. 378, ap. 1, b. 16, l. 17.

[71] Анішчанка Я. Інкарпарацыя Беларусі… С. 65; Анішчанка Я. Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск, 2003. — С. 293.

і інш.), было загадана накласці секвестр. Падобнаму абмежаванню ў сваіх маёмасных правах былі падвергнуты ўсе землеўладальнікі, што на той час знаходзіліся ў Польшчы. Даходы з гэтых зямельных валоданняў накіроўваліся ў мясцовыя казённыя палаты. У выніку такіх дзеянняў пад нагляд казны толькі ў Полацкай губ., на тэрыторыі якой у 1794 г. не было ваенных дзеянняў, перайшло больш за 30 тыс. сялянскіх душ[72].

Далейшы лёс секвестраваных маёнткаў вырашаўся на самым вышэйшым узроўні. Як сведчыць Цімафей Туталмін, імператрыца шмат дзён правяла за разглядам папер, якія тычыліся секвестраваных маёнткаў. Сустрэчы з вышэйшымі пецярбургскімі саноўнікамі дазволілі яму зрабіць выснову аб тым, што спадчынныя маёнткі, у адпаведнасці з існуючым расейскім заканадаўствам, хутчэй за ўсё, будуць вернуты іх ранейшым гаспадарам[73]. Да падобнага рашэння напачатку схілялася і сама імператрыца. 19 красавіка 1795 г. адбылося пасяджэнне Савета пры "Найвышэйшым двары" ў Санкт-Пецярбурзе, на якім "чытаны былі ведамасці аб маёнтках у губернях Мінскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай..., што належаць пад рознымі назвамі палякам, якія ўдзельнічалі ў польскім бунце...". Прыняццю рашэння па гэтым пытанні на пасяджэнні папярэднічаў старанны аналіз заканадаўства, якое існавала па гэтым прадмеце як у імперыі, так і ў Рэчы Паспалітай. У выніку падобнага абмеркавання, большасць членаў Савета выступіла за правядзенне канчатковай канфіскацыі толькі набытых маёнткаў у асоб, якія актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні альбо з'ехалі за мяжу. Прымаючы такое рашэнне, Савет кіраваўся тым, што згодна з адпаведнымі артыкуламі "Дарчай граматы расейскаму дваранству" 1785 г., нормы якой распаўсюджваліся і на навадалучаныя губерні, забаранялася адбіраць у казну ў шляхетнага саслоўя спадчынныя маёнткі. Таму і першапачатковы варыянт пастановы па гэтым пытанні выглядаў наступным чынам: "...азначаныя спадчынныя маёнткі павінны быць аддадзены спадчыннікам іх, калі яны самі ў віне ўдзелу не прымалі ..."[74].

Аднак замацаванню гэтага рашэння ў якасці канчатковай пастановы перашкодзіла ўмяшальніцтва Аляксандра Безбародкі, обер-гафмайстра і адной з найбольш уплывовых асоб у дзяржаўным апараце, і, напэўна, прага членаў Савета да магчымых зямельных наданняў. Ступень асабістай зацікаўленасці дзяржаўных дзеячаў у гэтым пытанні выкрываюць прызнанні самога Аляксандра Безбародкі: "Адзіны мой зараз клопат, каб атрымаць вёскі... і з гэтае прычыны пераношу я свой стан..."[75]. Тыя ж лісты А. Безбародкі выдаюць вялікую заангажаванасць іншых пецярбургскіх саноўнікаў у справе секвестраваных маёнткаў. Таму не дзіва, што асобна пададзеная думка Аляксандра Безбародкі з прапановай пазбавіць памешчыкаў, што прынялі ўдзел у паўстанні, магчымасці карыстацца правамі расейскага дваранства як асоб, якія не заслугоўваюць на гэта, прымяніць да іх нормы статута ВКЛ, якія прадугледжвалі канфіскацыю і набытых, і спадчынных маёнткаў, знайшла падтрымку большасці ў Савеце.

---

[72] РГИА. Ф. 1400, оп. 1, д. 92, л. 1–2.

[73] Сборник императорского Русского... Т. 16. — С. 156.

[74] РГИА. Ф. 1146, оп. 1, д. 17, л. 88.

[75] Архив князя Воронцова. Кн. 13. Москва, 1879. — С. 344.




*Канцлер Аляксандр Безбародка*

Указ ад 3 мая 1795 г. на імя генерал-губернатара Цімафея Туталміна расставіў ўсе кропкі над "і" ў праве маёмасці ўдзельнікаў паўстання. Сярод іншага, гэтым указам прадпісвалася ўзяць у казну маёмасць тых асоб, якія, прыняўшы расейскае падданства, удзельнічалі ў паўстанні. Пазбаўляліся права валодання маёнткамі і тыя, хто не паспеў вярнуцца ў край да 1 студзеня 1795 г. Такім асобам, што праўда, дазвалялася прадаць сваю маёмасць у межах Расейскай імперыі. Тэрмін жа на правядзенне падобных аперацый абмяжоўваўся 1 годам і 6 месяцамі. У выпадку, калі асоба не паспявала здзейсніць продаж, яе маёмасць прадпісвалася браць ва ўласнасць казны[76]. Як сведчаць адпаведныя ведамасці, такія маёнткі на тэрыторыі другога падзелу складалі пераважную большасць у агульнай масе секвестраваных. Аднак канчаткова да казны трапілі адзінкі. Куды больш было зямельных валоданняў, гаспадары каторых пад пагрозай канфіскацыі былі вымушаны тэрмінова прадаваць сваю зямельную ўласнасць[77].

Рашэнне Савета пры "Найвышэйшым двары" ад 19 красавіка было даволі спрэчным як з прававога, так і з маральнага пункту гледжання. Несправядлівым яго лічыў Мікалай Рапнін, які словам і справай выступаў увогуле супраць канфіскацый. Аўтарытэт гэтага саноўніка быў настолькі вялікім, што яго калега Цімафей Туталмін, якому былі падараваны зямельныя валоданні на падпарадкаваных яму тэрыторыях, быў вымушаны ў ліслівым тоне тлумачыцца перад літоўскім генерал-губернатарам. Ён пісаў, што ў справе секвестру маёнткаў удзельнічаў не болей, чым таго вымагалі абавязкі пасады, якую ён займаў.

Факт раздачы канфіскаваных прыватных маёнткаў быў неадназначна ўспрыняты элітай расейскага грамадства. Так, напрыклад, барон Іван Ферзен катэгарычна адмовіўся прымаць канфіскаваныя ў Тадэвуша Чацкага маёнткі, папрасіўшы замяніць іх на дзяржаўныя землі. Тыя, хто ўсё ж такі атрымалі былыя прыватнаўласніцкія маёнткі, адчувалі пэўную няёмкасць перад іх ранейшымі гаспадарамі. Былі выпадкі, калі такія асобы (як, напрыклад, графіня Аляксандра Браніцкая і Цімафей Туталмін) выступалі ў ролі абаронцаў правоў

[76] Архив Государственного Совета. Т. 1, ч. 1: Совет в царствование… С. 45–46.

[77] РГИА. Ф. 1374, оп. 2, д. 969, л. 68, 70.

людзей, чыю маёмасць яны атрымалі ў падарунак[78]. Той жа М. Рапнін прадэманстраваў надзвычайную актыўнасць у справе вяртання маёнткаў князя Адама Казіміра Чартарыйскага. За сваіх былых суайчыннікаў заступіліся Ян і Міхал Касакоўскія, якія сустракаліся ў Санкт-Пецярбургу з прадстаўнікамі ўладнай партыі Платона Зубава[79]. Дзеля адстойвання сваіх маёмасных правоў у расейскую сталіцу паспяшаліся некаторыя ўладары прызначанай да канфіскацыі маёмасці. Частцы з іх удалося рознымі шляхамі даказаць сваю неналежнасць да паўстання, ці неабгрунтаванасць накладання секвестру на іх маёмасць. С. Забеле маёмасць вярнулі "па яго састарэласці", М. Радзівілу таму, што ён выявіў "непахісную да прастола яе імператарскай вялікасці адданасць" і г.д..[80] У справе адстойвання маёмасных інтарэсаў найбольш уплывовых магнатаў былі задзейнічаны міжнародныя каналы, уплыў некаторых еўрапейскіх двароў[81].

Захады вярхушкі шляхты і магнатэрыі па перагляду спраў аб канфіскацыі далі свой плён. З канца 1794 г. пачаўся працэс вяртання раней секвестраваных маёнткаў. Аднымі з першых атрымалі назад свае валоданні тыя, што былі пазбаўлены маёнткаў у адпаведнасці з указам ад 22 красавіка 1794 г. Як высветлілася, некаторыя асобы ў час паўстання знаходзіліся за мяжой, і не мелі да яго непасрэднага дачынення. Падчас распачатага працэсу вяртання маёнткаў, улады сутыкнуліся з пэўнымі праблемамі. Найперш яны вынікалі з таго, што маёмасць некаторых, што атрымалі амністыю, была ўжо падараваная іншым асобам. У такіх выпадках губернскім уладам, дзеля задавальнення інтарэсаў былых гаспадароў, прадпісвалася знаходзіць зямельныя валоданні, суразмерныя раней адабраным[82]. Працэс аддачы маёнткаў працягнуўся і пры наступных расейскіх імператарах.

У некаторых выпадках вяртанне маёнткаў, якія паступілі ў казённае кіраванне, адбывалася ў два этапы. Пэўнай стадыяй на шляху да поўнага вяртання раней узятай у секвестр маёмасці стала апека. Такая мера была выкарыстана, па-першае, у адносінах да ўласнасці тых, хто ў час паўстання быў на першых ролях і не мог адразу разлічваць на ласку імператрыцы. Вядома, што ў апеку была ўзята маёмасць былога старшыні Найвышэйшай Літоўскай Рады Юзафа Несялоўскага, галоўнакамандуючага паўстанцкімі войскамі ў Літве Францішка Сапегі, Адама Казіміра Чартарыйскага, ад'ютанта Якуба Ясінскага — Аляксандра Пацэя і некаторых іншых[83]. Прымяненне апекі азначала, што да прыняцця канчатковага рашэння азначаныя асобы не мелі права распараджацца і кіраваць сваімі маёнткамі. Аднак ад забароны ці секвестру апека адрознівалася тым, што нагляд за маёнткам пераходзіў не да дзяржавы, а да апекуноў — прыватных асоб, звычайна з ліку сваякоў, чые кандыдатуры спачатку павінны былі быць зацверджаны вышэйшым расейскім камандаваннем. Па-другое, частка грошай з зямель, якія знаходзіліся пад апекай, выдаткоўвалася на ўтрыманне ўладароў маёнткаў, рэшта — да часу захоўвалася.

Працэс канчатковай канфіскацыі ў значнай ступені ўскладняўся тым, што большасць секвестраваных маёнткаў была абцяжарана значнымі даўгамі. Не-

---

[78] Сборник императорского Русского… Т. 16. — С. 291, 348.

[79] Żytkowicz L. Rządy Repnina… S. 337.

[80] Анішчанка Я. Інкарпарацыя Беларусі ў… С. 62.

[81] Агінскі М-К. Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1795 да 1810 г. // ARCHE, 2015, № 9. — С. 145.

[82] LVIA. F. 1219, ap. 1, b. 124, l. 5.

[83] Сборник императорского Русского… Т. 16. — С. 111, 143.

каторыя памешчыкі бралі грошы пад заклад сваіх маёнткаў у эміграцыі пасля паражэння паўстання, калі іх валоданні былі ўжо секвестраваны, ці нават падараваны іншым асобам[84]. Частка даследчыкаў лічыць, што наяўнасць значных даўгавых абавязкаў з'явілася галоўнай перашкодай на шляху канчатковай канфіскацыі большасці маёнткаў[85]. Між тым, распараджэнні расейскіх імператараў па гэтым прадмеце сведчаць аб іншым. У сваім прадпісанні да Мікалая Рапніна ў снежні 1795 г. Кацярына II выказалася за тое, каб "...даўгі, што лічацца за маёнткамі, якія паступаюць у казну Нашу ... такія даўгі, несумненна, павінны лічыцца сапраўднымі, і справядлівасць патрабуе, каб пазыкадаўцы, як бязвінныя ... у атрыманні ім наступнага былі забяспечаны"[86]. Наступны расейскі імператар пайшоў у гэтым кірунку яшчэ далей. 27 чэрвеня 1797 г. ім была выдадзена пастанова аб прыняцці на казённы рахунак даўгоў, што былі зроблены "польскімі баярамі" падчас іх знаходжання ў эміграцыі, а менавіта, у Галандыі.

На працягу 1795–1796 гг. на тэрыторыі другога падзелу былым уладарам было вернута прыкладна $^2/_3$ секвестраваных маёнткаў і $^3/_4$ секвестраваных старостваў[87]. Канчаткова да казны ў межах Мінскай губ. перайшлі толькі 13 прыватнаўласніцкіх маёнткаў, якія раней належалі 10 гаспадарам, і ў якіх налічвалася каля 10 тыс. сялян мужчынскага полу[88]. (Табл. 2)

## Табліца 2
### Колькасць прыватнаўласніцкіх маёнткаў, канфіскаваных пасля паўстання 1794 г.

| Імя гаспадара | Назва маёнтка | Уезд | Колькасць душ |
|---|---|---|---|
| Агінскі М-К. | Ілья, Ракаў | Вілейскі | 4710 |
| Аскірка Я. | Барбараў | Мазырскі | 1396 |
| Аскірка Я. | Канатопь | Мазырскі | 179 |
| Аскірка Я. | Кажушкі | Рэчацкі | 379 |
| Гарадзенскі Т. | Вержня | Пастаўскі | 511 |
| Гараін Я. | Касцяневічы | Пастаўскі | 403 |
| Гелгуд І. | Казімір | Бабруйскі | 669 |
| Зянковіч І. | Верашчаты | Пастаўскі | 347 |
| Зянковіч К. | Валакаты | Пастаўскі | 1224 |
| Мірскі С. | Манковічы | Дзісненскі | 92 |
| Прыбор А. | Маладушы | Мазырскі | 60 |
| Тызенгаўз А. | Бобрык | Пінскі | 323 |

84 LVIA. F. 378, ap. 1, b. 29, l. 1, 22–25.

85 Анішчанка Я. Інкарпарацыя Беларусі ў... С. 62.

86 Сборник императорского Русского... Т. 16. — С. 106.

87 Жукович П. Сословный состав населения ...// Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 2. — С. 135, 150.

88 НГАБ. Ф. 299, воп.. 2, спр. 56, арк. 5–6; Ф. 333, воп. 1, спр. 160, арк. 238; РГИА. Ф. 1374, оп. 2, д.969, л. 98–112; Жукович П. Сословный состав населения ...// Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 2. — С. 139–140.

У выніку секвестрацыі ў Мінскай губ. у дзяржаўную ўласнасць перайшлі 7 староstваў і эканомій з агульнай лічбай каля 7225 сялянскіх душ. Акрамя таго канфіскацыі было падвергнута Забалоцкае староства, якое знаходзілася на тэрыторыі першага падзелу і належала харунжаму Антону Тызенгаўзу[89]. (Табл. 3)

## Табліца 3
### Колькасць староstваў і эканомій, канфіскаваных пасля паўстання 1794 г.

| Імя гаспадара | Назва староства | Уезд | Колькасць душ |
| --- | --- | --- | --- |
| Агінскі М-К. | Пінскае | Пінскі | 3995 |
| Даўнароўская | Даманавіцкае | Мозырскі | 314 |
| Еленьскі Ц. | Якімавіцкае | Пастаўскі | 563 |
| Кіцкі А. | Халанішчэўскае | - | 231 |
| Коцел Т. | Маркоўскае | Вілейскі | 777 |
| Панцэржанскі | Азарыцкае | Мозырскі | 656 |
| Пац І. | Вілейскае | Вілейскі | 689 |

На тэрыторыі трэцяга падзелу памеры секвестру былі непараўнальна меншымі, чым на тэрыторыі другога падзелу. У межах Літоўскіх губерняў вядомы прозвішчы толькі 24 асоб, чыя маёмасць у час паўстання была падвергнута секвестру[90]. Пасля задушэння паўстання большая частка зямельных валоданняў была вернута былым гаспадарам. У дзяржаўным фондзе засталіся маёнткі толькі тых асоб, якія ў 1793 г. разам з жыхарамі другога падзелу склалі прысягу вернасці рускаму прастолу. У часы Паўла І усе падобныя секвестраваныя спадчынныя маёнткі былі вернуты ранейшым уладальнікам.

Як і ў 1772 г., асноўная маса канфіскаваных зямельных валоданняў была выкарыстана Кацярынай ІІ для адорвання асоб, набліжаных да прастола. Расейская імператрыца распачала раздаваць маёнткі на далучаных пасля другога падзелу землях ужо 2 верасня 1793 г., калі сейм у Гародні яшчэ канчаткова не зацвердзіў новы падзел Рэчы Паспалітай. Такая паспешлівасць, на думку рускага гісторыка Васіля Сямеўскага, пры хуткай змене палітычных абставін магла б паставіць урад у цяжкае становішча[91]. Няпэўнасць маёмасных правоў новых уладальнікаў пацвердзіла нацыянальна-вызваленчае паўстанне, якое на два гады адцягнула канчатковае вырашэнне гэтага пытання.

Згодна з традыцыяй, прэтэндэнты напярэдадні праяўлення чарговай "вышэйшай ласкі" самі падавалі імператрыцы пісьмовыя "заявы", дзе паведамлялі, якую колькасці душ яны хацелі б атрымаць. Далейшае размеркаванне бу-

[89] НГАБ. Ф. 299, воп.. 2, спр. 56, арк. 6–7; РГИА. Ф. 1374, оп. 2, д. 969, л. 98–112; Жукович П. Сословный состав населения ...// Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 2. — С. 145–146.

[90] Żytkowicz L. Rządy Repnina... S. 349–356.

[91] 102. Семевский В. Раздача населенных имений в царствование Екатерины II-й // Отечественные записки. 1877, № 8. — С. 208.

дучых адорванняў не абыходзілася без інтрыг на самым вышэйшым узроўні, у якіх апошняе слова звычайна заставалася за фаварытам Кацярыны II — графам Платонам Зубавым. Канчатковае падараванне адбывалася ў форме асабістага ўказа імператрыцы, у якім адзначалася каму і за якія заслугі надаецца тая ці іншая колькасць сялян, пры гэтым дакладнае месца валодання ўказвалася не заўсёды. У такім выпадку пошукамі і вызначэннем канкрэтнага месцазнаходжання маёнтка займалася мясцовае начальства. І на губернскім узроўні не абыходзілася без барацьбы за лепшы кавалак. Як правіла, прасіцелі не вельмі цырымоніліся. Так, Аляксандр Безбародка праз Рыгора Міларадавіча "па-сяброўску" прасіў выбраць яму "тысячы 3–4 душ, каб яны былі значныя, а не кепскія, не далёкія..." і г.д..[92] Найбольш яскравым прыкладам тут можа служыць перапіска Пятра Румянцава-Задунайскага з Мікалаем Рапніным. Атрымаўшы з Брэсцкай эканоміі ў сваё валоданне Пружанскі ключ, Пётр Румянцаў усімі магчымымі сродкамі намагаўся далучыць да гэтых уладанняў частку Белавежскай пушчы, у якой вяліся дзіўныя для Расіі "дзікія каровы". Урэшце-рэшт яго ўпартасць і настойлівасць узялі верх, і да яго асноўных валоданняў быў прыпісаны кавалак брэсцкага лясніцтва, у якім вадзіліся зубры.

Падчас уступлення ў свае правы, новыя ўладары падараванага маёнтка павінны былі выплачваць казне некаторую грашовую суму, велічыня якой залежала ад колькасці сялян. Напрыклад, у беларускіх і ўкраінскіх губернях да 1794 г. за адну душу ўносілася 15 кап. (у той час як у іншых рэгіёнах імперыі 25 кап.) Указам імператрыцы ад 23 чэрвеня 1794 г. расцэнкі на падараваных сялян, не залежна ад месца іх знаходжання, павышаліся да 50 кап. за душу[93].

Усяго ў часы Кацярыны II за кошт прыватнаўласніцкіх, старасцінскіх, манастырскіх і епіскапскіх земляў у Мінскай губ. былі адораны 42 асобы, агульная лічба раздадзеных сялян склала звыш 38 тыс. душ[94]. З іх каля 45% сялян паходзіла з канфіскаваных спадчынных ці старасцінскіх маёнткаў. Большасць з гэтых наданняў — каля 90%, прыпадае на 18 жніўня 1795 г. У гэты дзень расейская імператрыца падпісала ўказы аб узнагароджанні зямельнай маёмасцю 70-і асоб, якія атрымалі ў сваё валоданне ў "губернях ад Польшчы далучаных" каля 104 тыс. душ[95]. Буйныя зямельныя падараванні адбываліся і ў наступным годзе. Сярод маёмасці, якая канчаткова паступіла ў казну, падобнага лёсу пазбегла не шмат маёнткаў. Толькі невялікая частка канфіскаванай маёмасці была выкарыстана дзяржавай для ўласных інтарэсаў. Так, у скарбовым валоданні ўлады пакінулі частку жылой забудовы Міхала Клеафаса Агінскага, якая знаходзілася ў Вільні і Слоніме, і якая была выкарыстана ўладамі пад губернскія ўстановы[96].

У часы Паўла I адорванне зямельнымі валоданнямі не мела такога маштабнага характару. Як адзначыў у жніўні 1795 г. ў лісце да М. Рапніна Дмітрый Трашчынскі, "па новых чатырох губернях (Брацлаўскай, Мінскай, Валынскай і Падольскай) амаль ужо не засталося нічога для раздачы" і ўсе спадзяванні адносна магчымасці

[92] Сборник императорского Русского... Т. 29. — С. 249.

[93] НГАБ. Ф. 333, воп. 1, спр. 126, арк. 100.

[94] Жукович П. Сословный состав населения ...// Журнал Министерства народного просвещения, 1915, № 2. — С. 139–142, 145–146.

[95] Семевский В. Раздача населенных имений... С. 208.

[96] LVIA. F. 378, ap. 1, b. 29, l. 4.

будучых зямельных данацый ускладаліся на літоўскага генерал-губернатара[97]. Што тычыцца Літоўскіх губерняў, то на тэрыторыі, якая знаходзіцца ў межах сучаснай Беларусі, не адзначана прыкладаў адорванняў з прыватнаўласніцкіх секвестраваных маёнткаў[98]. Такія маёнткі пэўны час знаходзіліся ў казённым ведамстве. Некаторая іх частка была перададзена ў кіраванне сваякам пакараных з абавязковай выплатай гадавога даходу на карысць дзяржавы; частка аддавалася з публічных таргоў у кароткатэрміновую арэнду, некаторыя секвестраваныя каменныя дамы ў гарадах былі выкарыстаны расейскай адміністрацыяй пад розныя прысутныя месцы[99].

Па-рознаму склаўся лёс маёмасці, якая ў часы Кацярыны II у прымусовым парадку перайшла ад прыватных асоб ў дзяржаўнае валоданне. Звычайна такія маёнткі знаходзіліся ў казённым кіраванні непрацяглы час: частцы мясцовых землеўладальнікаў удавалася дабіцца вяртання сваёй маёмасці, рэшта — пераходзіла да іншых гаспадароў. Новыя ўладары звычайна не займаліся сваімі набыткамі асабіста. Для прыёму яны, як правіла, выкарыстоўвалі сваіх давераных асоб (у дакументах яны досыць часта фігуруюць пад назвай "прыёмшчыкаў")[100]. Не ведаючы краю і мясцовай спецыфікі землеўладання, частка расейскага дваранства (асабліва выразна гэта тэндэнцыя прасочваецца на тэрыторыі другога і трэцяга падзелаў) імкнулася прадаць сваю маёмасць на новых землях (Аляксандр Сувораў, Пётр Румянцаў і інш). У якасці пакупнікоў падчас падобных здзелак выступалі мясцовыя ўраджэнцы. Тыя, хто спадзяваўся на сталы даход, перадавалі свае валоданні ў арэнду, альбо прызначалі адміністратараў, у якасці каторых звычайна выступала мясцовая шляхта па пратэкцыі губернатараў[101]. У выніку падобнага працэсу, як адзначаў Павал Жуковіч, "замест паслаблення і змяншэння польскага землеўладальніцкага класа, у заходнім краі адбылося яго новае ўзмацненне і павелічэнне"[102]. Паказальным у гэтым выпадку з'яўляецца лёс маёнтка Ільі, што знаходзіўся ў Вілейскім уездзе Мінскай губ. Канфіскаванае пасля паўстання 1794 г. у Міхала Казіміра Агінскага гэтае зямельнае валоданне было падаравана Кацярынай II графу Івану Салтыкову. Аднак ужо на пачатку XIX ст. маёнтак Ілья перайшоў да мінскага губернскага маршалкаВаладковіча, а ў 1820 г. да Станіслава Радзішэўскага. У 1831 г. Станіслаў Радзішэўскі ўзначаліў паўстанне ў Вілейскім уездзе, яго маёнтак быў разрабаваны, а пасля другі раз у сваёй гісторыі канфіскаваны[103]. Аднак і з падобнай сістэмы распараджэння новай маёмасцю былі выключэнні. Некаторая частка сядзібных комплексаў, што знаходзіліся ў маёнтках, якія раздаваліся Кацярынай II, была ператворана ў рэзідэнцыі расейскага набілітэту (Гомель, Шклоў). Але падобная тэндэнцыя назіралася выключна на тэрыторыі першага падзелу і толькі ў адносінах да старасцінскіх ці дзяржаўных, а не прыватнаўласніцкіх земляў. Толькі невялікая частка гэтай маёмасці была выкарыстана расейскімі ўладамі дзеля патрэб адміністрацыі.

---

[97] Сборник императорского Русского… Т. 16. — С. 253.
[98] LVIA. F. 1219, ap. 1, b. 687, l. 4–6.
[99] LVIA. F. 1219, ap. 1, b. 18, l. 80; F. 378, ap. 1, b. 29, l. 4.
[100] LVIA. F. 1219, ap. 1, b. 687, l. 4.
[101] НГАБ. Ф. 333, воп. 1, спр. 9*, арк. 22; Ф. 333, воп. 1, спр. 126, арк. 99.
[102] Жукович П. О русском землевладении в… С. 13.
[103] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 807, арк. 3

Такім чынам, аналіз прычын і вынікаў канфіскацый у 1794–1795 гг. дазваляе зрабіць наступныя высновы. Па-першае, у часы падзелаў Рэчы Паспалітай царскімі ўладамі быў створаны прэцэдэнт, закладзена прававая падстава будучага стасавання канфіскацыі на новадалучаных тэрыторыях. Па-другое, у ходзе правядзення канфіскацый былі акрэслены галоўныя функцыі гэтай меры пакарання (прэвентыўная і рэпрэсіўная). Па-трэцяе, вызначаны асноўны склад злачынстваў, за якія ўжывалася канфіскацыя (дэ-юрэ — за непрынясенне ці парушэнне вернападданніцкай прысягі, дэ-факта — яшчэ і за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху), а таксама рэгіён яе стасавання — заходнія губерні імперыі. Прымяненне канфіскацый у гэты перыяд прывяло да ўзнікнення на тэрыторыі Беларусі буйнога расейскага землеўладання, скарачэння лічбы дзяржаўных і росту колькасці прыватнаўласніцкіх сялян.

## ЭВАЛЮЦЫЯ МЕХАНІЗМУ ПАЗБАЎЛЕННЯ ЎЛАСНАСЦІ Ў ПЕРШАЙ ЧВЭРЦІ XIX ст.

У першай чвэрці XIX ст. адбываўся працэс далейшага ўдасканалення механізму канфіскацыі, адначасова ішло пашырэнне сферы выкарыстання азначанай меры пакарання на іншыя тыпы "злачынстваў".

У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, Аляксандр І адмовіўся ад практыкі адорвання зямельнымі валоданнямі ў якасці ўзнагароды. Перад сваёй каранацыяй на пасяджэнні Неафіцыйнага камітэта ён урачыста абвясціў, што нікому сялян даваць не будзе[104]. І сваё слова ён стрымаў. Больш за тое, менавіта ў гады яго панавання некаторыя палітычныя эмігранты з заходніх земляў атрымалі дазвол на вяртанне дамоў. Сярод такіх людзей былі актыўныя ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г.: Міхал Клеафас Агінскі, Караль Прозар, Антон Тызенгаўз, Юльян Нямцэвіч, палкоўнік Заянчкоўскі і іншыя. Некаторым з іх, як напрыклад Міхалу Клеафасу Агінскаму, удалося нават вярнуць сабе частку ранейшай маёмасці. Але перыяд лаяльнай палітыкі ў дачыненні да жыхароў заходніх абшараў імперыі цягнуўся нядоўга. Знешнепалітычныя абставіны змяніліся. Напружаная сітуацыя на межах імперыі прымусіла Аляксандра І звярнуцца да метадаў пагроз і застрашэння.

Пасля падпісання Тыльзіцкага міру і ўтварэння Варшаўскага Герцагства, сотні асоб з тэрыторыі заходніх губерняў Расейскай імперыі паспяшалі перайсці мяжу, каб прыняць удзел у адбудове новай дзяржавы, у якой яны бачылі спадкаемніцу Рэчы Паспалітай. Асабліва масавы характар гэтыя пераходы набылі ў перыяд і пасля сумеснай франка-польска-рускай ваеннай кампаніі супраць Аўстрыі ў 1809 г. Тады, спазнаўшы смак перамогі, войскі Юзафа Панятоўскага папоўніліся тысячамі выхадцаў з земляў былога ВКЛ. Асабліва актыўна варшаўскія войскі фарміраваліся за кошт выхадцаў з тэрыторыі сучаснай Украіны. Падобная з'ява назіралася і на беларускіх землях, найперш у заходняй і цэнтральнай яе частках, дзе працэс нелегальнага выезду стымуляваўся інтэнсіўнымі чуткамі аб хуткім далучэнні Літоўскіх губерняў да Герцагства. Некаторыя з эмігрантаў, напрыклад, Дамінік Радзівіл, за свой кошт фармавалі асобныя вай-

---

[104] Семевский В. Пожалование населенных имений при императоре Павле // Русская мысль, 1882. № 12. — С. 188.

сковыя адзінкі, якія складаліся ў асноўным з суайчыннікаў. Гэтыя і іншыя факты прывялі да таго, што пачынаючы з 1809 г. адносіны паміж саюзнікамі пачалі набываць усё больш канфрантацыйны, варожы характар.

Улады Расейскай імперыі прадпрымалі самыя рашучыя захады па спыненню масавых уцёкаў жыхароў заходніх абласцей імперыі ў Герцагства. 24 снежня 1809 г. паміж Расіяй і Францыяй была падпісана канвенцыя, у якую быў уключаны пункт аб забароне прымаць рускіх падданых на службу ў Варшаўскім Герцагстве[105]. Але французскі імператар, які вёў падвойную гульню як у адносінах да Варшавы, так і ў стасунку да санкт-пецярбургскага двара, адмовіўся ратыфікаваць гэтае пагадненне. Не прынесла значных вынікаў узмацненне пагранічных кардонаў на заходніх межах імперыі "лятучымі" казачымі атрадамі[106]. Больш дзейснымі за дыпламатычныя і сілавыя сродкі стала выкарыстанне царызмам пагрозы адабрання ў казну зямельных валоданняў.

Першы выпадак канфіскацыі маёмасці ў асобы, якая знаходзілася на службе ў Напалеона, адзначаны ў красавіку 1807 г. Тады ў Падольскай губ. былі адабраны на карысць дзяржавы маёнткі графа Вінцэнта Красінскага, "што знаходзіўся ў асяроддзі польскіх рэвалюцыянераў і меў пост у світе Банапарта"[107]. Аднак гэтая справа так і засталася асобным выпадкам, які не перайшоў у прэцэдэнт. Фармальныя падставы для масавага выкарыстання секвестру ў адносінах да жыхароў заходніх губерняў імперыі з'явіліся, як у папярэднім выпадку, у выніку расследвання асобнага эпізоду аб пераходзе заходняй мяжы двума памешчыкамі Падольскай губ. у 1809 г. Губернатар азначанай губерні папярэдзіў мясцовую шляхту, што ў выпадку паўтарэння падобных дзеянняў, асобы, якія зробяць гэта, не застануцца без пакарання. Вызначэннем ступені адказнасці заняўся непасрэдна сам расейскі імператар. Ён загадаў маёнткі тых памешчыкаў канфіскаваць "...і надалей кіравацца гэтым у падобных выпадках"[108]. Камітэт Міністраў знайшоў такую меру вельмі стасоўнай. Акрамя таго, менавіта на гэты орган улады імператарам быў ускладзены абавязак разгляду ўсіх іншых спраў, якія тычыліся выехаўшых за мяжу.

Прадпрынятыя з боку санкт-пецярбургскага двара крокі выкрываюць ступень заклапочанасці расейскіх уладаў сітуацыяй, што склалася ў сумежных з Герцагствам губернях. Як ужо адзначалася, выезд памешчыкаў за мяжу набыў маштабы, якія нельга было ўжо ігнараваць. Гучны рэзананс мела справа аб пераходзе мяжы вучнямі Крамянецкай гімназіі. Пры гэтым урад падазраваў некалькіх асоб у падбухторванні навучэнцаў на гэты крок. Акрамя таго, у гэты час значна ўзмацнілася дэзерцірства з шэрагаў рускай арміі, якая павінна была забяспечыць ахову заходняй мяжы. Адчуваючы беспакаранасць, у Герцагства пры зручным выпадку, з раскватараваных уздоўж мяжы палкоў, беглі ў асноўным ніжэйшыя чыны. Гэтаму працэсу садзейнічала і тое, што ўцекачоў варшаўскія

---

[105] Богданович М. История царствования императора Александра I и России в его время. Т. 2. СПб., 1869. — С. 454–455.

[106] Паўлоўскі А., Лукашэвіч А. "Лятучы" казачы корпус атамана М. І. Платава на ахове Заходняй мяжы Расійскай імперыі (красавік — чэрвень 1812 г.) // Беларускі гістарычны часопіс, 2005, № . 1. — С. 17.

[107] РГИА. Ф. 1286, оп. 1, д. 60, л. 3.

[108] Журналы Комитета министров. Царствование императора Александра I, 1802–1826 гг. Т. 1: 1802–1810. — С. 319; РГИА. Ф. 379, оп. 3, д. 104, л. 55.

уладь назад не выдавалі[109]. У Гродзенскай губ. па стану на восень 1809 г. "адлучанымі" па няпоўных дадзеных лічылася звыш ста чалавек. Больш за палову з іх складалі жыхары Гародні і гродзенскага ўезда. У суседняй Мінскай губ. улады таксама былі заклапочаны масавым характарам падобнага працэсу. Сацыяльны склад тых, хто выехаў у Герцагства, быў даволі неаднародны. Пераважала шляхта розных катэгорый (служачыя, навучэнцы школ, беззямельныя). Але сярод тых, хто лічыўся ў незаконным ад'ездзе, былі і магнаты, а таксама мяшчане і нават прыватнаўласніцкія сяляне. Прадстаўленыя мясцовымі ўладамі звесткі дэманструюць, што гэта былі, галоўным чынам, людзі адной узроставай катэгорыі — пераважна да 30 год. Насупраць некаторых прозвішчаў ёсць запісы, якія сведчаць, што гэтыя асобы пакінулі межы імперыі "пешшу"[110].

Першы заканадаўчы акт адносна асоб, якія нелегальна пакідалі краіну, быў выдадзены 24 ліпеня 1809 г. У ім, у адрозненне ад аналагічных пастаноў Кацярыны ІІ, загадвалася канфіскоўваць маёнткі не толькі тых асоб, якія без дазволу начальства выехалі за мяжу, але і тых, хто падгаворваў, альбо ў іншы спосаб садзейнічаў гэтаму выезду[111]. Аднак аднаго акта, каб спыніць нелегальны выезд, аказалася недастаткова. За ім выйшаў шэраг іншых царскіх указаў: ад 5 кастрычніка 1809 г., 17 снежня 1809 г., 28 студзеня 1810 г., 18 сакавіка 1810 г. Імі ўводзіліся новыя палажэнні адносна канфіскацыі, удакладняліся некаторыя пытанні, якія ўзніклі ў мясцовых уладаў падчас рэалізацыі на практыцы папярэдніх пастаноў. Так, указ ад 17 снежня 1809 г. устанаўліваў шасцімесячны тэрмін, на працягу якога можна было беспакарана вярнуцца з-за мяжы, а царскае распараджэнне ад 18 сакавіка 1810 г., нягледзячы на тое, што Аляксандр І пацвердзіў дарчую грамату расейскаму дваранству ад 1785 г., прадпісвала канфіскоўваць за ад'езд за мяжу як набытыя, так і спадчынныя маёнткі. Указ ад 5 кастрычніка 1809 г. упершыню ў прававой практыцы рэгуляваў парадак адабрання ў казну маёнткаў (ці іх асобных частак) у асоб, якія яшчэ не ўступілі ў правы ўласніка гэтай маёмасці. Паказальна, што ў некаторых спрэчных пытаннях, якія тычыліся канфіскацыі маёмасці, расейскія ўлады спасылаліся на ўказы, выдадзеныя Кацярынай ІІ і Паўлам І у 1795–1798 гадах[112].

На месцах уладамі таксама быў узмоцнены кантроль за шляхтай. Гараднічыя і земскія спраўнікі "без усялякай агалоскі" павінны былі дастаўляць губернскаму начальству звесткі аб маёнтках, што засталіся пасля выехаўшых памешчыкаў. У абавязкі гэтых чыноўнікаў уваходзіла таксама прадстаўленне штомесячных справаздач аб асобах, якія з'ехалі за мяжу. У саміх губернскіх цэнтрах па ўсёй імперыі на моц указа ад 10 верасня 1810 г. былі створаны спецыяльныя камісіі "для продажу казённай маёмасці". У заходніх губернях імперыі іх стварэнне для ўладных органаў адбылося вельмі дарэчы. Паралельна з асноўнымі функцыямі на іх былі ўскладзены дадатковыя абавязкі па канфіскацыі і далейшаму кіраванню маёнткамі асоб, якія выехалі за мяжу[113]. На чале падобных камісій стаялі

---

[109] Кутузов М. Сб. док. Т. 3. 1808–1812 гг. Москва, 1952. — С. 249.

[110] РГИА. Ф. 1286, оп. 1, д. 91, л. 150–157; Ф. 379, оп. 3, д. 104, л. 100–108; LVIA. F. 378, ap. 17, b. 183, l. 21–31; F. 378, ap. 17, b. 164, l. 1,3.

[111] Полное собрание законов Российской империи (собрание первое). Т. XXX, № 23806.

[112] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 106, арк. 4.

[113] РГИА. Ф. 384, оп. 1, д. 3, л. 27; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 106, арк. 10.

цывільныя губернатары. У іх склад таксама ўваходзілі віцэ-губернатар, саветнік казённай палаты, обер-фарстмайстар і губернскі пракурор.

Непасрэдная дзейнасць па налажэнню секвестру на зямельныя валоданні распачалася значна раней за ўтварэнне камісій. Забароне падвяргаліся маёнткі бацькоў, чые дзеці выязджалі без дазволу ўрада за мяжу. Згодна з указам ад 5 кастрычніка 1809 г., забарона прымянялася дзеля таго, каб улады пасля смерці ўладальніка маёнтка маглі канфіскаваць тую частку маёмасці, што належала спадкаемцам, якія пакінулі межы Расейскай імперыі. На апісванне маёнткаў уездным маршалкам, земскім уездным судам і паліцыі ў гарадах адводзіўся адзін месяц з моманту прыняцця пастановы аб канфіскацыі[114]. Паколькі даволі часта землеўладальнікі мелі маёмасць у розных месцах, таму спісы асоб, якія выехалі, рассылаліся ўладамі ў суседнія губерні. З мэтай атрымання найбольш поўных звестак аб тых, хто пакінуў месца свайго сталага жыхарства, мясцовыя ўлады сачылі за варшаўскімі газетамі, а таксама не грэбавалі чуткамі, з якіх чэрпалі інфармацыю аб з'ехаўшых земляках[115].

Да 1809 г. адносяцца і першыя спробы вызначэння будучага лёсу канфіскаванай зямельнай маёмасці. Азнаёміўшыся са спісам тых маёнткаў, што былі прызначаны да канфіскацыі па Валынскай губ., міністр унутраных спраў князь Аляксей Куракін выступіў з прапановай аб продажы такіх зямельных валоданняў з публічнага аўкцыёну. Камітэт міністраў, куды на разгляд паступіў гэты праект, праявіў пры вырашэнні гэтага пытання большую асцярожнасць. Аргументуючы свой пункт гледжання тым, што такое рашэнне можа прывесці да "несправядлівых даносаў" і зыходзячы з таго, што некаторыя асобы з цягам часу могуць апраўдацца, Камітэт пастанавіў перадаваць усе канфіскаваныя маёнткі ў казённае ведамства[116]. Для забеспячэння інтарэсаў казны і ўвядзення аднастайнасці падчас іх прыёму і далейшага кіравання, у тым жа 1809 г. на пасяджэнні Камітэта міністру фінансаў было даручана распрацаваць спецыяльныя правілы[117].

Прадпрынятыя ўладамі захады прынеслі пэўныя вынікі. Па-першае, гэта прывяло калі не да поўнага спынення, то да значнага скарачэння патоку нелегальнай міграцыі ў Варшаўскае Герцагства па палітычных прычынах. Па-другое, ужо з восені 1809 г. распачаўся працэс вяртання некаторых асоб з-за мяжы ў Расейскую імперыю. Згодна з распараджэннямі цэнтральных і губернскіх уладаў, такіх асоб пасля вяртання належала судзіць "па ўсёй строгасці закону". Пакаранню таксама павінны былі быць падвергнуты бацькі, якія садзейнічалі сваім дзецям ва ўцёках за мяжу[118]. Тым не менш, пасля выдання ўказа ад 17 снежня 1809 г., які прадстаўляў магчымасць бесперашкодна вярнуцца на працягу шасці месяцаў, працэс звароту жыхароў заходніх губерняў значна актывізаваўся. У першую чаргу трапіць у межы імперыі імкнуліся буйныя землеўладальнікі, якія нярэдка ўжо адчулі наступствы секвестрацыі ўласных земляў у 1794–

[114] LVIA. F. 378, ap. 17, b. 183, l. 70.

[115] РГИА. Ф. 379, оп. 3, д. 104, л. 99, 108.

[116] Сосна У. Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. Мінск, 2000. — С. 23.

[117] РГИА. Ф. 1286, оп. 1, д. 92, л. 141.

[118] РГИА. Ф. 1286, оп. 1, д. 91, л. 149; Ф. 1286, оп. 1, д. 92, л. 67.

1795 гг. Сярод такіх асоб былі граф Аляксандр Пацей (у 1794 г. ад'ютант Якуба Ясінскага), князь Дамінік Радзівіл, Станіслаў Солтан з сынам Адамам, Людовік Пац і інш. Апошняму дзейсную дапамогу ў вяртанні ўжо секвестраваных маёнткаў аказаў літоўскі ваенны губернатар Міхаіл Галянішчаў-Кутузаў, які ў даволі рэзкай форме запатрабаваў ад віленскага губернскага праўлення вызваліць маёнтак Людовіка Паца ад забароны[119]. Такім чынам, будучы галоўнакамандуючы рускімі арміямі дапамог будучаму актыўнаму ўдзельніку напалеонаўскага паходу на Расею.

Сам Міхіал Кутузаў цудоўна разумеў, з якой мэтай шляхта і магнаты вяртаюцца з-за мяжы. У сваім лісце да міністра ўнутраных спраў Аляксея Куракіна ад 9 сакавіка 1810 г. ён пісаў: "...мне падаеццца, што вяртанне некаторых з іх не з'яўляецца наступствам раскаяння, а толькі дзеля таго, каб выратаваць маёнткі іх ад канфіскацыі, якія імкнуцца самі прадаць і закласці, маючы намер зноў пакінуць Расею..."[120]. Так яно было і на самой справе. Вырашыўшы свае маёмасныя пытанні, Людовік Пац, Дамінік Радзівіл, Аляксандр Пацей, Станіслаў і Адам Солтаны да пачатку 1811 г. паспяшаліся выехаць па новых пашпартах у Варшаўскае Герцагства. Імкнучыся недапусціць паўтарэння падобных выпадкаў у будучым, Міхаіл Кутузаў прапанаваў забараніць асобам, якія вярталіся з-за мяжы, продаж і магчымасць закладу сваіх маёнткаў тэрмінам як мінімум на 2 гады, "нібыта ў пакаранне за зробленую імі адлучку." Вынесеная на разгляд Камітэта міністраў азначаная прапанова не знайшла там падтрымкі, "... паколькі ўсе непрыязныя абставіны ўжо скончыліся"[121].

Нагодай для такога сцвярджэння з боку вышэйшага органа дзяржаўнага кіравання быў своеасаблівы пералом у палітыцы царызму ў адносінах да земляў былога ВКЛ, які стаў пастунова выяўляцца з 1810 г. Звязана гэта было, у першую чаргу, з пераглядам Аляксандрам I свайго ранейшага падыходу да заходняга суседа. З канца 1809 г. і на працягу 1810 г. расейскі імператар імкнуўся да рэалізацыі плана падпарадкавання свайму ўплыву Варшаўскага Герцагства. Гэтым планам прадугледжвалася абвяшчэнне расейскага манарха польскім каралём, а таксама далучэнне да гэтай дзяржаўнасці земляў былога ВКЛ. Аднак цяжкасці, з якімі сутыкнуўся цар падчас ажыццяўлення гэтага праекта, абумовілі яго зварот да ідэі літоўскай аўтаноміі, якая, у сваю чаргу, знайшла ўвасабленне ў праекце Міхала Казіміра Агінскага. Рэалізацыя прапанаванага плана па аднаўленню ВКЛ, на думку М.К. Агінскага, забяспечыла б Аляксадру I значную перавагу ў барацьбе з Напалеонам за душы і розумы жыхароў заходніх губерняў. Таксама і варшавяне ўбачылі бы, што ліцвіны атрымалі сваю бацькаўшчыну і спадзяванні свае на адраджэнне Польшчы ўсклалі бы на імператара Расеі, а не Францыі.

У гэтым кантэксце становіцца зразумелым, чаму прыкладна з сярэдзіны 1810 г. у справаводстве губернскіх уладаў амаль што цалкам знікае перапіска аб канфіскацыі маёнткаў. З "вышэйшага" дазволу некаторыя зямельныя валоданні вяртаюцца асобам, якія так і не вярнуліся з-за мяжы. Спыняецца праследаванне тых, хто выехаў туды паўторна. Можна меркаваць, што расейскія ўлады пакі-

[119] LVIA. F. 378, ap. 17, b. 183, l. 195.
[120] LVIA. F. 378, ap. 17, b. 183, l. 96.
[121] Журналы Комитета министров. Царствование... Т. 2: 1810–1812. — С. 43.

нулі свае ранейшыя распараджэнні без далейшага "руху" ў чаканні "набліжэння развязкі палітычных абставін"[122].

Такія палітычныя абставіны не прымусілі чакаць доўга. Вайна 1812 г. прадэманстравала наяўнасць на тэрыторыі Беларусі значных сіл, гатовых са зброяй у руках адстойваць незалежнасць гэтых тэрыторый ад Расейскай імперыі. На некаторы час землі былога ВКЛ сталі незалежнымі ад расейскай дзяржавы. Тут была ўтворана ўласная адміністрацыя на чале з "Часовым урадам Вялікага княства Літоўскага". Ужо на працягу першага месяца працы ў поле інтарэсаў гэтага органа трапіла пытанне, якое непасрэдна тычылася канфіскаваных царызмам маёнткаў. Зварот да яго быў звязаны са спробай новых уладаў вырашыць праблему кацярынаўскіх і паўлаўскіх наданняў на падуладнай ім тэрыторыі. У тых кроках, якія былі здзейснены Часовым урадам у гэтым кірунку, назіраецца шмат агульных рыс з крокамі расейскай адміністацыі на землях Беларусі і Літвы ў канцы XVIII ст.

У ліпені 1812 г. камісія Часовага ўрада ВКЛ звярнулася да адміністрацый дэпартаментаў з прадпісаннем прэфектурам неадкладна ўзяць пад апеку Літоўскага ўрада ўсе землі, якія да правядзення падзелаў адносіліся да адной з форм казённай уласнасці, а пасля сталі ўласнасцю расейцаў. Пры гэтым, як і ва ўказах Кацярыны II, дадзеная мера павінна была тычыцца толькі тых маёнткаў, чые ўладары на той момант выехалі з краю, г.зн. знаходзіліся па-за межамі падпарадкаваных віленскай адміністрацыі тэрыторый. Гэтае распараджэнне распаўсюджвалася і на прыватныя канфіскаваныя зямельныя валоданні. На маёнткі ўсіх згаданых тыпаў загадвалася накладаць секвестр з адначасовым правядзеннем люстрацыі[123]. Паспешлівасць, з якой Часовы ўрад імкнуўся вярнуць раней канфіскаваныя маёнткі былым гаспадарам, паказвае, якое значэнне новыя ўлады надавалі гэтай праблеме ў сістэме распачатых імі пераўтварэнняў. Зразумела, што няўдача войск Напалеона не дазволіла ім рэалізаваць гэтыя пачынанні.

Пасля паражэння войскаў французскага імператара, далейшы лёс шляхты, якая выступала на яго баку, быў вызначаны маніфестам 12 снежня 1812 г. "Аб выбачэнні жыхароў ад Польшчы далучаных абласцей, якія бралі ўдзел з французамі ў вайне супраць Расеі". У адпаведнасці з гэтым дакументам, усе асобы, якія прымалі ўдзел у кампаніі 1812 г. на баку Напалеона, атрымлівалі дараванне. Адзінай умовай амністыі было вяртанне ў межы Расейскай імперыі ў двухмесячны тэрмін. Тым, хто не зробіць гэтага ў вызначаны час, забаранялася вяртацца ў Расею, а іх маёмасць падлягала канфіскацыі[124]. Амністыя таксама не распаўсюджвалася на асоб, якія ў ходзе баявых дзеянняў апынуліся ў расейскім палоне. Апраўданнем за адсутнасць на месцы жыхарства не магло служыць ні наяўнасць бестэрміновых замежных пашпартоў, ні хваробы, ні падвойнае падданства памешчыкаў. Вызначаючы тэрмін на вяртанне, Аляксандр I хутчэй за ўсё кіраваўся ваенна-стратэгічнымі мэтамі: рыхтуючыся да новай ваеннай кампаніі па-за межамі Расеі, ён такім чынам імкнуўся прымусіць ураджэнцаў заходніх губерняў пакінуць шэрагі праціўніка. Тым не менш, азначаны ўказ не прынёс вы-

[122] Журналы Комитета министров. Царствование... Т. 2: 1810–1812. — С. 368.

[123] Archiwóm Akt Nowych w Warszawie (AAN). Ministerstwo rolnictwa i reform rolnych. Sygn. 236, k. 112.

[124] ПСЗРИ (собрание первое). XXXII, № 25289.



нікаў, на якія спадзяваліся царскія ўлады. Напрыклад, у Мінскай губерні з 103 асоб, якія былі ўнесены ў спіс тых, хто пакінуў краіну разам з французскім войскам, у вызначаны тэрмін вярнулася толькі 10 чалавек[125].

*Аляксандр I, расейскі імператар*

Адносна маёмасці асоб, якія засталіся за мяжой, у сакавіку 1813 г. выйшла спецыяльнае прадпісанне Камітэта міністраў, у якім загадвалася начальнікам губерняў тэрмінова распачаць канфіскацыю іх валоданняў. Гэтай працэдуры падлягалі зямельныя ўладанні розных форм: прыватныя маёнткі, асобныя сядзібы без зямлі, пажыццёвыя езуіцкія валоданні, дамы ў гарадах, графствы і лясніцтвы, староствы, маёнткі, якія трымаліся па закладному праву "дзе б яны не былі", а таксама ўсе віды рухомай маёмасці. Пры гэтым пакаранню падвяргаліся жыхары заходніх губерняў як на падставе ўказа ад 12 снежня 1812 г., так і тых указаў, што былі выдадзеныя яшчэ да пачатку вайны.

У Мінскай і Магілёўскай губернях разглядам спраў аб "адлучаных" за мяжу асобах займаліся губернскія праўленні. У Віленскай і Гродзенскай губернях на пачатку 1813 г. па распараджэнню віленскага губернатара былі ўтвораны спецыяльныя камісіі для канфіскацыі маёнткаў (у справаводстве таксама сустракаецца іншая іх назва — "секвестрацыйныя камісіі"). Да іх абавязкаў, між іншым, належала вызначэнне асоб, якія падлягалі пакаранню, і прыём іх маёнткаў у казну. Іх штат складаўся з 4–5 чыноўнікаў[126]. Канфіскацыйныя камісіі праіснавалі параўнальна нядоўга. У канцы 1813 г. ва ўсіх заходніх губернях імперыі, у адпаведнасці з прынятым Камітэтам міністраў рашэннем, аднавілі сваю дзейнасць утвораныя ў 1809 г. камісіі для продажу казённай маёмасці. Ім і былі перададзены ўсе справы аб прыняцці ў казну маёмасці асоб, якія не вярнуліся з-за мяжы.

Разам са стварэннем мясцовых камісій па правядзенні канфіскацыі і на вышэйшым узроўні быў утвораны адмысловы орган дзеля вызначэння статусу гэтай маёмасці. Пасяджэнні гэтага камітэта, які ў афіцыйных дакументах таго часу называўся "Камітэтам, заснаваным для складання правіл, як паступаць

[125] РГИА. Ф. 379, оп. 3, д. 104, л. 261–272.

[126] LVIA. F. 378, ap. 21, b. 54ª, l. 28.

з маёмасцю жыхароў Польскіх абласцей, якая канфіскавана на падставе Вышэйшага маніфеста 12 снежня 1812 г.", адбываліся да сярэдзіны 1814 г.[127]

Паколькі падчас ажыццяўлення канфіскацыі маёнткаў у мясцовых уладаў узнікла шмат пытанняў і непаразуменняў, а таксама дзеля таго, каб гэты працэс адбываўся аднастайна, у адпаведнасці з даручэннем Камітэта міністраў, міністрам фінансаў былі распрацаваны правілы канфіскацыі маёнткаў і кіравання імі. 24 кастрычніка гэтага ж года яны былі зацверджаны Аляксандрам І. Выданне падобных правіл было новай з'явай у развіцці расейскага заканадаўства адносна канфіскацыі маёмасці.

Першы раздзел гэтага дакумента быў прысвечаны парадку дзейнасці па ажыццяўленню працэдуры канфіскацыі маёнткаў. Цэнтральнае месца ў яе рэалізацыі адводзілася губернскім камісіям для продажу казённай маёмасці. Аб гэтым сведчыць хаця б той факт, што за імі замацоўвалася права на прыняцце канчатковага рашэння аб канфіскацыі таго ці іншага ўладання[128]. Камісіі павінны былі ажыццяўляць цеснае ўзаемадзеянне з іншымі губернскімі ўстановамі. Першым крокам на шляху пераходу прыватнаўласніцкай маёмасці ў склад дзяржаўнай, было складанне поўнага спісу асоб па губерні, чыя маёмасць падлягала канфіскацыі. Пасля выяўлення "злачынцаў" распачынаўся пошук іх маёмасці. Гэты абавязак ускладваўся на земскую і гарадскую паліцыю. Гэтыя ж органы мясцовай улады таксама павінны былі ажыццяўляць нагляд за падобнай маёмасцю да прыбыцця спецыяльна прызначаных асоб. Наступным крокам было апісванне і прыём у казённае ведамства. Для гэтых мэт камісіі прызначалі надзейных чыноўнікаў з губернскай ці казённай палаты. Адначасова з гэтымі крокамі спісы асоб і іх маёмасці, якая была вызначана для канфіскацыі, прадпісвалася рассылаць як у вышэйшыя, так і ніжэйшыя органы ўлады, а таксама ў аналагічныя камісіі, што існавалі ў іншых губернях.

Асобныя пункты правіл былі прысвечаны патрабаванням адносна прыёму ў казну сялян тых маёнткаў, якія канфіскоўваліся. Чыноўні павінны былі збіраць сялян і ў прысутнасці земскай паліцыі абвяшчаць ім, што яны назаўсёды паступаюць у казённае ведамства. Каб забяспечыць іх прыхільнасць да новых уладальнікаў, камісіі надзяляліся правам змяншаць сялянскія павіннасці, у выпадках, калі тыя пераўзыходзілі існуючыя ў казённых сялян. Не былі забытыя і інтарэсы пануючага саслоўя. Дзяржава згаджалася прызнаць за сабой прэтэнзіі да асоб, чыя маёмасць паступала ў казну пры ўмове іх належнага афармлення. Падставай для падобных аперацый павінны былі стаць адпаведныя ўказы Кацярыны ІІ і Паўла І[129].

Нягледзячы, як гэта можа падацца, на ўсёабдымны характар правіл, у іх адсутнічала ці не самае галоўнае — не быў вызначаны статус канфіскаваных маёнткаў і, адпаведна, не быў вырашаны і лёс сялян. Не было іх прававое становішча акрэслена і папярэднімі вышэйшымі пастановамі па гэтым прадмеце. У гэтым плане правілы рэгулявалі толькі спосаб кіравання канфіскаванымі маёнткамі, і то толькі на адносна кароткі адрэзак часу. Галоўным у комплексе

---

[127] РГИА. Ф. 1263, оп. 1, д. 69, л. 125.

[128] ПСЗРИ (собрание первое). Т. XXXII, № 25470.

[129] Ibidem.

акрэсленых правіламі мер павінна была стаць дзейнасць усіх уладных структур па забеспячэнню інтарэсаў казны. Дзеля гэтага ўсе рэчы, якія служылі ўпрыгожваннем сядзіб, загадвалася прадаваць з аўкцыёну. Такім жа чынам прадпісвалася паступаць з усёй іншай маёмасцю, якая "не прыносіць казне ніякага даходу"[130]. Вызначэнне ў правілах падобнага спосабу кіравання канфіскаванымі маёнткамі карэнным чынам адрознівалася ад часоў Кацярыны II, калі такія валоданні "разам з усёй наяўнасцю" і даходамі амаль што адразу, шляхам адорвання, пераходзілі ў рукі іншых прыватных асоб.

Атрыманню найбольшай выгады для дзяржаўнай казны павінна было служыць прадпісанне аб аддачы маёнткаў, якія ўжо паступілі ў казённае ведамства ў арэнду з публічных таргоў тэрмінам ад трох да шасці гадоў. Інфармацыя аб аўкцыёнах, якія меліся адбыцца, на права часовага іх утрымання, папярэдне змяшчалася ў мясцовых газетах. Толькі ў Мінскай губ. да 12 красавіка 1814 г. было заключана 20 кантрактаў на трохгадовую арэнду 22-х маёнткаў. Гадавы прыбытак казны ад гэтых здзелак павінен быў скласці суму ў амаль што 100 тыс. руб. асігнацыямі[131]. Каля паловы гэтых грошай павінна было паступіць з 13 вакантных маёнткаў князя Дамініка Радзівіла. Таксама даволі значныя сумы, якія перавышалі 10 тыс. рублёў, былі вызначаны за арэнду маёнткаў Рубяжэвічы Адама Лапаты і Любань Яна Любанскага. Толькі 2 зямельныя ўладанні былі аддадзены ў арэнду за суму, якая не перавышала 1 тыс. руб. Гэта сведчыць аб імкненні ўладаў апісваць у казну і, адпаведна, здаваць у арэнду ў першую чаргу буйныя маёнткі.

Яшчэ да выдання правіл ад 24 кастрычніка 1813 г., губернская адміністрацыя распачала актыўны працэс апісвання і перадачы зямельных уладанняў "адлучанай" шляхты ў казённае ведамства. Разам з маёнткамі апісваліся і лясы, якія знаходзіліся ў прыватнай уласнасці. Складаннем вопісаў займаліся прызначаныя губернскімі для продажу казённай маёмасці камісіямі чыноўнікі, якія паходзілі з розных ведамстваў. Напрыклад, у Гродзенскай губ. дзеля гэтых мэт былі задзейнічаны 2 засядацеля крымінальнага суда, 2 дэпутата дваранскага сходу, страпчы крымінальнага суда і асэсар казённай палаты[132]. Нягледзячы на невялікія штаты, іх дзейнасць па прыняццю ў казну маёнткаў была даволі эфектыўнай. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца, да прыкладу, рапарт віленскага ваеннага губернатара А. Рымскага-Корсакава галоўнакамандуючаму ў Санкт-Пецярбургу ў верасні 1813 г. Ваенны чыноўнік у сваім дакладзе, абапіраючыся на звесткі цывільнага літоўскага губернатара, адзначыў, "...што шмат якія маёнткі, каменныя і драўляныя ў гарадах дамы і іншага кшталту маёмасць, якая належыць асобам, што знаходзяцца за мяжой і ў варожай службе, ужо канфіскавана"[133]. Згодна з яго ж распараджэннямі, падобная ўласнасць у гэтых губернях перадавалася ў ведамства казённых палат для "далучэння да іншых казённых маёнткаў".

Аналіз спісаў "асоб, якія не вярнуліся", складзеных губернскімі ўладамі, дэманструе, што за рэдкім выключэннем, усе, хто быў унесены туды, паходзілі са

[130] Ibidem.

[131] РГИА. Ф. 384, оп. 1, д. 203, л. 207; НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 623, арк. 22–42.

[132] НГАБ у Гродне. Ф. 1. воп. 1, спр. 206, арк. 9.

[133] РГИА. Ф. 379, оп.31, д. 104, л. 294.

шляхецкага саслоўя. Па свайму маёмаснаму становішчу шляхта, якая выехала за мяжу, была вельмі неаднародная — ад беззямельных афіцыялістаў да буйных магнатаў. Па Гродзенскай губ. з 145 асоб, маёмасць якіх падлягала канфіскацыі, 35 чалавек маёнткаў не мелі зусім, у валоданні астатніх 110 знаходзілася 220 маёнткаў (з іх 48 належала Даменіку Радзівілу) і 4 дамы. Па Магілёўскай губ. адсутнымі лічыліся 5 чалавек (9 зямельных валоданняў), па Ашмянскім і Браслаўскім ўездах Віленскай губ. 14 асоб — 13 маёнткаў (4 беззямельныя) (усяго па губерні ў адпаведныя спісы ўнесены 144 прозвішчы), па Мінскай губ. 17 асоб не мелі зямельнай маёмасці, у той час як у валоданні астатніх 76 знаходзілася 98 маёнткаў і 3 дамы[134]. Дадзеныя па Віцебскай губ. адсутнічаюць.

На працягу вельмі кароткага адрэзку часу ў казённае ведамства на тэрыторыі Беларусі (без уліку часткі Віленскай губ.) павінны былі паступіць больш за 150 тыс. сялянскіх душ, у тым ліку па Мінскай губ. — каля 84 тыс., па Гродзенскай — 46 тыс. і па Магілёўскай — каля 23 тыс. душ[135].

У спісах асоб, чыя маёмасць была прызначана да канчатковай канфіскацыі, найбольш часта сустракаецца прозвішча магнацкага роду Радзівілаў, прадстаўнікам каторага на працягу стагоддзяў належала вызначальная роля ў палітычным і эканамічным жыцці краю. Найбольшая колькасць маёнткаў, вызначаных да перадачы ў казну, належала Даменіку Радзівілу, спадкаемцу Караля Станіслава Радзівіла (Пане Каханку), які валодаў у Беларусі, Літве і Украіне велізарнымі латыфундыямі (каля 120 тыс. прыгонных). З 1810 г. ён знаходзіўся на ваеннай службе ў арміі Варшаўскага Герцагства. Па найвышэйшаму загаду ад 16 лістапада 1811 г. на яго маёнткі прадпісана было накласці секвестр, а ўказам ад 9 лютага 1812 г. узяць у казённае ведамства[136]. Імкнучыся ўратаваць хаця б частку сваёй маёмасці, Дамінік Радзівіл у 1812 г. выдаў шэраг актаў аб перадачы і продажы некаторых сваіх маёнткаў розным асобам. Аднак гэтая спроба пазбегнуць пакарання поспеху не прынесла. Спачатку рашэннем Міхаіла Кутузава, а пасля і міністра фінансаў, было пастаноўлена ўсе акты Д. Радзівіла за 1811–1812 гады лічыць несапраўднымі. У казённы нагляд перайшла маёмасць сына Дамініка — Аляксандра, а таксама Міхала Радзівіла, які ў кампаніі 1812 г. меў чын брыгаднага генерала (8 непадзельных з братамі маёнткаў на тэрыторыі Беларусі), яго брата Мікалая, Людовіка Радзівіла і аднаго з першых беларускіх фалькларыстаў Канстанціна Радзівіла, чые маёнткі ў асноўным знаходзілася ў Навагрудскім уездзе. Да казны павінны былі перайсці даволі значныя валоданні графа Аляксандра Хадкевіча, Адама Чартарыйскага, Караля і Мечыслава Сангушкаў, Аляксандра Пацэя, Яна Любанскга, Караля Прозара і некаторых іншых. Пры гэтым частка з гэтых асоб у 1812–1813 г. тэрыторыю імперыі не пакідала, а ўтрымлівалася там у якасці ваеннапалонных[137].

Утварэнне канфіскацыйных камісій, выданне спецыяльных правіл па кіраванні маёмасцю, якая пераходзіла да казны, друкаванне ў газетах звестак аб асобах, што пазбаўляліся маёмасці, перадача маёнткаў у арэнду і некаторыя іншыя крокі царскіх уладаў ствараюць ураженне аб імкненні царызму ісці ў гэтым

---

[134] LVIA. F. 378, ap. 21, b. 54[a], l. 406–409, 464; РГИА. Ф. 379, оп. 3, д. 104, л. 195, 200–201, 261–272.

[135] Сосна У. Фарміраванне саслоўна-групавога складу... С. 24.

[136] НГАБ у Гродне. Ф. 1. воп. 1, спр. 269, арк. 2.

[137] РГИА. Ф. 379, оп. 3, д. 104, л. 207.

кірунку да канца. Але палітыка Аляксандра I, Камітэта міністраў і іншых цэнтральных органаў кіравання не была такой паслядоўнай. З лета 1813 г., дзякуючы заступніцтву высокапастаўленых асоб, некаторым прыхільнікам Напалеона, якія з'ехалі за мяжу, з імператарскага дазволу вяртаецца секвестраваная і канфіскаваная маёмасць. На пасяджэнні Камітэта міністраў 12 мая 1814 г. было вырашана вярнуць маёмасць тым, аб якіх было дакладна вядома, што яны не знаходзіліся на службе ў непрыяцеля[138]. Наступным крокам на шляху амністыі стала выданне 15 мая 1814 г. царскага ўказа аб калектыўнай амністыі ўсіх афіцэраў Польскіх войск, якія знаходзіліся ў палоне. Указ загадваў вярнуць такім асобам секвестраваныя маёнткі[139]. Імянныя дараванні атрымалі ў Парыжы нават тыя, хто застаўся з Напалеонам I да канца вайны. Сярод іх былі сябры Камісіі Часовага ўрада ВКЛ Станіслаў Солтан, Караль Прозар, Францішак Ельскі, генерал Ксаверы Несялоўскі, Міхал Радзівіл і інш[140].

Заключным акордам стаў указ ад 30 жніўня 1814 г., выдадзены ў дзень, калі Аляксандр I урачыста вярнуўся ў межы імперыі. Ён абвяшчаў дараванне ўсім асобам, якія ў папярэднія гады выехалі за мяжу Расіі і вяртанне ім секвестраваных і канфіскаваных маёнткаў[141]. Вайна скончылася, і былыя ворагі такім чынам пераўтварыліся ва ўдзячных падданых. Праўда, у часы Аляксандра I былі спробы асобных людзей (як напрыклад Ігната Гелгуда) вярнуць маёнткі, якія былі канфіскаваны за ўдзел у паўстанні 1794 г. Але поспеху падобныя спробы не мелі[142].

Такім чынам, час панавання Аляксандра I можна аднесці да новага этапу ў развіцці заканадаўчай базы і практычнай дзейнасці па прымяненні канфіскацыі як меры пакарання на землях Беларусі. У гэты перыяд былі вызначаны новыя катэгорыі "злачынстваў", якія караліся канфіскацыяй, створаны спецыяльныя канфіскацыйныя камісіі і ўведзены правілы правядзення секвестру і канфіскацыі зямельных валоданняў, удасканалены механізм пераходу маёнткаў з разраду прыватных у казённыя, вызначаны новыя спосабы кіравання канфіскаванымі маёнткамі. Нерашучасць царызму ў справе канчатковай рэалізацыі ўласных пастаноў аб канчатковай канфіскацыі маёнткаў, на нашу думку, была выклікана спробамі Аляксандра I рэалізаваць уласныя геапалітычныя планы адносна гэтых земляў і пошукам надзейнай сацыяльнай базы падтрымкі ў выглядзе мясцовага дваранства.

## КАНФІСКАЦЫЯ МАЁМАСЦІ Ў 1830–1840-Я ГАДЫ

Другая трэць XIX ст. у гісторыі развіцця механізму канфіскацый як меры пакарання за палітычныя злачынствы, была перыядам, калі закладзены ў папярэднія часы прававы і бюракратычны падмурак дазволіў царскаму ўраду найбольш поўна рэалізаваць карны патэнцыял гэтай меры пакарання. Выкарыстанне

[138] РГИА. Ф. 1263, оп. 1. д. 69, л. 128.

[139] Kuryer Litewski. 1814, 20 czerwca. — S. 1

[140] Акты и документы архива Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернаторского управления, относящиеся к истории 1812–1813 гг. // Виленский временник. Кн. V, ч. II: Переписка по части гражданского управления. Вильна, 1913. — С. 252–254.

[141] ПСЗРИ (собрание первое). XXXII, № 25671.

[142] Archiwóm Główny Akt Dawnych (AGAD). Kancelaria senatora Nowosilcowa, sygn. 338, k. 5.

ў масавым парадку канфіскацый было звязана, найперш, з рэпрэсіямі супраць удзельнікаў паўстання 1830–1831 г. Падчас задушэння ўзброенай барацьбы ў 1831 г., наступны расейскі імператар, мусіць, не раз быў вымушаны шкадаваць, што справа канфіскацыі маёнткаў так і не была даведзена яго папярэднікам да канца. Менавіта ўдзельнікі напалеонаўскіх паходаў — Тадэвуш Тышкевіч, Людовік Пац, Адам Солтан, Юзаф Кашыц, Габрыэль Агінскі, Плятэры, Парфірый Важынскі і іншыя выступілі арганізатарамі нацыянальна-вызваленчага руху на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

Паўстанне, якое распачалося ў Варшаве 17 лістапада 1830 г., адной з мэт мела далучэнне тэрыторый былога ВКЛ да незалежнай Польскай дзяржавы. Дзеля вырашэння гэтай задачы варшаўскія ўлады ў сваіх планах адводзілі т.зв. "адабраным землям" асаблівую ролю. У сваю чаргу, расейскія ўлады ўсімі сродкамі імкнуліся недапусціць распаўсюджванне ўзброенай барацьбы на гэтых абшарах. Так, 1 снежня 1830 г. заходнія губерні Расейскай імперыі былі аб'яўлены на ваенным становішчы з падпарадкаваннем іх галоўнакамандуючаму першай рускай арміі Івану Дзібічу-Забалканскаму. Была павялічана вайсковая прысутнасць, арганізаваны збор агнястрэльнай зброі ў насельніцтва, узмоцнены паліцэйскі нагляд за ўсімі падазронымі асобамі, праведзеныя першыя арышты. Не абышлося без манаршай апеляцыі да вернападданніцкіх пачуццяў. У выдадзеным вышэйшым указе на імя віленскага генерал-губернатара ад 7 снежня 1830 г., Мікалай I заклікаў жыхароў заходніх губерняў да спакою і захавання вернасці трону. У канцы азначанага дакумента імператар, аднак, папярэдзіў, што калі хто-небудзь забудзецца на свой абавязак прысягі і сумлення, той будзе падлягаць "усёй суровасці права ... і маёнтак яго будзе канфіскаваны"[143].

Літаральна праз пяць дзён пасля выхаду вышэй згаданага акта, "прымаючы да ведама, што на падставе папярэдніх прыкладаў, як відаць з указаў 3 мая 1795 г., 24 жніўня 1810 г., 12 снежня 1812 г. маёнткі такіх парушальнікаў вернападданніцкага абавязку, якія ўступаюць у лік яўных ворагаў Дзяржавы, павінны падлягаць канфіскацыі"[144], урад выпускае яшчэ адзін указ. Праўда, у адрозненне ад згаданых пастановаў папярэдняй эпохі, пакаранне, якое вызначалася гэтым заканадаўчым актам ад 21 снежня 1830 г., абмежавалася толькі накладаннем забароны на маёмасць тых асоб, аб якіх было вядома, што яны знаходзіліся ў Каралеўстве Польскім. Таксама, у параўнанні з аналагічнымі распараджэннямі Кацярыны II і Аляксандра I, звяртае на сябе ўвагу той факт, што ва ўказе ад 21 снежня не быў вызначаны тэрмін вяртання з-за мяжы, які б даваў права асобам, што знаходзіліся ў Каралеўстве, пазбегнуць пакарання[145]. Зразумела, што падобным чынам улады імкнуліся не дапусціць масавага ўдзелу жыхароў заходніх губерняў у нацыянальна-вызваленчым руху, які пачаў разгортвацца на тэрыторыі Польшчы. Аднак, як паказалі далейшыя падзеі, у адпаведнасці з гэтым указам часцяком забарона накладалася на маёмасць тых асоб, якія да рэвалюцыйных падзей не мелі ні-

[143] Rosiak S. Wileńska komisja śledcza (1831–1834) // Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy Uniwersytety S. Batorego. Wilno, 1933. — S. 251.

[144] РГИА. Ф. 384, оп. 1. д. 1, л. 2.

[145] ПСЗРИ (собрание второе). Т. V, № 4206.

якага дачынення, а знаходзіліся ў Каралеўстве на сталым жыхарстве ці па іншых справах.

Першапачаткова ўлады прыбеглі да так званай "спецыяльнай канфіскацыі". У рамках шырокамаштабнай аперацыі па абяззбройванню, на тэрыторыі Беларусі ў мясцовага насельніцтва была канфіскавана даволі значная колькасць агнястрэльнай і халоднай зброі. Так, напрыклад, толькі ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. у казну ў выніку гэтай акцыі паступіла больш за 1000 стрэльбаў, у Ігуменскім — 825 і г.д. Уся канфіскаваная такім чынам зброя была пазней перададзена ў Бабруйскую крэпасць[146]. На тэрыторыі Гродзенскай губ. у выніку падобнай аперацыі ўладамі было адабрана ў мясцовага насельніцтва 1770 адзінак агнястрэльнай зброі[147]. У некаторых выпадках улады канфіскоўвалі не толькі баявую, але і паляўнічую зброю. У Я. Сапегі адабралі нават антыкварныя стрэльбы, якія выконвалі выключна дэкаратыўную функцыю.

Уладам так і не ўдалося стрымаць развіццё ўзброенай барацьбы па-за межамі Царства Польскага. У сакавіку 1831 г. паўстанне распачалося на тэрыторыі Віленскай губ. і да пачатку лета ахапіла значную частку Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны. Яно фактычна паралізавала дзейнасць царскай адміністрацыі, замінала цывільным і вайсковым камунікацыям, пашырыла арэну ваенных дзеянняў у межах Расейскай імперыі, адцягвала ваенныя сілы з тэатра асноўных баявых дзеянняў. Для ўтаймавання полымя ўзброеннай барацьбы ўладамі былі прадпрыняты самыя жорсткія захады: праводзіліся вайсковыя аперацыі, арышты, смяротныя пакаранні і іншыя віды экзекуцый, ссылка, аддача ў дзеючую армію і інш. Не апошнюю ролю ў комплексе гэтых рэпрэсіўных мер займалі секвестр і канфіскацыя прыватнай маёмасці.

У перыяд найвышэйшага ўздыму паўстання на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны ў сакавіку-ліпені 1831 г. указы аб секвестры і канфіскацыі маёмасці ўдзельнікаў вызваленчага руху выходзілі штомесяц. Праз выданне падобных пастановаў улады імкнуліся не толькі запалохаць памешчыкаў, адабраць у іх сродкі да існавання і падтрымкі ўзброенай барацьбы, пазбавіць паўстанне рэкрутацыйнай базы сярод найбольш заможных і ўплывовых слаёў грамадства, але і ўнесці раскол у шэрагі тых, хто ўжо прымаў непасрэдны ўдзел у паўстанні. Была ў гэтых указах і яшчэ адна мэта, а менавіта "пазбавіць зламысных памешчыкаў спосабаў уплываць на сялян сваіх"[148], і тым самым не дапусціць іх да ўдзелу ў паўстанні.

Указы ад 6 мая і 4 ліпеня прадугледжвалі вызваленне ад праследавання як паўстанцаў, так і іх маёмасці ў выпадку добраахвотнай здачы першых прадстаўнікам ваеннай ці цывільнай улады. Згодна з палажэннем ад 4 ліпеня, дараванне распаўсюджвалася і на асоб (за выключэннем галоўных завадатараў і кіраўнікоў паўстання), якія змагаліся супраць законнай улады са зброяй у руках. Нявызначанасць тэрміну дзеяння амністыі адкрывала перад царскай адміністрацыяй шырокія магчымасці для злоўжыванняў.

---

[146] РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 378, л. 338.

[147] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 1099, арк. 108.

[148] РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 1, л. 65.

Гэты ўказ меў неадназначны рэзананс як сярод чыноўнікаў, так і сярод мясцовых жыхароў у губернях, якія былі ахоплены паўстаннем. Як даносіў з Гародні ў Санкт-Пецярбург чыноўнік па спецыяльных даручэннях Пётр Розенг, "...адны кажуць, што нявызначанасць часу для прынясення пакорнасці вельмі карыснае, бо ў адваротным выпадку яўныя ворагі маглі б пазбавіць магчымасці ў гэтым (асоб), якія падазраюцца імі ў гатоўнасці раскаяцца, ды і выпадкі для выяўлення злачынцамі памылковасці іх у такой ступені розныя і розначасавыя, што для гэтага тэрміна вызначыць немагчыма. Іншыя мяркуюць, і гэта думка вышэйшага тут класа людзей, што выключэнне з безумоўнага выбачэння кіраўнікоў бунту прымусіць іх замінаць... галоснасці ўказаў увогуле"[149].

Аналіз спісаў асоб, якія скарысталіся правам на амністыю, дае падставы сцвярджаць, што гэтыя ўказы дасягнулі сваіх мэт. Менавіта маёмасны клас найбольш поўна скарыстаўся з гэтага права. Так, напрыклад, па Віленскай губ. колькасць памешчыкаў, якія да пачатку лістапада 1831 г. "добраахвотна прыйшлі да начальства з выказваннем раскаяння", больш чым у 2,5 разы перавышала ўнесеную ў гэтую ж ведамасць аналагічную лічбу шляхты (пад якой улады разумелі тых, хто зямельнай уласнасці не меў)[150].

Пасля бітвы на Панарскіх вышынях каля Вільні 19 ліпеня 1831 г., у якой аб'яднаныя сілы інсургентаў пацярпелі поўнае паражэнне, стратэгічная ініцыятыва канчаткова перайшла да расейскіх войск. Да сярэдзіны ліпеня 1831 г. партызанскі рух на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны быў амаль што цалкам задушаны. Сваю дзейнасць працягвалі толькі невялікія, асобныя атрады, якія не ўяўлялі значнай пагрозы для ўлады. Разам са спадам актыўнасці ўзброенай барацьбы ў заходніх губернях імперыі, згубілі сваю актуальнасць спробы задобрыць шляхту амністыямі і паміласаннямі. Царызм перайшоў да непрыкрытых рэпрэсій супраць удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху. Згодна з указам ад 17 ліпеня 1831 г., на тэрыторыі Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і інш. губерняў, а таксама Беластоцкай вобласці, дзе паўстанне атрымала найбольшае распаўсюджванне, былі ўтвораны спецыяльныя следчыя камісіі для "вызначэння ступені віны мяцежнікаў, секвестру і канфіскацыі іх маёнткаў". Тут можна прыгадаць, што гэта быў ужо не першы вопыт стварэння камісій для секвестру і канфіскацыі маёмасці ў азначаных губернях. Але ў адрозненне ад часоў Аляксандра I, функцыі і механізм дзеяння новаўтвораных камісій зведалі значныя змяненні.

У адпаведнасці з палажэннем ад 17 ліпеня, непасрэдна секвестр і канфіскацыя ў працы камісій адыходзілі на другі план. Прыярытэтным жа напрамкам іх дзейнасці станавіўся разбор спраў удзельнікаў паўстання і іх аднясенне да той ці іншай катэгорыі "віны"[151]. Правіламі былі вызначаны тры падобныя катэгорыі за ўдзел у паўстанні. Да першай прадпісвалася адносіць кіраўнікоў паўстання, да другой — тых, хто прымаў удзел у дзеяннях супраць расейскіх войск і "ўвогуле супраць законнай улады", да трэцяй — тых, хто непасрэднага ўдзелу ў паўстанні не прымаў, але меў да яго нейкае дачыненне. Асобы, аднесеныя да трэцяй катэгорыі, аўтаматычна вызваляліся ад далейшага праследавання.

---

[149] РГИА. Ф. 561, оп. 1. д. 107, л. 37.

[150] LVIA. F. 515, ap. 21, b. 26, l. 40–75.

[151] ПСЗРИ (собрание второе). Т. V, № 4711.

**4711. — Іюля 17. Высочайше утвержденныя правила для Губернскихъ Коммисій и Казенныхъ Палатъ *о секвестрѣ и конфискаціи имѣній мятежниковъ.***

**Гл. I —*Составъ и обязанности Губернскихъ Коммисій.***

**§ 1.** Для разбора о лицахъ, участвовавшихъ въ мятежѣ въ возвращенныхъ отъ Польши Губерніяхъ, и постановленія приговоровъ о тѣхъ имѣніяхъ, кои должны будутъ подлежать секвестру, устроить съ полученія сихъ правилъ учрежденныя предъ симъ по Высочайшимъ повелѣніямъ на сей конецъ Коммисіи въ одинаковомъ составѣ, а именно: по одной въ каждой изъ нижеслѣдующихъ Губерній: Кіевской, Виленской, Гродненской, Минской, Волынской, Подольской и Бѣлостокской Области, а буде нужно, то и въ Губерніяхъ Витебской и Могилевской.

**§ 2.** Коммисіямъ симъ состоять подъ предсѣдательствомъ Военныхъ Губернаторовъ, или тѣхъ лицъ Военнаго вѣдомства, кои отъ Гг. Главнокомандующихъ Резервною и 1 Арміями по принадлежности уже назначены, или назначены будутъ: изъ Гражданскихъ Губернаторовъ, Вице-Губернаторовъ, Губернскихъ Предводителей Дворянства, Предсѣдателей 1 и 2 Департаментовъ Главнаго Суда, и изъ тѣхъ лицъ, кои сверхъ того могутъ быть назначены отъ Гг. Главнокомандующихъ, съ участіемъ на общемъ основаніи Губернскаго Прокурора.

Для объясненія и разныхъ производствъ, по усмотрѣнію Предсѣдателей, могутъ быть требуемы въ Коммисію: Совѣтникъ Губернскаго Правленія, Совѣтникъ Казенной Палаты, или

*

*Указ ад 17 ліпеня 1831 г. аб канфіскацыі маёмасці ўдзельнікаў паўстання (ПСЗРИ)*

Што тычыцца першай і другой катэгорый, то акрамя секвестру і канфіскацыі маёмасці, у адносінах да іх маглі быць выкарыстаны іншыя віды пакарання. Пытанні аб налажэнні секвестру на той ці іншы маёнтак, правілы прадпісвалі вырашаць большасцю галасоў членаў камісіі “па абавязку сумлення і прысягі”, пры абавязковай умове падтрымцы канчатковага рашэння старшынёй камісіі і губернскім пракурорам. У рэгіёнах, дзе падобныя камісіі не былі ўтвораныя (Віцебская, Магілёўская губерні), справамі канфіскацыі займаліся губернскія праўленні і казённыя палаты.

У гэтым жа ўказе былі выкладзены і правілы пераводу маёнткаў з ліку прыватнаўласніцкіх у казённае ведамства. Яны вельмі дэталёва акрэслівалі ўвесь механізм гэтага працэсу. Ён, як і ўся тагачасная бюракратычная машына Расейскай імперыі, быў досыць складаным і нязграбным. Першым этапам на шляху да канфіскацыі маёнтка было вызначэнне ступені “віны” яго ўладальніка. Пры ўмове, калі тая ці іншая асоба была аднесена да першай ці другой катэгорыі, аўтаматычна распачынаўся пошук яе маёмасці. У гэтай справе дзейсную дапамогу камісіям павінны былі аказваць губернскія ваенныя і цывільныя ўлады. Самі камісіі выкананнем пастановаў аб секвестры непасрэдна не займаліся. Адпаведныя пастановы накіроўваліся ў ведамства губернскага праўлення і казённых палат. Тыя, у сваю чаргу, вызначалі чыноўнікаў (якія таксама маглі паходзіць з іншага ведамства) для прыёму і вопісу маёнтка, адносна якога камісіяй было прынята адпаведнае рашэнне. І толькі пасля апісання, вызначэння даходаў і спосабу далейшага загаспадаравання, маёнтак лічыўся асеквестраваным. Аднача-

сова з гэтымі дзеяннямі, звесткі аб прынятым прысудзе з кароткай нататкай аб маёмасці адсылаліся ў вышэйшыя інстанцыі для канчатковай канфірмацыі, а таксама ў іншыя заходнія губерні імперыі для пошуку маёмасці і там.

Згодна з правіламі ад 17 ліпеня, секвестру і канфіскацыі падлягала не толькі зямельная ўласнасць паўстанцаў. Упершыню ў гісторыі развіцця расейскага заканадаўства ў гэтай сферы былі дакладна вызначаны тыпы маёмасці, якія павінны былі падвяргацца прымусоваму адчужэнню. Акрамя маёмасці нерухомай (зямля, населеныя пункты, жылыя і іншага кшталту пабудовы), ва ўласнасць казны павінна была прымацца ўсялякая рухомая маёмасць, капіталы, правы і маёнткі па арэнднаму, эмфітэатычнаму, леннаму, закладному і іншаму праву[152]. Пры казённых палатах у губернях, дзе існавалі камісіі для "вызначэння ступені віны мяцежнікаў, секвестру і канфіскацыі іх маёнткаў", згодна з прадпісаннем міністра фінансаў, у 1831 г. былі ўтвораныя часовыя аддзяленні па прыёму ў казну і кіраванню канфіскаванымі маёнткамі[153].

Такая сістэма, нягледзячы на вонкавую ўсёвызначанасць, спарадзіла шмат блытаніны, непаразуменняў і бюракратычнай перапіскі, якія ўвесь час спадарожнічалі працэсу адабрання маёмасці паўстанцаў у казну. Змест палажэння 17 ліпеня мае даволі шмат агульных рысаў з "Правіламі для канфіскацыі маёнткаў", што былі выдадзены ў 1813 г. Асабліва выразна гэта прасочваецца ў пунктах, якія тычацца прыёму сялян, правіл абыходжання з нерухомай уласнасцю, непасрэдных крокаў, што тычацца апісвання і захавання маёнткаў, паслядоўнасці ўзаемадзеяння ўладаў. Невялікія змяненні ў параўнанне з аляксандраўскім часам спазнаў і сам працэс канфіскацыі зямельных валоданняў.

Працэс пераводу маёмасці паўстанцаў у дзяржаўную ўласнасць распачаўся яшчэ да адкрыцця спецыяльна створаных дзеля гэтых мэт камісій. Ужо ў сакавіку-красавіку 1831 г., калі паўстанне на тэрыторыі Беларусі і Літвы рабіла першыя крокі, у Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Магілёўскай губернях на маёмасць некаторых землеўладальнікаў, якія пакінулі месца свайго сталага жыхарства, была накладзена забарона[154]. Падобныя дзеянні ўладаў былі звязаны з выкананнем імі палажэнняў указа ад 21 снежня 1830 г. аб пакаранні асоб, якія знаходзіліся ў Каралеўстве Польскім. У перыяд жа найбольшага ўздыму вызваленчага руху ўлады даволі часта былі пазбаўлены магчымасці рэальнанага арышту маёмасці паўстанцаў. З адкрыццём камісій гэтая справа набыла новы размах.

Самай першай, яшчэ да зацверджання царом афіцыйных правіл, распачала сваю дзейнасць мінская следчая камісія, якая да выхаду правіл 17 ліпеня мела статус часовай. У гэты час у Мінску знаходзілася галоўная кватэра расейскіх войск, таму і адкрыццё камісіі для следства над удзельнікамі паўстання тут адбылося найбольш аператыўна — 22 чэрвеня 1831 г. З Мінску вопыт быў перанесены ў Вільню, дзе падрыхтоўчыя працы таксама распачаліся яшчэ да выдання афіцыйнага акта 17 ліпеня. Таму і першае пасяджэнне тут адбылося ўжо ў апошні дзень гэтага месяца[155]. Пасля атрымання новых правіл і цыркуляраў, абодва

---

[152] Ibidem.

[153] LVIA. F. 515, ap. 22, b. 1, l. 33.

[154] НГАБ. Ф. 299, воп. 2, спр. 908; Ф. 1297, воп. 1, спр. 4986; LVIA. F. 378, ap. 43, b. 1372, l. 45–62; НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 80, арк. 1–7.

[155] Rosiak S. Wileńska komisja śledcza… S. 255.

часовыя органы былі рэарганізаваны ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі. Значна пазней адбылося адкрыццё аналагічнай гродзенскай камісіі. Нават пасля пачатку яе дзеяння 26 лістапада 1831 г., у працы камісіі адбыўся даволі працяглы перапынак (чарговае пасяджэнне адбылося толькі ў сакавіку наступнага года). Звязана гэта было з тым, што тут на працягу амаль што двух месяцаў чакалі на перадачу з Вільні пэўных матэрыялаў, якія тычыліся паўстання на тэрыторыі Гродзенскай губ., а таксама з тым, што ў гэты час новы губернатар Міхаіл Мураўёў праводзіў рэвізію губерні.

На чале новаўтвораных камісій, у адпаведнасці з правіламі, павінны былі стаяць ваенныя губернатары. У склад камісій таксама ўваходзілі цывільны губернатар, віцэ-губернатар, губернскі маршалак шляхты, мясцовае кіраўніцтва корпусу жандараў і некаторыя іншыя губернскія чыноўнікі высокага рангу.

У працы кожнага з гэтых трох следчых органаў былі пэўныя адметнасці. Але агульных рыс было больш. Аб'ядноўвала тое, што камісіі сканцэнтравалі асноўную ўвагу на разборы спраў паўстанцаў і вызначэнні ступені іх віны. Звычайна пастанова адносна той ці іншай асобы выглядала наступным чынам: "За свае дзеянні супраць улады аднесены да другой (ці першай) катэгорыі. Маёнтак, які будзе выяўлены, падлягае тэрміноваму секвестру (альбо канфіскацыі) ". Аднак, як дэманструе практыка, у некаторых выпадках неабавязкова было быць аднесеным да першай ці другой катэгорыі, каб маёмасць у канчатковым выніку перайшла да казны. Пры пэўных абставінах канфіскацыя маёмасці магла быць прызначанай ўладамі нават "пры адсутнасці відавочнага сведчання" удзелу асобы ў паўстанні[156].

Як і ў 1794 г., значная роля ў ажыццяўленні канфіскацыі належала ваенным уладам. Але ў адрозненне ад часоў паўстання Т. Касцюшкі, у іх абавязак не ўваходзіла непасрэднае займанне маёнткаў удзельнікаў паўстання. Галоўнакамандуючы дзеючай арміяй і іншыя вышэйшыя ваенныя чыны рэгулярна забяспечвалі губернскія ўлады спісамі ўдзельнікаў паўстання, чыя маёмасць павінна была падлягаць секвестрацыі.

Наступным крокам пасля апісання зямельных валоданняў было прызначэнне "добранадзейных" асоб для кіравання імі. Правіламі ад 17 ліпеня прадугледжвалася заснаванне ў іх кіравання накшталт таго, якое існавала ў старасцінскіх маёнтках. Дастаткова часта да выхаду спецыяльнага загада, які забараніў падобную практыку, у ролі кіраўнікоў выступалі былыя адміністратары гаспадарак ці сваякі паўстанцаў. Даходы з маёнткаў, што знаходзіліся пад забаронай, ішлі на прырошчванне так званага інваліднага капіталу, а з секвестраваных — непасрэдна ў даходную частку казны. Але такі падзел існаваў параўнальна нядоўга. У хуткім часе ўсе грошы сталі паступаць выключна ў распараджэнне казны. У абсалютнай большасці выпадкаў яны не змешваліся з іншымі казёнымі даходамі. Згодна з вышэйшымі распараджэннямі, толькі з гэтых паступленняў дазвалялася задавальняць прэтэнзіі, якія лічыліся за гаспадарамі гэтай маёмасці. Пры гэтым даходы з маёнтка павінны былі спаганяцца ў казённае ведамства ад моманту далучэння ўладальніка да паўстання, а не ад часу накладання секвестру ці забароны[157].

---

[156] РГИА. Ф. 560, оп. 1. д. 2057, л. 259.

[157] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 5, арк. 24.

Прага выціскання як мага большага прыбытку з маёнткаў паўстанцаў стрыжнем праходзіць праз усю гісторыю канфіскацый 30-х гадоў XIX ст. Так, згодна з правіламі 17 ліпеня, непатрэбныя прадукты, вырабы і іншыя рэчы загадана было захоўваць дзеля зручнага продажу. Як гэтае прадпісанне выконвалася мясцовымі ўладамі, бачна на прыкладзе Навагрудка. Тут земская паліцыя ў 1832 г., адразу пасля апісання і прыняцця ў ведамства дваранскай апекі дамоў удзельнікаў паўстання, якія выехалі за мяжу, з аўкцыёну прадала асабістыя іх рэчы і ўнутранае начынне гэтых будынкаў. Нават згарэлы дом аднаго з паўстанцаў прыносіў казне прыбытак — пляц які застаўся пасля яго, як і астатнія будынкі, здаваўся ў арэнду[158]. На шчасце, такі лёс абмінуў дом Міцкевічаў у Наваградку. Але прыкладна ў гэты ж час над гэтай сядзібай, як і над сядзібамі іншых удзельнікаў паўстання, навісла іншая пагроза.

У канцы 1831 г. у Гродзенскай, а напачатку 1832 г. у Мінскай губернях, было атрымана прадпісанне міністра фінансаў аб неабходнасці росшуку дамоў і іншых будынкаў з ліку секвестраваных, якія б былі прыдатныя для выкарыстання пад прысутныя месцы, уездныя казначэйствы, палявыя штабы і іншыя ваенныя і цывільныя ўстановы[159]. Акрамя дома Міцкевічаў, у кола патэнцыяльных ахвяр трапілі сядзібы іншых вядомых асоб — Напалеона Орды ў Варацэвічах, дом пляменніка Юльяна Нямцэвіча, Караля — у Чэравачыцах, палац Пацаў у Ражанцы і іншыя. Аднак, па розных прычынах (невялікія памеры, старасць і нават гніласць пабудоў) яны былі прызнаныя непрыдатнымі для перадачы пад вайсковыя патрэбы.

*Вопіс маёнтка Варацэвічы Напалеона Орды (НГАБ у Гродне)*

Інакш выглядалі справы ў Навагрудку. Тут некаторыя секвестраваныя дамы былі ўсё ж такі перададзены на патрэбы арміі. Як вынік — на пачатку 1832 г. дом Міцкевічаў быў аддадзены

[158] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 88, арк. 13, 72, 88.

[159] НГАБ. Ф. 333, воп. 1, спр. 170, арк. 290; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 117, арк. 2.

пад кватэру камандуючага Інгерманландскім гусарскім палком Уладзіслававіча[160]. Ёсць прыклады, калі ваенныя самавольна займалі тыя ці іншыя секвестраваныя сядзібы. Такі лёс напаткаў Свіслацкі палац Тышкевічаў. У пакоях, дзе захоўвалася канфіскаваная мэбля, размясціўся капітан Воранаў[161]. Можна толькі ўявіць, якую шкоду наносілі такія кватаранты.

Ваеннае ведамства прычынілася і да гаспадарчага спусташэння маёнткаў. Хаця, згодна з 21-м параграфам правіл для канфіскацыі маёнткаў, харчовыя прадукты загадана было захоўваць для далейшага іх зручнага продажу, ёсць прыклады іншага іх загаспадарання. У адрозненне ад часоў паўстання Тадэвуша Касцюшкі, калі кожны вайсковы атрад быў поўным гаспадаром ў секвестраваным маёнтку, у 1831 г. вываз харчовых прыпасаў быў арганізаваны ў цэнтралізаваным парадку. Мука, хлеб, сухары, віно, быдла і іншыя прыпасы перавозіліся на вайсковыя склады. Што праўда, такой працэдуры падвергнуты былі не ўсе, але толькі найбольш буйныя валоданні. Тым не менш, размова тут ідзе толькі аб секвестраваных маёнтках, значная частка якіх была пасля вернута гаспадарам. Як прыклад, можна прывесці эпізод, звязаны з секвестрацыяй маёмасці барона Фрола Кабылінскага. Спачатку галоўнакамандуючы дзеючай арміяй прызнаў яго адным з "галоўных удзельнікаў бунту". Яго маёнткі былі секвестраваныя і падвергнутыя спусташэнню. Але неўзабаве галоўнакамандуючы першай арміяй пастановай ад 15 студзеня 1833 г. дазволіў вярнуць барону Кабылінскаму яго маёмасць[162].

Пасля задушэння паўстання 1831 г. значных памераў набыў працэс рабунку каштоўных рэчаў у маёнтках, што былі вызначаны для пераходу ў казённае ведамства. Адбываўся гэты працэс з найвышэйшага ўхвалення. У адпаведнасці з палажэннем ад 17 ліпеня 1831 г. мясцовыя ўлады павінны былі забяспечыць міністра фінансаў вопісамі каштоўных рэчаў, рэдкасцяў, карцін і іншых вырабаў мастацтва, а таксама і бібліятэк, якія знаходзіліся ў секвестраваных маёнтках[163]. Рэалізацыя гэтага пункту на практыцы прывяла да спусташэння найбольш багатых у культурным плане сядзіб, перш за ўсё, магнацкіх рэзідэнцый. Як гэта адбывалася, добра прасочваецца на прыкладзе Гродзенскай губ.

На зломе 1831–1832 гадоў для выканання гэтага прадпісання па найбольш буйных секвестраваных сядзібах кожнага з уездаў былі разасланыя мясцовыя чыноўнікі, а дзе-нідзе гэтыя функцыі былі ўскладзены на добранадзейных памешчыкаў. Аднак, ці яны кепска шукалі, ці кіруючыя маёнткамі загадзя падрыхтаваліся да іх сустрэчы, але ў ніводным з маёнткаў нічога больш-менш каштоўнага не было знойдзена[164].

Не давяраючы вынікам такіх пошукаў, цэнтральныя ўлады вырашылі правесці паўторную рэвізію некаторых секвестраваных сядзіб. Дзеля гэтага быў задзейнічаны спецыяльны чыноўнік не з мясцовых, а камандзіраваны са сталіцы па даручэнню міністэрства фінансаў — надворны саветнік Архіпаў. Распа-

---

[160] Радзюк А. Канфіскацыя на Гарадзеншчыне маёнткаў удзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. // Садова-паркавае мастацтва Гродзеншчыны: гісторыя і сучаснасць. Гродна, 2001. — С. 42.

[161] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 262, арк. 129.

[162] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 1, спр. 13.

[163] ПСЗРИ (собрание второе). Т. V, № 4711.

[164] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 116, арк. 8–13, 19–22; LVIA. F. 380, ap. 74, b. 2795, l. 1.

чаўшы сваю місію ў Гродзенскай губ. у сакавіку 1832 г., ён у хуткім часе прыбыў у Дзярэчын. Гэты маёнтак нездарма прыцягнуў увагу расейскіх уладаў. Справа ў тым, што на працягу дзесяцігоддзяў Дзярэчанскі палац быў ператвораны яго апошнім уладальнікам, Яўстафіем Сапегам, у сапраўдную скарбніцу-музей, у якой захоўваліся як каштоўнасці роду Сапегаў, так і самыя разнастайныя калекцыі твораў еўрапейскага мастацтва. Азнаёміўшыся з вопісамі ўжо секвестраваных рэчаў, Архіпаў прыйшоў да высновы, што ў іх унесена толькі нязначная частка таго, што адпавядала багаццю былога ўладальніка.

Адданыя князю Яўстафію Сапегу людзі, імкнучыся выратаваць маёнтак ад разрабавання, на папярэднім дазнанні сцвярджалі, што большая частка каштоўнасцей была раней вывезена князем у Вільню. Аднак Архіпаў не даў веры гэтым паказанням. Дзеля пошуку "згубленых" каштоўнасцей, як вынікае з прадстаўленага чыноўнікам рапарту, ім былі выкарыстаны "самыя жорсткія меры", якія прывялі да пажаданай мэты. Што гэта былі за меры, паведамляе ў сваіх успамінах Леан Патоцкі. Згодна са сведчаннямі мемуарыста, у Дзярэчыне ў красавіку 1832 г. разыгралася сапраўдная трагедыя: "...гвалтоўна прымушаны выдаць, дзе схаваны панскія каштоўнасці, не могучы вытрымаць балючых удараў (слуга) назаўтра з роспачы, што здрадзіў пану, пакончыў з сабою"[165].



*Дзярэчынскі дамініканскі касцёл і кляштар (малюнак Напалеона Орды)*

Як высветлілася, большая частка сапегаўскіх калекцый была перахавана адданымі князю людзьмі ў вёсцы Луконіца, што непадалёк ад мястэчка, у Міхайлаўскім касцёле. Некалькі пакункаў рэчаў, а таксама карціны былі выяўлены

[165] Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану. Мінск:, 1997. — С. 113.

ў дамініканскім Дзярэчынскім кляштары, што, зрэшты, і вырашыла яго будучы лёс. Іншая частка каштоўнасцей была перахавана арандатарам Мержыеўскім у Зэльве, а яшчэ адна частка — у маёнтку Замойскіх, Юндзіловічах. У апошнім быў схаваны сапраўдны скарб — залаты і срэбраны посуд, агульная вага якога складала 1 фунт і 18 залатнікоў золата і 11 пудоў і 32 фунты срэбра[166]. Найбольшую цікавасць сярод гэтых рэчаў выклікаў старажытны залаты кубак з выявaю расейскага герба. Па заключэнню спецыялістаў, гэты рарытэт калісьці належаў расейскай царскай фаміліі, але быў вывезены з Масквы Сапегамі ў 1612 г.

У вырашэнні лёсу дзярэчанскіх каштоўнасцей прыняў удзел сам імператар. Па яго непасрэднаму загаду найбольш каштоўныя з іх (упрыгожванні, карціны, мазаікі і іншыя творы мастацтва, рэдкасная зброя, трафеі мінулых войнаў, родавыя рэліквіі, падарункі і ўзнагароды розных манархаў, вырабы са срэбра, старажытныя манеты і інш.) былі адпраўлены ў сталіцу. У Санкт-Пецярбург амаль што цалкам была вывезена дзярэчынская бібліятэка, якая на той час налічвала амаль што 1500 адзінак кніг і старажытныя карты. Менш каштоўныя рэчы (вырабы з бронзы, фарфору, шкла, люстры, а таксама і частка мэблі) па распараджэнню Мікалая І былі перавезены ў Беласток для абсталявання там імператарскага палаца. Калі ў канцы 1832 г. большасць Сапегавых рэчаў была дастаўлена ў сталіцу, то і тут іх далейшае размеркаванне адбывалася пад пільным наглядам з боку імператара. Па яго асабістаму загаду карціны і мазаікі былі перададзены ў Эрмітаж і Акадэмію мастацтваў, антыкварная зброя паступіла ў Анічкін палац, кнігі папоўнілі зборы Пецярбургскай публічнай бібліятэкі, розныя ўзнагароды былі накіраваны ў капітул расейскіх ордэнаў, асобныя рэчы Мікалай І пакінуў сабе[167].



*Мікалай І, расейскі імператар*

Што тычыцца вырабаў з каштоўных металаў, якія былі выяўлены ў розных секвестраваных сядзібах, то, як гэта ні дзіўна, падобныя рэчы цікавілі расейскія ўлады, у першую чаргу, у якасці металічнага лому. Згодна з прапановай (а фактычна, прадпісаннем) міністра фінансаў казённым палатам заходніх губерняў ад 25 мая 1832 г., залатыя,

[166] РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 378, л. 40; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 121, арк. 7–8.
[167] Скобла М. Дзярэчынскі дыярыюш. Мінск, 1999. — С. 68–69; РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 378, л. 93, 109, 275.

срэбраныя і іншыя каштоўныя рэчы, а таксама старыя манеты неабходна было адсылаць на Санкт-пецярбургскі манетны двор. Паводле дадзеных на 1834 г., тут было сабрана каля 20 пудоў срэбраных вырабаў, што паходзілі з розных сядзіб, падвергнутых секвестру. У асноўным гэта быў сталовы посуд, манеты і ўпрыгожванні. На пачатку 1835 г. усе гэтыя рэчы з найвышэйшай згоды імператара пайшлі на пераплаўку для вырабу начыння для сабора ўсіх навучальных установ[168]. Большая частка гэтага срэбра паходзіла зноў такі з Дзярэчына.

Падобны з Дзярэчынам лёс напаткаў сядзібы Пацаў, Тышкевічаў, Замойскіх, Вансовічаў, Плятараў, Пжэздзецкіх, Валовічаў, Дамейкаў і іншых. Менш каштоўныя рэчы былі перавезены ў губернскія цэнтры, дзе часткова былі выкарыстаны на казённыя патрэбы, часткова разрабаваныя, большай часткай прададзеныя. Для ацэнкі іх мастацкай вартасці ўладамі была задзейнічана прафесура Віленскага ўніверсітэту, у тым ліку і вядомы мастак Ян Рустэм[169]. Імкнучыся выратаваць хоць частку сваіх здабыткаў, магнаты і шляхта, якія прынялі ўдзел у паўстанні, карысталіся любой магчымасцю, каб вывесці найбольш каштоўныя з іх за мяжу[170]. Гэтым жа мэтам служылі разнастайныя махінацыі з падлогам дакументаў на валоданне маёнткамі ці іх часткамі, тастаментамі, даўгавымі абавязкамі і інш. Напрыклад, праз складанне фіктыўных папераў графіне Амеліі Агінскай удалося калі не выратаваць маёнткі мужа ад канфіскацыі, то дабіцца ад царызму значных грашовых кампенсацый[171].

Акрамя нерухомай маёмасці ў казну павінны былі перайсці капіталы, закладныя сумы і іншыя грашовыя сродкі тых, хто пасля задушэння паўстання эміграваў, ці адбываў пакаранне ў межах імперыі. Асобы, якія выступалі ў ролі пазыкаатрымальнікаў у адносінах да асуджаных, да канфіскацыі маёмасці паўстанцаў, павінны былі вярнуць атрыманыя крэдыты непасрэдна дзяржаве. Калі ў Каралеўстве Польскім колькасць канфіскаваных капіталаў была прыкладна роўнай колькасці канфіскаваных маёнткаў[172], то ў межах Беларусі такія суадносіны былі адчувальна большымі на карысць зямельных валоданняў. Апошнія, у адрозненне ад грашовых сум, прыносілі казне сталы даход, а перад чыноўнікам яны адкрывалі магчымасці для разнастайных злоўжыванняў як падчас іх прыёму ў казённае ведамства, так і пасля гэтага.

Правядзенне маштабнай акцыі па секвестрацыі і канфіскацыі маёнткаў адкрывала перад расейскім чыноўніцтвам усіх узроўняў шырокія перспектывы для папаўнення ўласнай кішэні за кошт маёмасці паўстанцаў. Дэталёвы аналіз вядомых фактаў злоўжыванняў чыноўнікаў дазваляе вылучыць некалькі іх асноўных тыпаў. Па-першае, гэта непасрэдны рабунак маёмасці, што пераходзіла да казны. Гэты тып злоўжыванняў, па зразумелых прычынах, у найменшай ступені адлюстраваны ў тагачасным справаводстве. Але, што такія факты мелі месца, сумнявацца не выпадае. Так, у 1847 г., на той час ужо былы царскі намеснік у Царстве Польскім Іван Паскевіч, падаў на імя цара канфідэнцыяльную

---

[168] РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 184, л. 21.

[169] LVIA. F. 380, ap. 74, b. 1227, l. 2, 5.

[170] Matelski D. Problemy restytucji polskich dóbr kultury od czasów nowożytnych do współczesnych. Poznań, 2003; НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 889.

[171] Shumski S. W walkach i więzieniach. Pamiętniki z lat 1812–1848. Wilno, 1931. — S. 83–84.

[172] AGAD. Kancelaria senatora Nowosilcowa, sygn. 2782, k. 28, 42.

нататку пра сенатара Андрэя Старажэнку. Ён сцвярджаў, што менавіта А. Старажэнка прычыніўся да раскрадання значнай часткі канфіскаванай у Віленскай губ. маёмасці графа Адама Паца, якую ён пасля выкарыстаў для абсталявання ўласнай сядзібы ва Украіне[173]. Асоба сенатара Андрэя Старажэнкі была таксама замешаная ў шматлікіх іншых фінансавых махінацыях. Нездарма ён меў рэпутацыю галоўнага хабарніка ў краі[174].

Раскраданні адбываліся і падчас апісвання маёнткаў. Згаданы ўжо Архіпаў так і не прадставіў уладам ведамасці канфіскаванага ім у Сапегі срэбра, што адразу наводзіць на думку аб магчымых злоўжываннях. Нястача ў сапегавых рэчах была таксама выяўлена пасля іх дастаўкі ў Санкт-Пецярбург. Яскравы прыклад падобнага тыпу злоўжыванняў дэманструе эпізод з прыёмам у казну секвестраванай маёмасці ў Ашмянскім уездзе. Тут мясцовы земскі спраўнік Ян Блажэевіч, на якога былі ўскладзены функцыі па апісванні зямельных маёнткаў, дзейнічаў настолькі нахабна, што гэта стала прадметам судовага разбіральніцтва, падчас якога быў устаноўлены факт прысваення з наступным продажам многіх прадметаў, што не былі ім унесены ў адпаведныя вопісы. Толькі за шкляныя вырабы з некалькіх апісаных ім маёнткаў ён выручыў 272 руб.[175] Знайшліся сведкі, якія бачылі, як ён са сваімі памочнікамі на шляху ў Ашмяны "адбівалі (замкі) куфрам і вымалі, што ім спадабаецца" і г.д[176]. Той жа Ян Блажэевіч "адзначыўся" і па некаторых іншых эпізодах, звязаных з прысваеннем асабістай маёмасці ўдзельнікаў паўстання ў Ашмянскім уездзе[177].

Раскраданне маёмасці ў меншых маштабах на месцах адбывалася пры непасрэдным патаканні з боку цэнтральных уладаў. Так, згодна з распараджэннем міністра фінансаў, якое было разасланае па заходніх губернях у 1831 г., прадпісвалася ў адпаведнасці з "Найвышэйшай воляй" пры прыёме маёнткаў у казну імкнуцца не разглядаць справы аб "нешматлікіх адхіленнях, раскраданні альбо растратах, што маглі б адбыцца ў секвестраваных маёнтках да прыёму іх у казённае ведамства"[178].

Да другога тыпу злоўжыванняў можна аднесці практыку прысваення чыноўнікамі даходаў, якія паступалі з секвестраваных і канфіскаваных маёнткаў. Аб маштабах падобнага віду раскрадання ў Гродзенскай губ. сведчыць хаця б той факт, што інфармацыя аб гэтым неафіцыйным чынам дайшла да міністра фінансаў. Гэтыя чуткі мелі пад сабой рэальную глебу — у губерні былі выяўлены значныя неадпаведнасці сум, што паступалі з секвестраваных і забароненых маёнткаў, з рэальнымі іх даходамі. Менавіта таму ў снежні 1831 г. міністр фінансаў папрасіў гродзенскага губернатара Міхаіла Мураўёва правесці следства ў гэтай справе. Праверка так і не была праведзена, а факты злоўжывання працягваліся і надалей[179]. І, па-трэцяе, карыстаючыся сваім

[173] Stryżewska Z. Konfiskaty warszawskich zbiorów publicznych po powstaniu listopadowym. Warszawa, 2000. — S. 225-226.

[174] Россия под надзором. Отчеты III отделения 1827-1869. Москва, 2006. — С. 148.

[175] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 2217, l. 4-6.

[176] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 2217, l. 37.

[177] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 20, спр. 92, арк. 6-7.

[178] НГАБ. Ф. 1297, воп. 1, спр. 5445, арк. 1.

[179] РГИА. Ф. 1266, оп. 1. д. 12, л. 67; НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 14, арк. 175; Ф. 2, воп. 2, спр. 60, арк. 27.

службовым становішчам, чыноўнікі на ільготных умовах бралі ў арэнду секвестраваныя і канфіскаваныя маёнткі, у некаторых выпадках нават пад чужым прозвішчам[180]. Скарыстацца сваім службовым становішчам, прыдбаць сабе лепшы кавалак не саромеліся нават самыя высокія чыны ўладнай іерархіі царскай адміністрацыі. Так, віленскі генерал-губернатар Мікалай Далгарукаў, наведаўшы Дзярэчын, не змог паўстрымацца, каб не прыкласці рукі да расцягвання сапегаўскай маёмасці. У выніку, згодна з афіцыйнымі паперамі, ён стаў уладаром 14 лебедзяў, сярод якіх былі і экзатычныя для тых часоў чорныя птушкі[181]. А колькі падобных аперацый засталося па-за межамі афіцыйных дакументаў?

Наступным крокам пасля секвестрацыі маёнткаў стала іх канфіскацыя. Неабходным элементам у справе пераходу маёмасці з разраду секвестраваных у разрад канфіскаваных была канфірмацыя — зацверджанне пастановы вышэйшай уладай. У Расейскай імперыі ўсе пастановы аб пазбаўленні дваран маёмасных правоў і іншых прывілеяў адносіліся да прэрагатывы манарха. Канфірмацыяй пастановаў аб канчатковым пазбаўленні маёмасці ў заходніх губернях імперыі пасля паўстання 1830–1831 г. займаўся не толькі імператар, але таксама камандуючы першай арміяй і віленскі генерал-губернатар. Магчыма, гэта было выклікана тым, што дадзеныя тэрыторыі яшчэ пэўны час знаходзіліся на ваенным становішчы. Не апошнюю ролю тут адыгрывала і значная колькасць спраў аб канфіскацыі. Аб масавым характары справаводства па гэтым прадмеце сведчаць спісы асоб, маёмасць якіх была вызначана да канфіскацыі. Такія спісы друкаваліся ў замежных, мясцовых і цэнтральных расейскіх газетах. Так, згодна з гэтай крыніцай, сваёй маёмасці толькі ў Віленскай губ. былі пазбаўлены 1314 асоб, у Гродзенскай — 277, у Мінскай — 170 чалавек[182].

Адкуль узяліся такія лічбы, якія на самой справе несуразмерныя з колькасцю рэальна канфіскаваных расейскімі ўладамі маёнткаў? Адказ на гэтае пытанне крыецца ў сістэме справаводства, што склалася падчас працы губернскіх следчых камісій. Разглядаючы справу той ці іншай асобы (а ў большасці выпадках гэта рабілася завочна), члены камісій прымалі пастанову аб налажэнні секвестру ці канфіскацыі на яго маёмасць, не маючы звестак, ці такая маёмасць увогуле ў абвінавачанага ёсць. Таму і спісы аб пазбаўленні розных асоб маёмасці за ўдзел у паўстанні, якія друкаваліся ў наступныя гады як у расейскай, так і замежнай прэсе, утрымлівалі, у асноўным, прозвішчы тых паўстанцаў, па чыіх справах адбыліся пастановы камісій аб канфіскацыі, а не тых асоб, чые маёнткі рэальна перайшлі ў казённае ведамства. Так, аналіз 682 прозвішчаў, якія прыведзены ў "Літоўскім кур'еры" у 1834 г., дэманструе, што 87% асоб, чые імёны былі ўнесены ў спісы "былых уладальнікаў, маёнткі якіх паўторна канфіскаваны", ніякай маёмасці насамрэч за сабой не мелі[183]. Акрамя таго, друкаванне гэтых спісаў адбывалася ў той час, калі працэс амністыі былых паўстанцаў не быў цалкам прыпынены.

---

[180] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 48, арк. 1.

[181] LVIA. F. 378, ap. 45, b. 20, l. 1, 5.

[182] Kaczkowski J. Konfiskaty na ziemiach polskich… S. 354–355; 359–360, 368–375; Giller A. Historia powstania narodu polskiego. Cz. 2.: Rzut oka na czasy po upadku powstania listopadowego. Paryz, 1772. — S. 92.

[183] Kuryer Litewski. 1834, 20 serpnia. — S. 6–7; LVIA. F. 523, ap. 1 b. 370, l. 1.

Изъ доставленной вѣдомости Гродненской Казенной Палаты Списокъ Лицамъ, коихъ имѣнія по утвержденію Вышняго Начальства опредѣлены Высочайше учрежденною Коммиссiею окончательной Конфискацiи, и нынѣ поступившiе въ разсмотренiе Гродненской Ликвидацiонной Коммиссiи.

Волловичъ Михаилъ владѣлъ имѣнiемъ Порже́че въ Слонимскомъ Уѣздѣ душъ 220.

Волловичъ Казимиръ въ томъже имѣнiи Порже́че имѣлъ восимъ Крестьянскихъ дворовъ, да сверхъ того имѣнiе Яловики и Городище душъ 57. деревню Ферашка душъ 17. и въ Новогрудскомъ Уѣздѣ Бнеошовщизна душъ 18.

Вильбикъ Ромуальдъ Слонимскаго Уѣзда въ имѣнiи Порже́че душъ 2.

Войткѣвичъ Коморникъ Новогрудскаго Уѣзда имѣлъ часть земли въ Будзиловичахъ.

Вонсовичова Анна Графиня въ Лидскомъ уѣздѣ владѣла имѣнiемъ Городна душъ 2,015.

Грабскiй Марекъ въ Лидскомъ уѣздѣ владѣлъ имѣнiемъ Гимбуты душъ 41.

Гацискiй Iосифъ въ Новогрудскомъ уѣздѣ владѣлъ имѣнiемъ Пересѣка душъ 7.

Домейки Александръ и Игнатiй въ Новогрудскомъ уѣздѣ владѣли имѣнiемъ Сочивки душъ 61.

Деречинскiе Доминиканы владѣли имѣнiями Старая Вѣсь, Вольковичи и Волька душъ 120.

Lista byłych właścicieli, których majątki w Gubernii Grodzieńskiey ostatecznie już są konfiskowane, i postępują pod rozpatrzenie Naywyżey ustanowioney Likwidacyyney Kommissyi, stosownie do wiadomości Izby Skarbowey Grodzieńskiey uczyniona.

Wołłowicz Michał w powiecie Słonimskim posiadał majątek Porzecze dusz 220.

Wołłowicz Kazimierz w tymże majątku miał 8 włościańskich dymów, oraz majątek Jałowka i Horodyszcze dusz 57, wieś Feraszka dusz 17, i w powiecie Nowogródzkim Bniewoszowszczyzna dusz 18.

Wilbik Romuald w powiecie Słonimskim w majątku Porzecze miał dusz 2.

Woytkiewicz Komornik Nowogródzkiego powiatu miał część ziemi w Budziłłowiczach.

Wąsowiczowa Anna Grafini w powiecie Lidzkim posiadała majątek Horodna zowiący się dusz 2,015.

Grabski Marek w powiecie Lidzkim posiadał majątek Ginbuty dusz 41.

Haciski Józef w powiecie Nowogródzkim posiadał majątek Peresieka dusz 7.

Domeykowie Alexander i Ignacy w powiecie Nowogródzkim posiadali majątek Saczywki dusz 61.

Dereczyńscy XX Dominikanie posiadali majątki: Stara Wieś, Wolkowicze i Wolka dusz 120.

cumente feststetzen und nach sich

Verzeichniß der gew… Gutsbesitzer, deren Gü… Gouvernements-Grodno… blich sind, jetzt aber w… den Verordnungen der Li… tions-Commission unte… sen und dies zweckmäßi… Bekanntmachung des … ralhofs von Grodno.

Wołłowicz Michael besaß ein… Porzecze von 220 Mann … biete von Slonim.

Wołłowicz Casimir hatte an… den 8 Unterthanen, noch zwe… Güter Jałowka und Horod… von 57 Mann, ein Dorf Fe… von 17 Mann und im Kre… Nowogrodek ein Dorf Bniewo… szczyzna von 18 Mann.

Wilbik Romuald hatte einen … am Gute Porzecze von 2 M… Kreise von Slonim.

Woitkiewicz Land-Messer … strikt von Nowogrodek hatt… Erbtheil in Budziłowicze.

Wonsowiczowa Anne Gräf… ein Erbgut Horodna vo… Mann im Distrikt Lida.

Grabski Marek besaß ein… Gimbuty von 41 Mann in… Lida.

Haciski Joseph besaß ein E… resieka von 7 M. im N… wogrodek.

Domeykowie: Aleksandr u… hatten ein Erbgut Saczyw… Mann im Distrikt Nowogr…

Das Dominikaner-Kloster … czyn hatte, drey Dörfer … Mann, nämlich: Stara W… kowicze und Wolka.

*Спіс асоб Гродзенскай губ., чыя маёмасць была вызначана да канфіскацыі (Kuryer Litewski, 1833 год)*

Сацыяльны аналіз гэтых спісаў засведчыў, што ў іх прадстаўлены асобы амаль што выключна шляхецкага паходжання. Сярод 277 чалавек з Гродзенскай губ., аб канфіскацыі чыіх маёнткаў прыгаворы былі зацверджаны вышэйшым начальствам, 71,5% складалі памешчыкі, шляхта, служачыя, студэнты, мяшчане і вайскоўцы. Сацыяльнае паходжанне рэшты невядома. Прыведзеная статыстыка дае магчымасць і ўдакладніць дадзеныя аб саслоўным складзе паўстанцаў на тэрыторыі Беларусі. Так, згодна з Алфавітнымі спісамі, ўдзельнікаў паўстання да прывілеяванага саслоўя адносілася больш за палову паўстанцаў на тэрыторыі Беларусі[184]. Такім чынам, прадстаўленыя звесткі даюць падставу сцвярджаць, што менавіта беззямельная шляхта складала большасць у гэтай сацыяльнай групе.

Даволі складана падлічыць колькасць маёнткаў, якія канчаткова былі канфіскаваны пасля паўстання 1831 г. Лічба такіх зямельных валоданняў і іх уладальнікаў урэшце аказалася ў 1,5–2,5 разы (у залежнасці ад рэгіёна) меншай у параўнанні з колькасцю папярэдне секвестраваных валоданняў. Чаму так адбылося?

Справа ў тым, што на той час сярод вышэйшых дзяржаўных саноўнікаў Расейскай імперыі, нягледзячы на ўсе выдадзеныя па гэтым прадмеце пастановы і заканадаўчыя акты, не было сфарміравана адзінага падыходу адносна вырашэння спраў былых паўстанцаў і іх маёмасці. Частка царскага адміністрацыйнага апарату зарэкамендавала сябе прыхільнікамі радыкальных крокаў на шляху канчатковай канфіскацыі маёмасці з далейшым насаджэннем рускага элементу на адышоўшых да казны землях. Іншая частка (і іх была большасць) выступала ў той ці іншай ступені за змякчэнне пакарання ўдзельнікам паўстання. Нават сам Мікалай I па гэтаму пытанню дэманстраваў пэўную непаслядоўнасць, дазваляючы "ў выглядзе манаршай ласкі" вярнуць той ці іншай асобе,

[184] Гарбачова В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. Мінск, 2001. — С. 127.

ці нават пэўнай катэгорыі[185] былых паўстанцаў, іх маёмасць. Такая ж непаслядоўнасць прасочваецца і ў дзеяннях губернскіх уладаў.

Шэраг імператарскіх указаў вылучаў асобныя групы паўстанцаў, якія "ў выглядзе выключэнняў з агульных правілаў" вызваляліся ад далейшага праследавання і канфіскацыі. 15 ліпеня 1832 г. на свет з'явіўся ўказ аб амністыі ўсіх чыноў польскай арміі, што паходзілі з заходніх тэрыторый імперыі і працягвалі несці сваю службу ў яе шэрагах падчас паўстання[186]. Разам з абвяшчэннем амністыі, уладам прадпісвалася вяртаць такім асобам і секвестраваныя ў іх маёнткі. Дзеянне ўказа, што праўда, не распаўсюджвалася на тых асоб, якія ўступілі ў шэрагі рэгулярнай арміі непасрэдна падчас інсурэкцыі, і на яе кіраўнікоў. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што падобная пастанова адносна амністыі асоб, якія паходзілі з тэрыторыі Каралеўства Польскага, была выдадзена значна раней[187].

Указ адносна чыноў польскіх войск не быў адзіным у сваім родзе. Вышэйшым распараджэннем ад 4 кастрычніка 1832 г. вылучаліся новыя катэгорыі сярод паўстанцаў, якім прадстаўлялася магчымасць скарыстацца з найвышэйшай ласкі. Таксама гэтым указам было значна абмежавана поле дзейнасці губернскіх следчых камісій: ім забаранялася распачынаць новыя справы адносна ўдзельнікаў паўстання і прадпісвалася абмежаваць сваю дзейнасць заканчэннем ужо распачатых спраў[188]. Дакладна праз два гады пасля гэтага дзейнасць падобных камісій у заходніх губернях імперыі была спынена "як ужо зусім бескарысная"[189]. Справы, якія вяліся гэтымі следчымі органамі, перадаваліся ў губернскія праўленні.

Як і ў 1772, 1794–1795, 1812–1814 гадах, суб'ектыўны фактар адыграў вельмі істотную ролю падчас памілавання былых інсургентаў. Разглядаючы гэты працэс пасля лістападаўскага паўстання, трэба адзначыць, што большасць паўстанцаў паспела скарыстацца з права на амністыю яшчэ да выхаду царскага ўказа 4 кастрычніка 1831 г., які афіцыйна паклаў канец гэтаму працэсу ў заходнім рэгіёне імперыі. Тым не менш, згаданы ўказ быў не апошнім заканадаўчым актам у гэтым ланцужку. Нягледзячы на факт афіцыйнага абвяшчэння спынення амністыі, даволі значнай частцы былых інсургентаў удалося атрымаць дараванне і пасля гэтых дат, а некаторыя здолелі гэта зрабіць нават у 1850-я гады, пасля смерці Мікалая I.

Непасрэдна вырашэннем спраў аб амністыі ўдзельнікаў паўстання займаліся тыя самыя ўладныя структуры, якія адказвалі за канфірмацыю пастаноў аб канчатковай канфіскацыі. Таму не дзіва, што большасць пастаноў аб дазволе на асабістае вяртанне ў край і зварот маёмасці, выйшлі з-пад пяра камандуючага першай арміяй Фабіяна Остэн-Сакена і віленскага генерал-губернатара Мікалая Далгарукава. Агульная тэндэнцыя іх дзеянняў з'яўляецца яскравай ілюстрацыяй адсутнасці ва ўрадавых колах адзінага падыходу да праблемы канфіскацыі і палітыкі ў адносінах да былых паўстанцаў. Тут можна згадаць выпадкі памі-

---

[185] ПСЗРИ (собрание второе). Т. VI, № 4841; Т. VII, № 5631.

[186] ПСЗРИ (собрание второе). Т. VII, № 5437.

[187] Rzeplińska I. Konfiskata mienia… S. 23.

[188] ПСЗРИ (собрание второе). Т. VII, № 5631.

[189] ПСЗРИ (собрание второе). Т. IX, № 7429VII.

давання Ф. Остэн-Сакенам і наступнага вызвалення ад канфіскацыі маёмасці асоб, якія былі ўключаны галоўнакамандуючым дзеючай арміяй Іванам Дзібічам у лік "галоўных удзельнікаў бунта". У Віленскай губ. вядомыя прыклады, калі амністыю атрымлівалі асобы, чые дзеянні можна аднесці да першага разраду "віны"[190]. У справе вяртання маёнткаў былі актыўна задзейнічаны ўплывовыя расейскія саноўнікі, прыдворныя асобы і вялікія грошы: "Г-жа Вансовіч, чый маёнтак (Бярэзіна — А.Р.) быў узяты ў секвестр за ўдзел у мецяжы, атрымала той маёнтак назад праз пасрэдніцтва стацкага саветніка Старынкевіча, якому заплаціла за гэта 20 тыс. злотых."[191] — інфармавала імператара III Аддзяленне. Натуральна, што вышэйшая ўлада была гатова заплюшчыць вочы на ўсе падобныя выпадкі.

Зацвярджэннем некаторых спраў займаўся і створаны пасля задушэння паўстання па вусным распараджэнні Мікалая I Камітэт па справах заходніх губерняў. Гэты орган таксама, незалежна ад іншых уладных структур, вырашаў справы амністыі і вяртання маёмасці. Як сведчыць статыстычны аналіз дзейнасці Камітэта па справах заходніх губерняў, асабістыя справы займалі ў ім 50% ад усяго справаводства[192]. Сярод тых прапаноў, што разглядаліся камітэтам, неабходна асобна адзначыць нататку мінскага ваеннага губернатара, якая была пададзена ў Камітэт увесну 1832 г. Асноўны сэнс выкладзеных у ёй прапаноў зводзіўся да абмежавання выкарыстання канфіскацыі толькі ў дачыненні да асоб, якія былі аднесены да першай катэгорыі віны і вызвалення ад падобнай меры пакарання паўстанцаў, якія былі ўнесены ў другую катэгорыю[193]. Азначаная нататка не знайшла падтрымкі большасці членаў Камітэта. Тым не менш, яе існаванне сведчыць аб тым, што і сярод вышэйшых чыноўнікаў Мінскай губ. былі прыхільнікі больш лагоднай палітыкі ў адносінах да былых паўстанцаў.

У адрозненне ад Віленскай і Мінскай губерняў, Гродзенская губ. стала тым рэгіёнам, дзе ўлады найбольш паслядоўна праводзілі палітыку па канфіскацыі маёмасці ўдзельнікаў паўстання. Прычына гэтай з'явы крыецца ў асобе мясцовага губернатара Міхаіла Мураўёва, з імем якога на пачатку 1830-х гадоў звязаны найбольш радыкальныя праекты па пераўтварэнню Заходняга краю. Як сведчыў сам М. Мураўёў, "...у 1831 г. паўстанне распаўсюдзілася ў асноўным на Ковенскую і Віленскую губерні, затым толькі дзе-нідзе з'явіліся паўстанскія атрады ў Мінскай губ. і вельмі мала ў Гродзенскай"[194]. Зыходзячы з гэтага сцвярджэння, здавалася б, што і лічба канфіскаваных маёнткаў па Гродзеншчыне павінна быць найменшай. Аднак, дадзеныя сведчаць аб іншым. Нават амністыі ў 1832–1833 гг., сярод якіх найбольш вядомай з'яўляецца так званая "амністыя 43-х", адбываліся ў губерні не па ініцыятыве мясцовага начальства, а па прапанове кн. М. Далгарукага, і разглядаліся яны не гродзенскай, а віленскай следчай камісіяй. Падобная неадпаведнасць у рашэннях адносна вызначэння ступені віны і пакарання паўстанцаў у Гродзенскай губ. стала нават прадметам

[190] LVIA. F. 523, ap. 1, b. 374, l. 94.

[191] Россия под надзором ... С. 148.

[192] Zasztowt L. Kresy 1832–1864. Warszawa, 1997. — S. 69.

[193] РГИА. Ф. 1266, оп. 1. д. 9, л. 52.

[194] Dangel S. Rok 1831 w Mińszczyźne. Warszawa, 1925. — S. 181.

асобнага разбіральніцтва Камітэта па справах заходніх губерняў. Увесну 1833 г. па ініцыятыве віленскага генерал-губернатара ў Камітэт паступіла скарга на дзеянні гродзенскай камісіі, у якой адзначалася, што два аналагічныя органы "Віленскай і Гродзенскай губерні не аднолькава разумеюць правілы і пастановы адносна мяцежнікаў, якія з'ехалі за мяжу…". У рашэнні, якое было прынята па выніках гэтага пасяджэння, указвалася на неадпаведнасць пастаноў гродзенскага следчага органа ў стасунку да азначанай групы паўстанцаў. Таксама ў ім утрымлівалася прадпісанне адносіць падобных асоб да трэцяй, а не да другой катэгорыі "віны" (што аўтаматычна вызваляла ад пакарання пазбаўленнем маёмасці) і даваць ім дазвол на вяртанне ў межы імперыі[195].

Прыхільнікі больш лагоднай палітыкі ў адносінах да былых паўстанцаў былі і ў гродзенскай следчай камісіі. Аб гэтым сведчаць асабістыя меркаванні з прапановамі змяншэння ступені "віны", ці вызвалення ад праследавання, якія падаваліся па асобных справах губернскім і ўездным маршалкамі дваранства і іншымі яе членамі[196]. Тым не менш, за старшынёй (у дадзеным выпадку Міхаілам Мураўёвым) заўсёды заставалася права рашаючага голасу. Аднак, і ў гэтай губерні значнай частцы былых інсургентаў удалося пазбегнуць пакарання. Як сведчыць "Алфавітны спіс удзельнікаў паўстання" па Гродзенскай губ., 33% унесеным туды землеўладальнікам удалося скарыстацца з найвышэйшага даравання[197].

Асобы, якія атрымлівалі амністыю, звычайна набывалі і права на вяртанне секвестраванай, ці нават ужо канфіскаванай маёмасці. Усе падобныя справы павінны былі абавязкова накіроўвацца на зацвярджэнне імператару. Што тычыцца тых маёнткаў, якія знаходзіліся пад забаронай ці секвестрам, то аднаўленне правоў уласнасці пасля атрымання іх гаспадаром амністыі павінна было адбывацца аўтаматычна. У адпаведнасці з прынятым напрыканцы 1832 г. Камітэтам заходніх губерняў правілам, маёмасць павінна была вяртацца былым уладарам неадкладна. Тым не менш, у некаторых выпадках асобы, якія вярталіся з-за мяжы, сваімі паводзінамі на працягу пэўнага адрэзку часу мусілі даказаць мясцовым уладам, што яны варты падобнай ласкі. У падобных выпадках толькі праз некалькі месяцаў назірання за такімі людзьмі прымалася рашэнне аб канчатковым звароце раней адабранай у казну ўласнасці[198].

У адрозненне ад кацярынаўскіх часоў, калі падобныя маёнткі вярталіся гаспадарам разам з даходамі, якія паступілі з гэтых валоданняў за час іх знаходжання пад секвестрам, пасля паўстання 1831 г. казна ў большай ступені дбала аб сваёй выгадзе. Так, згодна з зацверджанай імператарам пастановай Камітэта заходніх губерняў, усе сабраныя за час казённага кіравання даходы прадпісвалася пакідаць у казне[199].

Разглядаючы канчатковую лічбу канфіскаваных маёнткаў на тэрыторыі Беларусі пасля паўстання 1831 г., неабходна адзначыць, што ў беларускай гістарыя-

---

[195] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 193, арк. 185.
[196] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 64, 193.
[197] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 192.
[198] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 106, арк. 386.
[199] ПСЗРИ (собрание второе). Т. X, № 7616[а].

графіі найбольшае распаўсюджванне атрымала лічба ў 217 маёнткаў, што канчаткова перайшлі да казны. Упершыню яна з'явілася ў зборніку "Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі", а пасля, як у поўнай, так і ў рэдукаванай формах, выкарыстоўвалася рознымі даследчыкамі ў некаторых манаграфічных працах і іншых зборніках дакументаў[200]. Крыніцай, з якой паходзіць гэтая лічба, з'яўляецца выніковая ведамасць аб колькасці канфіскаваных маёнткаў і душ, што была прадстаўлена міністрам фінансаў Ягорам Канкрынам у Сакрэтны камітэт аб канфіскаваных маёнтках у 1835 г. (у нашай гістарыяграфіі памылкова называецца Камітэт заходніх губерняў).

Лічбы, якія прыведзены ў гэтай ведамасці, патрабуюць удакладнення ўжо зважаючы на дату падачы гэтых дадзеных. На момант збору неабходных для прадстаўлення ў камітэт звестак (1835 г.), колькасць канфіскаваных маёнткаў, як гэта будзе паказана ніжэй, яшчэ да канца не стабілізавалася. Акрамя таго, дадзеныя па Віленскай і Віцебскай губернях ва ўсіх друкаваных выданнях, у адрозненне ад арыгінала, падаюцца ў сукупнасці па ўсёй губерні, а не па ўездах, што, у сваю чаргу, не дае магчымасці вывесці агульную лічбу канфіскаваных маёнткаў у межах сучаснай Беларусі нават на аснове гэтых дадзеных. Таксама патрабуюць удакладнення на базе прыцягнення новых крыніц і лічбы, што прыведзены ў манаграфічным даследаванні Уладзіміра Сосны[201], тым больш, што даследчык не ставіў перад сабой мэты паказаць геаграфію канфіскаваных маёнткаў нават па губернях, выявіць імёны іх гаспадароў, назвы саміх маёнткаў і колькасць сялян у іх.

Не вытрымліваюць крытыкі дадзеныя адносна канфіскаваных пасля паўстання 1831 г. маёнткаў, што замацаваліся ў польскай гістарычнай навуцы. У даваеннай польскай гістарыяграфіі найбольшае распаўсюджванне атрымала лічба, якая ўпершыню прыводзіцца ў працы Луі Люблінера[202]. Даследаванні гэтага аўтара засноўваліся на звестках, што друкаваліся ў 1830-я гады ў варшаўскай і замежнай прэсе. Крыніцай паходжання гэтай інфармацыі з'яўлялася расейскае Міністэрства фінансаў. Асноўнай мэтай, для якой царызм ішоў на гэты крок, было імкненне ўладаў, каб падчас канфіскацыі не пацярпелі трэція асобы, якія мелі нейкія матэрыяльныя прэтэнзіі да тых паўстанцаў, па справах якіх ужо былі прыняты пастановы аб пазбаўленні маёмасці. На падставе аналізу газетных дадзеных, Л. Люблінер прыйшоў да высновы, што пасля задушэння паўстання ў заходніх губернях да пазбаўленння маёмасці было прысуджана каля 3 тыс. асоб, якім належала 180 тыс. душ сялян[203].

---

[200] Чепко В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX века. Минск, 1972 — С. 159; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов, Т. 4: Социально-политическая история и культура Белоруссии первой половины XIX в. Минск, 1979. — С. 126; Гісторыя Беларусі канца XVIII-пачатку XX ст. у дакументах і матэрыялах. Хрэстаматыя. Вільня, 2007. — С. 85; Лепеш О. Комитет Западных губерний: организация и деятельность (1831–1848 гг.). Минск, 2010. — С. 153.

[201] Сосна У. Фарміраванне саслоўна-групавога складу... С. 25.

[202] Lubliner L. Les confiscations des biens des Polonais sous le regne l'empereur Nicolas 1er examen historique, politique et juridique des ukases et dècrets suivi de tableaux nominatifs et alphabètiques par Louis Lubliner, avocat ála cour d'appel de Bruxelles. Bruxelles, 1861.

[203] Ibidem. P. 25–77.

| GOUBERNIE de | Nombre des propriétaires en général. | Nombre des propriétaires sans évaluation. | Nombre des propriétaires avec évaluation. | Nombre des serfs mâles confisqués. | SOMMES CONFISQUÉES En roubles argent. | En florins de Pologne. | En ducats. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1° GRODNO . . . | 277 | 149 | 128 | 21226 | 7727 | 435964 | 853 |
| 2° KIIOW . . . . | 123 | 82 | 41 | 37139 | 80660 | 15206 | » |
| 3° MINSK. . . . . | 170 | 170 | » | » | » | » | » |
| 4° PODOLIE . . . | 472 | 406 | 66 | 52533 | » | » | » |
| 5° MOHILEW. . . | 2 | » | 2 | 3075 | » | » | » |
| 6° WITEBSK . . . | 1 | » | 1 | 207 | » | » | » |
| 7° WILNO . . . . | 1315 | 1315 | » | » | » | » | » |
| 8° WOLHYNIE . . | 529 | 412 | 117 | 66554 | 978527 | 623206 | 12738 |
| TOTAL. . . | 2889 | 2534 | 355 | 180734 | 1066914 | 1074376 | 13591 |

*Падлік агульнай колькасці канфіскаваных маёнткаў Л. Люблінера (Les confiscations des biens des Polonais sous le regne l'empereur Nicolas 1er examen historique, politique et juridique des ukases et dècrets suivi de tableaux nominatifs et alphabètiques par Louis Lubliner, avocat ála cour d'appel de Bruxelles. Bruxelles, 1861)*

Абапіраючыся на дадзеныя Л. Люблінера, будавалі свае разлікі адносна пасляпаўстанцкіх канфіскацый усе наступныя даваенныя гісторыкі — Агатон Гілер, Януш Івашкевіч, Юзаф Качкоўскі, Станіслаў Дангель[204] і інш. Аднак, большасць з гэтых даследчыкаў пры падліку асоб, што пазбавіліся маёмасці пасля паўстання 1831 г., у сваіх працах не бачылі розніцы паміж тымі, хто быў прысуджаны да пазбаўлення маёмасці, і тымі, хто яе рэальна пазбавіўся. Як адзначалася вышэй, у прэсе ўтрымліваліся прозвішчы тых асоб, адносна якіх адбыліся пастановы аб пазбаўленні іх маёмасці. Аднак гэта зусім не азначала, што падобная маёмасць у іх была. На значную неадпаведнасць дзвюх гэтых лічбаў звярнуў увагу яшчэ Юзаф Качкоўскі. Але і ў сучасных абагульняючых працах па гісторыі Польшчы некаторыя аўтары паўтараюць памылкі даваенных гісторыкаў[205].

Такім чынам, без уліку той маёмасці, якая была вернута паўстанцам, што атрымалі амністыю, па дадзеных на 1839 г. у межах сучаснай тэрыторыі Беларусі была канфіскавана наступная колькасць маёнткаў: у Магілёўскай губ. быў канфіскаваны 1 маёнтак, у беларускіх уездах Віцебскай — 2 (усяго па губерні — 6), Ашмянскім і Браслаўскім (Новааляксандраўскім) уездах Віленскай губ.— 21 зямельнае валоданне (усяго па губерні 173 маёнткі), у Мінскай 30 чалавек пазбавіліся 27-і маёнткаў, а ў Гродзенскай адпаведна, у 56-і асоб было

[204] Giller A. Historia powstania narodu polskiego. Cz. 2… S. 206; Iwaszkiewicz J. Wykaz dóbr ziemskich skonfiskowanych przez rządy zaborcze w latach 1773–1867. Warszawa, 1929. — S. 8; Kaczkowski J. Konfiskaty na ziemiach polskich… S. 281; Dangel S. Rok 1831… S. 181.

[205] Historie Polski w XIX wieku pod red. A. Nowaka. Historie polityczne. Cz. 1. Warszawa, 2013. — S. 164; Gierowski J. Historia Polski: 1764–1864. Warszawa, 1989. — S. 219; Kieniewicz S. Historia Polski 1795–1918. Warszawa, 1987. — S. 279.

адабрана 76 зямельных валоданняў і 4 гарадскія дамы[206].

Атрымліваецца, што сукупная колькасць канфіскаваных прыватнаўласніцкіх маёнткаў на тэрыторыі Беларусі складае 130 зямельныя ўладанні. Тут трэба адзначыць, што ва ўсе спісы канчаткова канфіскаванай маёмасці, як цэнтральнымі, так і мясцовымі ўладамі, а таксама і ўсімі пазнейшымі даследчыкамі, паўсюдна ўключаліся 5 зямельных валоданняў, якія былі адабраны пасля паўстання 1831 г. у каталіцкіх кляштараў. Тры з гэтых маёнткаў належала Бярозаўскаму кляштару картэзіянцаў і па адным — Дзярэчынскаму дамініканскаму і Оўруцкаму базыльянскаму (знаходзіўся па-за межамі Беларусі) кляштарам. Прычына падобных дзеянняў уладаў, пэўна, крыецца ў тым, што манахі гэтых кляштараў прынялі непасрэдны ўдзел у паўстанні, альбо аказвалі актыўную дапамогу ва антыўрадавай дзейнасці, у той час як іншыя падобныя духоўныя ўстановы прыкладна ў гэты ж час былі зачынены (і іх маёмасць таксама часткова перайшла ў казну) па іншых прычынах. Улічваючы зямельныя валоданні гэтых трох духоўных установ, агульная колькасць канфіскаваных маёнткаў па Гродзенскай і Мінскай губернях узрастае да 80 і 28 адпаведна (*гл. **Дадатак № 1***).

Параўнальны аналіз маёнткаў, што канчаткова перайшлі да казны, дае падставы сцвярджаць, што ў адрозненне ад 1794 і 1812 гадоў, у 1831 г. склад шляхецкага саслоўя, які прымаў непасрэдны ўдзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, у маёмасным плане ў значнай ступені стаў драбнейшы. Гэты факт у цэлым адлюстроўвае агульную тэндэнцыю збяднення мясцовай шляхты. Вышэй ужо прыводзіліся лічбы, якія характарызуюць працэнтныя суадносіны паміж тымі, хто падчас паўстання маёмасці не меў, і тымі, у каго нейкая ўласнасць была. Гэтыя лічбы не ідуць ў параўнанне з падобнымі дадзенымі за 1812 г. Невялікай была колькасць буйных канфіскаваных валоданняў. З 132-х канфіскаваных на Беларусі маёнткаў, толькі ў 10-і з іх лічба сялян перавышала 1 тыс душ. Большую частку маёнткаў, што перайшлі да казны, складалі невялікія валоданні з колькасцю сялян не больш за 100 душ. У Мінскай губерні такія зямельныя валоданні складалі 71,4% ад агульнай колькасці канфіскаваных маёнткаў, у Гродзенскай — 60%.

Вышэй прыведзеныя лічбы канфіскаваных маёнткаў, нягледзячы на тое, што кожная з іх паходзіць з некалькіх крыніц, тым не менш, нельга разглядаць як канчатковыя і нязменныя. У дадзеным выпадку гэтыя дадзеныя адлюстроўваюць колькасць канфіскаваных маёнткаў на 1839 г., час, калі лічба зямельных маёнткаў, што былі адабраны ў казну за ўдзел у паўстанні, больш-менш стабілізавалася. Аднак, згаданая лічба змянялася і пасля азначанай даты. Гэтаму ёсць некалькі тлумачэнняў. Па-першае, колькасць канфіскаваных маёнткаў мянялася з году на год з-за таго, што некаторым удзельнікам паўстання ў выглядзе нейкага выключэння нават у 1840-я гады ўдавалася атрымліваць амністыю і адначасова з гэтым права на вяртанне маёмасці. Так, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, колькасць канфіскаваных пасля паўстання маёнткаў з 1835 па 1837 г. у заходніх губернях імперыі скарацілася з 351 да 335, а колькасць канфіскаваных

[206] РГИА. Ф. 384, оп. 1. д. 802, 1753, 1785, 1826; Ф. 384, оп. 15. д. 1158, л. 32–55, 90–93; д. 1160. л. 11–14; д. 19, л. 83; Ф. 384, оп. 2. д. 391, л. 1–3; LVIA. F. 525, ap. 18, b. 280, l. 42–43; LVIA. F. 523, ap. 1, b. 30; LVIA. F. 378, ap. 1, b. 374, 213; F. 378, ap. 45, b. 98, 101; 644; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 471, 489; Ф. 31, воп. 2, спр. 68; НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 5, арк. 21–24.

сялян са 189 201 душы да 110 870[207]. Аналагічны працэс назіраўся і ў Каралеўстве Польскім, у якім лічба канфіскаваных нерухомых валоданняў за гэты ж адрэзак часу скарацілася з 366 да 336[208].

Таксама колькасць маёнткаў змянялася з-за таго, што ўладам калі-нікалі ўдавалася знайсці раней невядомую ўласнасць былых паўстанцаў. Ёсць прыклады, калі маёнткі паўстанцаў выкрываліся ў 1840-я гады, але не выключана, што такія выпадкі маглі адбывацца пазней. Па-трэцяе, некаторыя спрэчныя справы аб канфіскацыі знаходзіліся на разглядзе вышэйшых апеляцыйных устаноў краіны, без рашэння якіх маёмасць не магла канчаткова паступіць у казну. Справаводства па спрэчных пытаннях магло цягнуцца не год і не два, а дзесяцігоддзі. Значная колькасць падобных спраў знаходзілася на разглядзе Сената.


87.
и заботливостію вводить во
всѣ нужды крестьянскія, но неурожай настоящаго года весьма
замѣтенъ по ихъ гумнахъ и онѣ
вѣрно что имѣютъ недостатокъ
въ скотѣ.
9. Сморгонь и Войстомъ. — Сморгонское имѣніе находится
Отъ Графа Карла Пржездецкаго — въ двухъ уѣздахъ въ Ошмянскомъ и Завилейскомъ, и раздѣляется на двѣ части на Сморгонское и Войстомское. Въ Ошмянскомъ уѣздѣ
Въ администраціи у Графа Константина Пржездецкаго. — фольварки и принадлежащими къ нимъ деревнями.
Коренныхъ крестьянъ ....... 2532 д. — 1, Сморгонь
разнаго званія 19 д. — 2, Карошиново
2551. — 3, Боровой дворъ
дохода въ годъ 15762 р. — 4, Слободка.
Въ Ошмянскомъ Уѣздѣ. — 5, Корнешки и Зацицы
6, Венцеславенята
7, Сынковичи
Въ Завилейскомъ уѣздѣ.
1, Войстомъ

*Вопіс канфіскаванага маёнтка Смаргонь Караля Пшэздзецкага (LVIA)*

Па-чацвёртае, колькасць маёнткаў, якія былі ўнесены ў спіс канчаткова канфіскаваных, скарачалася з той прычыны, што, нягледзячы на адпаведныя распараджэнні вышэйшых уладаў, на месцах існавала практыка пераводу канфіскаваных сялян з маёнткаў, дзе іх колькасць была невялікай, у іншыя дзяржаўныя ці канфіскаваныя гаспадаркі[209]. Акрамя таго, у некаторых выпадках, улады практыкавалі продаж зямельнай маёмасці, якая ўжо даволі працяглы час знаходзілася ў разрадзе канфіскаванай, у прыватныя рукі. І, па-пятае, адміністрацыйная рэформа 1843 года, якая змяніла межы губерняў, а таксама хібы тагачаснай бюракратычнай сістэмы, уключаючы сюды блытаніну і супярэчлівасць прадстаўленых звестак, у зна-

[207] РГИА. Ф. 1266, оп. 1. д. 7, л. 58; Ф. 384, оп. 15. д. 1166, л. 45–47.
[208] AAN. Ministerstwo rolnictwa i reform rolnych, sygn. 2782, k. 28, 42.
[209] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 29, арк. 84.

чнай ступені ўскладняюць працу даследчыкаў па выяўленню канчатковай лічбы канфіскаваных маёнткаў. Нават тагачасныя царскія ўлады, якія неслі адказнасць за ажыццяўленне працэсу канфіскацыі, не валодалі дакладнай інфармацыяй адносна колькасці адабраных у казну маёнткаў. Доказам гэтаму з'яўляецца той факт, што калі ў 1837 г. па распараджэнню Паўла Кісялёва ў Міністэрстве дзяржаўнай маёмасці была ўтвораная спецыяльная камісія па справах канфіскаваных маёнткаў, то на першым месцы перад ёй стаяла задача па выпрацоўцы мер "дзеля дакладнага вызначэння канфіскаваных і секвестраваных маёнткаў"[210].

Разглядаючы лічбу канфіскаваных маёнткаў, трэба адзначыць, што ў казённае ведамства ў поўным аб'ёме адышла меншая частка вызначаных для гэтага зямельных валоданняў. Большая іх частка паступала ў казну часткова, ці на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў заставалася ў валоданні бацькоў паўстанцаў, хаця пры гэтым і была ўнесеная ў спісы канфіскаваных. Справа ў тым, што даволі значная колькасць удзельнікаў паўстання 1831 г., якія былі асуджаныя на пазбаўленне маёмасці, на той час яшчэ не паспелі ўступіць у правы на валоданне нерухомасцю, або валодалі ёю сумесна з іншымі саўладальнікамі. Палітыка царызму ў адносінах да непадзельных маёнткаў была накіраваная на паступовае выдзяленне і перадачу ў казённае ведамства частак маёмасці, якія належалі асуджаным асобам. Такога кшталту справамі займаліся асобныя канфіскацыйныя аддзелы ў губернскіх канцылярыях, а таксама земскія суды. Выдзяленне ў казну $^3/_8$ ці $^1/_{16}$ зямельнага валодання разам з сялянамі, колькасць якіх нярэдка не перавышала колькасці гаспадароў, было справай нялёгкай.

Не спрыяла паскарэнню гэтага працэсу і сістэма вырашэння падобных спраў, што была зацверджана на вышэйшым узроўні. У адпаведнасці з існуючымі правіламі, першапачатковай інстанцыяй ў гэтым працэсе з'яўляліся ўездныя суды. Адтуль справы аб вылучэнні долі маёмасці паступалі ў казённыя палаты, да губернатараў, у Міністэрства дзяржаўнай маёмасці і, нарэшце, у Сенат на канчатковае зацверджанне[211]. Таму заканамерна, што працэс выдзелу зацягнуўся на доўгія гады. Пры гэтым улады дэманстравалі надзвычайную зацікаўленасць у новых зямельных набытках. Падчас распрацоўкі правіл аб выдзеле частак маёнткаў, якія былі прызначаны да канфіскацыі, распрацоўшчыкі прапанавалі замест зямельнага надзелу браць з саўдзельнікаў ці спадчыннікаў грошы ў тым выпадку, калі на частку маёнтка прыходзілася менш адной душы. Аднак, наступнай інстанцыяй, куды гэтыя правілы трапілі на дапрацоўку, а менавіта Камітэтам заходніх губерняў, было вырашна, што ўраду непрыстойна браць грошы ад прыватных асоб за людзей. З такім пунктам гледжання пагадзіўся і імператар. Таму, у адпаведнасці з указам ад 24 снежня 1837 г., забаранялася выплачванне грашовага эквіваленту замест "прызначанай у казну часткі маёнтка". Таксама не дазвалялася замена прызначанай да канфіскацыі часткі маёмасці на іншую, раўназначную. Дапускалася ў адным паселішчы суіснаванне прыватнай і казённай уласнасці. У выпадку, калі выдзел часткі маёнтка з-за малых яго памераў правесці было немагчыма, у казну адбіралася цэлае валоданне з выплатай саўла-

---

[210] РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 1163, л. 1, 3.

[211] РГИА. Ф. 384, оп. 15. д. 1158.

дальнікам грашовага ўзнагароджання за належную ім частку[212]. Да правядзення канчатковага выдзелу саўладальнікі канфіскаваных маёнткаў выплачвалі казне належную "злачыннаму сваяку" долю з даходаў.

У адносінах да маёнткаў, якія павінны былі перайсці па спадчыне да асоб, якія яшчэ не паспелі ўступіць у правы валодання, быў выкарыстаны вопыт аляксандраўскай эпохі. Рашэннем Сената ад 28 жніўня 1833 г., дзеля "перасцярогі ад растраты і спусташэння канфіскаваных маёнткаў", якія застаюцца ў пажыццёвым валоданні, было загадана зрабіць вопіс усіх падобных маёнткаў, і мецць падобную маёмасць "на ўвазе". Пасля Камітэтам па справах заходніх губерняў ад 31 студзеня 1834 г. было забаронена бацькам перадаваць валоданні тым дзецям і сваякам, якія прымалі ўдзел у паўстанні. Ва ўсіх губернях з бацькоў былі ўзяты пісьмовыя сведчанні аб тым, што яны не перададуць у спадчыну маёмасць, якая належыць "злачынным іх сваякам". Улады таксама пільна сачылі за тым, каб бацькі паўстанцаў не змянялі сваіх тастаментаў і актыўна ўмешваліся ў справы спадчыннасці падобнай зямельнай уласнасці ў тых выпадках, калі, на іх думку, закраналіся інтарэсы казны. Указам ад 22 красавіка 1836 г., імператар па прапанове міністра фінансаў удакладніў, што ў падобных выпадках "казна замяняе асобу, пазбаўленую права спадчыны" і загадаў на тую частку маёмасці, што пасля смерці бацькоў мелася перайсці да казны, накласці забарону[213]. Статыстыка сведчыць, што менавіта "непадзельныя" маёнткі, і тыя, што знаходзіліся "ў пажыццёвым валоданні бацькоў", складалі большую частку канфіскаваных зямельных валоданняў. У Віленскай губ. іх было найбольш — 62%, у Гродзенскай губ. каля 57%, і толькі ў Мінскай губ. менш за палову — 41%[214].

У дачыненні да многіх тых зямельных валоданняў, што пераходзілі да казны, як нам падаецца, не зусім правамоцным будзе выкарыстанне тэрміну "маёнтак". Справа ў тым, што досыць часта гэта была яго толькі невялікая частка, якая выдзялялася ў казну, у той час як яго асноўная частка працягвала заставацца ў валоданні сваякоў пакаранай асобы. У некаторых выпадках гэта былі проста зямельныя надзелы, якія апрацоўвалі самі ўладары, пусткі, засценкі і пад. Тым не менш, у тагачасным справаводстве ўсе яны фігуруюць пад назвай маёнткаў.

Калі ў 1811–1813 г. у выніку канфіскацый найбольш пацярпеў род Радзівілаў, то пасля паўстання 1831 г. самыя вялікія страты панеслі Сапегі — найбуйнейшыя пасля Льва Вітгенштэйна памешчыкі Літвы і Беларусі на той час. У паўстанні прынялі ўдзел некалькі прадстаўнікоў гэтага роду, сярод якіх асобна стаяць імёны Ксаверыя і Яўстафія Сапегаў. У сярэдзіне чэрвеня 1831 г. яны прыбылі ў Варшаву. Першы — з Аўстрыі, другі — з Вільні. У чыне паручнікаў яны паступілі на службу ў штаб польскай арміі. На маёмасць абодвух Сапегаў, што знаходзілася ў межах Расейскай імперыі, у адпаведнасці з указам ад 21 снежня, па асабістым распараджэнні імператара была накладзена забарона, а затым і секвестр, а іх імёны былі ўнесены ў спіс 51 асобы ўраджэнцаў заходняга краю, якія прынялі ўдзел у паўстанні ў найбольшай ступені[215].

---

212 РГИА. Ф. 384, оп. 1. д. 2261, л. 25–29; ПСЗРИ (собрание второе). Т. XIII, № 10829[а].

213 ПСЗРИ (собрание второе). Т. XI, № 9095.

214 РГИА. Ф. 1266, оп. 1. д. 7, л. 58; LVIA. F. 515, ap. 18, b. 280, l. 41–43.

215 НГАБ. Ф. 1416, воп. 5, спр. 2770, арк. 1.



*Яўстафій Сапега*

Пасля паражэння паўстання прадстаўнікі старажытнага роду спрабавалі з-за мяжы атрымаць амністыю, але гэта ўдалося зрабіць у 1834 г. толькі Ксаверыю. На прашэнні Яўстафія на імя імператара (ад 3 лістапада 1831 г., з Дрэздэна) была пастаўлена адмоўная рэзалюцыя[216]. Прычына такога выбарнага падыходу ў адносінах да Сапегаў крыецца хутчэй за ўсё ў тым, што царызм да гэтага часу паспеў падвергнуць спусташэнню маёмасць Яўстафія, і ў першую чаргу — яго Дзярэчынскую рэзідэнцыю. У выніку далейшай канфіскацыі маёмасці Яўстафія, да казны перайшлі велізарныя зямельныя валоданні, у ліку якіх былі нават 2 уездныя гарады. Увогуле, па Віленскай, Гродзенскай і Магілёўскай губернях было канфіскавана 7 маёнткаў Яўстафія Сапегі з агульнай колькасцю 10787 прыгонных і 5990 вольных сялян[217]. Гадавы прыбытак толькі ад гэтых валоданняў перавышаў 100 тыс. руб. срэбрам. Дарэчы, прыведзены прыклад з двума Сапегамі, добра ілюструе суб'ектыўны падыход расейскіх уладаў да вырашэння спраў паўстанцаў.

Пасля лістападаўскага паўстання адбывалася далейшае ўдасканаленне не толькі механізму канфіскацыі маёнткаў, але і працэсу пагашэння даўгоў іх уладароў. Расейскія ўлады пасля 1831 г. дэманстравалі гатоўнасць прызнаць прэтэнзіі трэціх асоб да паўстанцаў і іх маёмасці, якая паступала ў казну. Пачынаючы з 1833 г., усе даходы з маёнткаў, на якіх ляжалі даўгавыя абавязкі, а таксама грашовыя капіталы, загадвалася лічыць прыналежнымі да Камісіі пагашэння даўгоў. Для вырашэння падобных спраў у губернях, у адпаведнасці з указам ад 28 ліпеня 1832 г., былі ўтвораны адмысловыя ліквідацыйныя камісіі, галоўнай задачай якіх быў разгляд і пагашэнне даўгавых прэтэнзій. Гэтым органам прадпісвалася прызнаваць толькі тую частку даўгоў, якая не перавышала каштоўнасці самога маёнтку.

Пасля 1831 г. ў адносінах да канфіскаваных маёнткаў з'явіўся яшчэ адзін від прэтэнзій — з боку дзяржавы. У такіх выпадках казна спаганяла грошы з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў за тую шкоду, якая была нанесена яго атрадам падчас вядзення баявых дзеянняў[218]. Калі даходы з канфіскаванага маёнтка не маглі задаволіць прад'яўленых казной прэтэнзій, такія маёнткі прадаваліся ў прыватныя рукі. І толькі ў самых рэдкіх выпадках пасля разгляду і зацвярджэння станоўчага рашэння непасрэдна імператарам, сям'я магла разлічваць на некаторую грашовую падтрымку з даходаў сваёй ранейшай уласнасці. Але падобныя эпізоды былі адзінкавымі. Звычайна ў выпадку канфіскацыі маёмасці за ўдзел

[216] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 161, арк. 18.

[217] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 14, арк. 260.

[218] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, спр. 807, арк. 3; НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 118, арк. 66.

ў паўстанні аднаго са сваякоў, сям'я заставалася без даху над галавой і ўсялякіх сродкаў на існаванне.

Дзейнасць уладаў па ліквідацыі даўгоў можа быць аднесена да адных з прыярытэтных напрамкаў палітыкі царызму адносна канфіскаваных маёнткаў. Аб гэтым сведчыць колькасць вышэйшых указаў і пастаноў, выдадзеных на гэты конт[219]. У сталічнай, мясцовай і замежнай прэсе неаднаразова друкаваліся спісы асоб, якія пазбаўляліся маёмасці. Рабілася гэта для найбольш поўнага забеспячэння інфармацыяй пазыкадаўцаў. Нягледзячы на ўсе прадпрынятыя ўладамі крокі, справа пагашэння даўгавых прэтэнзій вырашалася даволі марудна. Праз 18 год пасля стварэння ліквідацыйных камісій, у 8 заходніх губернях Расейскай імперыі нявырашанымі засталіся ліквідацыйныя справы па 73 маёнтках[220].

*Аб'ява мінскай ліквідацыйнай камісіі на трох мовах (Kuryer Litewski, 1833 год)*

Пераход маёнтка з ліку секвестраваных у разрад канфіскаваных мала што мяняў у адносінах да яго з боку ўладаў. Як і раней, галоўнай іх мэтай было атрыманне найбольшага прыбытку. А паколькі далейшы лёс канфіскаваных маёнткаў быў яшчэ не вызначаны, улады скарысталіся вопытам 1813 г. Тады, згодна з правіламі ад 24 кастрычніка 1813 г., канфіскаваныя маёнткі загадвалася здаваць у арэнду тэрмінам ад трох да шасці гадоў. Аналагічная пастанова міністра фінансаў выйшла ў лістападзе 1833 г. Адрозненні паміж гэтымі двума дакументамі заключаліся ў тым, што ў прадпісанні 1833 г., гэтая мера была акрэслена як часовая — пакуль не будзе вызначаны канчатковы статус падобнай маёмасці.

У арэнду, згодна з гэтым дакументам, маглі перадавацца толькі адносна невялікія валоданні, з гадавым прыбыткам не больш за 1 тыс. руб.[221] У большых маёнтках, згодна з гэтым

[219] ПСЗРИ (собрание второе). Т. VII, № 5257, № 5468; Т. IX, № 7205; Т. X, № 8158; Т. XI, № 9191, № 9454; Т. XII, № 9194[а].

[220] О ликвидации конфискованных имений Западного края // Журнал Министерства государственных имуществ, 1850, № 4. — Ведомость № 7.

[221] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 257, арк. 1.

дакументам, уводзілася адміністрацыйные кіраванне. Тым не менш, нават пасля гэтага ў іх даволі часта адбываліся публічныя таргі на арэнду. Арандавыць прапанавалася не ўвесь маёнтак — у часовае карыстанне на кантрактнай аснове здаваліся асобныя даходныя артыкулы. Звычайна гэта былі шынкі, сады, правы на продаж таго ці іншага прадукту, асобныя будынкі, заводы, фабрыкі і інш. Арандаваўся нават знакаміты Зэльвенскі кірмаш[222]. Даволі часта ў ролі арандатараў невялікіх валоданняў выступалі блізкія сваякі паўстанцаў, а ў буйнейшых гаспадарках габрэі, ці цэлыя габрэйскія кагалы. Ёсць прыклады, калі часовымі ўтрымальнікамі з'яўляліся асобныя сяляне перайшоўшага да казны маёнтка, ці нават ксяндзы[223].

Частка канфіскаванай маёмасці на тэрыторыі Беларусі была выкарыстана для патрэб расейскай арміі. Напрыклад, у некаторых будынках былога сапегаўскага маёнтка ў Быхаве былі размешчаны штаб батальёна, страявыя роты з афіцэрамі і лазарэт. У Смаргоні значная частка забудовы была выдзелена пад патрэбы камандзіра ваеннай батарэі і нестраявых ніжэйшых чыноў. Канфіскаваны ў Юзафа Кашыцы маёнтак Ятра ў Навагрудскім уездзе, згодна з зацверджаным у 1846 г. Мікалаем І палажэннем, планавалася выкарыстоўваць дзеля размяшчэння там кватэры камандзіра батарэі, майстэрняў і стайняў[224].

Пасля канфіскацыі працягваўся працэс распродажу "непатрэбнай" маёмасці. Толькі пасля канчатковага прыняцця маёнтка ў казну гэтая з'ява набывала куды большы размах. Асартымент рэчаў, якія ўлады імкнуліся прадаць, не абмяжоўваўся выключна прадуктамі, што хутка псуюцца. З малатка ішлі гаспадарчы інвентар, быдла, посуд, вопратка, асабістыя і фамільныя рэчы паўстанцаў, металічны лом і іншае. Згодна з існуючымі правіламі, губернскія казённыя палаты за некалькі тыдняў да правядзення аўкцыёну змяшчалі аб'яву ў "Літоўскім Кур'еры", якая затым некалькі разоў дублявалася, з запрашэннем усіх жадаючых на таргі. Аўкцыёны па продажу маёмасці паўстанцаў адбываліся як у губернскіх гарадах, так і непасрэдна ў саміх маёнтках. Калі некаторыя рэчы не знаходзілі пакупнікоў з першага разу, яны звычайна выстаўляліся на продаж паўторна. Гісторыя канфіскаваных маёнткаў гэта таксама гісторыя бясконцага распродажу іх уласнасці, які працягваўся нават пасля змены іх юрыдычнага статусу ў канцы 40-х, і нават у 50-я гады XIX ст[225].

Падобная палітыка вяла да паступовага спустошэння магнацкіх і шляхецкіх асяродкаў. Не апошнюю ролю ў гэтым працэсе адыграла адкрыццё на пачатку 1840-х гадоў інстытута шляхетных дзяўчат у Беластоку. Па прапанове гродзенскага губернатара, улады вырашылі абсталяваць гэтую ўстанову за кошт рэчаў, якія засталіся ў канфіскаваных маёнтках. У выніку прынятага ў 1838 г. міністрам дзяржаўнай маёмасці рашэння, усе прыдатныя рэчы, якія яшчэ да гэтага часу не былі вывезены ў сталіцу ці прададзены з аўкцыёнаў, неабходна было перадаць у Беласток. Асноўную частку вывезеных рэчаў на гэты раз склала мэбля: шафы, ложкі, канапы, крэслы, фатэлі, сталы, люстэркі і нават экзатычны для таго часу шэзлонг[226].

---

[222] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 530, арк. 2.

[223] LVIA. F. 525, ap. 18, b. 280, l. 142, 154.

[224] РГИА. Ф. 384, оп. 2. д. 1272, л. 60, 70.

[225] РГИА. Ф. 384, оп. 1,. д. 218, л. 149, 182.

[226] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 205, арк. 41–96.

Пад асобым наглядам уладаў знаходзіліся справы, звязаныя з перайшоўшымі ў казённае ведамства кнігазборамі і партрэтамі. У рамках агульнай палітыкі, накіраванай на атрыманне максімальных даходаў з канфіскаваных маёнткаў, мясцовая адміністрацыя напачатку не рабіла асаблівай розніцы паміж кнігамі і іншымі артыкуламі, і пускала іх з малатка. Такі лёс, напрыклад, спасціг кнігазбор былога філамата і сябра Адама Міцкевіча, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі. 178 кніг на лацінскай, французскай, польскай і англійскай мовах, якія засталіся пасля яго, былі прададзены з аўкцыёну ў Гародні за 41 руб. 95 кап. асігнацыямі[227]. Досыць хутка ўлады зразумелі, што сярод канфіскаваных кніг могуць знаходзіцца даволі рэдкія выданні. Таму вышэйшым указам ад 10 мая 1832 г., такія кнігі загадана было адсылаць у Санкт-Пецярбург. Паколькі асобы, якія займаліся прыёмам маёнткаў у казну, не маглі самастойна вызначыць іх вартасць, то звычайна для ацэнкі кнігазбораў прыцягваліся настаўнікі мясцовых вучылішчаў і гімназій. Пасля папярэдняга адбору, найбольш каштоўныя, сярод якіх былі не толькі друкаваныя, але і ўнікальныя рукапісы, адсылаліся ў Міністэрства фінансаў ці дэпартамент дзяржаўнай маёмасці. Тут адбываўся іх далейшы падзел і размеркаванне сярод розных дзяржаўных устаноў: 1) кнігі па ваеннай частцы накіроўваліся ў Ваеннае міністэрства; 2) па медыцынскай частцы — у ведамства міністра ўнутраных спраў; 3) духоўнага зместу — обер-пракурору Сінода; 4) кнігі, "якія па сваім змесце могуць быць прызнаны непрыстойнымі" — у распараджэнне графа Аляксандра Хрыстафоравіча Бенкендорфа ў III Аддзяленне[228]. У Пецярбург былі адпраўлены найбольш каштоўныя экзэмпляры з кнігазбораў Пацаў, Солтанаў, Валовічаў, Сапегаў і інш.

Адносна кніг, якія "не заслугоўвалі вялікай увагі бібліёграфаў", было вырашана, што больш зручным будзе прадаваць іх з публічнага торгу[229]. Аднак ужо ў 1837 г. выйшла чарговае вышэйшае распараджэнне, якім прадпісвалася канфіскаваныя кнігі, якім да гэтага часу яшчэ не было знойдзена прымяненне, перадаць у ведамства Міністэрства народнай адукацыі, паколькі іх продаж "не абяцае казне выгады". Далей гэтыя кнігі размяркоўваліся паміж мясцовымі гімназіямі і вучылішчамі, у якіх на той час адчуваўся значны недахоп літаратуры. Сярод іншых бібліятэк, такі лёс напаткаў кнігі вядомай паўстанкі 1831 г. Эміліі Плятар, кнігазбор якой быў перададзены Дынабургскай гімназіі[230].

Не проста складваўся лёс галерэй фамільных партрэтаў. Пасля канфіскацыі маёнткаў яны звычайна паступалі ў продаж сярод іншых рэчаў. Выручка казны ад такога спосабу іх загаспадарання была мізэрнай. Так, напрыклад, яна не перавысіла сумы ў 50 капеек ад продажу 14 партрэтаў прадстаўнікоў роду Палубінскіх і Сапегаў у Гродзенскай губ. у 1833 г. Для параўнання, за адзін толькі партрэт Аляксандра I на гэтым жа аўкцыёне было атрымана ў два разы больш[231]. Разам з тым, улады разумелі, што падобныя дзеянні па публічным распродажы партрэтных галерэй прадстаўнікоў аднаго з найбольш уплывовых радоў краю,

[227] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 59, арк. 234.

[228] РГИА. Ф. 384, оп. 15,. д. 1018, л. 1.

[229] РГИА. Ф. 384, оп. 15,. д. 202, л. 38.

[230] НГАБ. Ф. 2507, воп. 1, спр. 78, арк. 3.

[231] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 126, арк. 278.

могуць выклікаць незадавальненне з боку сваякоў пакараных асоб і мясцовай шляхты ў цэлым. Таму перад міністрам дзяржаўнай маёмасці было ўзнята пытанне аб мэтазгоднасці продажу сямейных партрэтаў. Далейшы ход падзей сведчыць аб тым, што справы па гэтым прадмеце вырашаліся як на карысць сваякоў паўстанцаў (як гэта было ў выпадку з Солтанамі ў Гродзенскай губ.), так і на карысць казны (як гэта было ў выпадку з 14 партрэтамі Сапегаў у Магілёўскай губ., прададзеных у 1842 г. за 135 руб.)[232].

Сярод асноўных змяненняў, што адбываліся ў становішчы канфіскаваных маёнткаў на працягу 30-х — пачатку 40-х гадоў XIX ст., адзначаецца паступовае спусташэнне не толькі сядзіб, але і гаспадарчых комплексаў, пагаршэнне сацыяльнага становішча жыхароў канфіскаваных маёнткаў. Палітыка расейскіх уладаў, накіраваная ў першую чаргу на атрыманне як мага большых прыбыткаў, нанесла непапраўныя страты ўсёй сістэме загаспадарання маёнткамі і сядзібнай гаспадаркі. Часовыя ўладальнікі ў большасці выпадкаў мала дбалі аб захаванні і аднаўленні іх унутранай структуры і вонкавага аблічча. Як сведчаць мемуары сучасніка[233], ужо ў 1834 г. у былым Ружанскім палацы размяшчалася фабрыка, у парку прысады былі высечаны, фруктовыя дрэвы здзічэлі. Замест кветак — пустазелле.



*Ружаны, канфіскаваныя ў Яўстафія Сапегі (малюнак Напалеона Орды)*

А вось што ўяўляў сабой Дзярэчанскі палац: "Пустэча з абдзёртым дахам, з павыбіванымі вокнамі, па якой свішча вецер, з муроў якой адпадае цагліна за цаглінаю… падобны на магільны курган"[234]. Менш чым праз дзесяць гадоў пасля канфіскацыі прыйшоў у занядбанне Свіслацкі палац Тышкевічаў, "сто-

[232] РГИА. Ф. 384, оп. 1,. д. 218, л. 52; НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 205, арк. 1.
[233] Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву… С. 150.
[234] Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву… С. 157.

лі ў якім пагражалі штохвілінным падзеннем"[235]. Паступова руйнаваліся садова-паркавыя комплексы, якія засталіся без належнага нагляду, вымярзалі аранжарэі з унікальнымі калекцыямі раслін, знішчаліся гаспадарчыя пабудовы: млыны, адрыны, стайні, заводы, шынкі і г.д. Урэшце рэшт палітыка царскіх уладаў прывяла да значнага скарачэння прыбыткаў, якія паступалі ў казну. Гэтая тэндэнцыя добра прасочваецца па выніках праведзенай у Віленскай губ. ў 1839 г. рэвізіі канфіскаваных маёнткаў. Чыноўнік, які праводзіў гэтую праверку, быў вымушаны канстатаваць, параўноўваючы прыватныя маёнткі з валоданнямі, якія перайшлі да казны, што апошнія "пачалі прыходзіць у заняпад"[236].

Правядзенне канфіскацыі ў 30–40 гадах XIX ст. на тэрыторыі Беларусі і сумежных тэрыторыях не абмяжоўваецца толькі выпадкамі яе ўжывання ў адносінах да ўдзельнікаў паўстання 1831 г. Далейшае яе выкарыстанне было звязана з раскрыццём дзейнасці тайнага таварыства Шымана Канарскага, а таксама з удзелам ураджэнцаў заходніх губерняў у нацыянальна-вызваленчым і рэвалюцыйным руху ў некаторых краінах Еўропы. Канфіскацыі стасаваліся і ў дачыненні да маёмасці замежных эмісараў, а таксама асоб, якія аказвалі ім падтрымку на месцы. Ва ўсіх гэтых выпадках дзеянні ўладаў па пазбаўленню маёмасці мала чым адрозніваліся ад практыкі, якая склалася ў першай палове 30-х гадоў XIX ст. Адметнай жа рысай гэтага перыяду з'яўляецца той факт, што царызм пачаў ужываць канфіскацыю як адну з мер пакарання не толькі за непасрэдны ўдзел у паўстанні, але і за ажыццяўленне падрыхтоўкі да яго. Як прыклад, тут можна прывесці эпізод, звязаны з раскрыццём дзейнасці канспіратыўнай арганізацыі пад кіраўніцтвам Шымана Канарскага.

Удзельнік паўстання 1830–1831 г., блізкі сябра Іахіма Лелявеля, Шыман Канарскі на працягу 1835–1838 г. стварыў на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны разгалінаваную канспіратыўную арганізацыю. Пасля яе раскрыцця ў 1838 г., для вядзення следства па справе Канарскага, у Вільні была ўтвораная спецыяльная следчая камісія на чале з Мікалаем Далгарукавым. У выніку яе дзеяння да рознай ступені адказнасці былі прыцягнуты 218 асоб, пераважна прывілеяванага стану[237]. Адным з відаў пакарання, якое ўлады прызначылі ў адносінах да большасці прыцягнутых да следства, было пазбаўленне ці абмежаванне правоў на валоданне маёмасцю. Спасылаючыся на нормы Крымінальнага статута аб канфіскацыі маёмасці жыхароў заходніх губерняў за ўдзел "у бунце", імператар пастанавіў "у выглядзе меры паліцэйскай" на маёмасць асоб, якія абвінавачваліся па справе Канарскага, папярэдне накладаць секвестр[238]. На самой справе гэты ўказ Мікалая І, абапіраючыся на ранейшыя прававыя пастановы, стварыў прэцэдэнт ужывання канфіскацыі за новы тып палітычнай дзейнасці ў заходніх губернях, якая ў тагачаснай юрыдычнай літаратуры атрымала назву "змовы".

Механізм секвестрацыі маёмасці ўдзельнікаў "змовы Канарскага" мала чым адрозніваўся ад падобных дзеянняў уладаў пасля паўстання 1831 г. Як і ў папярэднім выпадку, функцыі па росшуку і вопісу маёмасці былі ўскладзены на

[235] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 509, арк. 54.
[236] LVIA. F. 525, ap. 18, b. 280, l. 195.
[237] РГИА. Ф. 384, оп. 15,. д. 1, л. 340.
[238] ПСЗРИ (собрание второе). Т. XIII, № 11572; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1613, арк. 282.

земскую і гарадскую паліцыю. Пасля апісвання маёмасць асоб, якія былі прыцягнуты да следства, пступала ў бліжэйшы казённы нагляд. Звесткі аб гэтым накіроўваліся ў сенацкую тыпаграфію, а таксама друкаваліся ў мясцовых губернскіх ведамасцях. Аднак, працэсы секвестрацыі ў 1838–1841 гадах мелі свае асаблівасці. Да іх ліку можна аднесці некаторыя распараджэнні (якія, што праўда, не заўсёды мясцовымі ўладамі выконваліся) вышэйшых губернскіх чыноў аб пакіданні абвінавачанаму асабістых рэчаў падчас ажыццяўлення секвестрацыі яго маёмасці. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што ў адрозненне ад 1831 г., спісы рэдкіх і каштоўных рэчаў было загадана прадстаўляць вышэйшаму начальству толькі пасля канчатковага зацвярджэння пастановы аб канфіскацыі. Назіраць за ходам секвестрацыі з Міністэрства дзяржаўнай маёмасці былі камандзіраваны спецыяльныя чыноўнікі з мэтай "адхіліць беспарадкі і раскраданне, якое дапушчана было па канфіскаваных маёнтках..."[239].



*Шыман Канарскі ("Наша Ніва", 1907 г.)*

Канчатковаму пазбаўленню маёмасці на гэты раз на тэрыторыі Беларусі была падвергнута невялікая колькасць асоб. Большасць маёнткаў была вызвалена ад казённага нагляду. За параўнальна кароткі тэрмін знаходжання маёнткаў пад секвестрам, значна пацярпелі сем'і асоб, якія знаходзіліся ў Вільні пад следствам. Пазбаўленыя прытулку і асноўнай крыніцы даходаў, сваякі бесперапынна турбавалі дзяржаўныя органы шматлікімі скаргамі і просьбамі аб аказанні ім матэрыяльнай ці якой іншай падтрымкі. Вынікам падобнага ціску стала прыняцце ўладамі новых правіл для ўтрымання сем'яў "мяцежнікаў, чые маёнткі былі адабраныя ў казну". У параўнанні з аналагічнымі пастановамі ўрада адносна канфіскаванай маёмасці за ўдзел у паўстанні 1831 г., гэтыя правілы прадугледжвалі пэўную грашовую дапамогу падобным сем'ям з даходаў, адабраных у казну маёнткаў[240].

Пасля выхаду пастановы аб звароце маёмасці большасці асоб, якія былі абвінавачаны ва ўдзеле ў змове Шымана Канарскага, адразу ж вярнуць сваю ўласнасць у поўнае асабістае распараджэнне не ўдалося. У адпаведнасці з рашэннем усё той жа следчай камісіі, усе выдаткі казны ў сувязі з правядзеннем следства

[239] НГАБ. Ф. 333, воп. 25, спр. 95, арк. 1–2; РГИА. Ф. 384, оп. 15,. д. 1242, л. 68, 154.
[240] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 175, арк. 221.

(а гэта і камандзіроўка чыноўнікаў, адпраўка эстафет, дастаўка арыштаваных і інш.), было вырашана спагнаць з маёмасці асоб, якія праходзілі па гэтай справе. Таму для забеспячэння інтарэсаў казны на іх зямельныя валоданні і капіталы была накладзена забарона[241]. Канчатковай канфіскацыі была падвергнута маёмасць толькі самога Ш. Канарскага і "галоўных яго саўдзельнікаў". З 48 асоб, якія былі прысуджаны да пазбаўлення маёмасці, 41 паходзіла з украінскіх губерняў. На тэрыторыі Беларусі ў выніку прысудаў 1839 г. была канфіскавана маёмасць у 7 асоб. У тых, хто зямельнай уласнасці не меў, у казну была адабрана ўся рухомая маёмасць, якая была прададзена з малатка[242].

У далейшым секвестр маёмасці выкарыстоўваўся ў 1846–1847-х гадах, па аналагічнай справе, — у дачыненні да асоб, якія аказвалі актыўную дапамогу замежнаму эмісару Яну Рэру. Аднак, у параўнанні са справай Шымана Канарскага, памеры секвестру былі значна меншымі.

Да іншых асаблівасцей правядзення канфіскацый на землях Беларусі ў гэты час трэба аднесці з'яўленне ў канцы 1840-х гадоў прысудаў аб пазбаўленні маёмасці за актыўны ўдзел у "бунце" і "мяцежніцкіх намерах" па-за межамі Расейскай імперыі[243]. Падчас удзелу рускай арміі ў падаўленні рэвалюцыйнага руху на тэрыторыі Польшчы і Венгрыі, было выяўлена дачыненне некаторых жыхароў заходніх губерняў імперыі да гэтых падзей. Галоўнакамандуючы дзеючай арміяй, спасылаючыся на адпаведныя нормы расейскага права, разаслаў па ўсіх губурнях свае цыркуляры аб тэрміновым вышуку і канфіскацыі маёмасці гэтых асоб.

Разгледзеўшы юрыдычнае развіццё і практычнае выкарыстанне царызмам канфіскацыі прыватнай уласнасці ў 30–40-я гады XIX ст., трэба адзначыць, што завяршэннем дадзенага этапу можа лічыцца царскі ўказ ад 8 верасня 1859 г. У ім новы расейскі імператар у межах сваёй "прымірэнчай" палітыкі забараніў пачынаць новыя справы аб канфіскацыі маёмасці "асоб, датычных да былога ... мяцяжу"[244]. Больш за тое, Аляксандр II пайшоў у гэтым кірунку далей. Наступным вышэйшым распараджэннем па гэтым прадмеце было прадугледжана вяртанне некаторай ўласнасці. Гэтыя палажэнні тычыліся той катэгорыі спадчыннікаў, чыя маёмасць з-за іх палітычнай дзейнасці была вызначана для канфіскацыі, але да таго часу ў казну паступіць не паспела і знаходзілася ў пажыццёвай уласнасці іх бацькоў[245], г.зн. пад забаронай. Гэты ўказ пабачыў свет 6 снежня 1862 г. Можна меркаваць, што яго палажэнні так і засталіся на паперы, бо літаральна праз некалькі месяцаў пасля яго з'яўлення, у Заходнім рэгіёне імперыі распачалася новая хваля канфіскацыі маёмасці.

Такім чынам, чарговы этап канфіскацыйнай палітыкі царызму быў звязаны з вызначэннем новых тыпаў палітычных "злачынстваў", за якія ў якасці санкцыі была прадугледжана гэта мера пакарання. Далейшае ўскладненне механізму пераходу прыватнаўласніцкай маёмасці ў разрад казённай, прывяло да закана-

---

[241] РГИА. Ф. 384, оп. 15,. д. 1242, л. 113–114.

[242] НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 175, арк. 289, 293; РГИА. Ф. 384, оп. 15,. д. 1242, л. 113–114.

[243] LVIA. F. 525, ap. 18, b. 595; F. 525, ap. 1, b. 694; НГАБ у Гродне. Ф. 31, воп. 2, спр. 666, 667.

[244] ПСЗРИ (собрание второе). Т. XXXIV, № 34881.

[245] LVIA. F. 525, ap. 1, b. 896, l. 1.

даўчага замацавання трохступеньчатай (забарона — секвестр — канфіскацыя) мадэлі пазбаўлення маёмасці. Разам з тым, у яе рамках царскія ўлады даволі часта перавышалі ступень дапусцімага ўмяшальніцтва па распараджэнню ўласнасцю асоб, аб якіх не было прынята канчатковага рашэння аб пазбаўленні іх маёмасці.

Значнаму змяненню, у параўнанні з папярэднім пярыядам, была падвергнута сістэма кіравання канфіскаванымі маёнткамі. Адной з вызначальных рыс гэтага працэсу становіцца імкненне царызму да максімальнага забеспячэння інтарэсаў казны за кошт маёмасці, якая канфіскоўвалася. Адсюль вынікае і полівараыянтнасць спосабаў (арэнда, продаж, перадача розным дзяржаўным установам, адміністрацыйнае кіраванне і г.д.) распараджэння падобнай уласнасцю. Азначаная тэндэнцыя вяла да замаруджвання тэмпаў гаспадарчага развіцця маёнткаў, разбурэння іх інфраструктуры.

## ПРАБЛЕМА КАНФІСКАВАНЫХ МАЁНТКАЎ У ДЫСКУРСЕ ІМПЕРСКІХ УЛАДАЎ

Будучыня канфіскаваных маёнткаў стала прадметам гарачых дыскусій у асяроддзі расейскай уладнай вярхушкі. Адсутнасць адзінага падыходу да вырашэння дадзенага пытання, наяўнасць розных падыходаў іх загаспадарання сталі адной з прычын непаслядоўных і нават супярэчлівых дзеянняў царскіх уладаў у гэтым накірунку.

Падставу ўрадавай палітыкі ў дачыненні да канфіскаваных маёнткаў заклалі імператарскія ўказы і правілы аб секвестры і канфіскацыі маёнткаў ад 17 ліпеня 1831 г. Аднак ніводзін з гэтых дакументаў не рэгуляваў прававы статус маёмасці і сялян, якія з'яўляліся неад'емнымі часткамі гэтага тыпу валоданняў. Дыскусіі, што разгарнуліся вакол іх будучага лёсу, выяўляюць вялікі спектр меркаванняў, якія існавалі ў ўрадавых колах як па гэтым прадмеце, так і ў адносінах да беларускіх земляў у цэлым. Менавіта ў вырашэнні пытання канфіскаваных маёнткаў на першы план высоўваюцца русіфікатарскія праявы ўрадавай палітыкі.

У пачатку 30-х гадоў XIX ст. Сяргей Увараў фармулюе сваю знакамітую трыяду, якая на пэўны час становіцца ўвасабленнем нацыянальных памкненняў Расейскай дзяржавы. У аснову гэтай дактрыны былі пакладзены тры асноўныя прынцыпы: "праваслаўе", "самаўладдзе і прыгонніцтва", а таксама "народнасць". Апошняе з гэтых палажэнняў было непадзельна звязана з ідэяй дзяржаўнасці, якая займала галоўнае месца ў канцэпцыі С. Уварава. Міністр адукацыі, а за ім і іншая эліта ўладных структур, меркавалі, што можна "сілком прышчапіць рускую культуру палякам, прыбалтам, габрэям, азіяцкім плямёнам і такім чынам зрабіць іх годнымі грамадзянамі, ці, кажучы інакш, нярускіх пераўтварыць у рускіх"[246]. І хаця галоўным сродкам дасягнення пастаўленай мэты С. Увараў лічыў усё ж адукацыю, русіфікацыя шматнацыянальных ускраін імперыі адбывалася і па іншых каналах.

Актыўны ўдзел у фармаванні новай палітычнай дактрыны ў дачыненні да "новадалучаных земляў" прымалі не толькі вышэйшыя эшалоны ўлады, напрыклад, разнастайныя міністэрствы, Камітэт па справах заходніх губерняў,

[246] Виттекер Ц. Граф С. Уваров и его время. СПб.,1999. — С. 125–126.

але і больш дробнае чыноўніцтва. Адбывалася гэта шляхам прадстаўлення ў вышэйшыя інстанцыі ўласных праектаў па пераўтварэнні заходніх губерняў імперыі. Не апошняя роля ў такіх планах адводзілася спробам прыцягнуць на новыя землі так званы "рускі элемент" дзеля забеспячэння хутчэйшага абрусення вызначанай тэрыторыі.

Асноўная палеміка 30–40-х гадоў XIX ст. аб спосабах укаранення "рускага элемента" разгортвалася вакол дзяржаўных земляў і маёнткаў, што былі канфіскаваны ў памешчыкаў за ўдзел у паўстанні. Першая спроба вызначэння будучага лёсу канфіскаваных маёнткаў на тэрыторыі Літвы і Беларусі адносіцца да снежня 1830 г., часу, калі яшчэ ніхто з пэўнасцю не мог прадказаць, ці паўстанне на гэтых землях увогуле адбудзецца. У сваіх выкладзеных у пісьмовай форме меркаваннях "на выпадак канфіскацыі маёнткаў польскіх мяцежнікаў у Літве" міністр фінансаў Ягор Канкрын, разважаючы адносна верагодных канфіскацый у гэтым рэгіёне, разглядаў розныя магчымасці вырашэння лёсу падобных зямельных валоданняў. Адхіліўшы на самым пачатку як непрымальныя варыянты асабістага вызвалення сялян гэтых маёнткаў, альбо нават іх далучэння да казённага саслоўя, міністр фінансаў схіляўся да практыкі аднаўлення эмфітэўтычнага права. Прапанова Я. Канкрына заключалася ў тым, каб падобныя маёнткі, пасля правядзення ў іх люстрацыі, аддаваліся ў доўгатэрміновую арэнду на 50 год. Такім чынам, лічыў міністр, можна было б часткова дасягнуць і мэты "памножыць у тым краі колькасць рускіх дваран"[247].

"Клопат" міністра пра лёс канфіскаваных маёнткаў быў падхоплены шэрагам іншых чыноўнікаў на розных узроўнях улады. На пачатку 1831 г. магілёўскі цывільны губернатар Міхаіл Мураўёў прапанаваў Мікалаю І свае паслугі ў вызначэнні новых вектараў у дачыненні да "земляў ад Польшчы далучаных". У нататцы "Аб спосабах збліжэння Беларускага краю (да якога тады адносіліся толькі Віцебская і Магілёўская губерні — А. Р.) з Расеяй", якая пазней паступіла на разгляд у Камітэт па справах заходніх губерняў, М. Мураўёў выказаў свае меркаванні наконт спосабаў кіравання казённымі маёнткамі. У гэтай частцы яго прапановы зводзіліся да раздачы рускім казённыя маёнткі ў арэнду на спецыяльных падставах і на працяглы час "дзеля пасялення там рускіх сямействаў"[248].

Іншы варыянт адносна маёнткаў памешчыкаў, якія "дзеяннямі сваімі парушылі прысягу", выклаў флігель-ад'ютант Канстанцін Апачынін. Прапанаваныя ім мерапрыемствы зводзіліся, па-першае, да канфіскацыі маёнткаў удзельнікаў паўстання, па-другое, да асабістага вызвалення сялян гэтых маёнткаў, па-трэцяе, да раздачы канфіскаваных маёнткаў рускім вайсковым чынам на правах маярату, без права далейшага іх продажу[249].

Аднак, ні праект М. Мураўёва, ні прапановы К. Апачыніна не знайшлі падтрымкі на вышэйшым узроўні. З аднаго боку, ідэі магілёўскага губернатара былі падвергнуты крытычным заўвагам статс-сакратара Дмітрыя Блудава, які лічыў, што раздача маёнткаў у арэнду не прывядзе да вызначанай мэты пасялення рускіх сем'яў. Са свайго боку (і яго пазіцыя была пазней ухвалена Камітэтам па

[247] РГИА. Ф. 560, оп. 22, д. 20, л. 106.
[248] РГИА. Ф. 1266, оп. 1, д. 9, л. 82.
[249] Белоруссия в эпоху феодализма… Т. 4. — С. 85.

справах заходніх губерняў), Д. Блудаў схіляўся да аднаўлення практыкі раздачы маёнткаў рускім чыноўнікам у вотчыннае валоданне. Зямельныя раздачы, па меркаванню статс-сакратара, павінны былі рэалізавацца невялікімі валоданнямі небагатым рускім служачым за асабістыя іх заслугі. Дзеля недапушчэння іх далейшага пераходу ў рукі "польскага элемента", згодна з гэтым праектам фактычна забараняўся іх продаж ці перадача ва ўласнасць іншым асобам[250].

З іншага боку, праект Апачыніна не знайшоў падтрымкі ў Ягора Канкрына. Міністр фінансаў падверг крытыцы яго палажэнні ў тым пункце, які тычыўся вызвалення сялян канфіскаваных маёнткаў ад прыгону. Як адзначалася вышэй, ён выступаў супраць гэтага кроку. Сваю пазіцыю ён аргументаваў тым, што "ў нас прыклад вызвалення раптам некаторай часткі літоўскіх сялян можа мець наступствы вельмі цяжкія..."[251]. Падобная пазіцыя Я. Канкрына звязана з эвалюцыяй яго поглядаў на праблему канфіскаваных сялян і маёнткаў у цэлым. Пасля задушэння паўстання, у адрозненне ад Мураўёва, Апачыніна і Блудава, ён прыйшоў да высновы аб неабходнасці пошуку апоры не сярод прыўнесенага дваранства, а сярод мясцовага сялянства. Вось чаму ён настойваў на хутчэйшым правядзенні люстрацыі[252].

Адсутнасць адзінай пазіцыі ў вышэйшых урадавых колах прывяла да таго, што пасля выдання ўказаў аб канфіскацыі ад 22 сакавіка 1831 г., 7 красавіка 1831 г., 6 мая 1831 г. і 17 ліпеня 1831 г. статус канфіскаваных маёнткаў заставаўся да канца не вызначаны[253]. Ад пазіцыі ўрада залежаў лёс больш чым 110 тыс. сялян. На самой справе ўлады, нягледзячы на тое, што "прапановы аб узмацненні вадварэння ў заходніх губернях рускіх сем'яў узніклі яшчэ раней, чым урад меў на ўвазе канфіскацыі"[254], аказаліся непадрыхтаванымі да вырашэння дадзенага пытання. Супрацьстаянне ў вышэйшых колах у дачыненні да канфіскацыі маёмасці знайшло сваё адлюстраванне ва ўсёй заканатворчай дзейнасці таго часу.

Пад уплывам Дмітрыя Блудава Камітэт па справах заходніх губерняў прытрымліваўся ідэі раздачы маёнткаў у леннае валоданне расейскім дваранам. У сувязі з гэтым Камітэтам быў прадпрыняты шэраг захадаў па перадачы канфіскаваных маёнткаў на асобых правах 250 рускім чыноўнікам[255]. Сустрэўшыся з крытыкай на вышэйшым узроўні, у 1832 г. змяніў свае пазіцыі адзін з галоўных тэарэтыкаў пераўтварэння Заходняга краю Міхаіл Мураўёў. У сваёй чарговай нататцы на імя імператара ён ужо не выступаў за перадачу казённых маёнткаў у доўгатэрміновую арэнду, адмовіўшыся на карысць раздачы падобных валоданняў у якасці маяратаў. Менавіта такая форма ўзнагароджвання за адданую службу рускіх чыноўнікаў, на яго думку, найбольш адпавядала задачам па зліццю гэтага краю з Расіяй. Падобных меркаванняў прытрымліваўся і сам імператар. 5 сакавіка 1832 г. на свет з'явілася распрацаванае Камітэтам па справах заходніх губерняў сакрэтнае палажэнне аб раздачы канфіскаваных у заходніх

---

250 Кернажыцкі К. Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. Мінск, 1935. — С. 254.

251 РГИА. Ф. 560, оп. 22, д. 20, л. 104.

252 Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2: 1772–1903. Мінск, 1940. — С. 335.

253 ПСЗРИ (собрание второе). Т. VI, № 4444, 4485, 4535, 4711.

254 РГИА. Ф. 1266, оп. 1, д. 8, л. 134.

255 Лепеш О. Комитет западных губерний... С. 40.

губернях маёнткаў расейскім дваранам у стогадовае арэнднае альбо спадчыннае валоданне. Закон прадугледжваў перадачу новым уладальнікам маёнткаў цэлымі фальваркамі альбо асобнымі гаспадаркамі з колькасцю сялян не менш за 300 душ. Забараняўся продаж ці перадача маёнткаў у чужыя рукі, каб "узмацніць колькасць прыродных расейскіх памешчыкаў"[256].

Але міністр фінансаў Ягор Канкрын не думаў мірыцца з падобным вырашэннем праблемы. Свае погляды ён аргументаваў тым, што ўраду больш важна "прывязаць масу тутэйшых рускіх людзей да Расіі, ... чым некаторае павелічэнне рускіх уладальнікаў"[257]. Імкнучыся на пэўны час адтэрмінаваць перадачу маёнткаў у вотчыннае валоданне, Я. Канкрын звязваў гэты крок урада з правядзеннем абавязковай люстрацыі адышоўшых да казны маёнткаў. Як вынік — 5 чэрвеня 1833 г. імператар зацвердзіў "Палажэнне аб люстрацыі канфіскаваных у заходніх губернях маёнткаў". Гэтае палажэнне, у сваю чаргу, ставіла раздачу маёнткаў у прамую залежнасць ад папярэдняга правядзення люстрацыі. У гэтым жа годзе па ініцыятыве ўсё таго ж Канкрына выйшла распараджэнне аб перадачы невялікіх канфіскаваных маёнткаў, што прыносілі прыбытак не больш за 1 тыс. руб. срэбрам, у арэнднае ўтрыманне тэрмінам ад 3 да 6 гадоў[258].

Распачатая ў 1833 г. люстрацыя канфіскаваных маёнткаў не апраўдала тых спадзяванняў, што ўскладаліся на яе. Як адзначаў у сваёй нататцы будучы міністр Павал Кісялёў, "новыя інвентары ... наўрад ці змяншаюць сялянскія павіннасці ... і перавышаюць усе тыя, якія да гэтага існавалі"[259]. Далейшым вызначэннем лёсу такіх маёнткаў займаўся ўтвораны ў 1835 г. "Сакрэтны камітэт аб канфіскаваных маёнтках у вернутых ад Польшчы губернях". Мэты і задачы дзейнасці гэтага органа былі вызначаны вельмі маштабна. Яны заключаліся ў распрацоўцы на прыкладзе канфіскаванай маёмасці мер і спосабаў па змякчэнню і наступнай адмене прыгону ва ўсёй Расеі[260]. Адным з прыярытэтных кірункаў дзейнасці азначанага камітэта заставалася пытанне аб вызначэнні будучыні канфіскаваных у Заходнім краі маёнткаў. Абапіраючыся на ўжо прынятыя раней пастановы адносна адабраных у казну зямельных валоданняў, а таксама выконваючы непасрэдную волю Мікалая I, Сакрэтны камітэт распрацаваў "Правілы аддачы канфіскаваных маёнткаў у леннае валоданне", якія былі зацверджаны манархам 22 лютага 1836 г.[261]

Адразу ж пасля выдання "правіл" у заходніх губернях распачалася новая "узорная люстрацыя канфіскаваных валоданняў". Яна павінна была забяспечыць прадстаўленне сялянам грамадзянскіх правоў, надзяленне дастатковай колькасцю зямлі і перавод сялян на аброк[262]. Тым не менш, і гэтая спроба

---

[256] Дакументы і матэрыялы... Т. 2. — С. 352.

[257] Горизонтов Л. Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. Москва, 1999. — С. 125.

[258] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 257.

[259] РГИА. Ф. 1266, оп. 1, д. 7, л. 52.

[260] Неупокоев В. Новые данные о секретном комитете 1835 года «о новом устройстве управления казённых крестьян» // Материалы по истории сельского хозяйства и крестьянства СССР: Сб. ст. Вып. 9. Москва, 1980. — С. 173.

[261] РГИА. Ф. 384, оп. 1, д. 1899, л. 35.

[262] Неупокоев В. Новые данные о... С. 191.

не мела поспеху. У той жа час у Сакрэтным камітэце быў знойдзены яшчэ адзін варыянт кіравання канфіскаванымі маёнткамі. Згодна з прапановай гэтага органа, частка падобных валоданняў была перададзена ў падпарадкаванне ваеннаму ведамству. У Ваеннае міністэрства адыходзілі найбольш буйныя маёнткі на тэрыторыі Украіны, найменш абцяжараныя даўгамі, даходы з якіх паступалі непасрэдна ў распараджэнне азначанага ведамства. Гэта было адно з апошніх рашэнняў Сакрэтнага камітэта, пасля чаго ён, з прычыны не апраўдання ўскладзеных на яго спадзяванняў, сваю дзейнасць спыніў.

Новы этап у вырашэнні пытання аб канфіскаваных маёнтках звязаны з дзейнасцю начальніка V Аддзялення імператарскай канцылярыі, а ў наступным міністра дзяржаўнай маёмасці Паўла Кісялёва. Прымаючы ўдзел у працы Сакрэтнага камітэта, П. Кісялёў актыўна падтрымліваў яго захады па насаджэнню рускага вотчыннага землеўладання за кошт канфіскаваных маёнткаў на тэрыторыі Літвы, Беларусі і Украіны. Аднак, узначаліўшы ў 1837 г. Міністэрства дзяржаўнай маёмасці, новы міністр паступова эвалюцыянаваў у сваіх поглядах на пазіцыі, прыхільнікам якіх раней быў міністр фінансаў Ягор Канкрын. Пераломным ў гэтым працэсе можна лічыць 1839 г., калі П. Кісялёў выступіў з дакладам "Аб цяжкасцях уладкавання маяратаў з канфіскаваных маёнткаў". Асноўныя палажэнні гэтага дакумента зводзіліся да прапановы "пакінуць канфіскаваныя маёнткі ў агульнай масе казённых"[263].

З новых пазіцый міністр дзяржаўнай маёмасці даў рашучы адпор планам кіеўскага генерал-губернатара Дзмітрыя Бібікава, мінскага губернатара Аляксея Сямёнава, а пасля і ідэі віленскага генерал-губернатара Фёдара Мірковіча аб стварэнні тысячы рускіх маяратаў дзеля таго, каб "праз 25 гадоў уся польская нацыянальнасць загінула беспаваротна"[264]. Прынцыповая пазіцыя Паўла Кісялёва ў гэтым пытанні дапамагла яму дабіцца таго, што ў 1846 г. канфіскаваныя маёнткі на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны былі ўключаны ў склад дзяржаўнай маёмасці[265].

Адначасова са спробай уладкавання расейскага дваранства на землях Беларусі, з сярэдзіны 30-х гадоў XIX ст. прадпрымаліся захады па павелічэнні колькасці "рускага элемента" шляхам перасялення рускіх сялян на канфіскаваныя маёнткі і дзяржаўныя землі. Але і гэтыя праекты, нягледзячы на некаторыя спробы па іх ажыццяўленню, так і не дачакаліся сваёй рэалізацыі. Праграмы каланізацыі Заходняга краю 30–40-х гадоў XIX ст., па ацэнцы прыхільнікаў гэтых ідэй, "сталі ахвярай бюракратычнай перапіскі, расталі ў канцылярскай стыхіі: праект рускай зямельнай уласнасці ў Заходніх губернях меў вынікам уладкаванне двух маяратаў, каланізацыя сялян дала 158 сем'яў, што былі паселены ў Паўночна-Заходніх губернях"[266].

У 60-я гады XIX ст., пасля падаўлення паўстання 1863 г., нацыянальнае пытанне ў заходніх губернях стала адным з ключавых. І тады зноў свет уба-

---

[263] Неупокоев В. Позиция П.Д. Киселева в вопросе создания майоратов в западных губерниях // Из истории экономической и общественной жизни России. Москва, 1978. — С. 65.

[264] Фёдор Яковлевич Миркович. 1789–1866. Его жизнеописание, составленное по собственным его запискам, воспоминанием близких людей и подлинным документам. СПб., 1889. — С. 328.

[265] Сосна У. Фарміраванне саслоўна-групавога складу... С. 29.

[266] Станкевич А. Очерк возникновения русских поселений на Литве. Вильна, 1909. — С. 9.

чылі праекты 1830-х гадоў аб насаджэнні рускага землеўладання. Толькі цяпер гэта былі не проста планы, а старанна распрацаваная, разлічаная на доўгія гады ўрадавая палітыка. Як гэта ні дзіўна, але падобнае насаджэнне часткова адбывалася і за кошт маёнткаў, якія былі канфіскаваны яшчэ пасля папярэдняга паўстання. Перайшоўшыя да казны ў той час зямельныя валоданні, разам з іншымі дзяржаўнымі землямі на ільготных умовах аддаваліся "асобам рускага паходжання"[267].

Такім чынам, праблема канфіскаваных маёнткаў займала важнае месца ў палітыцы царызму на землях Беларусі. Дыскусія, якая разгарнулася вакол вызначэння іх будучага лёсу, выкрыла шырокі спектр меркаванняў адносна спосабаў вырашэння дадзенай праблемы. Выпрацаваныя ў рамках гэтай дыскусіі праекты па насаджэнні рускага элемента і русіфікацыі гэтага краю, пазней знайшлі сваё практычнае ўвасабленне пасля задушэння паўстання 1863 г.

У цэлым, праведзенае даследаванне працэсу станаўлення і развіцця інстытута пакарання ў выглядзе пазбаўлення маёмасці на беларускіх землях у канцы XVIII-першай палове XIX ст., дазволіла сфармуляваць шэраг палажэнняў:

— Канфіскацыя прыватнай уласнасці на тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. можа быць аднесена да ліку надзвычайных сродкаў унутранай палітыкі царызму. Выкарыстанне дадзенай меры пакарання ў гэты час адбывалася насуперак існуючай практыцы, якая не дапускала яе ўжывання ў падобным выглядзе. Спецыфіка канфіскацыі таксама была абумоўлена і тэрытарыяльным фактарам: у рамках дзеючай агульнарасейскай прававой сістэмы яе выкарыстанне было абмежавана выключна заходнімі губернямі, куды ўваходзілі і землі Беларусі.

Падобны адыход ад агульнадзяржаўных юрыдычных норм і практыкі быў выкліканы комплексам прычын, сярод якіх на першае месца трэба паставіць асаблівасць геапалітычнага размяшчэння заходняга рэгіёну. Наяўнасць блізкай мяжы давала магчымасць палітычным "злачынцам" укрыцца ў выпадку крымінальнага праследавання з боку расейскіх уладаў. У гэтым найбольш палітычна нестабільным рэгіёне імперыі ўсе віды пакаранняў, за выключэннем канфіскацыі маёмасці, аказваліся нядзейснымі.

Складванне падобнай спецыфікі ў выкарыстанні канфіскацыі на землях Беларусі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. адбывалася пастунова, у некалькі этапаў. Першы з іх па часе супадае з правядзеннем першага падзелу Рэчы Паспалітай. Гэта адзіны перыяд, адзначаны ўжываннем канфіскацыі на тэрыторыі Беларусі і сумежных тэрыторый у рамках агульнадзяржаўных юрыдычных норм Расейскай імперыі. На другім этапе (1794–1795 гады) закладваецца прававы прэцэдэнт ужывання гэтай меры пакарання. Дзеля абгрунтавання сваіх дзеянняў царскія ўлады карысталіся прававой эквілібрыстыкай, выбарачным прыпыненнем дзеяння некаторых норм агульнадзяржаўнага права ў адносінах да ўдзельнікаў паўстання 1794 г. Найбольш істотным этапам у развіцці заканадаўства аб канфіскацыі, на нашу думку, з'яўляліся 1809–1814 гады. У гэты час адбываецца распрацоўка новай заканадаўчай базы ўжывання дадзенага віду пакарання ў асобным рэгіёне імперыі. Пры гэтым захоўваліся агульнарасей-

[267] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 14, спр. 602, арк. 70.

скія нормы і прававая практыка, паводле якіх гэтая рэпрэсіўная мера ў падобным выглядзе не стасавалася. Працяг падобнай палітыкі назіраўся і ў 30–40 гады XIX ст. У рамках чацвёртага этапу адбывалася далейшае развіццё заканадаўства аб канфіскацыі, перанясення гэтай меры пакарання на новыя тыпы супрацьпраўных дзеянняў, што прывяло да канчатковай рэстаўрацыі прававой традыцыі выкарыстання пазбаўлення маёмасці за палітычныя злачынствы (напрыклад, "за бунт і ўдзел у ім"). Такая традыцыя больш адпавядала зместу гэтага віду пакарання ў папярэднія эпохі.

— У канцы XVIII-першай палове XIX ст. адбылася інстытуалізацыя канфіскацыі як адной з галоўных мер барацьбы царызму супраць нацыянальна-вызваленчага руху на землях Беларусі. На працягу гэтага часу ў выніку канфіскацый маёмасці пазбавілася 130 асоб, агульная лічба канфіскаваных прыватнаўласніцкіх сялянскіх душ перавысіла 85 тыс. Рэальныя маштабы канфіскацыйнай палітыкі царызму былі больш значнымі. Акрамя галоўнай рэпрэсіўнай функцыі, пакаранне пазбаўленнем маёмасці адыгрывала шэраг іншых, дадатковых роляў. Так, у перыяд разгортвання нацыянальна-вызваленчага руху, дамінуючай з'яўлялася прэвентыўная функцыя — не дапусціць да ўдзелу ва ўзброенай барацьбе найбольш заможныя слаі грамадства. Аналіз статыстычных дадзеных часоў паўстання 1831 г. дэманструе, што падобныя ўказы дасягнулі сваёй мэты.

Канфіскацыя была сродкам, які даваў магчымасць царызму папоўніць дзяржаўную казну, кампенсаваць страты, якія ён панёс падчас вядзення ваенных дзеянняў, выплаціць грашовыя прэтэнзіі трэцім асобам. Пакаранне пазбаўленнем маёмасці нанесла адчувальны ўдар па матэрыяльнай базе вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў, прычынілася да страт культурнай спадчыны Беларусі.

— За гэты час адбыліся адчувальныя змены ў структуры і форме механізму ажыццяўлення канфіскацыі маёмасці. Азначаная эвалюцыя выявілася ў перадачы функцый па рэалізацыі пастаноў аб канфіскацыі ад органаў вайсковай улады да спецыяльна створаных камісій і іншых падобных устаноў. У параўнанні з папярэднімі этапамі, на працягу першай паловы XIX ст. значнаму пашырэнню і дэталізацыі былі падвергнуты тыпы і склад маёмасці, якая падлягала канфіскацыі. У адпаведнасці з новай тыпалагізацыяй (грашовыя капіталы, гаспадарчы інвентар, асабістыя рэчы, каштоўнасці і г.д.) былі вызначаны розныя спосабы распараджэння падобнай маёмасцю. Дэталізацыя форм уласнасці, якая падлягала канфіскацыі, прывяла да распаўсюджвання гэтага віду пакарання на так званыя непадзельныя валоданні і маёнткі, уладальнікі якіх не паспелі ўступіць у свае спадчынныя правы. Адначасова ў механізме ажыццяўлення канфіскацыі вылучаюцца папярэднія і прамежкавыя ў адносінах да адабрання маёмасці ў казну стадыі — забарона і секвестр. У працэсе канфіскацыі іх месца змянялася, а роля пастаянна ўзрастала. Паслядоўнасць працэсу ажыццяўлення канфіскацыі была канчаткова замацавана толькі ў 1842 г.

— У выніку правядзення канфіскацый адбыліся змены ў саслоўна-групавым складзе сялянства беларускіх земляў, суадносінах дзяржаўнага і прыватнаўласніцкага землеўладання. Палітыка царызму ў вырашэнні лёсу канфіскаваных маёнткаў характарызавалася непаслядоўнасцю, адсутнасцю адзінага погляду на гэтую праблему. У канцы XVIII ст. маёнткі, што пераходзілі да казны, у адпаведнасці з агульнадзяржаўнай палітыкай падтрымкі дваранства, былі выкарыстаны для

адорвання расейскага набілітэту. Гэта прывяло да ўзнікнення на тэрыторыі Беларусі расейскага землеўладання і росту ўдзельнай вагі прыватнаўласніцкага сялянства. Канфіскацыя зямельнай уласнасці прыхільнікаў Напалеона ў 1809–1814 гады не мела значных наступстваў для сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў рэгіёне. Тым не менш, яна з'яўлялася важным этапам на шляху выпрацоўкі новых падыходаў па распараджэнню падобнай маёмасцю. Вяртанне ўсёй маёмасці асобам, якія выступілі на баку Напалеона, было выклікана спробамі Аляксандра I рэалізаваць уласныя геапалітычныя планы адносна земляў былога ВКЛ і пошукам надзейнай сацыяльнай базы падтрымкі ў выглядзе мясцовага дваранства.

Пасля задушэння паўстання 1830–1831 гадоў адной з вызначальных рыс палітыкі царызму ў адносінах да маёмасці, якая канфіскоўвалася, становіцца забеспячэнне інтарэсаў казны. Адсюль вынікае і поліварыянтнасць спосабаў распараджэння падобнай маёмасцю: арэнда, продаж, перадача розным дзяржаўным установам, адміністрацыйнае кіраванне і г.д. Дыскусія, якая разгарнулася вакол вызначэння лёсу канфіскаваных маёнткаў, выкрыла шырокі спектр меркаванняў. Выпрацаваныя ў рамках гэтай дыскусіі праекты па насаджэнню рускага элемента і русіфікацыі краю, пазней знайшлі сваё практычнае ўвасабленне пасля задушэння паўстання 1863 г.

# РАЗДЗЕЛ 2

# ССЫЛКА Ў СІСТЭМЕ РЭПРЭСІЎНЫХ МЕР ЦАРЫЗМУ

## ЮРЫДЫЧНА-ПРАВАВЫЯ ПАДСТАВЫ ЎЖЫВАННЯ ССЫЛКІ ЗА ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ

Ссылка (у розных яе відах) з'яўлялася асноўнай мерай пакарання за палітычныя злачынствы ў Расейскай імперыі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. Найбольш поўна азначаная яе праява была рэалізавана царызмам у заходнім рэгіёне імперыі — на тэрыторыі сучаснай Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы. Распачатая яшчэ да ўключэння гэтых зямель у склад Расейскай дзяржавы, падчас пакарання ўдзельнікаў Барскай канфедэрацыі, яна, спазнаўшы некаторую ўнутраную і знешнюю эвалюцыю на працягу ўсяго азначанага перыяду, дасягнула свайго апагею ў перыяд масавай дэпартацыі дзясяткаў тысяч жыхароў гэтых земляў падчас і пасля задушэння паўстання 1863 г.

Даследаванне ссылкі як гісторыка-прававога элементу, на нашу думку, не можа абмяжоўвацца выключна юрыдычнымі нюансамі яе выкарыстання на беларускіх землях у вызначаны перыяд часу. Несумненна, правядзенне прававога аналізу асноўных элементаў, звязаных з дадзенай мерай пакарання, з'яўляецца важнай часткай яе вывучэння. Але разам з тым, азнаямленне з ссылкай дае нам магчымасць больш поўна асэнсаваць нацыянальна-вызваленчы рух ва ўсёй яго сукупнасці, а таксама выявіць пэўныя яго адметнасці. Гэта тычыцца асноўных выпадкаў стасавання царызмам высылкі палітычных "злачынцаў" у Сібір і іншыя рэгіёны імперыі, увядзення ў навуковы зварот матэрыялаў судова-следчых спраў, аналізу спосабаў вядзення следства і ажыццяўлення пакарання (у тым ліку і тых, што прызначаліся ў якасці дадатковых), а таксама дадзеных аб асобах, што былі падвергнуты азначанаму віду рэпрэсій і г.д. Даследаванне асобных, канкрэтных выпадкаў стасавання царызмам высылкі дае нам магчымасць параўнаць фармальны (юрыдычны) бок справы з яе арганізацыяй на практыцы, а таксама вылучыць пэўныя асаблівасці і заканамернасці гэтага працэсу.

Падставай для вывучэння ссылкі ў вызначаны перыяд з'яўляюцца судова-следчыя справы тых гадоў. Але разам з тым, у першай палове XIX ст. дадзены від рэпрэсій паступова выйшаў за межы, што былі акрэслены выключна юрыдычнымі нормамі і практыкай яго стасавання. У гэты час ссылка паступова становіцца часткай культурнай спадчыны, знайшоўшы сваё адлюстраванне ў розных жанрах літаратуры (мемуарнай, эпісталярнай, мастацкай[268]), фальклору, жывапісу і інш. Дадзеная мера

---

[268] У якасці ілюстрацыі да гэтага сцвярджэння можна прывесці ўрывак з сатырычнага верша, які быў знойдзены падчасператрусу ў калежскага сакратара В. Жыготы ў Мінску ў 1845 г. (паколькі польскамоўны арыгінал у справе адсутнічаў, то ўрывак падаецца ў тагачасным перакладзе на рускую мову):

*...Не беспокоюсь, какое ожидает наказание*

*Рудокопни, Сибирь или цепи*

пакарання, на думку некаторых былых ссыльных, адыграла ролю "найвялікшага з універсітэтаў" у іх жыцці[269]. Больш таго, ссылка трывала замацоўваецца ў свядомасці тагачаснага грамадства. Дамоклавым мячом яна вісела над усімі, хто выходзіў на шлях змагання, і разам з тым, успрымалася як адзнака сапраўднага патрыятызму ў дачыненні да тых асоб, хто зведаў яе на ўласным досведзе. Усё гэта дае нам магчымасць зірнуць на ссылку "знутры", вылучыць яе некаторыя нефармальныя аспекты, а таксама параўнаць і верыфікаваць дадзеныя, што паходзяць па гэтым прадмеце з крыніц афіцыйнага характару.

Ссылка, як адзін з відаў пакарання злачынцаў ці палітычных праціўнікаў рэжыму, не з'яўлялася эксклюзіўным прадуктам расейскай карнай сістэмы. Яе стасаванне вядома са старажытных часоў, а юрыдычнае замацаванне адбывалася ў заканадаўстве антычных дзяржаў (Грэцыя, Рым). У заходнееўрапейскай прававой традыцыі дадзеная мера пакарання таксама атрымала даволі шырокае распаўсюджанне, асабліва ў Новы Час. У асноўным ссылка выкарыстоўвалася ў краінах з развітай каланіяльнай сістэмай: Вялікабрытаніі, Францыі, Іспаніі і інш. Тут, акрамя рэпрэсіўнай, яна выконвала важную функцыю па асваенню новых тэрыторый[270].

Як адзначаюць некаторыя даследчыкі дадзенай праблемы, ссылка ў Расейскай імперыі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. з'яўлялася перажыткам феадальнай сістэмы пакаранняў[271]. Тым не менш, менавіта ў гэты час яна замацоўваецца ў прававым полі краіны ў якасці асноўнай меры ўздеяння за крымінальныя (і не толькі) злачынствы[272]. Дадзеная форма рэпрэсій становіцца найбольш пашыранай санкцыяй за розныя тыпы супрацьпраўных дзеянняў у кадыфікаваным Зводзе законаў 1832 г. і ва Улажэнні аб пакараннях крымінальных і выпраўленчых 1845 г. Заканадаўчыя акты Расейскай імперыі прадугледжвалі яе выкарыстанне як за найбольш цяжкія злачынствы, так і за некаторыя віды правіннасцей. Яна ўжывалася як у судовым, так і ў па-за судовым парадку. Апошняе, напрыклад, выяўлялася ў праве памешчыкаў высылаць сваіх прыгонных без суда і следства так званым адміністратыўным спосабам. Паколькі дзеянне расейскай заканадаўчай сістэмы было распаўсюджанае на беларускія землі, то мясцовыя землеўладальнікі ахвотна на практыцы карысталіся гэтымі нормамі для расправы з сялянамі, якія ім не падпарадкоўваліся.

Нягледзячы на тую ролю, якую адыгрываў дадзены від рэпрэсій у прававой сістэме імперыі, да пачатку XIX ст., у цэлым ссылка не была заканадаўча ква-

*Я всегда верноподданный*
*Трудится буду для царя*
*Имея молоток в рудокопни железный*
*Подумаю за работой о царе*
*И с куска железа после*
*Сделаю... топор...*
*Когда же я буду на поселеньи...* і г.д. (гл. LVIA. F. 378, ap. 53, b. 1937, l. 6)

[269] Janion M. Wallenrodowie linii Orenburskiej // Przegląd Wschodni, 1991, T. 1, z. 2. — S. 315.

[270] Фойницкий И. Ссылка на Западе в ея историческом развитии и современном состоянии. Спб., 1881. — С. 275–276.

[271] Рощевская Л. Революционеры-разночинцы в Западносибирском изгнании. Ленинград, 1983. — С. 26.

[272] Упоров И. Пенитенциарная политика России в XVIII–XX вв. Историко-правовой анализ тенденций развития. СПб., 2004. — С. 125.

ліфікавана. Склад злачынстваў, тэрміны і месцы адбыцця пакарання, спосабы этапіравання і інш. падобныя дэталі вызначаліся адмысловымі заканадаўчымі актамі, якія мелі прэцэдэнтны характар. Важным крокам на шляху прававога афармлення азначанай карнай нормы стала прыняцце асобнага Статута аб ссыльных 1822 г. і Статута аб этапах, якія разам утрымлівалі больш за тысячу артыкулаў[273]. У далейшым Статут аб ссыльных неаднаразова дапаўняўся, рэдагаваўся, перавыдаваўся і ўключаўся ў розныя кадыфікаваныя прававыя зборнікі, сярод якіх быў і Звод законаў 1832 г.[274]

Адной з галоўных прычын, што абумовіла дамінуючую ролю ссылкі ў сістэме пакаранняў, была неразвітасць турэмнай сістэмы ў цэлым. У сілу шэрагу асаблівасцей развіцця прававой базы папярэдняй эпохі, а таксама наяўнасці пэўных адметнасцей геаграфічнага характару, турмы ў Расейскай імперыі да сярэдзіны XIX ст. нават тэарэтычна не разглядаліся ў якасці асноўных устаноў пенітэнцыярнага тыпу для адбыцця пакарання. Іх галоўным прызначэннем было абмежаванне свабоды на час вядзення судова-следчых працэдур, пасля чаго арыштанты або вызваляліся з-за адсутнасці віны, альбо падвяргаліся нейкай іншай меры адказнасці ў адпаведнасці з існуючымі нормамі права. Сітуацыя ў гэтай сферы пачала мяняцца толькі пасля ўвядзення новага крымінальнага Улажэння 1845 г.[275] Але канчатковы зрух на карысць турэмнага пакарання ў пенітэнцыярнай сістэме імперыі адбыўся толькі ў другой палове XIX ст.

Ссылка з'яўлялася адным з найбольш цяжкіх пакаранняў, што былі прадугледжаны тагачасным расейскім заканадаўствам. Згодна з адмысловай "лесвіцай пакаранняў", якая ўяўляла сабой градацыю санкцый за тыя ці іншыя супрацьпраўныя дзеянні, у XIX ст. найбольш жорсткім відам крымінальных і выпраўленчых норм была смяротная кара. На наступных прыступках гэтай іерархічнай сістэмы знаходзіліся розныя віды ссылкі. Паколькі ўжыванне вышэйшай меры ў Расейскай імперыі ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. мела досыць абмежаваны характар, то звычайна падчас канфірмацыі канчатковага вердыкту, апошняя, як правіла, замянялася тым ці іншым відам ссылкі. Падобная практыка была нават замацавана на заканадаўчым узроўні ў ваенна-крымінальным Статуце 1839 г. (Кн. 1, арт. 171)[276].

Наяўнасць у тагачаснай прававой сістэме імперыі кваліфікаванай ссылкі давала магчымасць судовым інстанцыям досыць шырока вар'іраваць меры адказнасці ў залежнасці ад тыпу злачынства і спадарожных яму абставін. Акрамя вызначаных вышэй фактараў, яе цяжкасць магла рэгламентавацца і тэрмінам адбыцця, а таксама і геаграфічнай аддаленасцю месца пакарання на Усход. Напрыклад, высылка ў Табольскую ці Томскую губ. (Заходняя Сібір) лічылася больш лагоднай формай пакарання, чым аналагічны від прымусовай дэпартацыі ў Іркуцкую ці Енісейскую губ[277]., не кажучы ўжо аб цэнтральных губернях імперыі.

---

[273] Фойницкий И. Учение о наказании в связи с тюрьмоведением. Спб., 1898. — С. 279.

[274] Степанова Н. Каторга первой половины XIX века: проблема формиования новой концептуальной модели российского законодательства [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.penpolit.ru/news-item-20090+M545fc9778b9.html

[275] Упоров И. Пенитенциарная политика… С. 151; Фойницкий И. Учение о наказании… С. 317.

[276] LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236, l. 92.

[277] Российское законодательство… Т. 6. — С. 178, 181.

У адпаведнасці з унутранай градацыяй дадзенага віду пакарання, найбольш цяжкай з'яўлялася ссылка на *катаргу*. Тая, у сваю чаргу, таксама падраздзялялася на некалькі катэгорый. У палітычных справах тых часоў сустракаюцца выракі, якія прадугледжвалі аддачу на катаржныя работы ў руднікі, крэпасці, на заводы. Акрамя таго, катарга магла быць ці бестэрміновай, ці на вызначаны прысудам пэўны час. У першым з гэтых выпадкаў тэрмін пакарання звычайна вызначаўся начальствам той пенітэнцыярнай установы, да якой адносіўся асуджаны ў залежнасці ад "ступені яго выпраўлення". Адметна, што пасля адбыцця катаргі асуджаны не меў права вяртацца дадому, а мусіў і надалей заставацца ў Сібіры, але ўжо ў іншым статусе. Наступнай у гэтай іерархіі з'яўлялася ссылка на *аселасць* (поселение) у Сібір. Гэты від рэпрэсіі абавязкова суправаджаўся некаторымі дадатковымі карамі ў адносінах да асуджанага, а таксама прадугледжваў яго абавязак працаваць (звычайна на зямлі)[278].



*"На катарзе" ("Наша Ніва", 1906 г.)*

Да наступнай групы выпраўленчых пакаранняў адносіліся ссылка на *жыхарства* (жительство) і *жыццё* (житьё). Гэта былі блізкія па зместу віды, асноўнае адрозненне паміж якімі заключалася ў тым, што другі з іх прадугледжваў пазбаўленне асуджанага ўсіх правоў і прывілеяў (преимуществ)[279]. Акрамя таго, расейская карная сістэма ведала і іншыя формы пакарання ў выглядзе высылкі, але яны не выкарыстоўваліся царызмам у прысудах па палітычных справах у той перыяд на беларускіх землях.

Разам з тым, практыка палітычных працэсаў канца XVIII-першай паловы XIX ст. ведала іншыя віды рэпрэсій, якія па сваёй форме і зместу

---

278 Латкин В. Учебник истории русского права… С. 436.

279 Śliwowska W. Polscy zesłańcy polityczni na Sybirii w pierwszej połowie XIX wieku. Mity i rzeczywistość // Przegląd Wschodni, 1991, T. 1, z. 2. — S. 243–244; Кононова Л. Ссылка участников польского восстания 1863–1864 гг. (по материалам Архангельской губернии): Дис. … канд. ист. наук. Архангельск, 2004. — С. 45–47.

вельмі набліжаны да ссылкі. Сярод іх найбольш пашыраным была *аддача ў салдаты* (матросы). Канечне, лічыць дадзены тып пакарання адным з відаў ссылкі не зусім карэктна. У той жа час, па некаторых фармальных характарыстыках (перш за ўсё, паводле такой прыкметы, як перамяшчэнне той ці іншай асобы па рашэнню суда ці іншага судова-следчага органа ў аддалены раён) яны вельмі набліжаныя адзін да аднаго. Польскі даследчык гэтага пытання Веслаў Цабан звяртае ўвагу на іншае падабенства: асуджаныя да аддачы ў Арэнбургскі корпус частку шляху да месца службы адбывалі закутыя ў ланцугі[280]. Таксама пэўная тоеснасць паміж вышэй згаданымі відамі рэпрэсій вынікае з практыкі ўзаемазаменнасці паміж імі. Як вынікае са следчых спраў тых гадоў, досыць часта ў выпадку няздольнасці асуджанага па нейкіх прычынах несці вайсковую службу, яго падвяргалі аднаму з відаў ссылкі. І наадварот — асуджаных на катаргу маглі (улічваючы, напрыклад, іх малады ўзрост) накіраваць у дзеючую армію (флот), ці выслаць у аддалены вайсковы корпус. Пры гэтым хацелася б звярнуць увагу, што дадзены тып пакарання, хоць ён *a priori* здаваўся менш жорсткім, чым тая ж ссылка, на практыцы амаль заўсёды аказваўся нават больш цяжкім за катаргу[281].

Акрамя таго, ужо ў першай палове XIX ст. царызмам пачынае выкарыстоўвацца такі від рэпрэсій, як аддача ў *арыштанцкія роты* (цывільнага або вайсковага ведамства). Падобныя пенітэнцыярныя ўстановы пачалі ствараццa ў 1820–1830-ыя гады па ініцыятыве Мікалая І. Сваім з'яўленнем яны былі "абавязаны" таму факту, што апарат ссылкі ўжо не спраўляўся з вялікай колькасцю асуджаных. Асноўнымі мэтамі, якія разам з тым рэалізоўвалі ўлады, — былі скарачэнне выдаткаў на перасылку арыштантаў у Сібір і выкарыстанне іх прымусовай працы для добраўпарадкавання тых гарадоў, дзе яны размяшчаліся[282]. Пры гэтым свабода асоб, якія накіроўваліся ў арыштанцкія роты, была абмежавана праз утрыманне іх у астрозе.

У пераліку крымінальных пакаранняў арыштанцкія роты займалі трэцяе месца па ступені жорсткасці (пасля вышэйшай меры і катаржных работ) і суправаджаліся збіццём асуджаных розгамі (шпіцрутэнамі)[283]. Асноўным адрозненнем паміж азначанымі ўстановамі ваеннага і цывільнага ведамства было тое, што першыя з іх выкарыстоўваліся для пакарання вайскоўцаў, якія здзейснілі крымінальныя ці воінскія злачынствы. Але, нягледзячы на гэта, сустракаюцца прыклады, калі ў падобныя ўстановы траплялі асобы цалкам цывільныя (асабліва за датычнасць да паўстання 1831 г.). Тэрміны, якія вызначаліся асуджаным, вар'іраваліся ад 2-х да 10-х гадоў. Пасля вызвален-

---

[280] Caban W. Służba rekrutów z Królewstwa Polskiego w armii carskiej w latach 1831–1873. Warszawa, 2001. — S. 110.

[281] Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowie XIX wieku. Warszawa, 1998. — S. X–XI; Kuczyński A. Syberia. Czterysta lat polskiej diaspory, Wroclaw-Warszawa. 1993. — S. 70; Максимов С. Сибирь и каторга. Ч. 3. Политические и государственные преступники. Спб. 1871. — С. 42.

[282] Пичугина В. Арестантские роты как форма репрессий по отношению к участникам Январского восстания. // Powstanie Styczniowe 1863–1864. Walka i uczestnicy. Represje i wygnanie. Historiagrafia i tradycja. Kielce, 2005. — С. 130.

[283] Рассказов Л., Упоров И. Исправительные арестантские роты гражданского ведомства как вид лишения свободы в российском праве XIX в. // Известия высших учебных заведений. Правоведение, 2000, № 4. — С. 180.

ня ад работ у папраўчых арыштанцкіх ротах, асуджаныя, як правіла, не маглі адразу вярнуцца на радзіму, а пераводзіліся ў адзін з разрадаў ссыльных. Асноўнымі месцамі, куды траплялі пакараныя за палітычныя "злачынствы" жыхары Беларусі ў першай палове XIX ст., былі Дынабургская, Бабруйская, радзей Кіеўская ці Кранштацкія адпаведныя роты[284].

Вывучэнне справаводства па справах тайных таварыстваў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў першай палове XIX ст., дазваляе нам вылучыць яшчэ адзін від дадзенага пакарання, а менавіта *завуаліраваную* ссылку. Яна мела месца ў тых выпадках, калі царызм пад выглядам нейкага больш лагоднага віду пакарання (напрыклад, аддача на грамадзянскую службу) фактычна выкарыстоўваў ссылку. Дадзеная выснова вынікае з таго, што падобнае прызначэнне рабілася ў якасці пакарання, а месцам службы вызначаліся аддаленыя ад радзімы рэгіёны[285]. Так, напрыклад, было ў выпадку з філаматамі/філарэтамі, тайным таварыствам студэнтаў у Дэрпцкім універсітэце (справа Караля Хільдэбранда (Гільдэбрандта), у іншых асобных выпадках, калі віна той ці іншай асобы не магла быць даказана.

Аналіз самога тэрміна "ссылка" і практыкі яго ўжывання ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. сведчыць, што ў некаторых выпадках пад ім (асабліва ў сённяшні час) разумеюць царскую "апалу". У якасці прыкладу падобнага семантычнага налажэння гэтых двух тэрмінаў, можна прывесці вядомыя ўсім выпадкі "ссылкі" Аляксандра Пушкіна (высланы ў свой маёнтак з забаронай жыць у сталіцах), Міхаіла Сперанскага (Ніжні Ноўгарад, Перм) і іншых.



*Катаржнікі на нарах ("Типы и виды Нерченской каторги")*

Таксама ў даследаванні дадзенага пытання, на нашу думку, неабходна выразна размежаваць ссылку і дэпартацыю ваеннапалонных. Апошняя мела масавы характар падчас напалеонаўскіх войнаў у 1812–1813 гадах і падчас задушэння паўстання 1831 г. У першым выпадку тысячы былых салдат Вялікай арміі пад ваенным канвоем былі накіраваныя ў розныя рэгіёны Расейскай імперыі. Паколькі падобныя асобы апынуліся ў глыбі Расеі ў выніку баявых дзеянняў (трапіўшы ў палон), у навуковай літаратуры паўсюдна для вызначэння іх статусу ўжываецца тэрмін "ваеннапалонныя" — POW (Prisoners of war). Тое

[284] Caban W. Służba rekrutów z Królewstwa Polskiego… S. 93.

[285] НГАБ Ф. 297, воп. 1, спр. 5561, арк. 20; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 503; Ф. 1, воп. 2, спр. 246, арк. 221.

самае адносіцца і да часоў паўстання 1831 г., калі салдаты былой арміі Каралеўства Польскага без аніякіх судовых разбіральніцтваў у масавым парадку інтэрнаваліся на Каўказ, дзе станавіліся часткай расейскай арміі.

Сярод тых, хто падвяргаўся пакаранню ссылкай, было некалькі катэгорый: 1) высланыя ў адпаведнасці з судовымі пастановамі (пераважна ваенных судоў); 2) адасланыя на аселасць ці жыхарства пасля заканчэння тэрміну пакарання на катарзе ці ў арыштанцкіх ротах; 3) сасланыя адміністратыўным чынам, уключаючы выпадкі, калі нейкія судовыя ці следчыя органы прадстаўлялі вырашэнне лёсу той ці іншай асобы на "волю вышэйшага начальства" без папярэдняга аб ім заключэння (меркавання). На апошняй катэгорыі хацелася б спыніцца больш падрабязна. Справа ў тым, што адміністратыўная ссылка ажыццяўлялася ў па-за судовым парадку. Гэта азначае, што тую ці іншую асобу маглі выслаць, фактычна, без судовай пастановы і нават без доказаў віны, на падставе толькі нейкіх падазрэнняў, напрыклад, у палітычнай нядобранадзейнасці. Звычайна дадзеная форма пакарання ажыццяўлялася па распараджэнню вышэйшай улады. Кола асоб, якія маглі прымаць падобныя рашэнні, у імперыі было досыць абмежаваным: імператар, яго намеснік у Польскім Каралеўстве, галоўнакамандуючы той ці іншай арміяй. У 1850 г., пасля настойлівых зваротаў да Мікалая I, такое права атрымаў віленскі генерал-губернатар Ілля Бібікаў. Пільная патрэба ў дадзенай меры тлумачылася ім неабходнасцю барацьбы з распаўсюджаннем "крамолы" ў краі[286]. Разам з тым, трэба адразу адзначыць, што ў XVIII-першай палове XIX ст. прымусовае перасяленне ў па-за судовым парадку як форма рэпрэсій за палітычныя злачынствы, яшчэ не набыло таго маштабу, якое яно атрымала ў часы паўстання 1863–1864 г. і пасля яго задушэння.

Некаторыя расейскія даследчыкі вылучаюць палітычную ссылку ў якасці асобнага віду пакарання, якое толькі па форме супадала з ссылкай крымінальнай[287]. Як адзначае гісторык расейскага права Сяргей Кодан, у першай палове XIX ст. "для расправы з "палітычнымі і дзяржаўнымі злачынцамі" царызм вырашыў выкарыстоўваць толькі форму аднаго з найбольш старых пакаранняў Расіі — ссылку ў Сібір, напоўніўшы яе абсалютна новым зместам. Дзяржаўна-прававое выгнанне рэвалюцыянераў у Сібір было выключана з сістэмы агульнай ссылкі і старанна заканспіравана."[288] На нашу думку, падобнае сцвярджэнне з'яўляецца досыць дыскусійным. Несумненна, сістэма пакаранняў за палітычныя злачынствы мела сваю спецыфіку. Але ўсе асноўныя юрыдычныя нормы па гэтым пытанням рэгуляваліся агульнадзяржаўным заканадаўствам, якое, фактычна, не прадугледжвала выразнага падзелу супрацьпраўных дзеянняў на палітычныя, антыдзяржаўныя ці крымінальныя. І таму, нам падаецца, не зусім абгрунтавана сярод мноства санкцый, якія ў той час існавалі за супрацьпраўныя дзеянні, якія б сёння кваліфікаваліся як "палітычныя", вылучаць ссылку ў якасці адметнага віду пакарання. Было б у такім выпадку лагічна ў якасці асобных відаў рэпрэсій вылучаць "палітычнае смяротнае пакаранне", "палітычнае зняволенне ў турме" і пад.

---

[286] Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na Litwie i Białorusi 1846–1848. Warszawa, 1965. — S. 337.

[287] Кодан С. Политическая ссылка в системе карательных мер самодержавия первой половины XIX в. Иркутск, 1980. — С. 7–8; Рощевская Л. Революционеры-разночинцы в… С. 27; Кононова Л. Ссылка участников польского восстания… С. 41.

[288] Кодан С. Политическая ссылка в системе… С. 25.

Сярод тых функцый, якія выконвала ссылка ў вызначаны перыяд, на першае месца, канечне, трэба паставіць карную і ў меншай ступені выпраўленчую. Акрамя таго, пэўную ролю адыгрывала фіскальная функцыя. Апошняя заключалася ў выкарыстанні дзяржавай у сваіх інтарэсах таннай рабочай сілы ссыльнакатаржных. Куды большае значэнне для ўладаў мела каланізацыйна-гаспадарчае праяўленне ссылкі: засяленне і засваенне аддаленых ускраін краіны. Асобы, высланыя па палітычных матывах з тэрыторыі Беларусі і Літвы, канечне, не ў такой ступені, як крымінальныя, таксама прымалі ўдзел у каланізацыі слабазаселеных абшараў імперыі. Сярод іх былі тыя, хто даследаваў малавывучаныя мясцовасці і народы, і тыя, хто сваёй прымусовай працай удзельнічаў у распрацоўцы стратэгічна важных радовішчаў. Аналіз прысудаў па палітычных справах 30–40-х гадоў XIX ст. сведчыць, што ссыльныя, згодна з логікай царскіх уладаў, павінны былі дапамагчы вырашыць праблему вострага недахопу чыноўніцкіх кадраў ва ўсходніх губернях імперыі. Разам з тым, вывучэнне практыкі стасавання царызмам дадзенай меры пакарання на землях Беларусі, Літвы і Польшчы дазваляе нам вылучыць яшчэ адну функцыю, а менавіта прэвентыўную. Яна заключалася ў ссылцы "нядобранадзейных" элементаў дзеля недапушчэння іх імавернага ўдзелу ў антыўрадавых выступленнях[289]. Паколькі іншыя падобныя выпадкі выкарыстання дадзенай меры пакарання ў межах імперыі намі не сустракаліся, то можна зрабіць выснову, што азначаная функцыя мела лакальна-тэрытарыяльны характар і была ўласціва толькі заходняму рэгіёну дзяржавы.



*Від Нерчанскай катаргі ("Типы и виды Нерченской каторги")*

Разглядаючы юрыдычную спецыфіку ссылкі за палітычныя злачынствы на землях былога ВКЛ у вызначаны час, сярод іншага, хацелася б адзначыць шырокае выкарыстанне царскімі ўладамі не толькі цывільных, але пераважна ваенна-палявых законаў. У воінскіх артыкулах Пятра I 1715 г., ваенна-палявым Улажэнні 1812 г., ваенна-крымінальным Статуце 1839 г., дадзеная санкцыя хоць і не была прадстаўленая ў такім вялікім аб'ёме як у цывільна-крымінальным праве, але тым не менш таксама прысутнічала. Паколькі ў большасці выпадках судовыя працэсы канца XVIII-першай паловы XIX ст. па справах палітычнага характару

---

[289] LVIA. F. 378, ap. 38, b. 624, l. 1, 8, 13, 16, 21, 36, 11; LVIA. F. 380, ap. 121, b. 268, l. 2, 14, 18.

адбываліся пераважна паводле ваенных, а не цывільных норм права, то тут варта спыніцца на іх аналізе больш падрабязна.

Практыка ўжывання ваеннага заканадаўства ў цывільнай сферы ў Расейскай імперыі была замацавана адмысловым указам, які датуецца 1716 г.[290] Падобная неабходнасць была выклікана тым, што ў той час, калі яшчэ не была праведзена кадыфікацыя расейскага права, судовыя інстанцыі ў сваёй дзейнасці даволі часта спасылаліся на больш-менш зведзеныя да цэлага воінскія артыкулы. Такі парадак рэчаў захаваўся і ў першай палове XIX ст. Больш за тое, у перыяд панавання Мікалая I назіраўся працэс далейшага пашырэння падсуднасці крымінальных спраў ваенным судам. Гэтая тэндэнцыя наўпрост закранула і палітычныя працэсы. Так, напрыклад, калі па справах паўстанцаў 1794 г., удзельнікаў так званай "віленскай асацыяцыі 1796–1797 г.", судовыя пастановы выносіліся рознымі цывільнымі органамі, то пачынаючы з 30-х гадоў XIX ст., падобныя працэсы становяцца амаль што выключнай прэрагатывай вайсковых судовых устаноў. Менавіта тады іх юрысдыкцыя канчаткова распаўсюджвацца і на асоб, якія не мелі дачынення да вайсковага ведамства. Падставай для накіравання справы ў ваенны суд, як правіла, з'яўляўся склад здзейсненага злачынства — небяспека для грамадскага ці дзяржаўнага спакою[291]. Дадзеныя ўстановы з'яўляліся важным элементам рэпрэсіўнай палітыкі царызму на землях Беларусі ў вызначаны час, а таксама і ў наступныя перыяды.

У выпадку аддачы падследнага юрысдыкцыі ваенна-паляваго суда, у дачыненні да яго выкарыстоўвалася іншая форма судаводства, дзейнічаў адрозны склад суда. Апошні меў калегіяльны характар і складаўся са старшыні (у справаводстве таго часу больш часта выкарыстоўваўся тэрмін прэзус) і асэсараў (засядацелі). Усе яны былі вайскоўцамі, якія не мелі юрыдычнай адукацыі. Акрамя таго, пры кожным падобным органе знаходзіўся тэхнічны персанал (пратакаліст і ад'ютант). На тэрыторыі Беларусі і Літвы ў яго склад мог быць таксама ўключаны і перакладчык[292].

Згодна з існаваўшымі нормамі, ваенны суд павінен быў складацца з 13 асоб. Разам з тым, дапускаліся пасяджэнні і ў скарочаным выглядзе (у колькасці сямі чалавек). У кожным канкрэтным выпадку склад падобнага органа прызначаўся персанальна. У сувязі з тым, што суддзямі ў такіх ваенна-судных камісіях з'яўляліся не юрысты, а страявыя камандзіры (афіцэры), у дапамогу ім дадаваўся аўдытар (спецыяліст-юрыст). Пры гэтым апошні не з'яўляўся сябрам гэтага органа. Ён ажыццяўляў наглядальныя функцыі, павінен быў назіраць за правільным вядзеннем судаводства і сачыць за бесстароннасцю суда. У адрозненне ад суддзяў, функцыі аўдытара выконвалі цывільныя службовыя асобы[293].

Звычайна рашэнне (згода) на стварэнне ваенна-суднай камісіі (суда) у кожным канкрэтным выпадку прымалася на самым вышэйшым узроўні. Судовы орган ствараўся пры мясцовым ардананс-гаўзе (камендатуры), які, як правіла, размяшчаўся ў губернскім цэнтры ці пры ваеннай крэпасці. Дадзенай працэ-

---

[290] Столетие военного министерства. 1802–1902 гг., Кн. I, ч. I. Главное военно-судное управление. Исторический очерк. СПб., 1902. — С. 46

[291] Петухов Н. История военных судов России. Москва, 2005. — С. 40.

[292] LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236, l. 8.

[293] Петухов Н. История военных судов… С. 28.

дуры папярэднічала следчая работа цывільных органаў (звычайна адмысловых камісій), якія збіралі інфармацыю аб супрацьпраўнай дзейнасці абвінавачанага ці абвінавачаных, праводзілі іх допыты. Больш падрабязна адметнасці вышукова-следчай работы царскіх уладаў па палітычных справах будуць разгледжаны ніжэй. Пасля заканчэння папярэдняга збору інфармацыі цывільнымі ўстановамі, апрацаваныя імі звесткі па гэтым прадмеце прадстаўляліся ваеннаму начальству. У большасці выпадкаў гэта быў мясцовы ваенны губернатар (які, дарэчы, мог сумяшчаць гэтую пасаду з абавязкамі цывільнага губернатара). І ўжо гэтым органам улады прымалася рашэнне аб перадачы падследных (падследнага) юрысдыкцыі ваеннага суда. Падобная практыка захоўвалася нават падчас масавых працэсаў над удзельнікамі паўстання 1831 г. Таксама звяртае на сабе ўвагу і той факт, што цывільныя крымінальныя суды не маглі на прамую зносіцца з адпаведнымі ваеннымі інстанцыямі і перадаваць ім падсудных. Падобная практыка лічылася парушэннем існуючых нормаў і вяла да строгіх вымоў тым органам, якія спрабавалі дзейнічаць падобным чынам[294].

Праца ваеннага суда пачыналася з абраду прысягі, да якой суддзі прыводзіліся святаром: "Клянуся Святым пісаннем Усёмагутнага Бога і маім гонарам, што буду судзіць па лепшаму разуменню майму і сумленню..."[295]. Пры гэтай працэдуры прысутнічалі і падсудныя. На жаль, у нас не хапае дадзеных, каб дакладна вызначыць, ці заўсёды падобны абрад дакладна выконваўся. Таксама бракуе інфармацыі для вызначэння таго, ці валодалі ў першай палове XIX ст. падсудныя правам заяўляць адвод каму-небудзь з членаў ваенна-палявога суда. Дакладна вядома, што ў другой палове стагоддзя такая магчымасць у іх была прадугледжана.

Адным з адрозненняў дзейнасці ваенна-палявых судоў ад іх цывільных аналагаў была іх аператыўнасць. Звычайна канчатковы прысуд выносіўся на працягу досыць кароткага адрэзку часу (некалькі тыдняў). Пры тым што падсудныя маглі па некалькі разоў выклікацца на допыты для ўдакладнення той ці іншай інфармацыі, прыцягваліся дадатковыя сведкі[296]. Пры вынясенні канчатковага вердыкту, суддзі абапіраліся на нормы, замацаваныя ў воінскіх артыкулах Пятра I, марскім Статуце 1720 г. У 40–50-я гады XIX ст. на змену ім прыйшоў ваенна-крымінальны Статут 1839 г. У сувязі з тым, што да канца 30-х гадоў XIX ст. захоўвалася правамоцнасць артыкулаў 1715 г., у прысудах тых часоў можна сустрэць такія адгалоскі сярэднявечных пакаранняў, як чвартаванне, калесаванне, пазбаўленне жывата і інш. Акрамя таго, як адзначалася вышэй, пры вызначэнні канчатковай кары, нароўні з ваеннымі законамі, дадзеныя судовыя органы спасылаліся і на нормы цывільнага заканадаўства, напрыклад, на Улажэнне аб пакараннях крымінальных і выпраўленчых 1845 г., а таксама на адпаведныя ўказы імператара[297].

Усе асноўныя аспекты работы ваенна-палявога суда рэгламентаваліся Палявым крымінальным Улажэннем 1812 г. Так, пастановы па тым ці іншым эпі-

---

[294] LVIA. F. 381, ap. 6, b. 244, l. 1.

[295] LVIA. F. 378, ap. 41, b. 1429, l. 33.

[296] Kozlowska-Studnicka J. Materialy do sprawy Michała Wołłowicza 1833 r. Grodno, 1923. — S. 10–13, 24–25.

[297] LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236, l. 94, 95.

зодзе павінны былі прымацца судом калегіяльна. Калі нехта з яго членаў быў з рашэннем не згодны, ён мог выказаць сваю думку ў асобным меркаванні. Судовы вердыкт не з'яўляўся канчатковым. Хутчэй гэта была сентэнцыя, якая далей накіроўвалася ў вышэйшыя інстанцыі. Першай з іх былі мясцовыя вайсковыя чыны. Напрыклад, да сентэнцыі па ваенна-судовай справе Міхала Валовіча сваё меркаванне далучалі камендант Гародні, а таксама губернатар (Міхаіл Мураўёў)[298]. Далей, згодна з існуючымі правіламі, рашэнне павінна было паступіць на рэвізію ў адмысловы Аўдытарскі дэпартамент (з 1832 г. Генеральны Аўдытарыят)[299]. Але, як сведчыць практыка дзейнасці ваенна-палявых судоў на тэрыторыі Беларусі і Літвы, і да 1832 г., і пасля яго, гэтым займалася іншая інстанцыя падобнай кампетэнцыі — палявы Аўдытарыят. Праверка, якую ажыццяўляў дадзены орган, не з'яўлялася пустой фармальнасцю. У некаторых выпадках яму ўдавалася выявіць пэўныя неадпаведнасці ці факты, якія, урэшце, уплывалі на канчатковы вердыкт, і тым самым уратоўвалі падсуднага ад больш жорсткага пакарання, ці ўвогуле вызвалялі ад адказнасці[300].

На заключным этапе судовай працэдуры выпіска са справы, сентэнцыя, а таксама меркаванне мясцовага начальства і заключэнне Аўдытарыята паступалі на вышэйшую канфірмацыю. Апошняя заключалася ў вызначэнні лёса падсуднага шляхам замены прысуду, вызначанага камісіяй вайсковага суда, згодна з меркаваннем Аўдытара ці нейкага з вайсковых чыноўнікаў. У сувязі з гэтым, канчатковы прысуд амаль заўсёды быў больш лагодны за першапачатковую пастанову ваенна-суднай камісіі. На думку фіґуранта некалькіх палітычных працэсаў 1830–1840-х гадоў Станіслава Шумскага, жорсткія выракі папярэднія інстанцыі выносілі наўмысна, дзеля таго, каб імператар пасля меў магчымасць прадэманстраваць сваю ласку і спагаду[301]. Акрамя таго, у судаводстве тых гадоў сустракаюцца выпадкі, калі ваенныя суды, у сілу розных абставін, не маглі самастойна прыняць рашэнне па тым ці іншым эпізодзе і пакідалі яго "на меркаванне" вышэйшага начальства[302]. Правам канчатковага зацвярджэння і змянення рашэнняў ваенна-палявых судоў валодалі імператар, галоўнакамандуючы арміяй (ён па сумяшчальніцтву мог быць, напрыклад, намеснікам у Каралеўстве Польскім), і, верагодна, генерал-губернатар. У выніку ўсіх гэтых па-за судовых працэдур, канчатковы прысуд атрымліваўся не больш жорсткім, чым у выпадку, калі б дадзеная справа разглядалася цывільным ведамствам. У абсалютнай большасці эпізодаў такім вердыктам вызначаўся адзін з відаў ссылкі ці аддача ў салдаты.

Што праўда, у юрыдычнай практыцы Расейскай імперыі назіраліся і адхіленні ад падобных схем. Пры чым такія адыходы былі санкцыянаваны вышэйшай уладай. Так, напрыклад, у імператарскім указе ад 22 сакавіка 1831 г. прадпісвалася ўсіх дваран і шляхту, што прынялі ўдзел у паўстанні, судзіць ваенна-палявым судом. Пры гэтым загадвалася пастановы суда зацвярджаць (канфірмаваць)

---

[298] Kozlowska-Studnicka J. Materialy do sprawy… S. 28.
[299] Столетие военного министерства… С. 36–37, 146.
[300] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 377, 991.
[301] Shumski St. W walkach i więzieniach… S. 118
[302] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 681, 895, 991.

рашэннем атраднага начальства і выконваць іх на месцы. Менавіта такая, спрошчаная форма судаводства стварыла падставы для ажыццяўлення некалькіх смяротных прысудаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы вясной і летам 1831 г.

Усебаковы аналіз дзейнасці ваенна-палявых судоў не дае адназначнага адказу на пытанне аб сферы іх кампетэнцыі. Сярод тых спраў, што разглядаліся імі, сустракаюцца абвінавачванні ў бунце, здрадзе, падбухторванні, распаўсюджванні нядобранадзейных чутак, псаванні партрэта імператара, вяртанні эмігрантаў з-за мяжы, ілжывым даносе ці неданясенні, "абразе" манаршай асобы, чытанні "крамольных" папер, незаконным пераходзе мяжы, садзейнічанні палітычным "злачынцам" і пад. Але ў цэлым складваецца ўражанне, што дакладна вызначаных граніц, якія абмяжоўвалі сферу паўнамоцтваў падобных судовых устаноў, не было. Таму на працягу першай паловы XIX ст. сустракаюцца выпадкі, калі аналагічныя паводле складу "злачынствы" разглядаліся то ваеннымі, то цывільнымі органамі, і нейкай заканамернасці прасачыць тут нам не ўдалося

Заканадаўчыя акты розных гадоў, а таксама практыка суджэння палітычных "злачынцаў", выяўляюць пэўныя сацыяльныя, узроставыя і гендарныя адметнасці стасавання ссылкі ў якасці рэпрэсіўнай меры ў вызначаны перыяд. Сярод іншага, гэта знайшло сваё адлюстраванне ў сістэме пакарання асоб духоўнага звання, якія былі абвінавачаныя ўладамі ў антыўрадавай дзейнасці. Вывучэнне гэтага пытання дазваляе нам вылучыць два асноўныя шляхі іх высылкі. У першым з іх прысуд выносіўся цывільнымі або вайсковымі ўладамі, а вызначэннем месца адбыцця пакарання займалася ўжо непасрэдна духоўнае ведамства. Звычайна ў якасці апошняга абіраўся нейкі аддалены кляштар ці манастыр. У другім выпадку ссылка духоўных асоб адбывалася на агульных умовах з іншымі палітычнымі, але пры гэтым з іх папярэдне павінны былі зняць сан. Хаця практыка ажыццяўлення дадзенага віду рэпрэсій ведае выпадкі, калі па нейкіх прычынах улады забываліся зрабіць гэта, і ксяндзы паступалі ў вайсковую службу захоўваючы ўсе свае ранейшыя рэгаліі і стан[303].

Некаторыя заканадаўчыя акты рэгулявалі ступень адказнасці зыходзячы з гендарных і ўзроставых характарыстык. Так, указам ад 25 ліпеня 1833 г. наўпрост прадпісвалася "прысуды Суда над асобамі жаночага полу змякчаць, змяняць на Ваш погляд, а маладых людзей ад 14 да 17 год … прызначаць у салдаты ў аддаленыя Карпусы…"[304]. Вывучэнне практычнага боку ажыццяўлення пакарання над палітычнымі сведчыць, што палажэнні, якія ўтрымліваліся ў гэтым распараджэнні, не былі пустой фармальнасцю. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца стандартная фармулёўка "зважаючы на яго маладыя гады, аддаць у салдаты", якую досыць часта можна сустрэць у прысудах розных інстанцый той эпохі. Таксама важным фактарам, які не абгаворваўся ніводным прававым актам, але ў рэальным жыцці мог паўплываць на ступень адказнасці, быў стан здароўя падсуднага. Вось чаму перад адпраўкай на вайсковую службу абавязковай працэдурай з'яўляўся медагляд. У тым выпадку, калі асуджаны прызнаваўся няздольным, яна замянялася адным з відаў ссылкі. З-за стану здароўя такую

[303] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 8879, l. 82.

[304] ПСЗРИ (изд. второе), Т. VIII, № . 6344.

асобу маглі вызваліць ад катаржных работ (у рудніках ці на заводах), альбо ад высылкі ўвогуле[305].

Хаця заканадаўча нідзе гэта не было прапісана, у цэлым назіраецца наступная тэндэнцыя: чым ніжэйшы сацыяльны статус мела асоба, тым больш жорсткі від ссылкі ў адносінах да яе стасаваўся. Падобная з'ява цалкам адпавядала саслоўнай накіраванасці расейскай карнай сістэмы ў цэлым. Акрамя таго, усе судовыя рашэнні ў дачыненні да прывілеяванага саслоўя павінны былі прайсці зацвярджэнне Сенатам. У выпадку пазбаўлення дваранства праз рашэнні ваенна-палявых судоў ці пастановы іншых судова-следчых органаў, пра гэта кожны раз неабходна было даносіць непасрэдна імператару[306]. Таксама тут варта заўважыць, што права на датэрміновую амністыю дабіваліся толькі асобы вышэйшых страт тагачаснага грамадства. Акрамя таго, асобы шляхетнага паходжання вызваляліся ад цялесных пакаранняў, якія вельмі часта спадарожнічалі ссылцы. Што тычыцца сялян, то ў адпаведнасці з тагачаснымі прававымі актамі, на іх вяртанне акрамя Вышэйшага дазволу патрабавалася яшчэ згода грамады, да якой яны належалі[307]. І гэта норма не была пустым фармалізмам. Гісторыя палітычнай ссылкі першай паловы XIX ст. ведае выпадкі, калі былыя аднавяскоўцы такой згоды не давалі, што, у сваю чаргу, ператваралася ў сапраўдную асабістую трагедыю ссыльных[308]. І яшчэ адзін прававы аспект дадзенага віду пакарання, на які хацелася б звярнуць увагу — прыватнаўласніцкія сяляне пасля адбыцця ссылкі не падвяргаліся паўторнаму запрыгоньванню і заставаліся асабіста вольнымі[309].

Асобна расейскае заканадаўства рэгулявала праблему сваякоў ссыльных, якія вырашалі падзяліць з імі лёс і накіравацца да месца адбыцця пакарання. Упершыню царызм сутыкнуўся з такой з'явай пасля вынясення прысудаў дзекабрыстам. Тады ўлады ўсялякімі спосабамі намагаліся паўстрымаць жонак ад паездкі ўслед за сваімі мужамі. Дзеля гэтага ствараліся шматлікія перашкоды як арганізацыйнага, так і прававога характару. У верасні 1826 г. Спецыяльным камітэтам былі распрацаваныя адмысловыя правілы для жонак "дзяржаўных злачынцаў", якімі прадугледжваліся досыць адчувальныя абмежаванні іх свабоды, а таксама маёмасных і іншых правоздольнасцей. Сярод іншага, у гэтым палажэнні ўтрымліваліся нормы аб тым, што дзеці, народжаныя ў Сібіры, будуць запісаныя ў лік завадскіх казённых сялян[310].

Прававая база, распрацаваная для сямей дзекабрыстаў, была пазней пашыраная на жонак і дзяцей палітычных ссыльных па іншых справах першай паловы XIX ст. Таму, каб следаваць за сваім мужам, такія асобы павінны былі ў першую чаргу атрымаць на гэта дазвол Вышэйшага начальства. Гэты крок

---

[305] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 8879, l. 10.

[306] ПСЗРИ (изд. второе), Т. VIII, № . 6344.

[307] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 943, а. 43, 77.

[308] LVIA. F. 378; ap. 147, b. 104, l. 117; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 943, а. 176.

[309] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 943, арк. 32.

[310] Gentes A. Exile, murder and madness in Siberia, 1823–1861. Palgrave Macmillan, 2010. — P. 34; Максимов С. Сибирь и каторга… С. 204–205.

не быў простай фармальнасцю, бо ў некаторых выпадках улады маглі накласці сваё вета на падобную просьбу[311]. Далей, згодна з прадпісаннем шэфа III-га Аддзялення Аляксандр Бенкендорфа, у такіх жанчын бралася падпіска, што яны азнаёмлены з тымі прававымі абмежаваннямі, якія напаткаюць іх, калі яны накіруюцца ў Сібір. Сярод іншага, гэта тычылася забароны браць з сабой дзяцей і вяртацца дамоў да смерці мужа[312]. Гісторыя палітычнай ссылкі захавала дзясяткі імёнаў кабет з тэрыторыі беларуска-літоўскіх зямель, якія па прыкладу дзекабрыстак, нягледзячы на ўсе перашкоды, накіроўваліся ў далёкі і цяжкі шлях на ўсход. Сярод іх былі не толькі верныя жонкі, але нават каханкі, чый статус не рэгуляваўся ніводным прававым актам, а прысутнасць сярод ссыльных выклікала вялікую занепакоенасць афіцыйных уладаў[313].

Іншай асаблівасцю ўжывання дадзенай меры на беларускіх землях было стварэнне (як у выпадку з канфіскацыяй) адмысловых заканадаўчых актаў па гэтым прадмеце, якія геаграфічна абмяжоўваліся выключна Заходнім рэгіёнам імперыі. Падобная адметнасць, напрыклад, выявілася ва ўказе ад 24 жніўня 1809 г., які прадпісваў жыхароў (пасялян) памежных губерняў за самавольную адлучку за мяжу (у Герцагства Варшаўскае) аддаваць у салдаты ці ссылаць на крапасныя работы[314]. Аналагічная норма адказнасці была прадугледжана для "жыхароў Літвы і Царства Польскага" ўказам ад 20 красавіка 1843 г. за падбухторванне да ўцёкаў за мяжу[315]. Таксама гэтая адметнасць выявілася ў выданні шэрагу падзаканадаўчых актаў, якія рэгулявалі парадак ажыццяўлення этапіравання палітычных ссыльных з тэрыторыі заходніх губерняў.

Такім чынам, ссылка можа разглядацца ў якасці найбольш жорсткай меры адказнасці, прадугледжанай тагачаснай прававой сістэмай. Яе стасаванне адбывалася як на падставе агульнарасейскага заканадаўства, так і паводле тых прававых норм, што былі створаны адмыслова для Заходняга рэгіёну імперыі. Важную ролю ў працэсе асуджэння ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху адыгрывалі вайсковыя судовыя органы. Для ажыццяўлення дадзенага віду пакарання царызм карыстаўся тымі ж механізмамі дэпартацыі асуджаных на ўсход, як і па крымінальных артыкулах.

Разам з тым, стасаванне дадзенага віду пакарання на беларуска-літоўскіх землях у канцы XVIII-першай палове XIX ст. мела шэраг спецыфічных рыс у параўнанні з іншымі рэгіёнамі імперыі. Гэта было абумоўлена выданнем па гэтым прадмеце асобных заканадаўчых актаў, дзеянне якіх абмяжоўвалася выключна заходнімі губернямі імперыі, а таксама пашырэннем адміністратыўнай ссылкі за злачынствы палітычнага характару. Рэгіянальныя адметнасці гэтай рэпрэсіўнай меры мелі сваю спецыфіку і ў шэрагу іншых кампанентах, звязаных з працэсам суджэння і пакарання, якія будуць разгледжаны ў іншых раздзелах дадзенага даследавання.

---

311 Ломачевский А. Виленская драма. Спб., 1873. — С. 95.

312 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 715, арк. 1; Ф. 1, воп. 20, спр. 38, арк. 112, 143.

313 LVIA. F. 378, ap. 128, b. 34, l. 1, 5.

314 LVIA F. 378, ap. 28, b. 69, a. 1; ПСЗРИ (издание 1-е), T. XXX, № 23806.

315 ПСЗРИ (изд. второе), T. XVIII, № 16760.

# АСНОЎНЫЯ ВЫПАДКІ СТАСАВАННЯ ССЫЛКІ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ЗЕМЛЯХ У КАНЦЫ XVIII-ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX СТ.

Найбольш аўтарытэтны даследчык польскай палітычнай ссылкі (у якую, натуральна, уключаліся тэрыторыі ўсёй былой Рэчы Паспалітай) Вікторыя Слівоўская вылучае наступныя асноўныя выпадкі стасавання дадзенага віду пакарання першай паловы XIX ст.:

а) палонныя 1812 г.;

б) удзельнікі тайных таварыстваў да 1831 г.;

в) паўстанцы 1830–31 г.;

г) удзельнікі тайных таварыстваў (спісаў) у міжпаўстанцкі перыяд;

д) палітычныя ссыльныя без указання прычын іх пакарання[316].

Ад сябе зазначым, што прыведзенымі тут эпізодамі выкарыстанне ссылкі па палітычных матывах у вызначаны перыяд не абмяжоўвалася. І таму, дзеля ўсебаковага аналізу і лепшага разумення дадзенага віду рэпрэсій, давайце спынімся на кожным канкрэтным выпадку яе стасавання на землях Беларусі і Літвы ў канцы XVIII-першай палове XIX ст.

Упершыню масавае стасаванне ссылкі царызмам з тэрыторыі сучаснай Беларусі адзначаецца ў 1768–1772 гадах. Яно было звязана з паразай Барскай канфедэрацыі і пакараннем яе прыхільнікаў. Галоўная адметнасць дадзенага канкрэтнага эпізоду заключалася ў тым, што падобнаму віду рэпрэсій санкт-пецярбургскім дваром былі падвергнуты грамадзяне іншай краіны (Рэчы Паспалітай). Таксама трэба адзначыць, што выкарыстанне тэрміну "ссылка" ў традыцыйным значэнні гэтага слова ў дачыненні да канфедэратаў не зусім падыходзіць. У дадзеным выпадку больш правамерна казаць аб захопе ў палон і далейшай дэпартацыі адным з ваюючых бакоў сваіх праціўнікаў. А паколькі пераможцам у гэтым супрацьстаянні была Расейская імперыя, то яна, згодна з традыцыяй, якая сягала ў XVI–XVII ст., выкарыстала палонных для прагматычных мэтаў: засялення і засваення сваіх аддаленых абшараў.

Пераважная большасць пакараных канфедэратаў паходзіла з тэрыторыі этнічнай Польшчы. Але былі сярод іх і жыхары ВКЛ. Аб гэтым, між іншым, сведчыць спіс, складзены адным з удзельнікаў тых падзей, французам Тэсбі дэ Белькурам[317]. У ім пададзены імёны і прозвішчы 5445 асоб. Праўда, некаторыя польскія гісторыкі лічаць, што колькасць канфедэратаў, якія былі высланыя ўглыб Расіі, магла сягаць 15 тыс. чалавек[318].

Нельга казаць, што дадзены канкрэтны выпадак заклаў нейкія юрыдычныя, арганізацыйныя ці іншыя падмуркі ссылкі як інстытута пакарання за палітычныя злачынствы. Нават прававы бок дэпартацыі прыхільнікаў Барскай канфедэрацыі не можа разглядацца ў якасці прэцэдэнту, паколькі сасланыя былі грамадзянамі іншай краіны, і не маглі падлягаць адказнасці па законах Расейскай Імперыі. У сваім прававым статусе на тэрыторыі Расіі

[316] Śliwowska W. Ucieczki z Sybiru. Warszawa, 2005. — S. 11–12.

[317] Konfederaci Barscy na Syberyi (1774). Kraków, 1895. — S. 15–151.

[318] Śliwowska W. Polscy zesłańcy polityczni na Sybirii... S. 240.

яны былі прыроўнены да становішча, якое мелі палонныя туркі і татары[319].

Наступная хваля ссылкі з тэрыторыі Беларуска-Літоўскага краю была звязана з задушэннем царызмам нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Частка з былых інсургентаў прайшла праз доўгі працэс разгляду іх спраў Смаленскай следчай камісіяй. Не ўсе з іх былі пакараныя. Згодна з сакрэтным указам імператрыцы ад 20 чэрвеня 1795 г., ад адказнасці было вызвалена 25 асоб. Іх прывялі да прысягі і адпусцілі на парукі (хаця першапачаткова планавалася падвергнуць выгнанню з краю). Астатнія падсудныя былі падзеленыя на дзве групы. У першую з іх увайшлі асобы, якія фармальна з'яўляліся расейскімі падданымі. Яны склалі шэсць першых катэгорый "віны". Тут налічвалася 39 асоб, з якіх чатыры ўрэшце атрымалі памілаванне. Другая падобная група складалася з тых, хто да пачатку паўстання заставаўся грамадзінам Рэчы Паспалітай і, адпаведна, не складаў прысягі на вернасць расейскаму прастолу. Яны былі аднесены да 7–10-й катэгорый "віны". У якасці пакарання ім усім была вызначана ссылка, цяжкасць якой рэгулявалася аддаленасцю месца яе адбыцця. Так, найбольш "вінных" было загадана разаслаць у самыя аддаленыя гарады Сібіры, у выніку чаго некаторыя паўстанцы з гэтай групы апынуліся нават на Камчатцы. Для іншых пакаранне абмяжоўвалася ўнутранымі губернямі імперыі. Асобна ва ўказе агаворваўся лёс шляхціца Восіпа Тэраевіча, які акрамя палітычных "злачынстваў" абвінавачваўся ў крымінальных (забойстве расейскага салдата). У яго выпадку ў якасці меры ўздзеяння была абрана катарга[320].

Камісія ў Смаленску займалася разглядам спраў толькі самых актыўных прадстаўнікоў шляхетных прозвішчаў, што падтрымалі паўстанне. Тысячы іншых асоб, якія змагаліся пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, апынуліся ў розных кутках імперыі без суда і следства. У першую чаргу гэта былі вайскоўцы і апалчэнцы, якія трапілі ў палон. Тыя з іх, хто быў схоплены на тэрыторыі Беларусі і Літвы (землі падпарадкаваныя Цімафею Туталміну і Мікалаю Рапніну), спачатку накіроўваліся ў фільтрацыйныя пункты ў Смаленск, Пскоў, Рыгу. У іх ліку былі асобы ў асноўным ніжэйшага стану, якія не мелі афіцэрскіх чыноў. У сваю чаргу, паўстанцы захопленыя войскамі пад камандаваннем А. Суворава, канцэнтраваліся ў іншых мясцовасцях, у ведамстве гр. Пятра Румянцава-Задунайскага. Тым не менш, іх усіх далей чакаў аднолькавы лёс. Праз адмысловыя ўказы Кацярыны II, пераважная іх частка была размеркавана ў воінскія часткі, якія неслі каравульную службу ў бязлюдных мясцінах ці невялікіх населеных пунктах расейскай глыбінкі[321]. Як адзначае расейскі даследчык Галіна Макарава, большасць ваеннапалонных, што былі пазней інтэрнаваны ўглыб Расіі, паходзіла з тэрыторыі колішняга ВКЛ. Па яе ж падліках, іх колькасць перавышала 5 тыс. чалавек[322].

Аб умовах, у якіх апынуліся ваеннапалонныя пасля вырашэння іх лёсу, можна меркаваць на прыкладзе тых з іх, хто быў высланы ў г. Рочэнсальм (зараз Котка).

---

[319] Крих А., Мулина С. Польские конфедераты в Сибири // Известия Иркутского государственного университета. Серия «Политология. Религиоведение», 2012, № 2 (9), ч. 2. — С. 20.

[320] ПСЗРИ (издание 1-е), Т. 23, № 17345.

[321] Дьяков В. Костюшко и его соратники после сражения при Мацейовице (1794–1798) // Славяноведение, 1993. — С. 71.

[322] Макарова Г. Новые материалы о пребывании участников движения Т. Костюшко в России // Славяноведение, 1994, № 4. — С. 47.

У ліпені і верасні 1794 г. дзве партыі трапіўшых у палон паўстанцаў з Рыгі ў колькасці 227 і 179 чалавек, адпаведна па моры, былі дастаўлены на фінскае ўзбярэжжа. Тут яны былі размешчаны ў казармах пад наглядам варты і выкарыстаныя "ў крапасных работах" для стварэння новай расейскай марской базы на Балтыцы[323]. Частка з іх там і памерла, некаторым удалося ўцячы.

Канчатковую кропку ў вырашэнні лёсу сасланых паўстанцаў 1794 г. паставіў лістападаўскі ўказ 1796 г. Паўла І аб іх амністыі. Пасля яго выхаду распачаўся актыўны працэс вяртання ссыльных і інтэрнаваных па гэтай справе асоб. У сувязі з аддаленасцю месца адбыцця пакарання, для некаторых з іх ён зацягнуўся на некалькі гадоў.

У цэлым, неабходна адзначыць, што дадзены эпізод з'яўляецца першым выпадкам стасавання ссылкі як юрыдычнай меры пакарання на нашых землях. У ім назіраюцца юрыдычныя падставы будучага выкарыстання дадзенай формы рэпрэсій супраць удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху: стварэнне адмысловай камісіі для разбору іх "віны", размеркаванне па некалькіх катэгорыях, а таксама дыферынцыяваныя прававыя падыходы ў вырашэнні лёсу ваеннапалонных паўстанцаў і тых, чые справы разглядаліся судовымі органамі. Акрамя таго, нельга не адзначыць, што пасляпаўстанцкая ссылка 1794–1795 г. адыграла значную ролю ў фарміраванні сібірскага міфу.

Ліквідацыя Рэчы Паспалітай спарадзіла развіццё нацыянальна-вызваленчага руху ў розных яго праявах. Сярод апошніх можна вылучыць таемныя арганізацыі і спісы, загранічных эмісараў і ўзброеныя выступленні. Напэўна найбольшае распаўсюджанне ў гэты час атрымліваюць шматлікія нелегальныя таварыствы, дзейнасць якіх насіла патрыятычны, антыўрадавы характар. Польская даследчыца Ганна Дылангова налічыла больш за 70 тайных згуртаванняў, якія функцыянавалі на тэрыторыі Каралеўства Польскага і заходніх губерняў Расейскай імперыі толькі на працягу 1815–1830 г..[324]

Адной з першых падобных арганізацый, што была выкрыта царскімі ўладамі, стала так званая "віленская асацыяцыя". Яна дзейнічала ў 1796–1797 г. і мела свае адгалінаванні ў Брэсце, Кобрыне, Гародні, Мінску, у той час як штаб-кватэра месцілася ў Вільні. Акрамя таго, яе філіялы дзейнічалі ў Літве і ва Украіне (у тым ліку і на той яе тэрыторыі, што адышла да Аўстра-Венгрыі). На думку беларускага гісторыка Сяргея Таляронка, дадзенае канспіратыўнае таварыства ставіла перад сабой мэту аднаўлення Рэчы Паспалітай[325]. Але большасць польскіх даследчыкаў сыходзяцца на думцы, што прыярытэтным накірункам яе дзейнасці была вярбоўка і перапраўка мясцовых добраахвотнікаў для легіёнаў, якія ствараліся ў гэты час пад кіраўніцтвам Генрыка Дамброўскага.

Выкрыццё разгалінаванай канспіратыўнай сеткі, нягледзячы на параўнальна невялікую колькасць яе сяброў, выклікала сапраўдны перапалох у расейскіх уладаў. Упершыню сутыкнуўшыся з падобнай праявай нацыянальна-вызваленчага руху на новадалучаных тэрыторыях, не ведаючы аб яго маштабах і рэаль-

---

[323] Козюренок К. Пленные костюшковские повстанцы в Роченсальме, 1794–1796 гг. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.reenactor.ru/ARH/PDF/Kozyrenok_10.pdf

[324] Dylangowa H. Powstanie w planach polskich związkow tajnych 1815–1830 // Powstanie listopadowe 1830–1831. Warszawa, 1983. — S. 17.

[325] Таляронак С. Віленская асацыяцыя 1796–1797 гг. // Беларускі гістарычны часопіс, 1994, № 1. — С. 25.

най пагрозе, царская адміністрацыя паставіліся да ўсёй гэтай справы надзвычай сур'ёзна. У следча-вышуковых мерапрыемствах прымалі ўдзел вышэйшыя саноўнікі краю з Мікалаем Рапніным уключна. Вядзенне працэсу знаходзілася пад сталым кантролем у сталіцы.

Як у большасці выпадках, першапачатковыя вердыкты па дадзенай справе былі надзвычай жорсткімі: Сенат пастанавіў найбольш вінных падвергнуць цялесным пакаранням (збіццё пугай і вырыванне ноздраў), а затым пазбавіць жыцця[326]. Але згодна з існуючай ужо ў тыя часы традыцыяй, у самы апошні момант (калі асуджаныя літаральна знаходзіліся на эшафоце) выракі былі зменены на лагаднейшыя. У выніку канчатковага зацверджання канфірмацый Паўлам I, частка асоб, датычных да "асацыяцыі", былі асуджаны на катаргу на Нерчанскіх заводах, а менш вінныя да ссылкі на жыццё ў Сібір[327].

Адным з найбольш цяжкіх тыпаў злачынстваў з пункту гледжання тагачаснай прававой сістэмы Расейскай імперыі з'яўляўся бунт (ці ўзброенае выступленне) супраць вярхоўнай улады. Да падобных супрацьпраўных дзеянняў у вызначаную гістарычную эпоху можна аднесці паўстанне 1830–1831 г., а таксама падрыхтоўку і ажыццяўленне ваеннага ўварвання Напалеона ў Расію. Зразумела, што апошні выпадак можна кваліфікаваць падобным чынам з пэўнай доляй умоўнасці.

У адрозненні ад той жа канфіскацыі, роля ссылкі ў мерапрыемствах царызму па барацьбе з прыхільнікамі Напалеона была непараўнальна меншай. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу наступны факт: калі абмежаванне і пазбаўленне правоў на ўласнасць былі скіраваны ў першую чаргу супраць маёмасных слаёў, то ў дачыненні да ніжэйшых (беззямельных) страт грамадства выкарыстоўвалася пераважна ссылка. Аб гэтым, між іншым, сведчыць указ ад 24 жніўня 1809 г. У ім, сярод іншых захадаў, прадпісвалася тых "пасялян і абывацелей пагранічных губерняў, якія адлучаюцца без ведама Начальства" за мяжу, аддаваць у салдаты, а няспраўных да службы — у крапасныя работы[328]. Варта адзначыць, што ў адрозненні ад асноўнай часткі прыхільнікаў Напалеона, якія атрымалі амністыю ў 1814 г., асобы, пакараныя на моц вышэй згаданага ўказу, падобнай літасці не мелі. Толькі ў 1821 г. Міністэрства ўнутраных спраў дазволіла вяртанне тым, хто быў у свой час, згодна з дадзеным ўказам, сасланы на катаржную работу. Што праўда, гэтая амністыя не тычылася тых, хто ў свой час быў залічаны ў салдаты — іх лёс застаўся без аніякай палёгкі[329].

Як ужо адзначалася вышэй, асноўная маса салдат і афіцэраў рэгулярных вайсковых адзінак, якія падчас вайны 1812 г. і паўстання 1830–1831 г. трапілі ў палон, з фармальнага пункту гледжання з'яўляліся ваеннапалоннымі. Таму іх масавае перамяшчэнне ўглыб імперыі, якое мела месца пасля іх паразы, неабходна кваліфікаваць як дэпартацыю ваеннапалонных. Шматлікія даследчыкі

[326] Miller A. Pierwsza porozbiorowa konspiracja Litewska. Spisek ks. Ciecierskiego przeora Dominikanów Wileńskich (1796–1797). Kraków. — S. 118.

[327] LVIA. F. 378, ap. 5, b. 23, l. 60; Pamiętnik Xiędza Ciecierskiego Przezora Dominikanów Wilenskich. Lwów, 1865. — S. 24.

[328] ПСЗРИ (издание первое), Т. XXX, № 23806.

[329] LVIA. F. 378, ap. 28, b. 69, l. 1; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 242, арк. 2.

гэтай праблематыкі карыстаюцца менавіта гэтым тэрмінам[330]. Разам з тым, у абодвух гэтых выпадках (1812 і 1831 г.) царызмам адначасова з дэпартацыяй актыўна ўжывалася ссылка.

Такая форма рэпрэсій, напрыклад, стасавалася ў дачыненні да цывільных асоб у беларуска-літоўскім рэгіёне, якія адкрыта падтрымалі прыход французскай арміі ў 1812 г. Пры гэтым ссылка ажыццяўлялася без якіх-небудзь судовых разбіральніцтваў ці нават спасылак на нейкія юрыдычныя нормы. Дарэчы, і самі фармулёўкі абвінавачванняў досыць расплывістыя, што не дазваляе дакладна вызначыць склад іх злачынстваў: "падазроныя ", "недобрамысныя", "неспакойныя" паводзіны і г.д. Такіх асоб з ініцыятывы мясцовых ваенных губернатараў без суда і следства высылалі ў цэнтральныя губерні Расіі ці ў больш аддаленыя месцы. Такім чынам, у дадзеным выпадку мы маем справу з першым стасаваннем так званай "адміністратыўнай ссылкі" па палітычны матывах на землях былога ВКЛ. Што праўда, гэтае пакаранне аказалася досыць кароткатэрміновым: у ліпені 1813 г. Аляксандр I, праязджаючы праз Коўна, загадаў усіх высланых з Літвы рознага стану людзей вярнуць на радзіму[331].

Вывучэнне адметнасцей рэпрэсіўнай палітыкі царызму супраць удзельнікаў паўстання 1831 г. на тэрыторыі Беларусі і Літвы, дазваляе нам зрабіць выснову аб тым, што большая частка былых інсургентаў была пакарана той ці іншай формай ссылкі на падставе заключэнняў ваенна-палявых судоў, губернскіх следчых камісій і цывільных судовых устаноў. Адметнасці дзейнасці гэтых органаў будуць разгледжаны намі ў іншым раздзеле дадзенага даследавання. Разам з тым, усебаковы аналіз практыкі прыцягнення да адказнасці паўстанцаў 1831 г. дазваляе нам вылучыць яшчэ некалькіх груп, супраць якіх царскімі ўладамі быў выкарыстаны той ці іншы від прымусовай дэпартацыі.

— Першыя выпадкі стасавання ссылкі на беларуска-літоўскіх землях адзначаюцца яшчэ да пачатку ўзброенай барацьбы. Ужо літаральна праз месяц пасля выбуху лістападаўскага паўстання ў Варшаве, царызм нанёс "кропачныя" ўдары з мэтай ізалявання патэнцыяльна найбольш небяспечных з яго пункту гледжання прадстаўнікоў мясцовага грамадства. Асноўным крытэрыем у вызначэнні ступені гэтай нядобранадзейнасці быў факт іх прыналежнасці да былых тайных таварыстваў. За некалькі гадоў да гэтага ўсе яны ўжо знаходзіліся пад следствам па палітычных справах і на той час за імі быў наладжаны паліцэйскі нагляд. Але гэтага ўладам падалося мала. Напрыканцы 1830 г., згодна з распараджэннем Мікалая I, губернатарам беларуска-літоўскіх губерняў і начальніку Беластоцкай вобласці было прадпісана выслаць такіх асоб з месца сталага жыхарства. Пры гэтым частка з іх напачатку была накіравана для ўтрымання ў Дынабургскую крэпасць, адкуль праз пару месяцаў у суправаджэнні жандараў яны былі адасланы далей на ўсход[332].

---

[330] Самович А. Военнопленные XIX-начала XX вв. в Западном регионе Росии. Москва, 2011. — С. 53, 75; Бессонов В. А. Военнопленные Великой армии 1812 г. в России (по материалам Калужской губернии). Автореф. диссерт. ... кандидата ист. наук. Самара, 2001; Хомченко С. Военнопленные армии Наполеона в Поволжье и Приуралье в 1812–1814 гг. Автореф. диссерт. ... кандидата ист. наук. Самара, 2007; Иванов К. Система финансирования военнопленных 1812–1814 гг. // Отечественная война 1812 г.: Источники. Памятники. Проблемы. Бородино, 1997. — С. 198–207; Любавин М. Пленные 12-го года // Нева, 1987, № 9. — С. 194–196.

[331] LVIA. F. 378, ap. 104, b. 8, l. 82, 132–133, 191, 231.

[332] LVIA. F. 380, ap. 121, b. 268, l. 2, 14, 18.

Згодна з афіцыйнымі дакументамі, усе гэтыя меры былі прадпрынятыя ў інтарэсах саміх жа пакараных: "дзеля таго, каб адхіліць наступствы цяперашняга стану абставін, якія асабліва ім могуць быць вельмі шкодныя"[333]. Без аніякага суда ці яго падабенства, толькі праз Вышэйшую волю на пачатку 1831 г. яны былі высланыя ў Варонежскую, Курскую, Тамбоўскую губерні. Сярод сасланых такім чынам былі генерал Гедройц, "вядомы сваёй нядобразычлівасцю да Расіі", былы ковенскі маршалак шляхты Ігнат Завіша, былы маршалак віленскай шляхты Міхал Ромер, былы маршалак расіенскай шляхты Восіп Білевіч, граф Максімільян Грабоўскі, былы ваўкавыскі падкаморы Дамінік Аскерка, граф Віктар Асалінскі і інш[334]. Што праўда, тэрмін пакарання аказаўся нядоўгім. Ужо ў траўні 1832 г., калі ў "Царстве Польскім быў адноўлены цалкавіты спакой", большасць з іх атрымала імператарскі дазвол на вяртанне дамоў[335].

— Адным з найбольш масавых спосабаў высылкі пасля паразы паўстання, стала дэпартацыя тысяч салдат і афіцэраў расфарміраванай рэгулярнай арміі Каралеўства Польскага. Ваеннапалонныя накіроўваліся пераважна ў Каўказскі, Арэнбургскі і Сібірскі асобныя карпусы. Пры гэтым пытанне аб папаўненні азначаных вайсковых адзінак было на асабістым кантролі ў імператара. Таму, калі на пачатку 1832 г. яму даклалі, што ў Каўказскі і Сібірскі корпус да гэтага часу паступіла адпаведна толькі 1485 і 454 "польскіх і літоўскіх мяцежнікаў, што былі ўзяты ў палон", Мікалай I выказаў сваё незадавальненне такімі маруднымі тэмпамі пераводу на новае месца службы. Ён загадаў "узмацніць адпраўку азначаных мяцежнікаў у тыя карпусы", а асабліва ў Каўказскі[336]. Даследчык гэтага пытання, прафесар Вецлаў Цабан ацэньвае лічбу канчаткова залічаных у Расейскую армію пасля 1831 г. прыкладна ў 11,5 тыс. чалавек[337]. Сярод іх былі ў асноўным тыя, хто да паўстання служылі ў рэгулярнай арміі Каралеўства Польскага. Дакументы не выяўляюць, але, пэўна, што ў гэты лік патрапіла і частка тых, хто добраахвотна далучыўся да арміі падчас інсурэкцыі (у тым ліку і з беларуска-літоўскіх зямель).

— Вывучэнне рэпрэсіўнай палітыкі падчас і пасля задушэння ўзброенай барацьбы 1831 г. выяўляе досыць цікавую заканамернасць: у дачыненні да паўстанцаў уладамі праводзілася паслядоўная палітыка па іх падзеле на тых, хто ўступіў у армію Каралеўства Польскага да паўстання, і тых, што ўступілі падчас яго[338]. Пры гэтым апошнія звычайна вылучаліся з агульнай масы ваеннапалонных. У такім выпадку яны, у адрозненні ад сваіх калег, якіх без суда і следства дэпартавалі на Каўказ ці ў іншае месца службы, праходзілі праз усе этапы судова-следчага працэсу. У залежнасці ад тэрміну знаходжання ў шэрагах рэгулярнай арміі, удзелу/няўдзелу ў баявых сутычках, сацыяльнага статусу абвінавачанага, здзяйснення/нездзяйснення імі пэўных крымінальных злачынстваў іх справы маглі разглядацца і вырашацца адмысловымі тэрытарыяльнымі следчымі камісіямі, галоўнакамандуючым дзеючай ці рэзервовай арміяй, вае-

[333] LVIA. F. 378, ap. 33, b. 624, l. 1, 8.
[334] Ibidem. l. 1, 8, 13, 21, 58, 111.
[335] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 242, арк. 1, 22.
[336] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 2021, l. 1.
[337] Caban W. Służba recrutów… S. 94.
[338] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 264, арк. 2.

нна-палявымі судамі, цывільнымі судовымі ўстановамі ці мясцовымі ваеннымі начальнікамі. Нягледзячы на такі індывідуальны падыход і разнастайнасць установ для вырашэння іх лёсу, пакаранне ў абсалютнай большасці выпадкаў было стандартным: аддача ў салдаты ці матросы.

— Частка ўдзельнікаў паўстання была асуджана і трапіла ў аддаленыя месцы імперыі па абвінавачванню ў бадзяжніцтве. Сярод гэтай групы пакараных былі як тыя, каму ўдалося пазбегнуць палону і адказнасці ў 1831 г., так і тыя, хто здзейсніў уцёкі падчас дэпартацыі на ўсход рэгулярных вайсковых адзінак былой арміі Каралеўства Польскага. У працэсе канваіравання такіх партый ваеннапалонных праз тэрыторыю Беларусі факты самавольнага знікнення з-пад варты апошніх набылі сапраўды масавы характар. Толькі ў Гродзенскай губ. за 1832 г. было затрымана каля 8,5 тыс. "бадзягаў, ваенназбеглых і злачынцаў розных катэгорый"[339]. У некаторых губернях у гэты час былі нават уведзены адмысловыя пасады ў мясцовым адміністрацыйным апараце для вышуку і затрымання падобных асоб. За галовы найбольш "небяспечных" былі вызначаны грашовыя ўзнагароды[340].

Схопленым такім чынам былым паўстанцам інкрымінавалася адно з самых цяжкіх абвінавачванняў, што існавала ў тагачасным заканадаўстве: "бадзяжніцтва". Адпаведным было і пакаранне: бізун ці пуга, ссылка ў Сібір, альбо аддача ў арыштанцкія роты[341]. Акрамя таго, з ініцыятывы Віленскага генерал-губернатара Мікалая Далгарукава і гродзенскага губернатара Міхаіла Мураўёва, у 1833 г. была ўведзена крымінальная адказнасць па Палявым Улажэнні для тых, хто дапамагаў (передерживал) такім уцекачам, альбо не паведамляў аб іх уладам[342]. Але выявіць у адносінах да такіх асоб нейкі палітычны матыў ці складнік іх падобнага ўчынку досыць складана. Аб маштабах прымусовай дэпартацыі дадзенай катэгорыі абвінавачаных у межах усёй імперыі сведчаць наступныя лічбы: з 1827 па 1846 гады ў Сібір было саслана 48,566 валацугаў, што складае 30,4% ад усіх ссыльных за гэты перыяд[343]. Як вынікае з іншых звестак, $^1/_6$ частка з іх (8456 чалавек) была затрымана ў 1832 г.,[344] адразу пасля задушэння паўстання.

— Асобнай групай у агульнай масе рэпрэсаваных за датычнасць да паўстання 1830–1831 г. знаходзяцца яго ўдзельнікі, якія, спрабуючы пазбегнуць адказнасці, эмігравалі за мяжу. Некаторыя з іх у сілу розных прычын вярнуліся ў Расейскую Імперыю. Частка з іх рабіла гэта абсалютна добраахвотна, іншыя (пераважна ніжэйшага саслоўя) інтэрнаваліся, напрыклад, з тэрыторыі Аўстрыйскай імперыі на запыт царскіх уладаў. Незалежна ад абставін выезду за мяжу ці сацыяльнага паходжання эмігрантаў, у сябе на радзіме яны траплялі пад дзеянне ўказу ад 4 кастрычніка 1834 г. Гэтым заканадаўчым актам, сярод іншага, прадпісвалася з такімі асобамі "паступаць як з прызнанымі ўжо Дзяржаўнымі злачынцамі..."[345]. І таму, калі за часы панавання Мікалая І нехта з-за

[339] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 824, арк. 3.
[340] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 308, арк. 7.
[341] НГАБ у Гродне Ф. 1, воп. 28, спр. 987, арк. 3–5; Ф. 1, воп. 28, спр. 943, арк. 31–32.
[342] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 703, арк. 10; Ф. 1, воп. 10, спр. 824, арк. 23, 24.
[343] Gentes A. Exile, murder and... P. 34.
[344] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 824, арк. 3.
[345] ПСЗРИ (издание второе), Т. IX, № 7429

мяжы звяртаўся да імператара з просьбай аб дазволе вярнуцца, такая згода давалася, але толькі пры ўмове паўстання гэтай асобы перад ваенна-палявым судом[346]. Аддача ў салдаты ў дзеючую армію без судовага разбіральніцтва была доляй выключна ніжэйшых слаёў, у той час як у адносінах да прадстаўнікоў прывілеяваных страт такі крок лічыўся ўладамі праявай найвышэйшай ласкі і добрай манаршай волі[347].

Наступны этап развіцця ссылкі як рэпрэсіўнай меры за палітычныя злачынствы звязаны са з'яўленнем і дзейнасцю на беларуска-літоўскіх землях замежных эмісараў. Нягледзячы на тое, што гэтую падзею ад паўстання 1831 г. падзяляе зусім невялікі прамежак часу, на яе прыкладзе досыць выразна прасочваецца пэўная эвалюцыя сістэмы пакарання ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы. І адной з найбольш выразных тэндэнцый, якія характарызуюць гэтыя перамены, становіцца ўзрослая роля ссылкі (у класічным яе варыянце), якая ад гэтага часу канчаткова займае дамінуючае становішча ў рэпрэсіўнай палітыцы царызму на землях былога ВКЛ. Дарэчы, гэтая тэза знаходзіць сваё пацверджанне і ў статыстычных дадзеных аб колькасці сасланых і аддадзеных у салдаты за тыя ці іншыя супрацьпраўныя дзеянні, што ўтрымліваюцца ў работах найбольш аўтарытэтнага даследчыка дадзенай праблематыкі прафесара Вікторыі Слівоўскай[348]. Сярод тых прычын, якія абумовілі падобныя змяненні, галоўнымі, на нашу думку, з'яўляюцца прэваліраванне сярод удзельнікаў разнастайных змоў і тайных таварыстваў цывільнага насельніцтва, а таксама нязначнай колькасцю асоб з ніжэйшых сацыяльных варстваў.

Царскія ўлады баяліся замежных эмісараў больш за ўнутраную "крамолу". Шматлікія загады, прадпісанні і распараджэнні, якія час ад часу рассылаліся па ўсіх узроўнях уладнай іерархіі, выкрываюць пэўную "фобію" царызму перад замежнымі сакрэтнымі пасланцамі. Выяўленне патэнцыяльнай небяспекі з боку эмігранцкіх колаў было адным з ключавых накірункаў дзейнасці агентуры пры расейскіх дыпламатычных місіях у некаторых краінах Еўропы[349]. Унутры краіны ў раскрыцці і затрыманні такіх асоб павінны былі прымаць удзел не толькі паліцэйскія чыны і афіцэры ІІІ Аддзялення, але фактычна ўсё насельніцтва краю з габрэйскімі грамадамі ўключна[350]. Адмысловай пастановай журнала Камітэта па справах Заходніх губерняў у 1833 г. былі нават прызначаны грашовыя ўзнагароджанні ад 500 да 1000 руб. за затрыманне асоб, якія "прабраліся з-за мяжы і пасягаюць на парушэнне грамадскага спакою"[351]. Толькі падчас вядзення следства па падобных эпізодах былі адзначаны выпадкі катавання зняволеных з мэтай здабыцця інфармацыі. Эмісары ж падвяргаліся смяротным пакаранням.

[346] LVIA. F. 378, ap. 138, b. 81, l. 76, 103, 130.

[347] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 36, спр. 656, арк. 1; Ф. 4, воп. 1, спр. 191. арк. 170–172; Ф. 1, воп. 21, спр. 409, арк. 7, 11; LVIA. F. 378, ap. 141, b. 119, l. 38, 47.

[348] Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowie XIX wieku. Warszawa, 1998, Śliwowska W. Ucieczki z Sybiru. Warszawa, 2005. — S. 12.

[349] Россия под надзором… С. 132, 164, 183–18; Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na Litwie i Białorusi 1846–1848. Warszawa, 1965. — S. 109; Shumski St. W Walkach i więzieniach… S. 90–91; Берг Н. Записки Н. В. Берга о польских заговорах и восстаниях 1831–1862. Москва, 1873. — С. 48 .

[350] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1447, арк. 1, 5, 6; Ф. 1, воп. 29, спр. 82, арк. 3

[351] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 308, арк. 7.

Польскі даследчык Давід Файнхаўз у сваім грунтоўным даследаванні прыводзіць прозвішчы 26-і замежных эмісараў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі і Літвы толькі ў 1840-я гады[352]. Паколькі пакаранне асоб, што былі тым ці іншым чынам звязаныя з эмісарамі, на нашых землях адбывалася ў першую чаргу праз дзейнасць адмысловых камісій, то адметнасці гэтага працэсу будуць разгледжаны намі ў іншым раздзеле.

У XIX ст., як і ў папярэдні перыяд, ссылка ў розных яе формах выкарыстоўвалася для пакарання ўдзельнікаў розных тайных (нелегальных) таварыстваў. Расейскае заканадаўства праводзіла выразную градацыю падобных арганізацый на тыя, што мелі ў сваім намеры "шкодную для існуючага парадку мэту", і тыя, што такой мэты не мелі[353]. Пры гэтым Улажэннем 1845 г. была юрыдычна замацавана існаваўшая практыка папярэдніх палітычных працэсаў: падзелу ўсіх абвінавачаных на тых, хто заснаваў і ўзначальваў таварыства, свядома да яго далучыўся, і тых, хто зрабіў гэта, але не ведаў аб канчатковых яго мэтах. Асобна была прадугледжана юрыдычная норма за неданос уладам і прадстаўленне памяшкання для патаемных сходаў[354]. Згодна з гэтымі крытэрыямі Улажэннем вызначалася і ступень адказнасці. Складана вылучыць дакладную лічбу арганізацый, у дачыненні да ўдзельнікаў якіх выкарыстоўвалася дадзеная рэпрэсіўная мера. Сярод іншага, гэта абумоўлена і тым, што ў некаторых выпадках досыць цяжка размежаваць унутраныя і знешнія фактары, якія абумовілі ўзнікненне той ці іншай канспірацыі. Таксама досыць часта замежныя эмісары ў сваёй дзейнасці абапіраліся на тыя патаемныя структуры, што папярэдне ўжо існавалі ў краі.

Калі разглядаць гэтыя выпадкі ў храналагічным парадку, то сярод найбольш значных, неабходна адзначыць:

– філаматы і філарэты. Важнай адметнасцю гэтага канкрэтнага эпізоду з'яўляецца тое, што следства над імі і іх пакаранне адбывалася яшчэ да працэсу над дзекабрыстамі, працэсу, які заклаў арганізацыйныя і юрыдычныя падставы будучага суджэння палітычных злачынцаў у першай палове XIX ст. З больш чым ста чалавек, якіх улады палічылі прыналежнымі да тайных таварыстваў Віленскага ўніверсітэта, пакараны былі толькі 20. Дзённік маршалка шляхты Гродзенскага ўезда Караля Бажэнцкага і некаторыя іншыя крыніцы даюць пэўнае ўяўленне аб тым, як некаторым падследным, дзякуючы заступніцтву ўплывовых сваякоў (у прыватнасці яго пляменніку Міхалу Рукевічу), удалося пазбегнуць адказнасці[355].

Згодна з журналам адпаведнага камітэта, які быў пасля зацверджаны імператарам, большасць асоб, што былі прызнаныя віннымі па гэтай справе, паступалі ў распараджэнне Міністра народнай асветы, каб пасля быць выкарыстанымі "па вучылішчнай частцы ў аддаленых ад Польшчы губернях"[356]. У выніку далейшага размеркавання былыя філаматы/філарэты апынулася ў Маскве, Казані,

---

[352] Fajhauz D. Ruch kanspiracyjny... S. 325–346.

[353] Уложение о наказаниях уголовных и исправительных. СПб., 1845. — Ст. 347, 349.

[354] Российское законодательство X–XX вв. Т. 6: Законодательство первой половины XIX века. Москва, 1988. — С. 261–262.

[355] Dzienńik czynnośći Karola Borzęckiego. 1824 r., 27–30 stycznia; Куль-Сяльверстава С. Студэнцкія тайныя таварыствы і разгром Віленскага ўніверсітэта (1820–1824) // ARCHE, № 9, 2015. — С. 232–233.

[356] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 246, арк. 219, 220.

Санкт-Пецярбургу, Харкаве і г.д. Толькі ў Тамаша Зана, Яна Чачота, Адама Сузіна гэта пакаранне спалучалася з непрацяглым (1 год альбо 6 месяцаў) тэрмінам заняволення ў крэпасцях, пасля чаго яны былі размеркаваны для праходжання службы ў больш аддаленыя губерні[357]. У цэлым, нельга не адзначыць, што дадзеная хваля рэпрэсій супраць студэнцкай моладзі вельмі моцна паўплывала на фармаванне Сібірскага міфу: імі быў у значнай ступені дапоўнены вобраз патрыёта-мучаніка, які праз любоў да сваёй Айчыны абавязкова павінен прайсці праз выпрабаванне ссылкай. Непасрэдны ўдзел да пашырэння гэтага міфу меў Адам Міцкевіч, які ў прадмове да III-яй часткі "Дзядоў" пісаў аб тым, што "некалькі дзясяткаў студэнтаў былі сасланыя на сібірскія руднікі, да тачак альбо азіяцкіх гарнізонаў... З усіх тых выгнаннікаў толькі аднаму ўдалося выбрацца з Расеі"[358]. Зразумела, што ў рэальным жыцці нічога такога і блізка не было.





*Катаржнік, прыкуты да тачкі ("Типы и виды Нерченской каторги")*

— Як адзначалася вышэй, значны ўплыў на ўсю сістэму судаводства і, адпаведна, вызначэння пакарання за так званыя палітычныя злачынствы, аказала справа дзекабрыстаў. Гэты працэс вёўся з многімі выключэннямі дзеючых крымінальна-працэсуальных норм[359]. У далейшым на гэты прэцэдэнт абапіраліся судова-следчыя органы ў іншых падобных выпадках. На тэрыторыі Беларусі дзейнічала некалькі тайных арганізацый, якія мелі непасрэднае ці апасродкаванае дачыненне да дзекабрыстаў. У першую чаргу гэта была арганізацыя "ваенныя сябры", адным з заснавальнікаў якой быў Міхал Рукевіч.

[357] К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. Варшава, 1898. — С. 77–78; Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium ... S. 85, 114, 123, 233, 247, 293, 300, 303, 313, 351, 354, 362, 379, 457, 561, 584, 664–665, 702.

[358] Міцкевіч А. Дзяды, Т. ІІ. Менск, 1999. — С. 13, 15.

[359] Куемжиева Я. Уголовное судопроизводство по преступлениям... С. 9, 10.

Яна мела разгалінаваную структуру, у склад якой уваходзілі такія патаемныя таварыствы, як "Згода" і "Заране"[360]. Пасля выкрыцця гэтых канспіратыўных спісаў у 1826 г., у Беластоку была ўтвораная адмысловая следчая камісія, праз якую прайшло каля 140 асоб. Катаргай, ссылкай, арыштанцкімі ротамі былі пакараны 15 найбольш актыўных удзельнікаў спісу, частка вучнёўскай моладзі была аддадзена ў вайсковую службу[361].

— Патрыятычнае таварыства, на след якога царскія ўлады выйшлі падчас расследавання па справе дзекабрыстаў у 1826 г., было ўтворана пасля забароны Нацыянальнага масонства і ў пэўнай ступені як яго спадкаемца. Дзеля выяўлення верагодных сувязяў паміж гэтымі дзвюма канспірацыямі, частка сяброў Патрыятычнага таварыства была вывезена ў Санкт-Пецярбург — у Петрапаўлаўскія казематы (у тым ліку і ў сумна вядомы Аляксандраўскі равелін). У допытах некаторых з іх непасрэдны ўдзел прымаў Мікалай І. Канчатковы вердыкт па гэтай справе (як і па многіх іншых) меў даволі варыяцыйны характар: большасць прыцягнутых да следства асоб у сілу "нязначнасці іх віны" і "Манаршай ласкі" была ад адказнасці вызвалена. Але тых, каго следчая машына палічыла небяспечным для дзяржаўнага спакою, літасці не мелі: Міхал Ромэр, Мікалай Ворцэль, Анзельм Івашкевіч былі пазбаўлены сваіх графскіх і княскіх тытулаў і аддадзены ў салдаты (з правам выслугі). Іншыя — сасланыя на розныя тэрміны ў сібірскую ссылку[362].

— Сярод тых таемных арганізацый, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларуска-Літоўскага краю ў 30-я гады XIX ст., несумненна вылучаецца створанае Францам Савічам у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі "Дэмакратычнае таварыства". Але паколькі яно (як і некаторыя іншыя гурткі) далучылася да "Садружнасці польскага народа" Шымана Канарскага, адметнасці працэсу і пакарання сяброў гэтай арганізацыі будуць разгледжаны намі ніжэй.

— Досыць мала фактаў аб існаванні ў Мінску ў 1835 г. кола пад кіраўніцтвам адваката Тустаноўскага, якога "за палітычныя інтрыгі" разам з іншымі трыма ўдзельнікамі гэтай суполкі выслалі ў аддаленыя губерні[363].

— У 1839 г. у Вільне адбылося следства і ваенна-палявы суд (быў праведзены ў рэкордна хуткія тэрміны — цягам 24-х гадзін) над 17 асобамі, якія працягвалі дзейнасць "Дэмакратычнага таварыства" ў медыка-хірургічнай акадэміі. Вынікам гэтага працэсу стала ссылка, аддача ў армію, вызначэнне на службу ў аддаленыя губерні[364].

— Ссылка і аддача ў салдаты былі вызначаны царызмам у якасці асноўнай рэпрэсіўнай меры ўздзеяння ўдзельнікам Братняга саюза літоўскай моладзі (1846–1849), які меў свае філіялы ў розных гарадах Беларусі і Літвы. Адметнасцю дадзенага канкрэтнага выпадку было вылучэнне з агульнага справаводства

---

[360] Ольшанский П. Декабристы и польскае национально-освободительное движение. Москва, 1959. — С. 198–202, 212; Polski słownik biograficzny, T. XXXIII. — S. 69–70.

[361] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 1477, арк. 5; Базилевский Б. Государственные преступления в России в XIX веке, Т. 1. СПб., 1906. — С. 69, 98.

[362] НГАБ у Гродне. Ф. 1663, воп. 1, спр. 4953, арк. 2; Швед В. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.). Гродна, 2001. — С. 305–306.

[363] LVIA. F. 378, ap. 126, b. 40.

[364] LVIA. F. 378, ap. 130, b. 32.

так званай “справы рамеснікаў”, якая разглядалася асобна[365]. Разам да адказнасці было прыцягнута каля 200 асоб. У іх ліку былі і ўдзельнікі іншых канспіратыўных спісаў, якія ў розныя часы далучыліся да Братняга саюза. Сярод іх быў і мінскі тайны гурток Міхала Бокіа[366].

— У 1855 г. у Мінску было выкрыта існаванне тайнага саюза, які ставіў перад сабой “антыўрадавыя мэты”. За прыналежнасць да гэтага спіса некалькі асоб былі сасланыя[367].

Натуральна, што прадстаўлены тут пералік нелегальных гурткоў і таварыстваў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў першай палове XIX ст., з'яўляецца не поўным. Частка з іх, напрыклад, тайнае кола ў брэсцкім кадэцкім корпусе, так і не была выкрыта царскімі ўладамі. Аб існаванні некаторых з-за непрацяглaсці іх дзейнасці і нешматлікасці не захавалася дакументальных звестак. Паколькі вывучэнне нацыянальна-вызваленчага руху ў розных яго формах не адносіцца да прыярытэтных задач дадзенага даследавання, то мы не будзем дэталёва спыняцца на ўсіх падобных выпадках.

Дзейнасць эмісараў, нелегальных таварыстваў і іншага кшталту канспіратыўных арганізацый абумовілі найбольш масавыя выпадкі ссылкі. Але яны не былі адзінымі. Вывучэнне гэтага пытання ў праламленні да беларуска-літоўскіх зямель выяўляе іншыя віды супрацьпраўных дзеянняў, якія кваліфікаваліся тагачаснай юрыдычнай сістэмай Расейскай імперыі як палітычныя злачынствы, за якія, адпаведна, у якасці санкцыі была прадугледжана высылка. У гэтым пераліку знаходзіліся: знявага Манаршай асобы, стварэнне і распаўсюджванне літаратурных твораў антыўрадавага характару, “нядобранадзейных” чутак, нелегальны пераход мяжы з палітычнымі мэтамі і некаторыя інш. Спынімся на аналізе кожнага з гэтых эпізодаў больш падрабязна.

Ад папярэдняй эпохі расейская прававая сістэма першай паловы XIX ст. пераняла не толькі нормы права, што прадугледжвалі судовую і па-за судовую адказнасць за ***нанясенне абразы манараху*** і ўсім членам яго сям'і, але і ў адрозненне ад пасляэформеннага часу, захавала надзвычай жорсткія санкцыі за дадзены від злачынстваў. “Улажэнне аб пакараннях 1845 г.” адназначна адносіла гэты від супрацьпраўных дзеянняў да дзяржаўных злачынстваў[368]. Непасрэдны склад дадзенага злачынства быў дастаткова кваліфікаваны: ён уключаў у сябе “складанне і распаўсюджванне ... твораў альбо выяў з мэтай узбудзіць непавагу да вярхоўнай улады ці да асабістых якасцей гасудара...”, выказванне “дзёрзкіх, абразлівых слоў”, “пашкоджанне, скажэнне або знішчэнне ... партрэтаў, статуй, бюстаў” імператара і пад[369].

Усе вышэй пералічаныя юрыдычныя выпадкі ў поўнай меры прадстаўлены ў судовай практыцы першай паловы XIX ст. на землях Беларусі. Дзеля іх ілюстрацыі прывядзём толькі некалькі прыкладаў. Так, у 1824 г. у сценах свіслацкай

---

[365] LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236.

[366] Wierzchowski M. Z dziejów Polskich organizacji spiskowych na terenie Litwy, Białorusi i Ukrainy w latach 1848–1849 // Rozcnik Białostocki, T. III, 1962. — S. 90–92; Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na Litwie... — S. 287, 327–328.

[367] LVIA. F. 378, ap. 147, b. 80; Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium ... S. 215.

[368] Уложение о наказаниях уголовных и исправительных. СПб., 1845. — Ст. 267–270.

[369] Ibidem.

гімназіі двое яе вучняў (Антон Глагер і Павал Зянковіч) закрэслілі царскае імя на паперцы, што вісела на дошцы для штодзённай малітвы. За такое злачынства па распараджэнню цэсарэвіча Канстанціна абодва хлопцы ў па-за судовым парадку былі аддадзеныя ў салдаты[370]. У Мінску ў 1851 г. у рэкрэацыйнай зале мясцовага шляхетнага пансіёна невядомым быў парэзаны партрэт імператара. Пасля ўстанаўлення спраўцы (ім аказаўся вучань 6-га класа Эдмунд Лянкевіч), той быў аддадзены пад ваенна-палявы суд, які прысудзіў яго да ссылкі на катаргу, а пасля канфірмавання гэтай пастановы Мікалаем І, Лянкевіч апынуўся ў асобным Каўказскім корпусе[371]. Ссылкай у Енісейскі край скончыліся разбіральніцтвы па справе аб складанні памешчыкам Слуцкага ўезда Гіпалітам Корсакам "дзёрзкіх" сачыненняў супраць асобы Гасудара[372].

Можна меркаваць, што ўжо ў першай палове XIX ст. абвінавачванні ў знявазе Манаршай асобы выкарыстоўваліся для расправы з непажаданымі асобамі ў эпізодах, якія не мелі аніякай палітычнай падаплёкі. Так, напрыклад, было ў выпадку з памешчыкам Бенедыктам Любанскім (Мінскай губ.), супраць якога яго ўласная жонка падала данос, быццам бы той "выказваўся наконт імператарскай фаміліі з намерам пасягнуць на жыццё імператара..." і пад. У выніку Бенедыкт Любанскі апынуўся ў Вяцкай губ., а маёнтак перайшоў пад апеку яго жонкі[373]. Хаця ў цэлым хацелася б адзначыць, што не ўсе працэсы "аб знявазе манаршай асобы" даводзіліся да свайго лагічнага завяршэння (г. зн. пакарання). І, пэўна, не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывала нежаданне ўладаў кожны раз мець розгалас і тым самым кідаць цень на "Свяшчэнную Асобу". Нават сам імператар, насуперак існуючым прававым нормам, у адным з падзаканадаўчых актаў загадваў аб усіх падобных выпадках даносіць яму праз шэфа ІІІ-га аддзялення, пасля чаго ім асабіста будзе прымацца рашэнне "ці даць той справе судовы ход, ці скончыць яе адміністратыўным чынам"[374].

Адным з важных элементаў у падтрыманні дзяржаўнага спакою і палітычнай стабільнасці ў імперыі была барацьба з ***нелегальным пераходам мяжы***. Як ужо адзначалася, царскія ўлады ўсімі сродкамі імкнуліся захаваць яе недатыкальнасць перад замежнымі эмісарамі і іншымі шкоднымі "выхадцамі". Тое ж самае адбывалася і ў адваротным кірунку: дзяржава рабіла ўсё магчымае, каб не дапусціць несанкцыянаванага пераходу граніцы сваімі падданымі. Пры гэтым практыка пакарання такіх парушальнікаў выяўляе наступную градацыю: у выпадку, калі дадзенае правапарушэнне мела эканамічны складнік (напрыклад, кантрабанда), ступень адказнасці была непараўнальна меншай, чым у тым выпадку, калі гэта рабілася з нейкімі палітычнымі намерамі. Гэтая адметнасць выразна прасочваецца на прыкладзе царскага ўказа ад 24 жніўня 1809 г. Нягледзячы на досыць агульную фармулёўку (аб абывацелях пагранічных губерняў, якія адлучаюцца без ведама Начальства за мяжу), ён у першую чаргу быў скіраваны супраць тых асоб, што

[370] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 246, арк. 116, 144–145.
[371] LVIA. F. 378, ap. 142, b. 101, l. 2, 78, 85, 90.
[372] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 497, арк. 1; Гарбачова В. Удзельнікі паўстання... — С. 194.
[373] LVIA. F. 378, ap. 133, b. 72, l. 1, 2, 4, 5.
[374] LVIA. F. 378, ap. 141, b. 249, l. 2, 3.

імкнуліся далучыцца да арміі Варшаўскага Герцагства. У далейшым гэтыя нормы права былі не толькі захаваныя, але адмысловым указам пашыраныя на "памежных жыхароў Літвы і Царства Польскага, якія будуць выяўлены ў падбухторванні ніжэйшых чыноў і жыхароў да ўцёкаў за мяжу"[375].

Як сведчыць практыка, найбольшую актуальнасць гэтыя заканадаўчыя акты набывалі ў часы рэвалюцыйных падзей у Еўропе, у тым ліку падчас "Вясны народаў". Вельмі паказальным у гэтым плане з'яўляецца затрыманне пасяленца Казіміра Юшкевіча, які, узброіўшыся стрэльбамі, пісталетамі і шаблямі, меў намер прабрацца ў Венгрыю, "каб прыняць там удзел у мяцяжы"[376]. У красавіку 1848 г. з падобнымі мэтамі за мяжу спрабавала трапіць група "гродзенскіх канцылярыстаў" (Мікалай Паплаўскі, Станіслаў Цяшэйка і Адамкевіч). У выніку, як мінімум двое з іх апынуліся на Каўказе ў дзеючай арміі[377]. Яшчэ больш не пашчасціла шляхціцу Мінскай губ. Браніславу Тарноўскаму. Ён быў двойчы затрыманы ў непасрэднай блізкасці ад мяжы (першы раз у Валынскай, другі — у Ковенскай губ.), чым "узбудзіў падазрэнне ў намеры тайна перайсці граніцу". І толькі на падставе гэтых бяздоказных фактаў, па распараджэнню генерал-губернатара Дмітрыя Бібікава Браніслаў Тарноўскі быў высланы ў Валагодскую губ[378]. А ў пэўных выпадках нават удалае перасячэнне граніцы не магло гарантаваць бяспеку ад "доўгіх рук" расейскай карнай сістэмы. Як сведчаць судовыя справы тых гадоў, некаторыя краіны (Прусія і Аўстрыя ў першую чаргу) інтэрнавалі са сваёй тэрыторыі непажаданых "гасцей" з-за кардону, дзе іх зноў жа чакала ссылка ці аддача ў салдаты[379]. Натуральна, што пералічанымі тут прыкладамі практыка пакарання за нелегальны пераход мяжы з палітычнымі мэтамі ў Заходнім рэгіёне імперыі не абмяжоўвалася.

Пісьмовае слова на працягу ўсяго XIX ст. было пад строгім кантролем дзяржавы. Усе кнігі, якія ўвозіліся з-за мяжы, павінны былі прайсці праз працэдуру папярэдняй цэнзуры. У Вільне дзейнічаў адпаведны камітэт, без дазволу якога не мог быць выдадзены ніводны літаратурны твор на тэрыторыі Беларускай (Віленскай) навучальнай акругі. Пры гэтым, як сведчыць справа раскрытай уладамі "тайнай бібліятэкі Аніцэта Рэньера (Рэнігера)", існавалі два пласты ***нелегальнай літаратуры***: тая, якая была забаронена на падставе цэнзурных прадпісанняў, і тая, што была наўпрост скіравана супраць "Расеі і існуючага ў ёй ладу"[380]. У пералік апошняй маглі трапіць нават музычныя ноты(!), калі тыя былі складзены да "рэвалюцыйных песень", такіх як "марш касінераў", "марш Дэмбінскага" і пад[381].. Насуперак усім мерам забароннага характару, нелегальнае друкаванае і рукапіснае слова працягвала стварацца, распаўсюджвацца як унутры рэгіёну, так і ўвозіцца звонку. Менавіта

[375] ПСЗРИ (издание второе), Т. XVIII, № 16760.

[376] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 27, спр. 314, арк. 1–3, 9; Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium … S. 253.

[377] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 78, арк. 1, 10, 19–21; Ф. 1, воп. 28, спр. 943, арк. 101; Радзюк А. Спіс гарадзенцаў пад наглядам паліцыі ў першай палове XIX ст. // Горад Святога Губерта: альманах лакальнай гісторыі. Выпуск IX. Гродна, 2014. — С. 72–105; Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na… S. 240.

[378] LVIA. F. 378, ap. 147, b. 42, l. 3.

[379] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 26, спр. 1306, арк. 1, 12.

[380] Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na… S. 173.

[381] LVIA. F. 378, ap. 127, b. 25, l. 1.

гэты від палітычных злачынстваў займае першае месца (адразу пасля ўдзелу ў паўстаннях і рознага кшталту змовах і спісах) па колькасці пакараных ссылкай у вызначаны перыяд.

Вывучэнне дадзенага пытання дазваляе зрабіць выснову аб існаванні выразнай градацыі пакарання ў залежнасці ад той ці іншай ступені датычнасці да справы. Дарэчы, гэтая тэндэнцыя характэрна і да ўсіх іншых выпадкаў, якія так ці інакш былі звязаныя з антыўрадавай дзейнасцю. Як вынікае з аналізу судова-следчых працэсаў тых гадоў, непасрэднае "спажыванне" забароненай літаратуры ссылкай не каралася. За гэта былі прадугледжаны іншыя, больш лагодныя санкцыі. Так, напрыклад, удзельнік "змовы" Шымана Канарскага Людовік Орда даваў чытаць "абуральныя творы" розным асобам у Гродзенскай губ., за што тыя былі падвергнуты толькі паліцэйскаму нагляду[382]. Аналагічнае рашэнне было прынята і ў дачыненні да 43-х чытачоў тайнай бібліятэкі Аніцэта Рэньера (Рэнігера), што пэўны час дзейнічала ў Вільні. Куды больш цяжкія наступствы магло мець капіяванне і захаванне крамольнай літаратуры. Паказальным у гэтым выпадку з'яўляецца справа гродзенскага чыноўніка Тэафіла Янкоўскага, у якога на кватэры падчас ператрусу ў 1848 г. былі выяўлены "крамольныя" паперы (між іншым, перапісаная ад рукі справаздача польскага эміграцыйнага камітэта ў Парыжы за 1832 г.). Гэта знаходка стала падставай для яго высылкі пад пільны нагляд паліцыі ў Казанскую губ[383].. Такая ж ступень адказнасць была прадугледжана і за распаўсюджванне (уключаючы сюды і продаж) кніг з антыўрадавым зместам[384], у той час як стварэнне (напісанне) рознага кшталту "абуральных" твораў звычайна трактавалася ўладамі больш лагодна (выключэннем тут з'яўляецца выпадак з Уладзіславам Палубінскім, якога за выданне ў Вільні "заганных брашур" у 1850 г. выслалі ўглыб Расіі)[385]. У цэлым хацелася б адзначыць, што ў справах падобнага кшталту даволі часта адсутнічае ўнутраная логіка, адзінства ў трактоўцы аднолькавых эпізодаў. Але падобная тэндэнцыя была ўласцівай рысай ці не ўсіх палітычных працэсаў тых часоў. Таксама варта адзначыць, што адна з адметнасцей разбіральніцтваў па эпізодах, звязаных з нелегальнай літаратурай, заключаецца ў тым, што ў пераважнай большасці канчатковае рашэнне прымалася ў па-за судовым (г.зн. адміністратыўным) парадку.

У 20-я гады XIX ст. мясцовая расейская адміністрацыя была напалохана з'яўленнем у публічных месцах некаторых гарадоў і мястэчак ***патрыятычных надпісаў і пракламацый***. Звычайна гэтыя графіці ўхвалялі канстытуцыю 3-га мая, ці ў нейкі іншы спосаб нагадвалі аб былой велічы Рэчы Паспалітай. Падобныя выпадкі былі адзначаныя ў Вільні, Свіслачы, Полацку, Кейданах, Коўне і іншых населеных пунктах. Следчыя мерапрыемствы, праведзеныя ў гэтых мясцовасцях, выявілі, што за іх з'яўленнем стаяць вучні мясцовых школ і гімназій. Пасля непрацяглага следства, датычныя да гэтых спраў навучэнцы былі ўзорна і досыць жорстка пакараныя: большасць аддадзена ў салдаты, частка

---

[382] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 613, арк. 265.
[383] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 78, арк. 1, 10, 19–21, 31, 53, 57; Ф. 1, воп. 28, спр. 833, арк. 1, 3, 8.
[384] LVIA. F. 378, ap. 147, b. 25, l. 5.
[385] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 276, арк. 4, 6; Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium… S. 473

саслана на катаргу, некаторых асудзілі на розныя тэрміны зняволення ў бабруйскай крэпасці[386].

Факты, звязаныя з ***супрацівам*** (тайным і ўяўным) ***адмене уніі***, пераходам з грэка-каталіцызму ў каталіцызм, хоць і трактаваліся тагачаснай юрыдычнай сістэмай як супрацьпраўныя акты рэлігійнага характару, з пэўнай доляй умоўнасці тут можна ўбачыць і палітычны кантэкст. У якасці пакарання тут звычайна выкарыстоўваліся непрацяглыя турэмныя зняволенні ці метады фізічнага ўздзеяння, але ў некаторых выпадках стасавалася ссылка ў Сібір ці цэнтральныя губерні, альбо перавод у аддалены манастыр для асоб духоўнага звання[387]. З разрозненых звестак па гэтым пытанні вынікае, што як мінімум 18 асоб духоўнага звання на пачатку 40-х гадоў XIX ст. адбывалі сваё пакаранне ў адмыслова "адкрытай ў горадзе Курске ўніяцкай абіцелі". Частка апынулася ў Смаленскай губ[388].

Даследаванне дадзенага пытання выяўляе іншыя, менш распаўсюджаныя тыпы палітычных злачынстваў, за якія ў тыя часы ажыццяўлялася пакаранне ссылкай ці аддачай у салдаты. Да ліку такіх можна аднесці: распаўсюджванне "шкодных" чутак, палітычны данос, веданне і неданясенне аб зламысных намерах і некаторыя іншыя. Трэба адзначыць, што ў палітычных працэсах тых часоў досыць рэдка можна сустрэць абвінавачванні ў здзяйсненні аднаго тыпу "злачынства". Як правіла, яны спалучаліся, альбо хаваліся за ўніверсальнай фармулёўкай аб палітычнай нядобранадзейнасці. Усё гэта, разам з мудрагелістасцю тагачаснай канцылярскай мовы, ускладняе работу даследчыка па выяўленню і дакладнай класіфікацыі ўсіх выпадкаў стасавання дадзенага віду пакарання на беларуска-літоўскіх землях у вызначаны перыяд.

Закранаючы пытанне эфектыўнасці ссылкі як меры барацьбы царызму з палітычна нядобранадзейнымі элементамі, хацелася б звярнуць увагу на наступную цікавую акалічнасць. Вывучэнне дадзенага пытання выяўляе прозвішчы асоб, у дачыненні да якіх яна ўжывалася некалькі разоў. Па-першае, гэта сведчыць аб непаслядоўнасці царскіх улад, якія па розных прычынах дазвалялі пакараным за цяжкае ў іх разуменні злачынства вярнуцца на месца іх сталага жыхарства. А па-другое, такі факт яскрава дэманструе, што дадзены від рэпрэсіі меў невялікі выпраўленчы эфект. Нават зведаўшы на сваёй уласнай скуры ўсе цяжкасці прымусовага выгнання з роднага краю, многія асобы і надалей працягвалі сваю "падрыўную" дзейнасць. У якасці прыкладу тут можна прывесці такія імёны як Зыгмунд Серакоўскі, Апалін Гофмайстар, браты Далеўскія, Станіслаў Шумскі, Браніслаў Залеўскі і інш.

## СЛЕДСТВА І СУД

Пэўныя заканамернасці будучага прававога абгрунтавання палітычнай ссылкі ў беларуска-літоўскім рэгіёне вылучаюцца падчас задушэння паўстання

[386] Jędryhowska B. Wolność uczniami pisana. Drogi do niepodległości młodzieży szkół średnich Wileńskiego Okręgu Naukowego // Drogi Polków do niepodległości. W 150 rocznicę powstania styczniowego. Warszawa, 2015. — S. 57–73; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 246, арк. 144.

[387] LVIA. F. 378, ap. 46, b. 1825; Zasztowt L. Procesy karne na ziemiach Litewsko-Ruskich po 1839 r. // Europa Środkowa-Wschodnia a Rosja XIX–XX wieku, Warszawa. 2007. — S. 69.

[388] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 272, арк 6.

1794 г. У выніку баявых дзеянняў, а таксама даносаў, у рукі царскіх вайсковых уладаў трапілі некаторыя актыўныя дзеячы нацыянальна-вызваленчага руху. З мэтай здабыцця падрабязных звестак аб падрыхтоўцы і ходзе інсурэкцыі, выяўлення новых датычных да тых падзей асоб, а таксама вызначэння ступені іх віны, згодна з указам Кацярыны II, была створана адмысловая следчая камісія ў Смаленску. Першая партыя будучых падследных была дастаўлена ў гэты горад з Мінску 20 красавіка 1794 г., за некалькі дзён да фармальнага заснавання гэтага органа. У далейшым Смаленск быў ператвораны царскімі ўладамі ў нешта накшталт фільтрацыйнага цэнтра, куды накіроўвалася для вырашэння будучага лёсу большасць схопленых імі інсургентаў: "а паколькі галоўныя з іх (бунтароў) былі ўзяты ў палон генерал-маёрам князем Паўлам Цыцыянавым пры Любані, высланы ў Смаленск, то і іншых я туды ж пад вартай даставіць загадаў... каб яны там, разам са сваімі вераломнымі начальнікамі, у злачынстве, што імі было здзейснена, асуджаны былі па закону...", — даносіў Мікалай Рапнін імператрыцы 31 студзеня 1794 г.[389]

Комплекс судова-следчых мерапрыемстваў, які быў задзейнічаны Смаленскай камісіяй, уключаў у сябе шэраг працэдур, што стануць абавязковымі для ўсіх падобных органаў у першай палове XIX ст.: працяглыя тэрміны папярэдняга зняволення, вусныя і пісьмовыя допыты, вочныя стаўкі, падзел на катэгорыі ў залежнасці ад ступені "віны", змякчальная канфірмацыя і г.д. Ці не адзінай адметнасцю, якая вылучае дадзены канкрэтны выпадак з шэрагу іншых, з'яўляецца суб'ектыўны фактар. Многія ўдзельнікі таго працэсу, а таксама пазнейшыя гісторыкі адзначаюць досыць гуманныя адносіны следчых і, у першую чаргу, старшыні камісіі — смаленскага генерал-губернатара (намесніка) Рыгор Осіпава[390].

Праз поўны цыкл камісіі прайшло каля 90 чалавек. Сярод іх былі не толькі вайскоўцы, але цывільныя і духоўныя асобы. Большасць з іх былі падданымі імперыі (жыхарамі тых тэрыторый, што адышлі да Расіі па выніках другога падзелу), але частка падсудных паходзіла з тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Як і ў выпадку з барскімі канфедэратамі, падобныя прававыя акалічнасці не замінал і судова-следчаму працэсу. На завяршальным этапе сваёй работы азначаны следчы орган, апрацаваўшы ўсе дадзеныя, што былі сабраныя ім за час яго дзейнасці, склаў абвінаваўчыя акты. Апошнія былі накіраваныя ў адмысловую сенацкую камісію на чале з генерал-пракурорам Аляксандрам Самойлавым, якая ў дадзеным выпадку адыграла ролю суда[391].

Як лічыць польскі даследчык Генрык Масьціцкі, Смаленск быў абраны ў якасці месца работы камісіі не выпадкова. Гэта рабілася дзеля таго, каб не даць магчымасці сваякам і блізкім сустракацца з падследнымі. Але нягледзячы на такія меры перасцярогі, актыўнасць апошніх, якія дзеля гэтых мэт выкарыстоўвалі розныя каналы і спосабы для аказання ціску, у некаторых выпадках аказала пэўны ўплыў на канчатковыя вердыкты. Акрамя таго, нельга зноў жа не адзначыць тую пазіцыю, якую па гэтым пытанні заняў адзін з найбольш уплывовых

---

[389] Сборник императорского Русского исторического общества... Т. 16. — С. 89.

[390] Mościcki H. Dzieje porozbiorowe... S. 295; Janik M. Dzieje polaków na Syberii. Kraków, 1928. — S. 77; Pamiętniki Jana Duklana Ochockiego, T. 2. Wilno, 1851. — S. 421.

[391] Дьяков В. Т. Костюшко и его соратники... С. 74.

саноўнікаў у гэтым рэгіёне — Мікалай Рапнін. "Магу запэўніць вас, яснавяльможны князь, што заступніцтва ваша за гэтых людзей шмат у чым палегчыла жэрабя іх..."[392], — інфармаваў таго статс-сакратар Дмітрый Трашчынскі. Улічваючы ўсе вышэй пералічаныя абставіны, канчатковы прысуд, які быў канфірмаваны Кацярынай II па выніках азнаямлення з "экстрактамі" (выпіскамі) са следчых спраў, аказаўся больш мяккім, чым гэта прадугледжвалася прапановамі камісіі.

Напэўна самым адметным у шэрагу судова-следчых мерапрыемстваў над палітычнымі "злачынцамі" з тэрыторыі заходніх губерняў імперыі з'яўляецца выпадак з пакараннем удзельнікаў так званай "віленскай асацыяцыі". Асноўным адрозненнем ад аналагічных працэсаў над сябрамі іншых тайных таварыстваў было тое, што галоўныя абвінавачаныя па гэтай справе паўсталі перад судом непасрэдна ў Санкт-Пецярбургу. У якасці судовай інстацыі ў гэтым эпізодзе выступіў Сенат — вышэйшы орган дзяржаўнага кіравання (пасля імператара) Расейскай імперыі на той час. Таксама звяртае на сябе ўвагу і той факт, што абвінаваўчы акт утрымліваў у сабе спасылкі не толькі на расейскае заканадаўства, але і на статут ВКЛ, і канстытуцыі Рэчы Паспалітай, у тых іх частках, якія тычыцца бунту супраць вышэйшай улады[393].

З пункту гледжання вывучэння практычна-прававога стасавання ссылкі, паўстанне 1831 г. уяўляе сабой досыць цікавы гістарычны феномен. У першую чаргу, гэта абумоўлена адсутнасцю яе адзінства і аднастайнасці як у юрыдычным, так і ў арганізацыйным плане. Нягледзячы на выданне вялікай колькасці нарматыўных актаў па гэтым прадмеце (а можа і насуперак гэтаму), практыка ўжывання дадзенай меры пакарання мела шэраг досыць выразных адметнасцей, што былі абумоўлены як аб'ектыўнымі, так і суб'ектыўнымі абставінамі. Паспрабуем вылучыць некаторыя асаблівасці стасавання ссылкі супраць удзельнікаў паўстання 1831 г.

Па першае, большасць інсургентаў з тэрыторыі беларуска-літоўскіх земляў прымала ўдзел у паўстанні ў складзе шматлікіх партызанскіх фармаванняў. У дачыненні да іх стасаваліся розныя формы прыцягнення да адказнасці. Важную ролю ў ажыццяўленні рэпрэсіўнай палітыкі ў гэты час адыгралі адмысловыя следчыя камісіі, створаныя на падставе царскага ўказа ад 17 ліпеня 1831 г. Гэта былі органы папярэдняга следства, якія збіралі абвінаваўчую інфармацыю супраць удзельнікаў паўстання, здзяйснялі іх допыты і, ў некаторых выпадках, якія будуць разгледжаны ніжэй, вызначалі іх пакаранне. Паколькі спецыфіка ссылкі ў гэты час была ў першую чаргу абумоўлена адметнасцямі судова-следчага працэсу ў цэлым, то на апошнім варта спыніцца больш падрабязна.

Самі камісіі не былі надзелены паўнамоцтвамі прымаць рашэнні адносна ступені пакарання асоб, якія былі імі аднесены да першай ці другой катэгорыі "віны". У адпаведнасці з прадпісаннем галоўнакамандуючага першай рускай арміяй, вырашэнне падобных пытанняў знаходзілася ў кампетэнцыі ваенна-палявых судоў, якія мелі спрошчаную працэдуру выканання прысудаў[394].

[392] Сборник императорского Русского исторического общества... Т. 16. — С. 238.
[393] Pamiętnik Xiędza Ciecierskiego... S. 24.
[394] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 15; Гарбачова В. Паўстанне 1830–1831 гадоў... С. 146.

Указам ад 22 сакавіка юрысдыкцыя гэтых судовых устаноў была пашырана і на цывільнае насельніцтва краю: "усіх дваран і шляхту, якія прынялі ўдзел у бунце ... судзіць па Палявым Крымінальным Улажэнні і прысуды ажыццяўляць над імі на месцы..."[395]. Такім чынам, атрымліваецца, што да з'яўлення "Вышэй зацверджаных правіл для губернскіх камісій... " ад 17 ліпеня ваенныя суды (якія ствараліся пры батальёнах дзеючай расейскай арміі) былі асноўнымі органамі, што ажыццяўлялі працэс пакарання інсургентаў. На жаль, дзейнасць гэтых устаноў у найменшай ступені прадстаўлена ў тагачасным справаводстве. Таму многія аспекты іх функцыянавання застаюцца не да канца раскрытымі.

Тым не менш, нават вельмі абмежаваны матэрыял па гэтай праблематыцы выяўляе іх рэгіянальную спецыфіку. У прыватнасці, гэта тычыцца тэрмінаў разгляду спраў і, у меншай меры, вызначэння ступені адказнасці былых інсургентаў. Звяртае на сябе ўвагу тая аператыўнасць і бескампраміснасць у вынясенні прысудаў, якая характарызуе дзейнасць ваенных судоў Ашмянскага, Завілейскага і некаторых іншых уездаў Віленскай губ. Справы паўстанцаў разглядаліся "пачкамі": гэта азначае, што ў рамках аднаго судовага разбіральніцтва вызначаўся лёс некалькіх не звязаных паміж сабой асоб. Пры гэтым у абсалютнай большасці выпадкаў у якасці пакарання, згодна з канчатковай канфірмацыяй вышэйшых органаў, вызначалася аддача ў салдаты ў расейскую армію. Ссылка ў Сібір стасавалася рэдка і толькі ў дачыненні да найбольш актыўных удзельнікаў узброенай барацьбы, а таксама тых, хто па нейкіх (часцей за ўсё фізічных) прычынах не мог быць накіраваны на вайсковую службу. Справаводства па гэтым пытанні сведчыць, што да сярэдзіны 1832 г. асноўныя эпізоды паўстання на гэтых тэрыторыях былі ваенна-палявымі судамі разгледжаны і іх функцыянаванне, фактычна, спынена.

У адрозненне ад той жа Віленшчыны, у іншых рэгіёнах беларуска-літоўскага краю дзейнасць падобнага кшталту ўстаноў у 1830–1832 гадах не вызначалася такой аператыўнасцю. Тут можна знайсці шматлікія прыклады, калі справы паўстанцаў заставаліся не вырашанымі на працягу некалькіх гадоў[396]. Магчыма гэта было абумоўлена тым, што следчыя камісіі пачалі тут функцыянаваць значна пазней (напрыклад, Гродзенская толькі ўвесну 1832 г.[397]), а, магчыма, індывідуальным падыходам у вызначэнні лёсу падсудных. Яшчэ адным з фактараў, які ў канчатковым плане ўплываў на тэрміны разгляду спраў інсургентаў, несумненна, з'яўлялася перагружанасць ваенных судоў справамі звычайных вайскоўцаў расейскай арміі, што абвінавачваліся ў здзяйсненні нейкіх крымінальных злачынстваў.

Акрамя ваенна-палявых судоў, у некаторых выпадках пакаранне за ўдзел у паўстанні маглі вызначаць непасрэдна самі следчыя камісіі. Юрыдычныя падставы для прыняцця падобных рашэнняў былі закладзены ўказам ад 22 сакавіка 1831 г., якім, сярод іншага, прадпісвалася людзей ніжэйшых страт, якія будуць схоплены са зброяй у руках, аддаваць у рэкруты ці на службу ў Сібірскія

---

[395] ПСЗРИ (собрание второе), Т. VII, № . 4444.

[396] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 34, спр. 787, арк. 2, 3; Ф. 1, воп. 28, спр. 943, арк. 20–21, 203; LVIA. F. 378, ap. 151, b. 253, l. 1, 2;

[397] Радзюк А. Дзейнасць гродзенскай следчай камісіі 1831–1834 гг. // Гістарычны альманах, 2008, Т. 14. — С. 115.

лінейныя батальёны[398]. У далейшым гэтая норма захавала сваю моц у адносінах да тых удзельнікаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы, што адносіліся камісіямі да трэцяй (ніжэйшай) катэгорыі "віны". Гэта азначае, што такія асобы фактычна без судовага разбіральніцтва, але толькі па рашэнні следчых органаў і канфірмацыі вайсковага начальства высылаліся ў аддаленыя раёны імперыі на вайсковую службу. Што праўда, падобная прававая практыка праіснавала нядоўга. У адпаведнасці з вышэйшым распараджэннем, датаваным 4-м кастрычніка 1832 г., гэтай катэгорыі інсургентаў было абвешчана дараванне[399].

Па-трэцяе, у арсенале камісій быў яшчэ адзін спосаб пакарання паўстанцаў, якім яны працягвалі карыстацца і пасля выхаду вышэй згаданага ўказа. Аналіз "Алфавітных спісаў асоб, якія прымалі ўдзел у мяцяжы" па розных губернях выяўляе, што ў некаторых выпадках следчыя органы пакідалі справу таго ці іншага інсургента на разгляд вышэйшага вайсковага начальства без яго ўнясення ў тую ці іншую катэгорыю "віны". Падобным чынам, дарэчы, калі-нікалі паступалі і ваенна-палявыя суды, адсылаючы свае сентэнцыі галоўнакамандуючаму дзеючай арміі без прысуду ці хаця б яго праекта. У сваю чаргу, вышэйшае кіраўніцтва не вызначалася арыгінальнасцю ў прыняцці рашэнняў па такіх абставінах, практыкуючы ў якасці кары ўсё тую ж аддачу ў аддаленыя вайсковыя фарміраванні[400].

Як у 1794 г., так і пасля задушэння паўстання 1831 г., царскімі ўладамі былі ўтвораны своеасаблівыя "фільтрацыйныя" цэнтры, куды накіроўваліся палонныя з беларуска-літоўскіх земляў. Такімі месцамі ў першую чаргу сталі Пскоў, Дынабург і ў меншай ступені Бабруйск. Тут паўстанцы чакалі на вырашэнне свайго лёсу, што даволі часта залежаў ад той пастановы, якая прымалася адпаведнай губернскай следчай камісіяй. Пры гэтым паўнамоцтвы гэтых органаў распаўсюджваліся на ўсіх тых асоб, якія паходзілі з тэрыторыі той губерні (вобласці), якую яны прэзентавалі, незалежна ад месца затрымання ці ўтрымання такога падследнага. Следчыя справы пачатку 30-х гадоў XIX ст. утрымліваюць дастаткова падобных прыкладаў, каб сцвярджаць, што такі парадак рэчаў быў больш правілам, чым выключэннем.

У азначаныя "фільтрацыйныя" цэнтры накіроўваліся як ваеннапалонныя рэгулярнай арміі, так і тыя, хто прымаў удзел у паўстанні праз партызанскую барацьбу. Улады пільна сачылі, каб сярод першых не аказалася ўраджэнцаў беларуска-літоўскага краю, якія далучыліся да іх шэрагаў непасрэдна ў 1830–1831 гады. Ваеннапалонныя з тэрыторыі Каралеўства Польскага тут на доўга не затрымліваліся, а дэпартаваліся далей, да месца будучай службы. Што тычыцца другой катэгорыі паўстанцаў, то іх справы, у адпаведнасці з распараджэннем галоўнакамандуючага першай арміяй, падлягалі разгляду губернскімі камісіямі[401]. Лёс большасці такіх асоб вырашаўся следчымі органамі завочна, толькі на падставе пісьмовых сведчанняў, прадстаўленых вайсковым начальствам. Прысуды былі традыцыйнымі. Толькі некаторым з іх ліку ўдавалася пазбегнуць пакаран-

[398] ПСЗРИ (собрание второе), Т. VII, № . 4444.
[399] ПСЗРИ (собрание второе), Т. VII, № 5637.
[400] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 946, 68; Ф. 4, воп. 1, спр. 171, арк. 1–3.
[401] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 2437, l. 64; НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 165, арк. 20, 33.

ня. Так, напрыклад, адбылося з групай "літоўскіх" арыштантаў, што ўтрымлівалася ў Дынабургскай крэпасці. Напачатку, без усялякага разбору яны былі залічаны ў матросы і нават паспелі адслужыць у гэтай якасці паўгода. Толькі тады выявілася, што большасць з іх да паўстання не мелі аніякага дачынення, а былі схопленыя расейскімі войскамі ў розных мясцовасцях абсалютна беспадстаўна. Гэты факт засведчылі і следчыя камісіі, куды такія палонныя былі скіраваныя па загаду Мікалая Далгарукава ў 1832 г.[402]

Па-трэцяе, акрамя ваенна-палявых судоў і губернскіх камісій, у разглядзе і вырашэнні спраў паўстанцаў былі задзейнічаны цывільныя судовыя ўстановы. Але гэта адбывалася толькі ў тым выпадку, калі асобы, якія знаходзячыся ў шэрагах паўстанцаў, абвінавачваліся ў здзяйсненні нейкіх супрацьпраўных дзеянняў крымінальнага характару: напад і рабунак карчмы ці паштовай станцыі, забойства цывільных грамадзян ці вайскоўцаў расейскай арміі і пад. Такія асобы вылучаліся з агульнай масы падследных і перадаваліся ў кампетэнцыю губернскіх судовых палат. Тыя, у сваю чаргу, падчас судаводства па такіх справах трактавалі ўдзел падсудных у паўстанні не як галоўны, але толькі як абцяжарваючы фактар, які ўлічваўся пры вынясенні канчатковага прысуду па асноўным эпізодзе абвінавачвання[403]. Вынікам падобных судовых працэсаў часцей за ўсё з'яўлялася пакаранне ссылкай у Сібір, а не аддача ў салдаты. Далейшы лёс такіх асуджаных сведчыць, што нягледзячы на свой адметны ад большасці паўстанцаў статус, яны лічыліся ўладамі "палітычнымі" і на ўзроўні з імі карысталіся тымі палёгкамі і амністыямі, якія тым прадстаўляліся.

Дзеля стварэння больш поўнай карціны спосабаў суджэння ўдзельнікаў паўстання адзначым, што іх справы маглі разглядацца адмысловым Крымінальным судом, заснаваным у Варшаве, Камітэтам па справах заходніх губерняў у Санкт-Пецярбургу, Сенатам, ваеннымі судам, што месціліся ў Маскве і іншых аддаленых рэгіёнах, губернскімі праўленнямі і г.д. Такая разнастайнасць органаў, якія ажыццяўлялі працэс вызначэння віны і ступені адказнасці, а таксама шматлікія заканадаўчыя і падзаканадаўчыя акты па гэтым пытанні, уносіла пэўнае непаразуменне і нават супярэчнасці. У справаводстве таго часу можна знайсці прыклады, калі справы адной і той жа асобы паралельна разглядаліся камісіямі розных тэрытарыяльных адзінак ці нават рознымі інстанцыямі[404]. Усё гэта спараджала шмат блытаніны, якая не толькі ўскладняе вывучэнне дадзенай праблемы сённяшнім даследчыкам, але ў першую чаргу ўплывала на лёсы тых людзей, якія станавіліся яе ахвярамі.

Такім чынам, паўстанне 1830–1831 г. з'яўляецца важным этапам у развіцці тэорыі і практыкі пакарання палітычных апанентаў царскага рэжыму. У адносінах да іх уладамі быў выкарыстаны самі шырокі арсенал рэпрэсіўных мерапрыемстваў, адно з ключавых месцаў у якім займала ссылка. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што непасрэдна гэты від пакарання ў той час яшчэ не атрымаў такога значнага распаўсюджвання як, напрыклад, пасля аналагічнай падзеі 1863 г. Ключавое месца ў сістэме рэпрэсій супраць удзельнікаў паўстання за-

[402] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 121, арк. 7, 9, 34; Ф. 4, воп. 1, спр. 193, арк. 27.

[403] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 943; Ф. 1, воп. 19, спр. 386.

[404] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 386, арк. 5, 6.

ймала аддача ў армію. Аналіз заканадаўства па гэтым прадмеце выяўляе выразную сацыяльную дыферэнцыяцыю яго ўжывання: згодна з шматлікімі ўказамі і распараджэннямі вышэйшай улады, яму падлягалі ў першую чаргу асобы ніжэйшых сацыяльных страт, у той час як прадстаўнікоў прывілеяваных слаёў прадпісвалася пераважна высылаць у аддаленыя месцы. Адсюль напрошваецца выснова, што ступень адказнасці паўстанцаў вызначалася не столькі цяжкасцю здзейсненага імі злачынства, колькі іх сацыяльным становішчам. У часавых рамках працэс пакарання паўстанцаў не абмяжоўваўся выключна пачаткам 30-х гадоў XIX ст. Паколькі злачынствы "супраць Вярхоўнай улады" не мелі тэрміну даўнасці, то іх разгляд, па меры выяўлення датычных да тых падзей асоб, адбываўся і ў наступныя дзесяцігоддзі да 50-х гадоў уключна[405].

Таксама, як і ў выпадках з іншымі карнымі мерапрыемствамі царызму, нельга не адзначыць пэўную яго непаслядоўнасць у рэалізацыі тых заканадаўчых актаў аб ссылцы ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 г., якія былі ім самім распрацаваны. Гэта знайшло сваё адлюстраванне і ў асобных рашэннях вышэйшай улады аб памілаванні некаторых асоб, якія, згодна з правіламі створанымі гэтай жа ўладай, павінны быць прымусова пераселены ўглыб імперыі. Акрамя таго, ужо ў ліпені 1832 г. свет пабачыў першы (але не апошні) імператарскі ўказ аб амністыі пэўных катэгорый ссыльных паўстанцаў (тых, хто служыў у арміі Каралеўства Польскага да пачатку інсургенцыі)[406]. У выніку, для некаторых актыўных удзельнікаў тых падзей дадзены від пакарання аказаўся вельмі кароткачасовым[407].

Арганізацыйна-прававыя асновы, што былі закладзены сістэмай суджэння паўстанцаў 1831 г., сталі падставай для правядзення судова-следчых мерапрыемстваў над удзельнікамі розных тайных таварыстваў другой чвэрці XIX ст., а таксама над эмісарамі і іх памагатымі. Параўнаўчы аналіз гэтых працэсаў дэманструе іх пэўную агульнасць і нават пераемнасць. Але разам з тым, досыць часта ў дачыненні да кожнага з іх можна вылучыць некаторую спецыфіку. Тут мы спынімся на разглядзе выключна тых эпізодаў, якія непасрэдна звязаны з масавымі рэпрэсіямі супраць удзельнікаў згаданых падзей. Гэта так званая "экспедыцыя Заліўскага" 1833 г., дзейнасць Яна Рэра (Roehra, Röhra) ў 1846 г. і Шымана Канарскага ў 1836–1838 гадах. Пры гэтым, апошні выпадак нельга разглядаць як праяву ўздзеяння выключна знешнепалітычнага фактару: за гэты час, пры актыўнай падтрымцы мясцовых жыхароў, у заходніх губернях імперыі Канарскім была створана шырокая канспіратыўная сетка з разнастайнымі структурнымі і тэрытарыяльнымі адгалінаваннямі

Першы выпадак расправы над замежнымі тайнымі дзеячамі і іх паплечнікамі звязаны з захопам падчас аблавы ў траўні 1833 г. у Гродзенскай губ. Міхала Валовіча. Значная роля ў арганізацыі яго затрымкі, вядзенні следча-дазнавальных мерапрыемстваў, вызначэнні ступені пакарання і выкананні прысуду належала мясцоваму губернатару Міхаілу Мураўёву. Менавіта заангажаванасць гэтай асобы, яго імкненне "выслужыцца", звярнуць на сябе ўвагу імператара шмат у чым

[405] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 5, спр. 1733; Ф. 2, воп. 27, спр. 222, а. 1, 4, 15, 17, 22; Ф. 2, воп. 26, спр. 2270, арк. 1, 2; Ф. 2, воп. 7, спр. 2011, арк. 1.

[406] LVIA. F. 381, ap. 7, b. 1761, l. 34; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 264, арк. 2; Самович А. Военнопленные XIX-начала XX вв. в… С. 124.

[407] LVIA. F. 378, ap. 124, b. 49, l. 1, 5; F. 378, ap.124, b. 16, l. 7; F. 378, ap. 126, b. 40, l. 4.



*Міхал Валовіч*

вызначыла спецыфіку ўсяго працэсу разбору спраў удзельнікаў і іншых датычных да "экспедыцыі Заліўскага" асоб.

М. Мураўёў зыходзіў з таго, што следства па гэтых эпізодах павінна быць праведзена ў максімальна сціслыя тэрміны, а пакаранне ўзорным. Сваю праграму дзеянняў ён выклаў у афіцыйным звароце да Мікалая І, у якім ён прасіў дазволіць яму судзіць падобных асоб па "Палявым крымінальным Улажэнні, з тым, каб суд быў здзейснены з асаблівай хуткасцю, і каб пасля зацвярджэння майго... вінныя, зыходзячы з (іх) звання, паходжання, узросту і полу былі падвергнуты ссылцы, цялеснаму пакаранню, пазбаўленню чыноў, дваранства, маёнткаў і смяротнаму пакаранню"[408]. Акрамя таго, менавіта на падставе прапаноў гродзенскага губернатара, Камітэт па справах заходніх губерняў падрыхтаваў адмысловы імператарскі ўказ аб "замежных зламысніках", які быў выдадзены 25 ліпеня 1833 г.[409] Ён прадугледжваў падзел усіх датычных да справы эмісараў на некалькі катэгорый "віны" і вызначэнне ім адпаведнай меры ўздзеяння згодна з гэтым крытэрыем. Паказальна, што частка гэтых "зламыснікаў" была пакарана яшчэ да з'яўлення азначанага юрыдычнага дакумента.

Нягледзячы на тое, што ў гэты час яшчэ працягвалі сваё функцыянаванне губернскія камісіі для вызначэння ступені віны ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 г., у Гародні і Вільні ўладамі былі заснаваныя адмысловыя следчыя органы для разгляду спраў эмісараў. Паколькі падобныя часовыя ўстановы былі важнай часткай рэпрэсіўнага механізму не толькі ў дадзеным канкрэтным выпадку, але і ў шмат якіх іншых, то варта спыніцца на некаторых аспектах іх дзейнасці больш падрабязна.

Як і пасля паўстання, іх асноўнай задачай з'яўлялася вызначэнне таго, ці неслі ў сабе дзеянні той ці іншай асобы "злачынны" характар і, калі падобны факт пацвярджаўся, аднясенне яе да той ці іншай катэгорыі віны. У адрозненні ад спраў 1830–1831 г., падчас разгляду эпізодаў, звязаных з выкрыццём рознага кшталту змоўшчыкаў, таемных таварыстваў, канспіратыўных спісаў і эмісар-

[408] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 824, арк. 3; LVIA. F. 378, ap. 134, b. 42, l. 2.

[409] ПСЗРИ (собрание второе), Т. VIII, № . 6344; LVIA. F. 378, ap. 134, b. 42, l. 2.

скай дзейнасці, улады ў першую чаргу цікавіла іх структура, мэты, спосабы зносін, повязі з замежжам, намеры і г.д. Пад арышт звычайна траплялі ўсе, хто хоць у нейкі спосаб быў згаданы падследнымі падчас допытаў.

Для выяўлення ўсіх датычных, стварэння поўнай карціны той ці іншай "крамолы", у арсенале дазнаўцаў быў досыць шырокі набор розных сродкаў і метадаў. Імі выкарыстоўваліся ператрусы, калі разам з абвінавальным арыштоўваліся ўсе паперы, якія пасля ўважліва даследаваліся на прадмет наяўнасці ў іх антыўрадавага зместу. Найбольш пашыраным (і адначасова эфектыўным) спосабам здабыцця прызнавальных сведчанняў былі вочныя стаўкі. Калі і гэта не дапамагала, мясцовымі паліцэйскімі органамі магло быць арганізавана спраўджванне тых ці іншых фактаў непасрэдна па месцу жыхарства, а таксама з мэтай дакладнай ідэнтыфікацыі асобы праведзены праверкі метрычных кніг. Актыўна для "намаўлення" падследных царскімі ўладамі прыцягваліся каталіцкія і ўніяцкія святары.

Асобна ў гэтым пераліку стаяць гвалтоўныя спосабы вядзення следства над палітычнымі арыштантамі. Найбольш вядомы з такіх выпадкаў, безумоўна, звязаны з імем старшыні камісіі па справе Шымана Канарскага — князем Аляксеем Трубяцкім. Факты стасавння ім і яго памагатымі катаванняў пацвярджаюцца як мемуарнай літаратурай, так і матэрыяламі самога следства: "зняволеных збівалі, выварочвалі суставы, саджалі ў карцар"[410] і пад. Але прыклад Аляксея Трубяцкога не быў адзінкавым. Ён меў сваіх папярэднікаў у асобе Міхаіла Мураўёва, чые гвалтоўныя спосабы здабыцця інфармацыі не здолела схаваць нават афіцыйнае справаводства. Аб стасаванні ім недазволеных метадаў сведчыць, напрыклад, выяўленыя палявым аўдытарыятам першай арміі факты фальсіфікацыі абвінаваўчых актаў супраць некаторых паўстанцаў 1831 г. Падчас пераправеркі прадстаўленых у іх звестак выкрылася, што частка з іх не адпавядае рэчаіснасці і была дадзена толькі пад ціскам, прымусам з боку магілёўскага цывільнага губернатара (М. Мураўёва)[411].

Куды больш дакументальных сведчанняў па гэтым прадмеце адклалася ў следчых справах 1833 г. Тады віленскаму генерал-губернатару было пададзена некалькі скаргаў ад сваякоў зняволеных аб тым, што Міхаіл Мураўёў асабіста збівае, а таксама загадвае секчы падследных: "быў пакараны больш чым 200-і ўдарамі розгаў...", "не толькі біў яго ўласнаруч, але таксама загадваў салдатам секчы яго бязлітасна ў доме сваім..." і г.д..[412] М. Далгарукаў быў вымушаны апраўдвацца за свайго падначаленага перад шэфам III Аддзялення пасля таго, як падобныя факты былі ўзняты на афіцыйным узроўні гродзенскім губернскім маршалкам дваранства Канстанцінам Чацвярцінскім. Але рэальнага разбіральніцтва па дадзеным выпадкам так праведзена і не было, паколькі справа была фактычна спушчана віленскім генерал-губернатарам "на тармазах", без аніякіх

---

[410] Giller, A. Historia powstania narodu polskiego, T. III. Paryż, 1870. — S. 480; Shumski S. W walkach i ... S. 104; Zienkowicz L. Szymon Konarski. Paryż, 1859. — S. 19; Луговцова С. «Заговор Конарского» и его организатор на страницах следственного дела 1838–1839 гг. (По материалам Литовского государственного исторического архива в г. Вильнюсе) // Российские и славянские исследования, Вып. 5, Минск, 2010. — С. 109.

[411] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 377.

[412] LVIA. F. 378, ap. 124, b. 55, l. 5, 77, 80.

наступстваў для М. Мураўёва. Апошні, у сваю чаргу, дасягнуў той мэты, да якой ён імкнуўся: імператар звярнуў на яго сваю ўвагу і нават аказаў таму ласку (у тым ліку і матэрыяльную)[413].

У 1833 г. следства паслядоўна вялося па некалькіх эпізодах, звязаных з дзейнасцю эмісараў Міхала Валовіча, Марцэлія Шыманскага, Адама Пішчатоўскага, Юзафа Гардынскага. Усяго па падазрэнні ў сувязі з імі на тэрыторыі Беларусі і Літвы было арыштавана каля 300 асоб[414]. Не ўсе з іх у далейшым трапілі пад суд. Галоўным крытэрыем, на падставе якога адбывалася вызваленне ад праследавання, з'яўлялася ўстанаўленне дазнаннем факта ведання ці няведання падследным "аб зламысных намерах замежных выхадцаў." Гэта азначае, што пакарання маглі пазбегнуць нават тыя, хто непасрэдна кантактаваў з эмісарамі, але пасля здолеў давесці, што нават не падазраваў, кім гэтыя людзі насамрэч былі. У сваю чаргу следства і суд цікавіла любая, нават самая нязначная дробязь: дзе, хто з кім і пры якіх абставінах сустракаўся, што казаў, якія паперы перадаваў, хто быў сведкам, якія намеры меў і пад. Менавіта такія дэталі ў далейшым даволі часта вызначалі ступень адказнасці таго ці іншага падследнага.

Указам 25 ліпеня 1833 г. прадпісвалася ўсіх датычных да справы эмісараў асоб падзяліць на пяць катэгорый віны. Але ў параўнанні з аналагічнай працэдурай па справах паўстанцаў 1831 г., тут было адно істотнае адрозненне — вызначэннем ступені віны ўдзельнікаў тых працэсаў зараз займаліся не следчыя, а судовыя органы (ваенна-палявы суд). Падобны парадак рэчаў захаваўся і надалей, напрыклад у 1839 г. Акрамя таго, згодна з гэтым заканадаўчым актам прадугледжвалася выразная градацыя ссылкі ў залежнасці ад цяжкасці здзейсненага "злачынства". Так, асоб трэцяй катэгорыі віны прадпісвалася прысуджаць да высылкі ў Сібір на аселасць ці аддачы на службу на Каўказ, чацвёртай — на жыццё ў Сібір ці аддаленыя губерні У той жа час, тых, хто быў аднесены да першай і другой катэгорыі, заканадаўца загадваў таксама аддаваць пад суд, але падвяргаць пакаранню "суразмерна іх віне"[415]. І ўжо ў гэтым выпадку, на падставе ваенна-крымінальнага заканадаўства, у якасці санкцыі магла быць выкарыстана і катарга, і аддача ў арыштанцкія роты, і нават вышэйшая мера.

Аналізуючы выракі, якія атрымалі фігуранты па справах эмісараў, неабходна звярнуць увагу на тыя разыходжанні, што існавалі паміж практыкай пакарання і прававымі нормамі па гэтым прадмеце. Гэта неадпаведнасць выяўлялася ўжо ў тым, што, напрыклад, некаторыя ўдзельнікі тых працэсаў атрымалі ў выглядзе кары санкцыю, якая не была прадугледжана ні ваенна-палявым Улажэннем, ні адпаведным указам імператара. У першую чаргу гэта адносіцца да асоб духоўнага звання, якія былі ўцягнуты ў канспіратыўную дзейнасць як эмісарамі 1833 г. (Марцэліям Шыманскім асабліва), так і Шыманам Канарскім. У выніку разгляду іх прысудаў некалькімі інстанцыямі, частка святароў была асуджана да ссыл-

---

[413] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 1609, l. 17, 20; F. 378, ap. 41, b. 1429, l. 18; НГАБД у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 160, арк. 4.

[414] LVIA. F. 378, ap. 124, b. 34, l. 147–148, 346–347, 348–349; Матвейчык Д. Выгнаныя з роднага краю. Мінск, 2011. — С. 91; Швед В. Паміж Польшчай і Расіяй… С. 190; Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza … S. 73; Gulczycki, E. Sprawa Marcelego Szymańskiego, emisariusza Zaliwskiego (1833) // Księga pamiątkowa Koła Historyków Słuchaczy Uniwersytetu Stefana Batorego. Wilno, 1933. — S. 318.

[415] ПСЗРИ (собрание второе), Т. VIII, № 6344; LVIA. F. 378.ap. 41, b. 42, l. 24–25.

кі “ў аддаленую епархію паводле меркавання Галоўнага духоўнага начальства” ці ў “аддалены каталіцкі кляштар строгіх правілаў”[416]. Як сведчаць матэрыялы судовых спраў, у якасці месца адбыцця пакарання царкоўныя ўлады абіралі самыя адлеглыя па сваім геаграфічным становішчы кляштары, якія, у сілу аб'ектыўных прычын, былі размешчаны на тэрыторыі цяперашняй усходняй Беларусі і Украіны.

На змякчэнне пакарання (хоць гэта нідзе заканадаўча не было прапісана) мог разлічваць той, хто ішоў на актыўнае супрацоўніцтва з следчымі органамі, добраахвотна выдаваў сувязі, паплечнікаў і пад. У некаторых жа выпадках неадпаведнасці паміж рашэннямі судовай інстанцыі і канчатковай канфірмацыяй не паддаюцца рацыянальнаму тлумачэнню. Як прыклад, тут можна прывесці эпізод з разглядам справы Дамініка Аскеркі (Аскіркі), абвінавачанага ў сувязях з эмісарам Міхалам Валовічам. Камісія ваенна-палявога суда, што дзейнічала ў Гародні, за “аказанне дапамогі злачынцам” прысудзіла Дамініка Аскерку да смяротнага пакарання. Наступная інстанцыя ў асобе Міхаіла Мураўёва прапанавала замяніць гэтую меру на высылку ў аддаленыя губерні і, нарэшце, віленскі генерал-губернатар наклаў на сентэнцыю сваю рэзалюцыю: пакінуць таго на месцы жыхарства, абмежаваўшыся ўсталяваннем над ім паліцэйскага нагляду. Такія выразныя разбежкі паміж першапачатковым і апошнім варыянтамі прысуду ў рамках адной судовай справы выклікалі пэўныя падазрэнні нават у імператара (хаця звычайна ён зацвярджаў іх, асабліва не ўнікаючы ў дэталі). Тым не менш, пасля азнаямлення з аргументацыяй Мікалая Далгарукава, Мікалай І канфірмаваў Д. Аскерку апраўдальны вырак[417]. Варта заўважыць, што прыведзены тут прыклад не быў нейкім абсалютным выключэннем у палітычных працэсах 30–50-х гадоў XIX ст.



*Мікалай Далгарукаў, віленскі генерал-губернатар (1831–1840)*

Выпадкі ігнаравання вышэйшай уладай прававых актаў і законаў, што былі ёй самой жа створаны, характэрны і для пазнейшых часоў. Сярод іншага, гэта выявілася падчас вынясення прысуду некаторым удзельнікам арганізацыі “Садружнасць Польскага народу”, утворанай Шыманам Канарскім. Тая частка абвінавачаных, што была аднесена ваенна-палявым судом да пятай

[416] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 530, арк. 54, 194; Виленские губернские ведомости. 1839, 18 марта.
[417] Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza… S. 61–65.

катэгорыі віны, згодна з канчатковай канфірмацыяй, была прызнана Мікалаем I "нядобранадзейнымі" і выслана з краю (у тым ліку Станіслаў Драздоўскі, Юзаф Петрашкевіч і інш)[418]. Разам з тым, прававым дакументам, які рэгуляваў ступень адказнасці гэтых асоб (царскі ўказ ад 25 ліпеня 1833 г.), прадугледжвалася іх поўнае вызваленне. Для дзяржавы, дзе імператар у адной асобе з'яўляўся і вышэйшым заканадаўцам, і вярхоўным суддзёй, такія прэцэдэнты не былі нечым надзвычайным.

Як і ў выпадку з канфіскацыяй, частка заканадаўства аб ссылцы (і працэдуры разгляду палітычных спраў у цэлым) была пабудавана на прэцэдэнце. Так, напрыклад, не раз тут ужо згаданы ўказ ад 25 ліпеня 1833 г. "аб замежных зламысніках... " быў пазней прыняты за аснову падчас разгляду і суджэння "злачынцаў" па справе Шымана Канарскага і спадарожных ёй працэсаў. У 1849 г., разглядаючы чарговую ваенна-палявую справу ў Вільні, суд, не абцяжарваючы сябе падвядзеннем юрыдычнай базы пад гэты канкрэтны выпадак, па-простy выпісаў тыя законы, "на якія зроблена спасылка па справе злачынцы Рэра". Тыя ж, у сваю чаргу, па некаторых спрэчных пытаннях адсылалі да пастаноў, што былі прынятыя яшчэ ў 1826 г. падчас судовага працэсу над дзекабрыстамі[419].

Разам з тым, нельга не адзначыць, што вонкавая аднастайнасць і пераемнасць правіл суджэння, а таксама нязменнасць законаў па гэтым прадмеце зусім не азначала, што падобная логіка захоўвалася і ў вызначэнні ступені адказнасці фігурантаў розных палітычных працэсаў. Падобную выснову можна зрабіць параўноўваючы прысуды, што былі вынесеныя судовымі інстанцыямі па аналагічных эпізодах за розныя гады. Нават тады, калі фармулёўкі ў абвінаваўчым акце цалкам супадаюць, ступень адказнасці магла быць розная. Так, у 1839 г. "веданне аб зламысных намерах і неданясенне аб іх" прадугледжвала санкцыю суда ў выглядзе ссылкі ў аддаленыя губерні, у той час як у 1849 г. за аналагічнае дзеянне — фізічнае пакаранне і аддачу ў салдаты[420]. Таксама выбіральны падыход у трактоўцы законаў прасочваецца на прыкладзе дзейнасці двух аналагічных устаноў у Вільні і Кіеве ў рамках працэсу 1838–1839 г. над сябрамі "Садружнасці польскага народу". Відавочна, што прысуды, вынесеныя фігурантам азначанай справы кіеўскай камісіяй палявога суда, былі больш жорсткія за віленскія[421]. Гэтыя факты даюць магчымасць яшчэ раз падкрэсліць, што мера адказнасці палітычных "злачынцаў" па вялікаму рахунку вызначаліся не столькі ступенню яго віны і прадугледжанай за гэта санкцыі, колькі складаным комплексам розных суб'ектыўных фактараў.

У большасці выпадкаў менавіта асоба старшыні камісіі (у меншай ступені яе сябры), яго перакананні і некаторыя іншыя фактары асабістага характару, а не строгая адпаведнасць літары закона, адыгрывалі вырашальную ролю ў спосабах вядзення следства і яго канчатковых выніках. Найбольш характэрнай праявай дадзенай тэндэнцыі з'яўляецца прыклад 1840–1841 г., калі ў Вільні была выкрыта чарговая "крамола", адбыліся масавыя арышты, створана яшчэ адна

[418] Виленские губернские ведомости. 1839, 18 марта.

[419] LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236, l. 91.

[420] Виленские губернские ведомости. 1839, 18 марта; LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236, l. 96.

[421] Бовуа Д. Гордиев узел Российской империи. Власть, шляхта и народ на Правобережной Украине (1793–1914). Москва, 2010. — С. 516; Giller A. Historja powstania narodu... T. III, — S. 481.

камісія. Успаміны жандара Асінкрыта Ламачэўскага выкрываюць няхітры механізм фабрыкавання ўсёй той справы. Пры гэтым асноўнай мэтай следчых было не выкрыццё вінных (калі такія ўвогуле там былі), але стварэнне бачнасці існавання разгалінаванай змовы, якая ставіла пад пагрозу захаванне ўнутранага спакою ў краі[422]. Натуральна, што ўсё гэта рабілася імі дзеля асабістай выслугі і атрымання новых чыноў і ўзнагарод. Аб ролі суб'ектыўнага фактару ў вядзенні следства таксама сведчыць прыклад разбіральніцтва па справе эмісара Яна Рэра. У гэтым выпадку, калі камісіі не ўдалося ў поўнай ступені справіцца з пастаўленай перад ёй задачай па выкрыцці канспіратыўнага спісу, яе склад быў заменены на іншы. Новыя яе сябры ў сукупнасці з новымі метадамі хутка прынеслі плён[423].




*Схема следства па справе 1840–1841 г. у Вільні (Ломачевский А. Виленская драма)*

Досыць складана ўстанавіць дакладную лічбу асоб, якія прайшлі па справе эмісара Шымана Канарскага і створанай ім "Садружнасці польскага народа". Па розных звестках, у Вільні, Кіеве, Адэсе праз арышты і допыты прайшло ад 200 да 1000 чалавек[424]. Згодна з рашэннем ваенна-палявой камісіі і Вышэйшай канфірмацыяй, што пасля былі надрукаваны ў афіцыйных "Віленскіх губернскіх ведамасцях", пакаранню ў выглядзе ссылкі ці аддачы ў армію былі падвергнуты 67 ураджэнцаў, пераважна беларуска-літоўскага краю. Сярод іх былі сябры "Дэмакратычнага таварыства" Франца Савіча, што дзейнічала ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі[425].

Асобна ў Вільні вялося следства над сябрамі студэнцкага таварыства пад кіраўніцтвам Караля Хільдэбранда (Гільдэбрандта), што існавала ў Дэрпцкім

---

[422] Ломачевский А. Виленская драма. Спб., 1873.

[423] Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na… S. 168.

[424] Луговцова С. «Заговор Конарского» и его организатор на страницах… С. 107; Матвейчык Д. Выгнаныя з роднага краю. Мінск, 2011. — С. 100.

[425] Виленские губернские ведомости. 1839, 18 марта.

універсітэце. Яно таксама было звязана з Шыманам Канарскім[426]. Але прысуды ўдзельнікам гэтай арганізацыі не трапілі ў афіцыйную прэсу. Прычына гэтаму магла заключацца ў тым, што ў канчатковых выраках па гэтай справе з пункту гледжання тагачаснага права адсутнічаў сам факт пакарання. Згодна з зацверджаным у 1841 г. Мікалаем I меркаваннем следчай камісіі, абвінавачаныя студэнты былі вызваленыя з-пад арышту, а гэта, фактычна, азначала прызнанне іх невінаватасці. Адначасова з гэтым імператарская канфірмацыя прадугледжвала прызначэнне азначаных асоб "на цывільную службу". Што праўда, у якасці месца гэтай службы ім былі вызначаныя ўнутраныя губерні імперыі — Тульская, Варонежская, Пензенская і інш[427]. Нягледзячы на падобную фармулёўку, у дадзеным прысудзе прысутнічаюць асноўныя прыкметы, уласцівыя ссылцы — выдаленне асобы з яго месца пражывання (у судовым ці па-за судовым парадку) ў аддалены раён супраць яго волі за дзейнасць, якая была накіравана супраць існуючага ладу. Таму, можна канстатаваць, што ўладамі ў дадзеным выпадку была ўжыта ссылка ў завуаляванай форме. У адрозненне ад класічнага тыпу дадзенага пакарання, абвінавачаныя не пазбаўляліся сваіх правоў і не падвяргаліся нейкім іншым абмежаванням на месцах. Сярод высланых такім чынам у 1841–1842 гадах былі ўраджэнцы беларускіх зямель Франц Залескі, Апаленарый Кярсноўскі і інш[428].

Апошнім гучным эпізодам першай паловы XIX ст., які звязаны з выкрыццём царызмам дзейнасці "замежных зламыснікаў" на тэрыторыі Беларуска-Літоўскага краю, была справа эмісара Яна Рэра. Створаны апошнім у 1846 г. тайны спіс ставіў на мэце падрыхтоўку нацыянальна-вызваленчага паўстання. Царскім уладам удалося выйсці на яго троп у Віленскай, Мінскай, Гродзенскай губернях. Паралельна са справай Я. Рэра, якая разглядалася ў Вільні, дзейнічала яшчэ адна камісія ў Коўне. Функцыянаванне апошняй было звязана з выкрыццём яшчэ аднаго эмісара — Тэафіла Магдзіньскага. Вядзенне следства знаходзілася на асабістым кантролі ў намесніка ў Каралеўстве Польскім Івана Паскевіча. У выніку больш гадавога следства пад ваенна-палявы суд віленскай камісіяй было перададзена 14 асоб[429]. Такая невялікая іх колькасць тлумачыцца тым, што нягледзячы на ўсе высілкі, следчым не ўдалося цалкам выкрыць усе ніці канспірацыі. Адметным было і пакаранне тых, хто быў прызнаны вінным. Некалькі такіх асоб дваранскага паходжання былі падвергнуты ў Вільні публічнай працэдуры "грамадзянскай смерці". Адзначым, што гэта адзіны дакладна задакументаваны падобны выпадак у заходніх губернях імперыі ў першай палове XIX ст.

Такім чынам, даследаванне дадзенага пытання засведчыла, што судова-следчыя мерапрыемствы былі важным элементам карнай палітыкі царызму па палітычных справах на беларуска-літоўскіх землях у вызначаны перыяд. У ажыццяўленні гэтых мерапрыемстваў прымалі ўдзел розныя органы і інстанцыі. Іх галоўнай функцыяй, пераважна, было ўстанаўленне факта супрацьпраўных дзеянняў і вызначэнне папярэдняй меры адказнасці. Нягледзячы на пэўную

[426] Trynkowski J. Dorpatczycy w powstaniu styczniowym // Powstanie Styczniowe 1863–1864. Walka i uczestnicy. Represje i wygnanie. Historiagrafia i tradycja. Kielce, 2005. — S. 85

[427] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 503, арк. 1, 6.

[428] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 503.

[429] Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny na… S. 174.

пераемнасць у іх дзейнасці і наяўнасць агульнай заканадаўчай базы, практыка і вынікі іх работы досыць часта адрозніваліся, што было абумоўлена шэрагам іншых фактараў, пераважна суб'ектыўнага характару.

## ПРАКТЫЧНАЯ РЭАЛІЗАЦЫЯ ПАКАРАННЯ ССЫЛКАЙ ЗА ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ

Выпрабаванне ссылкай пачыналася задоўга да прыбыцця асуджанага да месца яе адбыцця. Даволі часта (і вельмі трапна) гэты тып рэпрэсій параўноўвалі з дантаўскімі кругамі пекла[430]. І, як сведчаць рэтраспектыўныя ўспаміны тых, хто здолеў вярнуцца на радзіму, непасрэднае адбыццё пакарання аказвалася куды лягчэйшым, у параўнанне з тым, што яму папярэднічала.

Першым рэпрэсіўным крокам на шляху да будучай ссылкі з'яўляўся арышт. Звычайна ён ажыццяўляўся па месцы жыхарства без увагі на час сутак (нават калі западазроная асоба знаходзілася ў ложку)[431]. Важным элементам дадзенага этапу было здзяйсненнеператрусу для выяўлення ўсіх папер, якія разам з падазраваным пасля дастаўляліся ў следчы орган. Тут пісьмовыя і друкаваныя дакументы ўважліва вывучаліся на прадмет утрымання ў іх доказаў віны ці нейкай іншай "крамолы". У будучым яны маглі стаць важнай улікай у абвінавачым акце.

Адным з найбольш складаных з фізічнага і псіхалагічнага пункту гледжання, несумненна, быў этап следства. У папярэднім раздзеле ўжо былі разгледжаны яго асноўныя адметнасці, уключаючы і метады, якімі карысталіся адпаведныя органы для здабыцця неабходнай інфармацыі. Неад'емным складнікам усяго гэтага працэсу з'яўлялася месца, у якім утрымліваўся падследны.

Слабая развітасць турэмнай сістэмы, а адсюль недахоп месцаў у турмах, а таксама імкненне да ізалявання падследных адзін ад аднаго вялі да таго, што царскімі ўладамі шырока выкарыстоўваліся розныя не прызначаныя для пенітэнцыярных мэт установы. Асабліва актуальна пытанне размяшчэння "палітычных" паўставала ў сувязі з выкрыццём нейкіх тайных спісаў ці арганізацый. Найбольш распаўсюджаным спосабам вырашэння такой праблемы было задзейнічанне ў розных гарадах Беларусі і Літвы пакляштарных будынкаў. Пры гэтым частка з іх адмыслова перабудоўвалася дзеля падобных мэтаў: у былых келлях устаўляліся краты, мяняліся дзверы, дабудоўваліся каравульныя памяшканні і г.д.[432] Напэўна, самымі вядомымі з падобных установ з'яўляюцца базыльянскія муры ў Вільні, якія неаднаразова прымалі ў сябе самых розных палітычных злачынцаў. Такая практыка не можа лічыцца нейкай адметнасцю мясцовай пенітэнцыярнай сістэмы, паколькі непасрэдна на тэрыторыі самой Расеі ў тую эпоху манастыры (канечне не так шырока, як у папярэднія часы) працягвалі выкарыстоўвацца ў якасці месцаў зняволення[433]. Акрамя таго, ар-

---

[430] Śliwowska W. Polscy zesłańcy polityczni na Sybirii ... S. 248; Apolonia z Dalewskich Sierakowska. Wspomnienia. Warszawa, 2010. — S. 57.

[431] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1613, арк. 40, 106.

[432] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532. арк. 21–22, 121.

[433] Гернет М. История царской тюрьмы, Т. 1. Москва, 1951. — С. 217–244; Упоров И. Пенитенциарная политика России в XVIII–XX вв... 127.

хіўныя крыніцы выяўляюць такія месцы папярэдняга ўтрымання, як гаўпвахты, крэпасці, віленскія ўмацаванні.

Захавалася досыць шмат сведчанняў аб тых умовах, у якіх знаходзіліся палітычныя арыштанты падчас следства: цяжкае, атрутнае паветра, кепская ежа, ізаляванасць ад грамадства і сяброў, грубасць каравульных і следчых, бясконцае чаканне, няведанне свайго лёсу і тых рашэнняў, што прымаліся рознымі інстанцыямі і пад. Але найбольш трапна перадаць усю гаму пачуццяў, маральны стан, якія спадарожнічалі асобам, што апынуліся за кратамі па палітычным абвінавачваннем, удалося Тэафілу Янкоўскаму, які ў сваім звароце да начальства адзначаў: "Гледзячы зверху (быў размешчаны ў так званым "сакрэтным пакоі") на натоўп злачынцаў, я заўважыў, што яны заўсёды ў гуморы, заўсёды гуляшчыя і, выкрытыя ў відавочных злачынствах, спакойна сустракаюць сваё гора. ... Але паколькі я ўпэўнены ў сваёй нявіннасці, то цяперашняе маё пакаранне ці ў тысячнай частцы адпавядае маёй віне ... І сапраўды, адной толькі ганьбы заключэння ў турму дастаткова за маю віну, а смутак, нуда, крыўда, зруйнаванне здароўя — залішнія. Адчуваю, што здароўе маё паступова ў гэтым няшчасным сакрэтным сутарэнні знікае."[434] Следства, суд, а пасля чаканне канфірмацыі магло цягнуцца ад некалькіх месяцаў да некалькі гадоў. Не ўсе вытрымлівалі падобнае выпрабаванне. У пастановах па той ці іншай справе досыць часта можна сустрэць фармулёўку аб "аддачы забыццю" злачынстваў той ці іншай асобы з прычыны яе смерці.

Турэмнае зняволенне ў якасці асобнай, галоўнай меры пакарання ў прысудах па палітычных справах стасавалася непараўнальна радзей чым ссылка. Тэрміны ў такіх выпадках як правіла былі невялікія — некалькі месяцаў. Куды часцей у канфірмацыйных пастановах можна сустрэць фармулёўку аб залічэнні тым, хто вызваляўся ад далейшай адказнасці, у якасці пакарання таго часу, што быў імі праведзены за кратамі падчас следства[435]. Таксама турма магла спалучацца са ссылкай. Гэта адбывалася тады, калі прысудам прадпісвалася асуджанага вытрымаць папярэдне пэўны час у крэпасці (звычайна не больш за адзін год), а пасля накіраваць для адбыцця асноўнага пакарання[436].

Спецыфіка пенітэнцыярнай сістэмы заходніх рэгіёнаў Расейскай імперыі, сярод іншага, выяўлялася ў тым, што ў якасці месца адбыцця пакарання ўладамі вызначаліся дзеючыя кляштары, у тым ліку з тых, што размяшчаліся на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Адметнасць дадзенага віду рэпрэсій заключалася ў тым, што ён спалучаў у сабе рысы як ссылкі, так і зняволення. Такое прымусовае абмежаванне свабоды ні ў якім разе не павінна атаясамлівацца з "аддачай у манастыр на пакаянне", якое было прадугледжана расейскай прававой сістэмай за рознага кшталту супрацьпраўныя дзеянні супраць рэлігіі і царквы. Яно выяўлялася ў тым, што некаторыя катэгорыі асуджаных па палітычных справах прадпісвалася высылаць у аддаленыя кляштары. Пры гэтым, як сведчыць практыка адбыцця падобнага віду пакарання, ім катэгарычна забаранялася

---

[434] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 78, арк. 20.

[435] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 9978, l. 3; F. 378, ap. 140, b. 236, l. 145.

[436] lVIA. F. 378, ap. 130, b. 32, l. 153; Śliwowska W. Ucieczki... S. 31.

пакідаць (нават на самы кароткі час) падобныя рэлігійныя ўстановы[437]. Дадзеная рэпрэсіўная мера выкарыстоўвалася, па-першае, у дачыненні да духоўных асоб, якія былі выкрыты ў антыўрадавай дзейнасці. У выраках у дачыненні да гэтай катэгорыі асуджаных звычайна адсутнічала ўказанне канкрэтнага месца адбыцця кары. Яго вызначэннем займаўся непасрэдна Дэпартамент духоўных спраў у Санкт-Пецярбургу ці віленскае епархіяльнае начальства.



*Гарадзенскі кляштар брыгітак — месца заняволення некаторых палітычных "злачынцаў"*

Па-другое, каталіцкія духоўныя ўстановы закрытага тыпу выкарыстоўваліся як адзін з варыянтаў ссылкі ў дачыненні да некаторых катэгорый жанчын з тэрыторыі Каралеўства Польскага. Аб гэтым наўпрост сведчыць адно з распараджэнняў намесніка І. Паскевіча, у якім ён загадваў прадстаўніц слабага полу "ў залежнасці ад важнасці іх віны ссылаць у Сібір на аселасць, альбо на некалькі гадоў у які-небудзь з Літоўскіх ці Беларускіх кляштараў"[438]. І невядома яшчэ, якое з гэтых пакаранняў можа лічыцца больш лагодным. Пісьмовыя звароты тых кабет, што трымаліся за кляштарнымі мурамі, сведчаць аб невыносных умовах, у якіх тыя апынуліся, нездаровым, атрутным паветры, задусе, празмернай вільгаці і, як вынік, рэзкім пагаршэнні стану здароўя[439]. Варта адзначыць, што ў цэлым практыка падобнага віду рэпрэсій па палітычных прычынах шырокага распаўсюджвання не атрымала. Такія выпадкі зафіксаваны па справах аб тай-

[437] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532. арк. 163.
[438] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 525, арк. 1.
[439] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 527, арк. 17; Ф. 1, воп. 27, спр. 532. арк. 16.

ных таварыствах канца 20-х гадоў, а таксама эмісараў 1833 г. І, па-трэцяе. У праваслаўныя манастыры, у тым ліку і тыя, што месціліся ў глыбі Расіі, высылалі святароў, якія аказвалі яўнае ці тайнае непавінавенне ў сувязі з ліквідацыяй уніяцкай царквы.

Заканчэнне ўсіх судова-следчых мерапрыемстваў для падсудных азначала не толькі радасць вызвалення ці горыч прысуду, але і фінансавыя затраты: яны павінны былі кампенсаваць дзяржаве ўсе выдаткі, што тая панесла на іх затрыманне, утрыманне, харчаванне, перавозку, камандзіроўкі чыноўнікаў і пад. Такая практыка ў дадзеным выпадку не можа лічыцца нейкай надзвычайнай, паколькі яна была замацавана на юрыдычным узроўні ў Зборы законаў Расейскай імперыі[440]. У прысудах тых гадоў сустракаюцца нават фармулёўкі аб "утрыманні пад арыштам уласным коштам"[441]. Як адзначаў у сваіх успамінах прафесар Віленскага ўніверсітэта Іван Лабойка, у рахунак, што быў выстаўлены філаматам, сярод іншага, уваходзілі шыкоўныя абеды Мікалая Навасільцава і членаў камісіі[442]. Фінансавае спагнанне накладалася абсалютна на ўсіх, хто знаходзіўся пад следствам, незалежна ад таго, ці былі яны пазней прызнаныя віннымі ці, урэшце-рэшт, вызваленыя ад усялякай адказнасці. Сумы былі розныя. Так, напрыклад, фігуранты працэсаў аб тайных таварыствах 1826–1827 г. мусілі выплаціць казне 100 руб. срэбрам і 364 руб. асігнацыямі, па справе эмісараў 1833 г. у Гародні — 1362 руб., Ш. Канарскага — 1206 руб., а, напрыклад, Аўгуст Юсевіч, які быў высланы ў 1839 г., застаўся вінен 37 руб. 35 кап. срэбрам[443]. У рэчаіснасці аказвалася, што далёка не ўсе былі ў стане сплаціць такія грошы. У такіх выпадках улады ў роўных долях раскладалі даўгі маламаёмасных ці памерлых на тых, хто валодаў маёнткамі, альбо спаганялі з жалавання, калі гэта былі служачыя.

Лёсавызначальным момантам для тых, хто знаходзіўся пад судом і следствам, было азнаямленне іх з канфірмацыяй. Да гэтага часу падследныя звычайна знаходзіліся ў поўным няведанні адносна таго, што іх чакае. Для выканання гэтай працэдуры зняволеныя дастаўляліся ў нейкае прысутнае месца, дзе ім урачыста зачытвалася канчатковае, зацверджанае вышэйшай уладай рашэнне. З прычыны таго, што ў губернскія праўленні пры такой нагодзе збіралася вялікая колькасць людзей, распараджэннем намесніка ў Каралеўстве Польскім у 1848 г. было катэгарычна забаронена рабіць гэта публічна. Азнаямленне з канфірмацыяй ад гэтага часу мусіла адбывацца выключна праз вайсковае ведамства і без лішніх сведак[444].

У выпадках, калі ў якасці пакарання быў вызначаны адзін з відаў ссылкі ці аддача ў салдаты, яно, як правіла, спалучалася з іншымі, спадарожнымі карамі: пазбаўленнем правоў стану, пазбаўленнем усіх ці некаторых адметных правоў

---

[440] Свод Законов Российской Империи. Том XV, Спб., 1842. — Арт. 788, 789; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 2013, арк. 4.

[441] LVIA. F. 378, ap. 127, b. 25, l. 1.

[442] Лобойко И. Мои воспоминания. Мои записки. Москва, 2013. — С. 183.

[443] LVIA. F. 378, ap. 43. b. 903, l. 2; F. 381, ap. 24, b. 8879, l. 6; F. 378, ap. 130, b. 32, l. 42; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532. арк. 135; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1613. арк. 320; Gulczycki, E. Sprawa Marcelego Szymańskiego… S. 324.

[444] LVIA. F. 378, ap. 139, b. 243, l. 1.

і прывілеяў (преимуществ), а таксама цялеснымі пакараннямі, альбо нават палітычнай смерцю.

Сярод дадатковых пакаранняў, якія спалучаліся з прымусовай высылкай, на першым месцы стаяла пазбаўленне ўсіх правоў стану. Для розных пластоў грамадства дадзены від рэпрэсіі азначаў немагчымасць у далейшым карыстацца комплексам асноўных правоў, якія былі нададзены той ці іншай сацыяльнай групе тагачаснага грамадства. Разам з пераводам у разрад ссыльных, пакараны губляў правы і праваздольнасць да грамадскай і дзяржаўнай службы, да ўдзелу ў выбарах, у яго адбіраліся чыны, узнагароды, атэстаты і пад[445]. Не выключэннем з'яўляліся і тытулы. Так, напрыклад, па справе Патрыятычнага таварыства 1826 г. некалькі фігурантаў былі не толькі сасланыя, але пазбаўленыя тытулаў князёў і графаў[446]. Паведамленні аб выключэнні з дваранскага стану пасля друкаваліся ў "Сенацкіх ведамасцях", адпаведныя папраўкі ўносіліся ў радаслоўныя кнігі і дваранскія спісы па губернях[447]. Досыць часта ў прысудах па палітычных справах тых гадоў таксама можна сустрэць фармулёўкі аб забароне такім асобам у далейшым даказваць сваё дваранскае паходжанне. Пры гэтым, згодна з логікай пакарання, яны гублялі сваё добрае імя. Духоўныя асобы звычайна пазбаўляліся свайго сану і пераводзіліся ў разрад цывільных з забаронай выконваць рэлігійныя трэбы. Але сустракаюцца выпадкі, калі манахаў (магчыма ў выніку нейкай памылкі) высылалі на Каўказ без правядзення над імі падобнай папярэдняй працэдуры[448].

Разам з тым, дадзены від дадатковага пакарання аўтаматычна цягнуў за сабой страту папярэдніх сямейных правоў і правоў уласнасці. Першае з іх заключалася ў спыненні бацькоўскай улады над дзецьмі і скасаванні шлюбных зносін (у залежнасці ад волі мужа ці жонкі). Другое пазбаўляла яго юрыдычных падстаў валодання рухомай і нерухомай маёмасцю, якая з часу абвяшчэння прысуду мусіла перайсці да законных спадчыннікаў, як гэта адбывалася ў выпадку натуральнай смерці. Практычная рэалізацыя дадзеных палажэнняў сведчыць, што пры пазбаўленні правоў стану над такой уласнасцю ўсталёўвалася апека блізкіх сваякоў асуджанага. Таксама дадзенай прававой нормай было прадугледжана спыненне яго ўсіх спадчынных правоў і абавязкаў[449]. Як вынікае з юрыдычных разбіральніцтваў у сувязі са смерцю палітычнага ссыльнага Міхала Мушынскага, дадзеная катэгорыя пакараных нават не магла распараджацца сваёй маёмасцю, якую яны набылі ў выгнанні[450].

Пазбаўленне ўсіх ці некаторых адметных правоў і прывілеяў адносілася да ліку пакаранняў кваліфікаваных. Гэтая працэдура прадугледжвала абмежаванне асуджанага не ва ўсёй сукупнасці, а толькі ў асобных правах: выключэнне са службы і забарона займацца нейкім родам дзейнасці, адабранне чыноў і знакаў адрознення, а таксама шэраг іншых абмежаванняў, адмыслова абгавораных

---

[445] Фойницкий И. Учение о наказании… С. 178; Mogilnicki A. Kary dodatkowe: kary cielesne, kary hańbiące, pozbawienie czci i praw. Warszawa, 1907. — S. 293–294.

[446] НГАБ у Гродне. Ф. 1663, воп. 1, спр. 4953, арк. 2.

[447] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 27, спр. 222, арк. 22.

[448] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 8879, l. 81.

[449] Российское законодательство… Т. 6. — С. 179–180.

[450] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 5, спр. 1957, арк. 20.

выракам[451]. Дадзеныя прававыя нормы знайшлі досыць шырокае адлюстраванне ў прысудах па палітычных справах першай паловы XIX ст. Найбольш часта ў іх можна знайсці пастановы аб зняцці з таго ці іншага асуджанага вайсковага ці цывільнага звання альбо чына (лекар, студэнт, настаўнік і пад.). Забарона на асноўны від прафесійнай дзейнасці наносіла моцны ўдар па матэрыяльнай базе такой асобы, паколькі вяла да страты яго асноўнай крыніцы існавання. Таксама да дадзенай групы абмежаванняў далучалася аддача ў салдаты без права далейшай выслугі, што ставіла перада такімі асобамі бар'ер на прасоўванне па армейскай іерархічнай лесвіцы званняў і нават тэарэтычную магчымасць вяртання сабе добрага імя і дваранства. Асобныя выпадкі ссылкі ці аддачы ў салдаты з захаваннем тых ці іншых правоў успрымаліся як праявы "найвялікшай Манаршай ласкі". Як гэта было, напрыклад, з удзельнікам паўстання Ігнатам Барэйшам, які згодна з канфірмацыяй быў накіраваны на службу ў асобны Каўказскі корпус з пазбаўленнем чына, без страты дваранскай годнасці і з правам выслугі[452]. Тут неабходна адзначыць, што ў тагачасным грамадстве, жорстка рэгламентаваным сацыяльна і маёмасна, абмежаванне нават у частцы ранейшых родавых ці набытых правоў і прывілеяў некаторымі ўспрымалася як сапраўдная трагедыя. У якасці ілюстрацыі тут можна прывесці прыклад яшчэ аднаго ўдзельніка паўстання В. Градзіцкага, які з прычыны адабрання ў яго чына і ордэна св. Ганны 4-ай ступені скончыў жыццё самагубствам[453].




*Ганебныя панарады, на якіх ажыццяўляўся вываз злачынцаў да месца публічнага пакарання (НГАБ у Гродне)*

Усе гэтыя абмежаванні і пазбаўленні ўсіх або некаторай часткі правоў, згодна з юрыдычнай логікай, павінны былі мець пажыццёвы, незваротны характар. Але ў рэчаіснасці гэтыя ідэі ніколі цалкам не рэалізаваліся і, фактычна, аказаліся фікцыяй. Лёс ссыльных, якім удалося вярнуцца на радзіму, пераконвае, што яны маглі карыстацца большай часткай сваіх раней згубленых правоў: распараджацца маёмасцю, дваранскім званнем

[451] Фойницкий И. Учение о наказании… С. 177.
[452] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 34, спр. 787, арк. 3
[453] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 317, арк. 1.

і вынікаючымі з яго прывілеямі і пад. Такую метамарфозу можна растлумачыць тым, што дазвол на зварот такія асобы атрымлівалі ў выніку адмысловага распараджэння манарха, які і вяртаў ім раней згублены стан. Найбольш вядомым з такіх актаў з'яўляецца каранацыйны маніфест Аляксандра II ад 26 жніўня 1856 г., які абвяшчаў усеагульную амністыю палітычным злачынцам, тэрмін адбыцця пакарання якіх складаў не менш за 5 год. Але нават пасля надзвычайнай імператарскай ласкі, пэўныя абмежаванні ў адносінах да былых "лішэнцаў" працягвалі захоўвацца. Яны тычыліся ў першую чаргу іх права займаць пасады (як дзяржаўныя, так і выбарныя) і забароны на прафесійную дзейнасць. Так, указам ад 17 красавіка 1857 г. было спецыяльна абгаворана, што былыя ссыльныя могуць паступаць на цывільную службу "не раней чым праз 3 гады пасля іх вяртання"[454]. У выніку атрымалася абсалютна парадаксальная сітуацыя: тыя, хто ў поўнай (ці частковай) меры адказалі перад царызмам за свае супрацьпраўныя ўчынкі, аказаліся дыскрымінаванымі нават перад тымі, хто за аналагічныя дзеянні пазбег пакарання праз эміграцыю за мяжу і пасля, у тым жа 1856 г., таксама атрымаў амністыю.

Найбольш цяжкай карай, якая спадарожнічала ссылцы, была палітычная (грамадзянская) смерць. За ўсю першую палову XIX ст. яе стасаванне на тэрыторыі Беларусі і Літвы адзначаецца толькі аднойчы. Адбылося гэта ў Вільні ў 1848 г. падчас пакарання 3-х асоб, якія былі абвінавачаны ў садзейнічанні і дапамозе эмісару Яну Рэру. Абмежаванасць яе выкарыстання, як гэта тлумачылася суддзямі аднаго з палітычных працэсаў, была абумоўлена тым, "што цяпер палітычная смерць прызначаецца толькі ў надзвычайных выпадках, як гэта відаць з Вышэйшай канфірмацыі 12 ліпеня 1826 г. … па справе аб афіцэрах Чарнігаўскага пяхотнага палка"[455]. Згодна з гісторыкам права Васілём Латкіным, дадзены від пакарання з'яўляўся мадыфікаванай формай, характэрнай для папярэдняй эпохі кары ў выглядзе шальмавання. У такім мадэрнізаваным выглядзе ён прызначаўся ў якасці замены смяротнаму пакаранню і спадарожнічаў далейшай ссылцы на катаргу. Адным з галоўных яго элементаў для асоб дваранскага паходжання было публічнае параломванне шпагі над галавой асуджанага праз ката, што павінна было сімвалізаваць ганьбу і выключэнне гэтага чалавека з прывілеяванага саслоўя. На практыцы ўся гэта працэдура выглядала наступным чынам. Першапачаткова асуджаныя (у іх ліку і Апалін Гофмайстар) былі з вязніцы дастаўлены ў губернскае праўленне, дзе ім была зачытана канфірмацыя. Пасля, у суправаджэнні конных жандараў на адмысловых ганебных панарадах (колах), яны былі эскартаваны на плошчу, дзе быў узведзены эшафот. Кат, апрануты ў чырвонае, у прысутнасці вялікай колькасці народу здзейсніў акт публічнай смерці (параломванне шпагі), "пасля чаго … былі некаторы час вытрыманыя каля прэнгена і пасля адразу накіраваныя ў Сібір"[456]. Водгукі сярэднявечнага шальмавання выразна прасочваюцца ў працэдуры публічнага спальвання праз ката крамольных папер пад шыбеніцай у Вільне ў 1800 г.[457]

---

[454] LVIA. F. 378, ap. 147, b. 104, l. 140.

[455] LVIA. F. 378, ap. 140, b. 236, l. 91.

[456] Atenium Wilenskie, 1937, R. 4, № 12. — S. 204–205.

[457] LVIA. F. 378, ap. 8, b. 28, l. 1–3.

Тут бы хацелася звярнуць увагу на такую адметнасць: нягледзячы на факт пазбаўлення дваранскай годнасці, дадзеная катэгорыя асуджаных у Расейскай імперыі не падвяргалася цялесным пакаранням. Разам з тым апошнія былі важным элементам царскай рэпрэсіўнай сістэмы ў цэлым. Яны стасаваліся як у спалучэнні з іншымі карамі (у першую чаргу са ссылкай), так і ў якасці асобнай меры ўздзеяння (пасля таго, як Аляксандр I у 1802 г. аднавіў дзеянне "Дарчай граматы расейскаму дваранству") для асоб непрывілеяванага саслоўя. Менавіта Расейская імперыя, на думку аўтарытэтнага даследчыка права Івана Файніцкага, з'яўлялася "класічнай краінай цялесных пакаранняў ...; так, пакаранне пугай суправаджалася ссылкай на катаржную работу, пакаранне бізуном (плеццю) публічна праз ката суправаджалася ссылкай на аселасць, выпраўленчыя цялесныя пакаранні суправаджаліся аддачай у салдаты, арыштанцкія роты"[458] і пад.

Вывучэнне адметнасцей пакарання па палітычных справах сведчыць аб досыць шырокім спектры выкарыстання катавання ў розных яго формах. У абсалютнай большасці выпадкаў яно спадарожнічала ссылцы ці аддачы ў салдаты. Калі асноўнай мэтай апошніх было выдаленне палітычна нядобранадзейных асоб з краю і іх ізаляцыя, то ў выпадку з цялеснымі пакараннямі на першым месцы стаяла ідэя запалохаць іншых, ці, як адзначалася ў адной з пастаноў ваенна-палявога суда, "на страх і прыклад іншым"[459]. У сувязі з гэтым дадзены від рэпрэсій павінен быў мець пераважна публічны характар.




*Выява эшафота з прэнгерам (слупом ганьбы) 1847 г. (НГАБ у Гродне)*

У якасці месца яго здзяйснення звычайна абіралася адна з цэнтральных плошчаў гораду, якая ў афіцыйных дакументах яшчэ называлася "лобнае месца". Тут размяшчалася спецыяльная прылада, на якой ажыццяўлялася катаванне — адмысловыя "козлы"[460] (іншая назва "кабыла"). Яны ўяўлялі сабой шыро-

[458] Фойницкий И. Учение о наказании... С. 158, 160.
[459] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 1634, l. 32.
[460] НГАБ. Ф. 1297, воп. 1, спр. 1397, арк. 1.

кую дошку ў чалавечы рост з трыма адтулінамі — для рук і шыі. Асуджанага клалі на яе, яго рукі з іншага боку скручваліся дзягай, шыя прыцягвалася да дошкі, звязваліся ногі і ў такім становішчы адбывалася экзекуцыя[461]. У Мікалаеўскую эпоху ў губернскіх гарадах для падобных мэт пачынаюць стасавацца эшафоты. У 1847 г. Міністэрствам унутраных спраў была разаслана адмысловая інструкцыя, якая суправаджалася дэталёвым чарцяжом месца для выканання пакаранняў. У адпаведнасці з гэтым графічным дакументам, эшафот уяўляў сабой зборна-разборную драўляную канструкцыю з агароджай па ўсім перыметры, на якой месціліся "козлы", а таксама, на некаторым узвышшы, прэнгер (слуп ганьбы) разам з прымацаванымі да яго кайданамі[462]. Гэтай жа інструкцыяй была дэталёва распісана сама працэдура ажыццяўлення знявагі і катавання. Яна пачыналася з дастаўкі асуджанага: "Згодна гэтаму парадку, злачынцу перавозяць да месца катавання на ўзнятых чорных панарадах; ён павінен мець надпіс на грудзях аб родзе яго віны..., яго ... суправаджае святар і з усіх бакоў вайсковая варта; пасля прыбыцця на лобнае месца і пасля зачытвання ўказу, над злачынцамі дваранскага стану пераломваецца шпага, а пасля злачынца любога стану выстаўляецца ... да прэнгера і па сканчэнні 10 хвілін, калі не выняты ад цялесных пакаранняў, падвяргаецца праз ка́та пакаранню бізуном"[463]. Аб існаванні эшафота з прэнгерам і панарад на Ніжнім рынку ў Мінску згадвае ў сваіх успамінах гісторык Тадэвуш Корзан, іх актыўнае стасаванне дакументальна пацверджана ў Гародні[464]. Пры гэтым эшафот не меў стацыянарнага характару: у выпадку патрэбы ён у разабраным выглядзе мог перавозіцца ў іншы горад — туды, дзе ў ім узнікала патрэба.

Катаванне з'яўлялася кваліфікаваным пакараннем. Практыка яго прызначэння і ажыццяўлення па палітычных справах мала чым адрознівалася ад крымінальных ці адміністратыўных выпадкаў. Адзіным выключэннем з гэтага правіла было стасаванне шпіцрутэнаў. У адпаведнасці з існаваўшым заканадаўствам Расейскай імперыі, прызначэнне дадзенага віду кары з'яўлялася выключнай прэрагатывай ваенна-палявых судоў. Яе цяжкасць вар'іравалася колькасцю ўдараў. Нават у больш лагоднай, канфірмаванай вышэйшай уладай форме, некаторыя выракі ўтрымлівалі санкцыю ад 500 да 3000 удараў (праз строй у 1000 чалавек 3 разы)[465]. Як вядома, менавіта такі спосаб пакарання быў завуаляванай формай смяротнай кары ў першай палове XIX ст.

Пад шпіцрутэнамі ў тыя часы разумелі доўгія, гнуткія дубцы (пруты). Яны ўжываліся падчас прагону асуджанага праз строй, што складаўся з двух шэрагаў салдат, якія былі ўзброены шпіцрутэнамі і наносілі імі ўдары па аголенай спіне[466]. Паколькі сама ахвяра ўжо праз некаторы час самастойна не была ў стане перасоўвацца, яе прывязвалі да скрыжаваных двух прыкладаў стрэльбы і пад барабанны бой

---

[461] Евреинов Н. История телесных наказаний в России. Харьков, 1994. — С. 99.

[462] НГАБ у Гродне. Ф. 8, воп. 1, спр. 431, арк. 6–7.

[463] Ibidem. арк. 1.

[464] Корзан Т. Мінск у сярэдзіне XIX ст. // ARCHE, 2010, № 3. — С. 142; НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 38, спр. 697, арк. 96–101.

[465] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 943, арк. 32; Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim... S. XIX.

[466] Латкин В. Учебник истории русского права... С. 433.

цягнулі паміж шэрагамі, атрымаўшымі назву "зялёнай вуліцы"[467]. Падчас ажыццяўлення дадзенай працэдуры абавязковай была прысутнасць лекара, які павінен быў назіраць за станам асуджанага і ў пэўны момант мог нават спыніць экзекуцыю, завяршэнне якой у такім выпадку адкладвалася на нейкі час. Таксама наяўнасць пэўных праблем са здароўем магла стаць прычынай адтэрміноўкі катавання, але не вызвалення ад яго цалкам[468]. Пасля завяршэння пакарання шпіцрутэнамі ахвяру накіроўвалі ў шпіталь, дзе яна знаходзілася "пакуль ачуняе", і толькі тады высылалася.



*Пугі, бізуны і "штэмпелі" для кляймення (НГАБ у Гродне)*

Іншымі інструментамі, што ўжываліся для катаванняў, былі пуга, бізун, розга. Найбольш цяжкія цялесныя знявечанні наносіліся пугай, праз выкарыстанне якой некаторыя майстры сваёй справы маглі забіць чалавека 10-ю ўдарамі. Разам з тым, трэба адзначыць, што яе стасаванне ў палітычных працэсах тых гадоў сустракаецца досыць рэдка, а ў 1845 г. яна была цалкам забаронена. У гэтым жа годзе ўладамі была замацавана наступныя сістэма суадносіны цяжкасці катавання: 1–10 удараў пугай былі прыроўнены да 30 удараў бізуна; 1–10 удараў бізуна = 40 удараў розгамі[469]. Зразумела, што ўсе гэтыя спробы неяк уніфікаваць сістэму фізічных пакаранняў мелі досыць умоўны характар, па-першае, з-за таго, што тут не ўлічваўся суб'ектыўны фактар сілы ўдару, а, па-другое, самі інструменты для катавання не былі аднолькавыя і мелі свае адметнасці ці не ў кожным рэгіёне імперыі. Так, напрыклад, у Гародні ў 30-я гады XIX ст. ужываліся два варыянты пугі, якія адрозніваліся як сваёй канструкцыяй, так і памерамі асобных частак, з якіх яны складаліся. Іх асноўнымі элементамі былі: драўлянае дзяржанне (5 ці 10 вяршкоў адпаведна), пугаўё, якое ўяўляла сабой шчыльна сплеценыя паміж сабой рэмні з скуры (іншая назва каса) (6 ½ вяршкоў, у другім варыянце пугаўё адсутнічала) і, нарэшце, хвост (іншая назва "язык") — ударная частка пугі, якая насоўвалася на пугаўё (дзяржанне), даўжыня якога складала 14 і 12 аршын адпаведна. Калі на гэту самую аснову прымацоўвалася іншая сырамяць (1 аршын 1 вяршок ці 11 вяршкоў), што мела тры "хвасты", то тая ператваралася ў бізун[470].

Расейскія ўлады неаднаразова прадпрымалі спробы па стандартызацыі інструментаў для катавання ў межах імперыі. Так, з гэтай мэтай імі ў 1848 г. былі

[467] Евреинов Н. История телесных наказаний… С. 113.
[468] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 8879, l. 42.
[469] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 26, спр. 335, арк. 3.
[470] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1232, арк. 8.

разасланыя інструкцыі адносна вырабу розгаў, у адпаведнасці з якімі тыя ўяўлялі сабой “тонкія бярозавыя дубцы, даўжынёй 1¼ аршына (каля 90 см.), колькасцю ад 10 да 15 штук... Дубцы перавязаны ў трох месцах, без лісця...”. Акрамя таго, дадзенае прадпісанне ўключала ў сябе падрабязныя правілы па іх прымяненні і правільным захаванні: “Пасля 10-і ўдараў розгі прызнаюцца нягоднымі для далейшага выкарыстання і павінны быць замененыя на іншыя... Павінны захоўвацца ў сырым месцы...” і г.д[471].

Яшчэ адным відам цялесных пакаранняў у Расейскай імперыі з’яўлялася кляйменне. Палітычныя ссыльныя, якія не былі вызваленыя ад катаванняў, без выключэнняў падвяргаліся яму на ўзроўні з крымінальнымі. “Таўро” ставілася адмысловымі “штэмпелямі”, якія складаліся з драўлянага дзяржання і стальных (жалезных) пласцінаў з вострымі іглямі. Менавіта імі на скуры асуджанага пасля моцнага ўдару кулаком або драўляным малатком пакідалася тая ці іншая літара. Далей на гэтае месца наносілася адмысловая сумесь, якая надавала адзнацы трываласць. У першай палове XIX ст. для кляймення розных катэгорый злачынцаў ужываліся розныя спалучэнні літар. Адпаведным распараджэннем ад 18 чэрвеня 1846 г. у дачыненні да ссыльных былі замацаваныя наступныя віды знакаў: “К. А. Т.” — для катаржнікаў, “С. К.” — для ссыльна-катаржных і “С. П.” — для ссыльна-пасяленцаў[472]. Тады ж ва ўжытак былі ўведзены адмысловыя машынкі для “таўравання”, якія часткова механізавалі і значна спрасцілі ўсю гэтую працэдуру.

Архіўныя дакументы афіцыйнага справаводства ўтрымліваюць мінімум інфармацыі, як, кім і дзе ажыццяўлялася працэдура катавання. Звычайна запіс у такіх выпадках абмяжоўваецца лаканічным паведамленнем аб тым, што той ці іншы асуджаны быў пакараны адпаведнай колькасцю ўдараў і адасланы па прызначэнню. У большасці падобных паведамленняў у якасці месца выканання экзекуцыі адзначалася “пры паліцыі”, а гэта ў сваю чаргу азначае, што выканаўцамі ў такіх выпадках выступалі непасрэдна паліцэйскія чыны. Пацверджанне гэтаму можна, сярод іншага, знайсці ў тагачасных афіцыйных дакументах. Так, у Магілёўскай губ. пад паліцэйскім наглядам знаходзіўся былы служачы гэтага ведамства — за тое, што падчас экзекуцыі ў Чэрыкаве ў 1843 г. закатаваў бізуном селяніна Зуева да смерці[473]. Але разам з тым, у Расейскай імперыі ў той час былі прафесійныя кáты — людзі, чыім абавязкам якраз і было фізічнае пакаранне злачынцаў (незалежна ад таго, ці былі тыя крымінальныя, ці палітычныя). Заканадаўствам першай паловы XIX ст. прадугледжвалася наяўнасць у губернскіх цэнтрах па дзве асобы, а ў “правінцыях” па адным чалавеку азначанай прафесіі[474]. Аднак у рэчаіснасці так не было. Вядома, што калі ў Мінску гэтая прававая норма пэўны час выконвалася (у заплечнага майстра быў свой памочнік)[475], то, для прыкладу, у Гародні былі перыяды, калі горад (і адпаведна ўся губерня) заставаліся без прафесійнага экзекутара. У такіх выпадках кат камандзіраваўся з суседніх рэгіёнаў.

---

[471] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 4, спр. 844, а. 2.

[472] Студенкин Г. Заплечные мастера. Исторический очерк // Русская старина, 1873, Т. 8, № 8. — С. 220–221.

[473] НГАБ. Ф. 1297, воп. 2, спр. 68 арк. 18.

[474] LVIA. F. 378, ap. 41, b. 915, l. 3.

[475] НГАБ. Ф. 333, воп. 3, спр. 178, арк. 2–19; Ф. 18, воп. 1, спр. 13, арк. 12–16; Ф. 18, воп. 1, спр. 35, арк. 51–54. — *Інфармацыя прадстаўлена мінскім гісторыкам А. Ерашэвічам.*

Разам з тым, зыходзячы нават з афіцыйных дакументаў той эпохі, можна меркаваць, што катаванне стасавалася не толькі ў якасці спадарожнай карнай меры падчас ссылкі, але як і цалкам самастойнае пакаранне. Пры гэтым досыць часта гэта рабілася насуперак дзеючым прававым нормам. Практыка злоўжывання ў гэтай сферы была пашырана як з боку цывільных, так і вайсковых уладаў. Бізун, пуга і нагайка былі асноўным інструментам пацыфікацыі рознага кшталту сялянскіх хваляванняў. Але гэтым сфера іх ужытку не абмяжоўвалася. Асабліва шмат падобных фактаў было зафіксавана ў 1831 г. падчас задушэння паўстання. Некаторыя з такіх экзекуцый, як у выпадку з маёрам паўстанцкіх войскаў Паўлоўскім, якога катавалі з мэтай здабыцця неабходнай інфармацыі, маглі нават скончыцца смерцю ахвяры азначанага самаўпраўства[476]. Вышэйшае вайсковае начальства пры гэтым не толькі не ўчыніла разбіральніцтва па гэтым эпізодзе, але сваімі распараджэннямі для службовага карыстання, наадварот, падтрымлівала такія дзеянні. Так, у адным з прадпісанняў камандзіру 1-ай уланскай дывізіі кн. Хлынаву(?) галоўнакамандуючы дзеючай арміяй, сярод асноўных мер "пакарання бунтаўшчыкоў" у Віленскай губ. загадваў "з ліку простых шляхціцаў, і іншых вольных людзей, і сялян, схопленых са зброяй у руках, кожнага дзясятага пасля цялесных пакаранняў адсылаць у Сібір ці катаржныя работы на ваш погляд, рэшту таксама пасля цялеснага пакарання высылаць у Каўказскі асобны корпус. Няздольных да вайсковай службы караць цялесна і пасля агольвання паловы галавы вяртаць на сталае месца жыхарства". Адзінае выключэнне, якое было зроблена ў гэтым распараджэнні, тычылася кляймення ўсіх азначаных катэгорый паўстанцаў, са стасаваннем якога Іван Дзібіч не пагадзіўся[477].

Як адзначалася вышэй, адной з асноўных мэт фізічнага пакарання было аказанне псіхалагічнага ўздзеяння на навакольных жыхароў. Разам з тым працэдура катавання калі-нікалі магла мець цалкам закрыты характар. Найчасцей такія выпадкі мелі месца ў рознага кшталту навучальных установах, у тым ліку і кадэцкіх карпусах. У якасці найбольш рэпрэзентатыўнага прыкладу тут можна прывесці справу вучня 5-га класа магілёўскай гімназіі Льва Пятроўскага, у якога быў знойдзены перапісаны ім верш "зламыснага зместу". Пасля доўгага разбіральніцтва і шматлікіх просьбаў сваякоў адносна навучэнца, вышэйшым начальствам было прынята ў цэлым не характэрнае рашэнне пакараць яго дома розгамі "без сведкаў"[478]. Як сведчаць іншыя прыклады, найбольш часта катаванне такіх асоб ажыццяўлялася па месцы іх вучобы, непасрэдна сіламі вучылішчнага начальства.

Найбольш цяжкім і складаным, як у фізічным, так і маральным плане з усіх тых выпрабаванняў, што чакалі асуджаных да розных відаў ссылкі, была непасрэдная дарога ў Сібір. У шматлікіх успамінах па гэтым прадмеце, ссыльныя ў адзін голас адзначаюць, што самі варункі адбыцця пакарання часта аказваліся не такімі жахлівымі ў параўнанні з тымі пакутамі і чаканнямі,

---

[476] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 1102, арк. 23.
[477] LVIA. F. 378, ap. 38, b. 525, l. 15.
[478] НГАБ. Ф. 1297, воп. 1, спр. 9820, арк. 46, 47.

што зведвалі яны на шляху да месца высылкі[479]. Выпрацаваная ў Расейскакай імперыі сістэма дэпартацыі ссыльных уяўляла сабой адладжаны механізм, які ад пачатку XIX ст. кіраваўся сваім унутраным правам. Аналіз заканадаўчай базы і практыкі яе рэалізацыі выяўляе некалькі асноўных спосабаў перасылкі палітычных.



*План этапнага дома, Каменка (НГАБ у Гродне)*

Адным з іх была ссылка па этапах. Дадзены класічны тып прымусовага дастаўлення ссыльных да месца адбыцця іх пакарання фарміруецца ў 1818–1822 г. Ён прыходзіць на змену існаваўшай у папярэднюю эпоху практыкі так званага "безэтапнага" канваіравання, адметнасцю якога была нязменнасць канвою на працяглых адрэзках шляху[480].

Стварэнне этапных пунктаў для перасылкі зняволеных адбывалася паступова, па меры далучэння беларускіх земляў да Расейскай імперыі. У адрозненне ад вядомага сібірскага шляху, звычайна гэта не былі адмыслова пабудаваныя станцыі. Дзеля гэтых мэт выкарыстоўваліся самыя разнастайныя будынкі. У архіўных матэрыялах, што адносяцца да 20–50-х гадоў XIX ст. утрымліваецца інфармацыя аб этапных станцыях, якія месціліся ў сялянскіх клунях, звычайных хатах, корчмах і іншых не прызначаных для гэтага памяшканнях[481]. Падобная сітуацыя, дарэчы, была характэрна для ўсёй пенітэнцыярнай сістэмы на абшарах былога ВКЛ. Прычына дадзенай з'явы крылася ў тым, што з-за недахопу сродкаў ні дзяржаўныя, ні мясцовыя ўлады часта не былі ў стане пабудаваць новыя пункты для этапіравання. З гэтае прычыны ім даводзілася арандаваць так-сяк прыстасаваныя дзеля гэтых патрэб будынкі ў мясцовых жыхароў. Пры гэтым, як сведчыць практыка, улады не заўсёды захоўвалі прынцып добраахвотнасці пры выбары падобных памяшканняў[482]. Таксама дзеля гэтых мэт выкарыстоўваліся турмы

[479] Śliwowska W. Ucieczki z … S. 13.

[480] Серак А. Працэс этапірвання паўстанцаў 1863–1864 г. у Сібір // ARCHE, 2010, № 12. — С. 223.

[481] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 736, арк. 1; Ф. 1, воп. 1, спр. 1256, арк. 165; Ф. 2, воп. 27, спр. 64, арк. 5; Серак А. Працэс этапірвання паўстанцаў… С. 235.

[482] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 1256, арк. 165.

і астрогі, што размяшчаліся ў губернскіх і ўездных гарадах. Менавіта перасыльныя безумоўна дамінавалі сярод усіх катэгорый зняволеных такіх пенітэнцыярных устаноў.

Натуральна, што ў абсалютнай большасці выпадкаў толькі невялікая частка этапных станцый больш ці менш адпавядала тым вымаганням, што былі замацаваныя адпаведнымі інструкцыямі і прадпісаннямі. Калі падобныя аб'екты ўздоўж усяго сібірскага тракту былі паўсюдна абнесеныя частаколам па перыметры двара, мелі асобнае памяшканне для размяшчэння канвою і былі абсталяваныя адмысловымі будкамі для вартаўнікоў, то для Беларуска-Літоўскага краю наяўнасць усіх гэтых элементаў з'яўлялася хутчэй выключэннем чым правілам. Дакументы па гэтым прадмеце выяўляюць, што досыць часта на такіх перасыльных пунктах адсутнічала самае неабходнае: яны не мелі дастатковай колькасці нар, свеч і лучынаў, адсутнічалі краты на шыбах, а на ноч перасыльныя і вартавая каманда дзе-нідзе размяшчаліся асобна па сялянскіх хатах[483]. Натуральна, што такія недахопы ў значнай ступені аблягчала ўцёкі з-пад варты, якія асабліва часта фіксуюцца на старонках дакументаў падчас масавай дэпартацыі ваеннапалонных у 1813–1814 і 1831–1833 гадах. Таксама варта заўважыць, што і з пазіцыі ссыльных, этапныя і начлежныя пункты былі не столькі месцам адпачынку, колькі месцам працягу іх пакут і выпрабаванняў. Абсалютна ўсе даследчыкі, а таксама мемуарысты адзначаюць той неверагодны атрутны смурод, які быў галоўнай характарыстыкай такіх месцаў. На жаль, яны не даюць прамога адказу на пытанне аб крыніцах яго паходжання. Мы можам толькі выказаць меркаванне, што на большасці такіх станцыях арыштанты зачыняліся ў памяшканні на ноч без элементарнай магчымасці, карыстаючыся мовай тагачасных дакументаў, "сходзіць да ветру". Да гэтага ўсяго дадаваліся неабходнасць размяшчацца на падлозе з-за адсутнасці нар, бруд у сукупнасці з тысячамі насякомых-паразітаў, недастатковае ацяпленне і асвятленне памяшканняў і інш.



*Этапны пункт у Сібіры*

[483] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 4, спр. 113, арк. 1, 6; Ф. 2, воп. 27, спр. 64, арк. 28–30; Ф. 1, воп. 19, спр. 1557, арк. 125.

У аснове механізму этапіравання зняволеных ляжала так званая "маятнікавая сістэма". Яе сутнасць заключалася ў тым, што ўвесь шлях да месца адбыцця пакарання быў разбіты на пэўныя адрэзкі: этапы і паўэтапы. Кожная з перасыльных станцый была месцам сталай дыслакацыі пэўнай этапнай каманды, якая звычайна складалася з вайскоўцаў інваліднай каманды ці ўнутранай стражы. Асноўнай задачай апошніх было ажыццяўленне канваіравання арыштантаў да месца перадачы іх чарговай аналагічнай камандзе. Адбывалася гэта наступным чынам: у пэўны дзень тыдня канвой для прыёму партыі выходзіў з месца свайго размяшчэння насустрач арыштантам, якія ў гэты час пад наглядам іншых вартаўнікоў рухаліся ў іх кірунку ад папярэдняга этапу. У дакладна вызначаным адпаведнай інструкцыяй пункце (які меў назву паўэтапу) адбывалася перадача ссыльных ад адной каманды іншай. Тут жа, на паўэтапе, іх размяшчалі на начлег. На наступны дзень партыя працягвала рух па вызначаным маршруце да этапнага пункта. У большасці такіх месцаў адпаведным "раскладам" для арыштантаў быў прадугледжаны дзённы адпачынак (растраг), пасля якога іх суправаджалі да наступнага паўэтапу, дзе іх пераймала іншая этапная каманда[484]. Такім чынам атрымлівалася, што пры такой сістэме канваіры не аддаляліся ад стацыянарнага месца свайго знаходжання на адлегласць больш чым у адзін пераход, але ў часавым вымярэнні ўся працэдура ад сустрэчы і перадачы ў сукупнасці займала ў іх 5 дзён, што, у сваю чаргу, абмяжоўвала прапускную здольнасць любога перасыльнага тракту ў межах Расейскай імперыі адной партыяй на тыдзень.

Станаўленне і развіццё этапнай сістэмы адбывалася на працягу ўсёй першай паловы XIX ст. У першую чаргу гэта выяўлялася ў распрацоўцы новых перасыльных маршрутаў (і, адпаведна, стварэнні этапных і паўэтапных пунктаў), якія ў выніку, нібыта павуцінне, ахінулі тэрыторыю ўсёй імперыі. Практычнае іх выкарыстанне не абмяжоўвалася выключна дастаўкай ссыльных у Сібір. Гэта была вуліца з двухбаковым рухам. Акрамя таго, гэтыя тракты стасаваліся для перасылкі асуджаных і ў іншыя рэгіёны (у тым ліку на Каўказ), а таксама для транспарціроўкі розных катэгорый злачынцаў у межах губерні, суправаджэння рэкрутаў і пад.

Шматлікімі інструкцыямі, а таксама "Уставам аб ссыльных" 1822 г. замацоўваліся максімальна дапушчальныя лічбы перасыльных у адной партыі, а таксама вызначаўся склад камандаў, што іх суправаджалі. Пры гэтым, у сілу шэрагу прычын (пераважна геаграфічнага характару), беларуска-літоўскія землі мелі шэраг адметнасцей. У адрозненне, напрыклад, ад знакамітага сібірскага ссыльнага тракту, што злучаў цэнтральны рэгіён Расіі (Масква) з Табольскам (тут размяшчаўся Прыказ аб ссыльных), на абшарах былога ВКЛ уся сістэма этапіравання была разлічана на значна меншыя аб'ёмы перасыльных. Так, калі ў першым выпадку колькасць ссыльных, якія маглі перасылацца адначасова, абмяжоўвалася ста чалавекамі (на практыцы гэтае абмежаванне не заўсёды выконваліся і пры пэўных умовах іх лічба магла дасягаць 300–400 асоб[485]), то ў заходніх губернях імперыі яна звычайна не павінна была перавышаць 30

[484] Кононова Л. Ссылка участников польского восстания... С. 80–81; НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 30, спр. 64, арк. 5–6.

[485] Кеннан Дж. Сибирь и ссылка. В двух частях. Спб., 1906. — С 62; Kuczyński A. Syberia. Czterysta lat... S. 72

арыштантаў[486]. Зразумела, што прычынай падобных разыходжанняў у колькасных паказчыках з'яўлялася зусім не лепшая крымінальная сітуацыя ў дадзеным рэгіёне. Гэта адбывалася таму, што па меры прасоўвання на ўсход такія партыі, нібыта снежны ком, павялічваліся за кошт далучэння новых перасыльных з іншых губернскіх турмаў. Так, напрыклад, калі ў партыі, што высылалася з Брэсту ў 1818 г. максімальна дапушчальная лічба складала 6 асоб, то з Мінска ўжо 11, а са Смаленска 18 адпаведна[487]. Пры гэтым беларускія землі ні ў якім разе не могуць разглядацца ў якасці крайняй заходняй кропкі гэтага сумнага шляху: яны былі толькі невялікім транзітным адрэзкам маршруту для тых, хто пачынаў яго з тэрыторыі суседняга Каралеўства Польскага.

*Схема-інструкцыя канваіравання партый ссыльных (НГАБ у Гродне)*

Згаданымі вышэй дакументамі і распрацаванымі на іх базе інструкцыямі замацоўваўся склад этапных каманд, а таксама парадак фармавання, суправаджэння і нагляду за партыяй. Этапная каманда на беларуска-літоўскіх землях звычайна складалася з 17–19 канваіраў (уключаючы обер-афіцэра, 2-х унтэр-афіцэраў і барабаншчыка). Калі пазіцыі канвойных, якія яны мусілі займаць у адносінах да арыштантаў, былі досыць рухомыя і маглі ў залежнасці ад розных фактараў суб'ектыўнага характару мяняцца, то непасрэдна самі ссыльныя былі пашыхтаваныя ў нязменным, раз і назаўсёды замацаваным парадку. Згодна з ім любая партыя падзялялася на тры часткі. Першымі павінны былі рухацца ссыльна-катаржныя. За імі на адлегласці 25-і крокаў усе іншыя арыштанты мужчынскага полу, а яшчэ праз 35 крокаў — жанчыны. У ар'ергардзе такой калоны знаходзіліся фурманкі з хворымі і сем'ямі тых ссыльна-пасяленцаў, якія выказалі згоду следаваць за сваімі сужэнцамі ў Сібір[488].

Важнай прэвентыўнай мерай з мэтай недапушчэння ўцёкаў ссыльных, а таксама адным з элементаў іх пакарання была закоўка. У дакументах пачатку XIX ст. дадзеная катэгорыя арыштантаў досыць часта фігуруе пад тэрмінам калоднікаў, што было абумоўлена стасаваннем у дачыненні да некаторых з іх у месцах адпачынку нерухомых калод. Забарона апошніх у 1827 г. прывяла да

[486] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 30, спр. 64, арк. 9, 13–16; Ф. 1, воп. 10, спр. 736, арк. 1.
[487] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 1256, арк 60.
[488] Максимов С. Сибирь и каторга. Ч. 3. Политические... С. 47; НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 30, спр. 64, арк. 6–7.

замацавання ў пенітэнцыярнай сістэме Расейскай імперыі новых форм дадзенага віду цялеснага пакарання. Пры гэтым яно было кваліфікаваным і залежала не толькі ад катэгорыі ссыльнага, але і ад гендарнага фактару. Так, у дачыненні да ссыльна-катаржных ужываліся нажныя жалезы, у той час як да ўсіх іншых катэгорый ссыльных, а таксама жанчын — ручныя. Выкарыстанне апошніх хоць і лічылася больш лёгкай мерай (іх вага не павінна была перавышаць 2,25 кг[489].), але пры гэтым суправаджалася прымацаваннем да агульнага прэнгу. Ён уяўляў сабой жалезны прут, праз які прапускаліся кайданкі 3-4-х чалавек і, такім чынам, яны аказваліся на адной вязанцы. Зняць яго была магчымасць толькі на этапе, а таму нават на начлезе такія ссыльныя заставаліся абмежаваныя ў свабодзе рухаў. Таму пасля 8 гадоў стасавння ўлады замянілі прэнг у 1832 г. на гнуткі ланцуг[490].

Палітычныя, якія высылаліся пры дапамозе этапнай сістэмы, не былі выключэннем з агульных правілаў. У адносінах да іх дзейнічалі ўсе тыя нормы і правілы, што і ў дачыненні да крымінальных. У першую чаргу гэта тычылася асоб непрывілеяванага стану. Як сведчаць архіўныя матэрыялы, змена іх статуса з вязня на ссыльнага адбывалася імгненна: пасля абвяшчэння канфірмацыі асобу маглі адразу ж закуць, пераапрануць у адпаведнае арыштанцкае адзенне і выслаць, не зважаючы на позні, ці нават начны час.[491] Тыя, хто ссылаўся па этапу, пасля зацверджання іх прысуду вышэйшым начальствам, звычайна перадаваліся ў распараджэнне мясцовага батальёна ўнутранай стражы (інваліднай каманды), каб пасля быць накіраваным да месца ссылкі з першай этапнай партыяй. Аналагічным чынам паступалі з асуджанымі да аддачы ў салдаты. Пры гэтым апошнія мусілі яшчэ прайсці своеасаблівую “медкамісію” ў рэкруцкай прысутнасці на прадмет выяўлення іх прыдатнасці/непрыдатнасці да вайсковай службы[492]. Але нават адмоўнае заключэнне лекараў ад пакарання не вызваляла. У такіх выпадках заканадаўствам была прадугледжана яго замена на адзін з відаў ссылкі ці аддача ў арыштанцкія роты цывільнага ведамства[493].

Супастаўленне прававых норм з практыкай ажыццяўлення этапіравання (як і ў многіх іншых эпізодах) выяўляе шэраг неадпаведнасцей паміж імі. Так, напрыклад, інструкцыямі забаранялася закоўка асоб дваранскага паходжання нават тады, калі тыя праз рашэння суда ці нейкага іншага органа былі пазбаўлены свайго ранейшага прывілеяванага стану[494]. На жаль, ні архіўныя дакументы, ні ўспаміны той эпохі не даюць адказу на пытанне, чаму гэтае палажэнне парушалася. Факты ссылкі дваран (ці пазбаўленых гэтага статусу арыштантаў) у кайданах сустракаюцца цягам усёй першай паловы XIX ст. Найбольш ілюстрацыйным тут з’яўляецца прыклад магната князя Рамана Сангушкі, які за ўдзел у паўстанні 1831 г. згодна

---

[489] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 30, спр. 174, арк. 2.

[490] Максимов С. Сибирь и каторга. Ч. 3. Политические... С. 55–56; Кодан С. Сибирская ссылка участников оппозиционных выступлений и движений в Царстве Польском 1830–1840-х гг. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://lib.pomorsu.ru/exile/Polska_ssylka/Kodan.doc

[491] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 137; LVIA. F. 378, ap. 1.142, b. 101; F. 378, ap. 130, b. 32; Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny... S. 331.

[492] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 9225, l. 9, 21.

[493] Рубинштейн С. Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям... С. 482.

[494] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 30, спр. 64, арк. 9.

з канфірмацыяй Мікалая I быў высланы на перакладных. Але ў хуткім часе імператар палічыў такую меру недастатковай і загадаў, каб увесь далейшы шлях князь здзейсніў пешшу закуты[495].



*Перасыльны ў арыштанскай вопратцы і кайданах (Kennan G. Siberia and the Exile System)*

Нягледзячы на тое, што падчас свайго руху да месца адбыцця пакарання ссыльных суправаджалі сотні розных этапных каманд у розных кутках імперыі, практыка злоўжыванняў і невыканання сваіх абавязкаў была ў роўнай ступені характэрна для ўсіх іх незалежна ад геаграфічнага палажэння. Успаміны (у меншай ступені дакументы) фіксуюць частыя выпадкі фінансавых махінацый з боку каравульных. У першую чаргу гэта было звязана з крадзяжом тых грошай, што павінны былі выдавацца арыштантам на рукі для іх харчавання. Акрамя таго, ні ўнтэр-афіцэры, ні простыя шарагоўцы не грэбавалі паборамі за аказанне тых ці іншых паслуг ссыльным. Асобна ў правілах этапіравання абгаворвалася недапушчэнне апошніх да збору міласціны. Факты сведчаць, што парушэнне гэтай нормы адбывалася пры непасрэдным удзеле і нават заахвочванні з боку тых, хто павінен быў забяспечыць яе выкананне. Як адзначалася ў скарзе аднаго вайсковага чыноўніка, "унтэр-афіцэр падчас начлегаў з арыштантаў па іх просьбе здымае з іх наручнае жалеза", "адпускае іх збіраць міласціну па дварах" і "рэдка заўважана яна (каманда) цвярозай"[496]. Што праўда, дадзеная з'ява на беларуска-літоўскіх землях не атрымала таго размаху і маштабнасці, якую яна мела ў велікаросkіх і сібірскіх губернях, дзе жабраванне ссыльных набыло сапраўды рытуальныя формы[497]. Масавыя факты аказання дапамогі ссыльным з боку мясцовых жыхароў (у пер-

[495] Śliwowska W. Polscy zesłańcy polityczni na Sybirii… S. 249.

[496] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 947, арк. 1, 3, 4.

[497] Гл. Максимов С. Сибирь и каторга. Ч. 3. Политические…

шую чаргу памешчыкаў і шляхты) на тэрыторыі літоўска-беларускага краю фіксуюцца ў асноўным у 1831–1833 г. падчас дэпартацыі ваеннапалонных былой арміі Каралеўства Польскага.

Частка з тых парушэнняў, што былі характэрны для этапнай сістэмы ў першай палове XIX ст., вынікала з прычын аб'ектыўнага характару. Сярод такіх была неадпаведнасць большасці этапных і начлежных пунктаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы тым вымаганням, што мусілі выконвацца. Адсюль, напрыклад, вынікала немагчымасць не толькі размясціць асобна розныя катэгорыі ссыльных, але нават аддзяліць мужчын ад жанчын. Вынікам такога стану рэчаў стала распаўсюджванне венерычных захворванняў сярод дадзенай катэгорыі арыштантаў, прычыны якой улады бачылі ў "распусным іх жыцці, якое жанчыны вядуць падчас следавання ... з калоднікамі, якія спадарожнічаюць ім"[498].

Падчас свайго шляху ссыльныя мусілі пешшу пераадолець тысячы вёрст, што само па сабе для многіх з'яўлялася непасільным выпрабаваннем. Так, напрыклад, адлегласць з Брэсту да Вяткі (ад якой да Табольска было яшчэ вельмі далёка) складала 1444 вярсты (1540 км.), з Беластоку да Масквы — 1100 вёрст, з Гародні да Стаўрапаля 1505 вёрст ці, згодна з этапным раскладам, 111 дзён у часавым вымярэнні[499]. Нягледзячы на тое, што дыстанцыя паміж этапнымі пунктамі, па-ідэі, павінна была быць больш ці менш аднолькавай, у рэчаіснасці яна магла досыць істотна вагацца. Так, мінімальны дзённы пераход мог складаць 14 вёрст, у той час як максімальны дасягаць 34 вярсты (15 і 36,2 км. адпаведна) у межах нават адной губерні[500]. У сярэднім ссыльныя па тракце Брэст-Смаленск пераадольвалі 19,7 вёрст за дзень. Пры гэтым рух павінен быў адбывацца пры любых умовах, не зважаючы ні на надвор'е (дождж, спёка, мароз), ні на стан дарогі, ні на іх самаадчуванне (у выпадку хваробы арыштант пераводзіўся на фурманку і транспартаваўся далей да першага пункту, дзе быў лазарэт ці шпіталь). А калі да выпрабаванняў этапамі і кайданамі дадаць адсутнасць элементарных санітарна-гігіенічных норм у месцах адпачынку, недахоп нават самай простай ежы, псіхалагічны шок ад раптоўнай змены звычаёвага ўкладу жыцця і лёсу, сталае суседства з самай маргінальнай часткай тагачаснага грамадства ў выглядзе крымінальных элементаў, маральны ціск і фізічныя злоўжыванні з боку канваіраў, то, у выніку, для многіх гэты шлях ператвараўся ў сапраўднае пекла, пасля якога непасрэднае адбыццё пакарання здавалася не такім ужо страшным.

Ссылка па этапах была асноўным, але не адзіным спосабам дэпартацыі арыштантаў. У першай палове XIX ст. досыць шырокае распаўсюджанне таксама атрымала іх транспарціроўка на фурманках (павозках). Галоўнымі адметнасцямі гэтага тыпу перасылкі былі:

– стасаванне яе выключна ў дачыненні да палітычных ссыльных;

– абмежаванне яе выкарыстання ў дачыненні да жыхароў пераважна заходніх губерняў імперыі;

– вынятак дадзенай катэгорыі арыштантаў з агульнай (этапнай) сістэмы перасылкі;

[498] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 1256, арк. 92.

[499] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 1902, арк. 30; Ф. 2, воп. 30, спр. 64 арк. 5; Ф. 1, воп. 27, спр. 139, арк. 12.

[500] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 27, спр. 64, арк. 28.

– максімальны хуткі час дастаўкі такога арыштанта да месца адбыцця пакарання;

– сацыяльная абмежаванасць.

З аналізу прававых палажэнняў па дадзеным прадмеце вынікае, што ўзнікненне і распаўсюджанне ссылкі на перакладных (паштовых) было звязана з імкненнем царызму максімальна ізаляваць найбольш небяспечныя палітычныя элементы. Дзеля гэтых мэт апошнія звычайна высылаліся па-асобку ці, максімум, па два чалавека[501]. Не менш важную ролю пры гэтым адыгрывалі меры прэвентыўнага характару — не даць такім важным злачынцам жаднага шансу на ўцёкі, ці, як адзначалася ў адным з дакументаў, што закладваў прававыя падставы дадзенага тыпу перасылкі, "дзеля большай дабранадзейнасці"[502]. Таму, дзеля забеспячэння максімальнай ізаляцыі і пільнага нагляду за падобнымі арыштантамі, на працягу ўсяго маршруту іх павінны былі суправаджаць жандары ці вайсковыя чыны. Паколькі ў такім выпадку казна несла пэўныя выдаткі, то ссыльны мусіў пасля вярнуць усе грошы, што былі зрасходаваны на камандзіроўку свайго наглядчыка (наглядчыкаў) са свае ўласнае кішэні. Менавіта гэтая акалічнаць абумовіла стасаванне дадзенага спосабу дэпартацыі ў дачыненні да пераважна прывілеяваных (адсюль маёмасных) слаёў. Сумы па тагачасных мерках былі не малыя. Так, напрыклад, ксёндз Віцэнт Замяхоўскі быў вымушаны заплаціць за свайго суправаджальніка зыходзячы з 50 кап. у суткі[503] (для параўнання, дзяржава выдзяляла на харчаванне ссыльным (у залежнасці ад сацыяльнага статусу і рынкавых цэн на прадукты) ад 2 да 6 кап.). Хаця і тут былі некаторыя выключэнні. Так, з кс. Міхала Зялёнкі, які быў высланы ў 1833 г. з Гародні ў Арэнбург, выдаткі на яго транспарціроўку і суправаджэнне былі спагнаны не з яго асабіста, а з кляшторных фундушаў[504].

Упершыню дадзены тып перасылкі быў выкарыстаны ў дачыненні да ўдзельнікаў тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Пасля ён ужываўся падчас пакарання дзекабрыстаў і звязаных з гэтым асяродкам асоб. Але сваё канчатковае прававое афармленне ссылка ў суправаджэнні жандараў атрымала толькі ў 30-я гады XIX ст., што было абумоўлена яе далейшым пашырэннем у сувязі з задушэннем паўстання 1830–1831 г. і выкрыццём розных канспіратыўных сетак на тэрыторыі заходніх губерняў. Першапачаткова дадзеная мера, у адпаведнасці з распараджэннем галоўнакамандуючага дзеючай арміяй ад 16 лістапада 1831 г., была распаўсюджана на "найбольш значных злачынцаў" ці, як вынікае з далейшага тэксту дакумента, тых, хто быў асуджаны "за мяцеж у катаржныя работы ці аселасць у Сібір." У якасці асноўнай прычыны на карысць менавіта такога спосабу перасылкі быў прыведзены аргумент аб няздольнасці этапнай сістэмы забяспечыць іх бяспечную дастаўку да месца адбыцця пакарання. У сувязі з гэтым прадпісвалася такіх асоб высылаць на паштовых у суправаджэнні "нарачных да мяжы ўнутраных велікарускіх губерняў, скуль

[501] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532, арк. 104; LVIA. F. 381, ap. 24, b. 8879, l. 57; F. 378, ap. 130, b. 32, l. 180.

[502] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 37, арк. 1.

[503] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 80, арк. 7.

[504] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 295 арк. 93.

яны павінны перасылацца звычайным парадкам пасродкам этапаў”[505]. Аднак, як бачна з далейшых распараджэнняў па дадзеным прадмеце, нават такія меры перасцярогі не заўсёды мелі той вынік, на які яны былі разлічаны. Так, пасля здзяйснення некалькімі былымі паўстанцамі ўцёкаў у 1835 г. з Аляксандраўскага бровару, што ў Іркуцкай губ., генерал-губернатар Усходняй Сібіры адзначаў, што такое стала магчымым дзякуючы існуючаму парадку, калі частку свайго шляху такія ссыльныя адбывалі на агульных з іншымі арыштантах умовах[506]. Канчатковую кропку ў гэтым пытанні паставіла імператарскае распараджэнне ад 1839 г., згодна з якім загадвалася “ўсіх палітычных для большай дабранадзейнасці высылаць на паштовых да Табольска...”[507].

Менавіта такі спосаб перасылкі дамінаваў падчас ссылкі на ўсход (не на Каўказ) удзельнікаў розных тайных арганізацый і спісаў 30–40-х гадоў XIX ст. Адзін з першых даследчыкаў гэтага пытання Браніслаў Залескі (які сам быў высланы ў Арэнбург у 1848 г. па справе эмісара Яна Рэра) адзначыў такую цікавую акалічнасць, што ссылка на перакладных стасавалася ў дачыненні да выхадцаў з тэрыторыі заходніх губерняў імперыі, “але з братамі нашымі з Каралеўства Польскага зусім інакш паступалі, яны ўвесь шлях з Варшавы ... павінны былі прайсці пешшу”[508]. Яго апісанне ў сукупнасці з іншымі ўспамінамі, а таксама архіўныя дакументы раскрываюць некаторыя важныя аспекты гэтага спосабу транспарціроўкі перасыльных.

Пачнем з таго, што ў мемуарнай літаратуры можна сустрэць розныя ацэнкі дадзенага тыпу перасылкі. Так, удзельнік “змовы” Шымана Канарскага, Юстын Руцыньскі ў сваіх успамінах з жахам згадвае свой шлях з Кіева да Табольска: “Я быў закуты ў паўпудовыя (8 кілаграм) кайданы, пасаджаны ў кібітку між двух жандараў і вывезены ў невядомы і нявызначаны абшар... Вандроўка... да Табольска цягнулася 20 дзён. За гэты час ніводзін з нас не адпачываў і не толькі не мяняў бялізну, але закуты ў кайданы, не здымаў абутку. Толькі ў Табольску праз два дні вызвалілі нашы ногі ад жорсткага кіеўскага жалеза і апранулі лёгкія кайданы, прыдатныя для далейшага пешага паходу, што нас чакаў”[509]. Факты закоўкі такіх вязняў пацвярджаюцца многімі іншымі крыніцамі[510]. У той жа самы час, той жа Браніслаў Залескі прыводзіць іншыя факты і, адпаведна, іншыя ацэнкі. На яго думку, хуткая язда на паштовых у кібітцы “не была такой жудаснай”. Нават суправаджэнне жандараў мела некаторыя выгоды, калі з імі ўдавалася ўсталяваць нармальны кантакт: “бывалі выпадкі, што калі за грошы, прызначаныя для харчавання вязня (2 ½ кап.) ледзьве сухога хлеба здабыць было можна... (жандары) самі складваліся, угаворваючы, каб вязень прыняў іх

[505] LVIA. F. 381, ap. 7, b. 1758, l. 2; 4–1–80, арк. 23.

[506] LVIA. F. 381, ap. 24, b. 11589, l. 1, 2.

[507] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 37, арк. 1.

[508] Zaleski B. Wygnańcy Polscy w Orenburgu // Rocznik Towarzystwa historyczno-literackiego w Paryżu, R. 1866. — S. 90.

[509] Кодан С. Сибирская ссылка участников оппозиционных высутплений... С. 4.

[510] Stowarzyszenie Ludu Polskiego na Podolu, Wolyniu i w gubierni Kijowskiej. Szymon Konarski. Warszawa, 2009. — S. 111; Fajnhauz D. Ruch kanspiracyjny... S. 331; LVIA. F. 378, F. 140, b. 236, l. 157; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 137, арк. 1.

ахвяраванне..."[511]. Карціну вандроўкі, якая мала чым адрознівалася ад звычайнага падарожжа на паштовых, пакінула ў сваіх успамінах пісьменніца і ўдзельніца спісу Ш. Канарскага Эва Фелінская, а архіўныя матэрыялы сведчаць, што некаторыя з такіх ссыльных нават бралі з сабой у дарогу служак[512].

Непасрэдны працэс адбыцця пакарання, складаныя механізмы адаптацыі да новых умоў жыцця і імавернае вяртанне дамоў не адносяцца да пераліку тых задач, якія ставіліся перад дадзеным даследаваннем. Тут мы толькі адзначым, што ўсе гэтыя аспекты ў большасці выпадкаў залежалі ад сукупнасці мноства фактараў пераважна суб'ектыўнага характару. Адным з найбольш істотных у іх пераліку, несумненна, з'яўлялася месца ссылкі. Як вядома, яе аддаленасцю на ўсход царызм рэгуляваў ступень цяжкасці пакарання. Аналіз адпаведных дакументаў засведчыў, што не Сібір, а цэнтральныя рэгіёны Расейскай імперыі былі асноўным месцам высылкі палітычна нядобранадзейных асоб у першай палове XIX ст. Найбольш рэпрэзентатыўныя дадзеныя па гэтым прадмеце, на нашу думку, утрымлівае "*Спіс ураджэнцаў заходніх губерняў і Царства Польскага, якія знаходзяцца пад наглядам паліцыі ва ўнутраных губернях, а таксама сасланых у Сібір на жыццё і аселасць*", складзены ўладамі ў 1840 г. У ім пералічаны імёны і прозвішчы амаль што двухсот асоб, што робіць яго самым масавым сярод іншых аналагічных крыніц архіўнага паходжання. Такім чынам, згодна з гэтай крыніцай, каля ¾ усіх ссыльных (72,3%) адбывалі пакаранне ва ўнутраных губернях імперыі (уключаючы сюды Смаленскую і нават Маскоўскую). У найбольш складаных умовах Усходняй Сібіры знаходзіліся толькі 2,1% пакараных, у Заходняй Сібіры — 13,6%, а для рэшты (12%) у якасці месца ссылкі фігуравалі заходнія губерні імперыі (Віцебская, Магілёўская, Падольская, Кіеўская)[513]. Прыведзеныя дадзеныя пацвярджаюцца іншымі падобнымі крыніцамі. Разам з тым, яны разбураюць існуючы ў гістарычнай літаратуры стэаратып аб выключна сібірскім характары дадзенага віду пакарання, які ў большасці выпадкаў прынята асацыяваць з руднікамі, кайданкамі і цяжкай фізічнай працай.

Такім чынам, падводзячы пэўныя вынікі стасавання царызмам ссылкі на беларуска-літоўскіх землях у канцы XVIII-першай палове XIX ст., варта адзначыць, што яна з'яўлялася асноўным сродкам пакарання ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў вызначаны перыяд. У яе развіцці, калі параўнаоўваць з той жа канфіскацыяй, нельга вылучыць нейкія этапы ці пэўныя заканамернасці эвалюцыі. Заняўшы ключавое месца ў працэсе пакарання непажаданых царызму асоб яшчэ задоўга да вызначанага ў дадзеным даследаванні часе, ссылка на працягу канца XVIII-першай паловы XIX ст. зведала нязначныя змены, якія тычыліся толькі некаторых яе элементаў. Апошнія, напрыклад, выявіліся ў змяненні механізмаў яе ажыццяўлення і спадарожных дадзенаму віду рэпрэсій.

Выкарыстанне ссылкі за палітычныя злачынствы (у адрозненне ад той жа канфіскацыі) на працягу ўсяго даследаванага перыяду не было прадметам якой-кольвек дыскусіі ў вышэйшых урадавых колах імперыі. Яе стасаванне ў якасці санкцыі за дадзены від супрацьпраўных дзеянняў адбывалася *a priori*. Адсутна-

[511] Zaleski B. Wygnańcy Polscy w ... S. 90.

[512] Felińska E. Wspomnienia z podroży do Syberji i pobytu w Berezowie. Wilno, 1850. — S. 4–20; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532, арк. 1.

[513] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 272 арк. 3–6.

сць выразна акрэсленай заканадаўчай базы палітычнай ссылкі можна патлумачыць тым, што ўсе яе асноўныя палажэнні рэгуляваліся крымінальным заканадаўствам. Іншым важным фактарам, які паўплываў на дамінаванне дадзенага віду рэпрэсій у сістэме карных мерапрыемстваў царызму, была неразвітасць турэмнай сістэмы ў першай палове XIX ст.

Палітычная ссылка ў заходніх губернях мела шэраг асаблівасцей як юрыдычнага, так і практычна-арганізацыйнага характару. Сярод першых неабходна адзначыць выкарыстанне царызмам нормаў ваеннага заканадаўства, якое актыўна практыкавалася і ў мірны час. Важную ролю ў сістэме пакарання адыгрывалі ваенна-палявыя суды, а таксама адміністратыўная прымусовая дэпартацыя. Распаўсюджанне апошняга віду ссылкі абумовіла яе стасаванне пераважна ў тых выпадках, якія не падлягалі судовай юрысдыкцыі (распаўсюджванне нелегальнай літаратуры, абраза манарха, антыўрадавыя публічныя надпісы і пад.).

Істотным элементам у сістэме выяўлення вінных асоб, а таксама вызначэння ступені віны і далейшага пакарання, былі органы папярэдняга следства. У канцы XVIII–першай палове XIX ст. гэтая роля належала адмысловым камісіям, стварэнне якіх ініцыявалася вышэйшымі органамі ў кожным канкрэтным выпадку выкрыцця "крамолы" ў краі. Непасрэдны працэс вынясення канчатковага вердыкту складаўся з некалькіх этапаў, пасля праходжання кожнага з якіх, вырак звычайна змякчаўся. Гэтыя і іншыя прыведзеныя ў даследаванні факты, дазваляюць зрабіць выснову аб тым, што прысуды па палітычных справах у вызначаны перыяд былі заснаваныя не на фармальным прытрымліванні літары закону, але залежалі ад мноства іншых фактараў, пераважна суб'ектыўнага характару.

Даследаванне рэгіянальнага размяшчэння ссыльных разбівае міф аб выключна сібірскім характары ссылкі. Дэталёвы аналіз месцаў адбыцця пакарання "палітычных" засведчыў, што ў некаторых выпадках гэта маглі быць нават заходнія губерні імперыі. Таксама важным элементам вывучэння спецыфікі ссылкі стала вылучэнне яе фармальных прыкмет. Такі падыход дазволіў пашырыць выкарыстанне дадзенага тэрміну на выпадкі, якія фармальна не адносяцца да дадзенай катэгорыі (аддача ў расейскую армію) і, адначасова, выключыць з гэтага пераліку некаторыя групы, якія традыцыйна прылічаліся да ссыльных.

# РАЗДЗЕЛ 3. ПАЛІЦЭЙСКІ НАГЛЯД І СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

## ПАЛІЦЭЙСКІ НАГЛЯД

У першай палове XIX ст. (дарэчы, як і ў пазнейшыя часы) у праўвой сістэме Расейскай імперыі досыць шырокае распаўсюджанне атрымаў інстытут персаніфікаванага паліцэйскага нагляду. Аб гэтым, між іншым, сведчаць шматлікія ведамасці паднаглядных асоб, якія вялікай колькасцю прадстаўлены ў любым з рэгіянальных ці цэнтральных архіваў. У сувязі з гэтым узнікаюць пытанні: што сабой уяўляў інстытут паліцэйскага нагляду ў тыя часы? У якіх выпадках і ў адносінах да якіх катэгорый грамадзян ён стасаваўся? Якія асаблівасці ён меў у заходніх губернях у параўнанні з іншымі рэгіёнамі імперыі? Які быў механізм яго стасавання і як ён змяняўся на працягу вызначанага часу? Якія наступствы цягнула за сабой ужыванне дадзенай меры ў дачыненні да паднагляднай асобы? На гэтыя і іншыя пытанні паспрабуем адказаць у дадзеным раздзеле даследавання.

Энцыклапедыя "Бракгаўза і Эфрона" дае дуалістычнае вызначэнне паліцэйскага нагляду (назору). У адпаведнасці з азначанай крыніцай — гэта дадатковая карная мера, якая стасавалася ў адносінах да вінных у некаторых злачынствах, пераважна палітычных. Па-другое, гэта — адміністратыўная мера ў дачыненні да асоб, нядобранадзейных у палітычных адносінах[514]. Гэты інстытут першапачаткова актыўна распрацоўваўся ў праўвых сістэмах розных краін Заходняй Еўропы, адкуль ён і быў запазычаны. Калі на Захадзе дадзеная мера выкарыстоўвалася ў асноўным у дачыненні да асоб, якія ўжо адбылі нейкае пакаранне за здзяйсненне крымінальнага злачынства[515], то ў Расейскай імперыі дадзены від спагнання часткова набыў новае напаўненне. Аналіз спісаў асоб, што знаходзіліся пад кантролем з боку паліцэйскіх уладаў на тэрыторыі заходніх губерняў, сведчыць, што ў большасці выпадкаў яны траплялі туды па нейкіх палітычных падставах.

Як адзначаюць даследчыкі гэтага пытання, дадзеная мера ўздзеяння была вядомая ў расейскай праўвой сістэме з другой паловы XIX ст. Яе канчатковая інстытуалізацыя адбылася ў 1867 і 1882 гадах, калі былі прынятыя "Правілы аб паліцэйскім наглядзе" і "Палажэнне аб паліцэйскім наглядзе, што ладзіцца па распараджэнні адміністратыўных уладаў"[516]. Гэтыя заканадаўчыя акты фактычна замацавалі і сістэматызавалі склаўшуюся да гэтага часу практыку стасавання дадзенай рэпрэсіўнай меры. Але да 1867 г. яе ўжыванне, нягледзячы на пэўныя

[514] Надзор полицейский // Энциклопедический словарь. Издатели Ф. Брокгауз, И. Ефрон, Т. XX. Спб, 1897. — С. 434–435.

[515] Редько Н. Персонифицированный полицейский надзор.: Автореф. дис. ... канд. юрид. наук. Омск, 2009. — С. 10

[516] Храмцов А. Полицейский надзор в Западной Сибири в 1880-е гг. // История государства и права, 2014, № 22. — С.

асобныя пастановы па гэтым прадмеце, было непаслядоўным, несла на сабе адбіткі рэгіянальнай спецыфікі і прававых супярэчнасцей. Усё гэта ў поўнай меры адбілася на сістэме персаніфікаванага паліцэйскага нагляду на беларуска-літоўскіх землях у першай палове XIX ст.

Гісторыкі права вылучаюць некалькі відаў, рэжымаў, функцый і сродкаў ажыццяўлення паліцэйскага нагляду. Па-першае, імі адзначаецца, што дадзеная мера магла мець кароткачасовы і доўгатэрміновы (пажыццёвы) характар[517]. Уважлівае вывучэнне гэтага пытання засведчыла, што ў першай палове XIX ст. падобнага падзелу яшчэ не адбылося. Звычайна назор прызначаўся за той ці іншай асобай без указання нейкага канкрэтнага часавага інтэрвалу, а гэта азначае, што да сярэдзіны стагоддзя ён меў бестэрміновы характар.

У сваю чаргу, асноўныя віды паліцэйскага нагляду падраздзяляюцца на падследны, судовы і адміністратыўны[518]. Што тычыцца беларуска-літоўскіх земляў, то неабходна адзначыць, што першыя два віды не атрымалі такога значнага распаўсюджання ў параўнанні з апошнім. Намі выяўлена выключна эпізадычнае ўжыванне падобных відаў паліцэйскага пільнавання. Куды большае распаўсюджанне падследны нагляд атрымаў пасля задушэння паўстання 1863 г., калі ў сувязі з няздольнасцю тагачаснай пенітэнцыярнай сістэмы ўмясціць усіх арыштантаў, у дачыненні да іх стасаваўся менавіта гэты від назору. Паліцыя пры гэтым брала ад паднаглядных падпіску аб іх "неадлучцы", абавязвала тых хадзіць у пэўныя дні "адзначацца" і пад. У дадзеным выпадку нагляд выконваў функцыю меры крымінальна-працэсуальнага забеспячэння.

У часавым вымярэнні прапарцыянальная колькасць асоб, што былі аддадзены пад нагляд паліцыі ў першай палове XIX ст., увесь час павялічвалася. Азначаная тэндэнцыя была ў аднолькавай ступені характэрна для ўсіх губерняў Беларуска-Літоўскага краю. Згодна з Улажэннем аб пакараннях крымінальных і выпраўленчых, дадзеная мера з'яўлялася абавязковым дапаўненнем да некаторых відаў галоўнага пакарання за злачынствы, пераважна крымінальнага характару. У некаторых жа выпадках назор прызначаўся тады, калі ў судова-следчых органаў не хапала доказаў давесці віну той ці іншай асобы, і тады яна пакідалася пад "падазрэннем". Дадзеная мера таксама магла быць ужыта ў выпадку нязначнасці таго ці іншага правапарушэння ці пры іншых абставінах, логіка якіх не заўсёды зразумелая. Праўда, у тым жа самым Улажэнні 1845 г. была прадугледжана норма, паводле якой "аддача пад нагляд паліцыі" разам з некаторымі іншымі відамі пакаранняў "могуць быць прызначаны…без фармальнай вытворчасці суда"[519], ці, іншымі словамі, адміністратыўным парадкам. Менавіта гэты від паліцэйскага нагляду атрымаў найбольшае распаўсюджанне ў заходніх губернях імперыі ў вызначаны перыяд.

Галоўнай адметнасцю дадзенага віду паліцэйскага нагляду на "новадалучаных тэрыторыях", несумненна, з'яўляецца яго палітычная афарбоўка. Пры чым дамінаванне гэтага фактару падчас рэалізацыі дадзенага віду пакарання не было безумоўным — яно мела некаторыя як рэгіянальныя, так і часавыя ад-

[517] Фойницкий И. Учение о наказании в связи … С. 483.
[518] Токарева С. Полицейский надзор в Российской империи // Вопросы истории, 2009, № 6. — С. 94.
[519] Российское законодательство… Т. 6. — С. 169.

*Ведамасць асоб, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі (НГАБ у Гродне)*

метнасці. Падобная выснова вынікае з аналізу спісаў паднаглядных за розныя адрэзкі часу. Паколькі дадзены раздзел заснаваны пераважна на вывучэнні і выніках аналізу менавіта гэтага віду крыніц, спынімся на іх характарыстыцы больш падрабязна.

Пачатак сістэматычнага збору звестак аб "нядобранадзейных" асобах па Расейскай імперыі датуецца 1826 г. Гэта было звязана з заснаваннем III Аддзялення Ўласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі ("вышэйшай" паліцыі). Менавіта з кабінетаў гэтага органа выйшла прадпісанне адрасаванае ўсім 49-і губернатарам, якім загадвалася прадстаўляць "у Міністэрства Унутраных спраў імянныя спісы аб асобах, што знаходзяцца пад наглядам паліцыі, штогод да 1-га студзеня"[520]. Але разам з тым, гэтая дата не можа лічыцца ніжэйшай храналагічнай планкай існавання дадзенага паліцэйскага інстытута на нашых землях. Аб гэтым сведчаць як непасрэдна самі ведамасці, так і азначанае прадпісанне, у якім падкрэслівалася, каб падобныя звесткі падаваліся "на падставе ранейшых узораў". Такім чынам, 1826 г. — гэта час, калі паліцэйскі нагляд набывае больш сістэматызаваныя формы.

Азначаныя ведамасці складаліся па кожнай губерні Расейскай імперыі і пасля накіроўваліся ў вышэйшыя органы дзяржаўнага кіравання. На працягу ўсяго вызначанага перыяду ў гэтых спісаў былі тры адрасаты: імператар, III Аддзяленне, якое ў 1826–1844 г. узначальваў Аляксандр Бенкендорф і, нарэшце, генерал-губернатар.

[520] Макарова Н. Архивные дела III Отделения о полицейском надзоре при Николае I // Вопросы истории, 2010, № 10. — С. 153.

Перыядычнасць падачы спісаў у вызначаны перыяд вар'іравалася. На працягу большага адрэзку часу (з 1826 па 1839 г.) яны складаліся тры разы на год: за студзеньскую, травеньскую і вераснёўскую трэць. Пачынаючы з 1839 г., па загаду Мікалая І, губернатары прадстаўлялі азначаныя ведамасці ўжо два разы на год[521], а з 1852 г. яны набываюць гадавы характар. Спісы асоб, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў губерні, складаліся на падставе рапартаў земскіх спраўнікаў, паліцмайстраў і гараднічых. Пасля яны апрацоўваліся і карэктаваліся ў канцылярыі губернатара. У выніку, што вельмі важна, канчатковыя агульныя спісы часцяком даволі значна адрозніваліся ад тых, што паступалі ад ніжэйшых органаў.

Што тычыцца той інфармацыі, якая змяшчалася адносна кожнай асобы ў ведамасцях, то яна фактычна заставалася нязменнай на працягу ўсяго гэтага часу. Асноўныя звесткі аб паднаглядных змяшчаліся ў выглядзе табліцы, якая складалася з 5–6 слупкоў: "Імя, прозвішча, чын (званне) ", "колькі гадоў", "па чыйму загаду, за што і з якога часу знаходзіцца пад наглядам", "дзе жыве, чым займаецца, ці мае ад казны ўтрыманне", "ці мае сям'ю і дзе яна знаходзіцца", "што па нагляду выкрыта?". Найбольшую цікавасць тут, як нам падаецца, уяўляе апошняя графа, у якой можна сустрэць адметную інфармацыю адносна той ці іншай паднагляднай асобы. На жаль, паліцэйскія чыноўнікі не часта рабілі адзнакі ў гэтым слупку. Нягледзячы на тое, што ў сярэдзіне 50-х гадоў колькасць граф у табліцы павялічылася да 10, інфармацыйнае напаўненне засталося па-сутнасці ранейшым.

Звяртае на сябе ўвагу розная якасць гэтых ведамасцей у залежнасці ад іх часавай прыналежнасці. Найбольшай ахайнасцю і, адпаведна, інфармацыйнай насычанасцю вызначаюцца дакументы 20-х — сяр. 30-х гадоў ХІХ ст. А ўжо ў 50-я гады іх запаўненне набывае пераважна фармальны, нядбайны характар. У большасці выпадкаў дадзеныя без усялякіх дапаўненняў ці карэкціровак папросту перапісваліся з года ў год, некаторыя звесткі зусім не ўносіліся ў дакументы. Усё гэта несумненна зніжае эўрыстычную каштоўнасць дадзенага віду крыніц. За некаторыя адрэзкі часу ведамасці адсутнічаюць зусім.

У адрозненне ад цэнтральных губерняў Расейскай імперыі, дзе дадзенаму віду рэпрэсій у асноўным падвяргаліся за адміністратыўныя і крымінальныя правапарушэнні (п'янства, парушэнне грамадскага спакою, картачная гульня, службовыя растраты[522]), у заходнім рэгіёне пераважалі прычыны палітычнага характару. Падобная выснова вынікае з аналізу спісаў паднаглядных. Асабліва выразна азначаная тэндэнцыя прасочваецца на прыкладзе Мінскай губ., дзе ў 1841–1846 гадах да 90% асоб, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі, трапілі туды з-за антыўрадавай дзейнасці ці падазрэнні ў яе ажыццяўленні[523]. Па беларускіх уездах (Полацкі, Віцебскі, Лепельскі, Гарадоцкі, Дрысенскі) Віцебскай губ. гэты паказчык не быў такі высокі, але ён таксама перавышаў 50%: з 66 асоб, якія былі ўнесены ў адпаведныя спісы ў 1841–1843 гадах, як мінімум, 35 былі "палітычнымі"[524]. Менавіта

---

[521] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 44, арк. 1.

[522] Макарова Н. Архивные дела III Отделения ... С. 155.

[523] LVIA. F. 378, ap. 134, b. 179, l. 13–16; F. 378, ap. 50, b. 179, l. 307–316, 517–554, 637–646; F. 378. ap. 137, b. 193, l. 168–175.

[524] НГАБ. Ф. 1430, воп. 1, спр. 9027; Ф. 1430, воп. 1, спр. 9506; Ф. 1430, воп. 1, спр. 10198.

такая катэгорыя паднаглядных у гэты часавы прамежак пераважала ў Віленскай і Гродзенскай губернях[525]. Дарэчы, падобная тэндэнцыя ў гэты час выразна прасочваецца і на ўкраінскіх землях. Так, па Валынскай губ. у 1837 г. усе 201 чалавек, што знаходзіліся ў адпаведных спісах адпаведных органаў, былі ўнесены туды за датычнасць да паўстання 1831 г. ці іншыя антыўрадавыя праявы, у Кіеўскай губ. з 198-і асоб толькі 18 трапілі туды па іншых прычынах. Адзіным выключэннем тут была Падольская губ., у якой дадзеная катэгорыя складала 20% ад агульнай колькасці падвергнутых гэтаму віду пакарання[526]. Такая ж тэрытарыяльная асаблівасць у гэты час выяўлялася і на ўсходзе Беларусі — у Магілёўскай губ[527]. Прадстаўленыя суадносіны палітычных/непалітычных складнікаў паліцэйскага назору, на нашу думку, досыць дакладна адлюстроўваюць агульную тэндэнцыю ўцягнутасці жыхароў тых ці іншых рэгіёнаў у нацыянальна-вызваленчы рух і вельмі слабую развітасць яго структур на ўсходніх тэрыторыях у цэлым. У далейшым, з сярэдзіны 40-х і да пачатку 60-х гадоў XIX ст. назіраецца тэндэнцыя паступовага скарачэння ўдзельнай вагі "палітычных" у агульнай масе тых, хто знаходзіўся пад пільнаваннем паліцыі. Гэтая праява была звязана з часовым спадам вызваленчай барацьбы і ростам катэгорыі паднаглядных, што трапілі туды па пастановах судовых органаў.

Аналізуючы прычыны, якія абумовілі такі высокі адсотак "палітычных" паднаглядных у Заходнім рэгіёне імперыі, на першае месца, безумоўна, неабходна паставіць паўстанне 1831 г. Большасць асоб трапіла ў адпаведныя ведамасці менавіта за датычнасць да гэтай падзеі. На другім месцы знаходзіліся кантакты з эмісарамі і ўцягнутасць у рознага кшталту тайныя таварыствы і спісы. Разам з тым, у дадзеных крыніцах досыць поўна прадстаўлены самыя розныя віды антыўрадавай дзейнасці, уласцівыя для той эпохі. Адпаведныя рэестры выяўляюць такія іх формы як "перапіска з замежнымі зламыснікамі", "захаванне абуральных твораў", "непрыхільнасць да Урада", "падазрэнне ў шкодным і нядобрамысным ходзе думак", "нездыманне капелюша падчас урачыстага ўезду імператара", "супрацьдзеянне ў справах праваслаўя", "меркаванне аб палітычных справах у грамадстве", "выкрыццё перапіскі, у якой выяўляюцца злачынныя пачуцці", "садзейнічанне ў пераходзе мяжы з намерам далучыцца да рэвалюцыі", "зроблены надпіс на крыжы" і шмат іншых. Усе гэтыя прыклады, а таксама павелічэнне ролі дадзенага віду пакарання, якое выразна выявілася ў тую эпоху, з'яўляюцца яскравым сведчаннем таго, што інстытут паліцэйскага нагляду ў Мікалаеўскія часы набывае функцыю абароны існуючага палітычнага рэжыму ад розных сацыяльна-палітычных сілаў як унутры, так і па-за межамі імперыі. Гэтая мера з'яўлялася складанай часткай тых прынцыпаў бюракратызацыі, цэнтралізацыі і ваенізацыі, якія разглядаліся царызмам у той час у якасці эфектыўных сродкаў па барацьбе з іншадумствам, нацыянальна-вызваленчым

---

[525] LVIA. F. 378, ap. 50, b. 179; Радзюк А. Гарадзенцы пад наглядам паліцыі ў першай палове XIX ст. // Гарадзенскі палімпсест 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. — С. 236.

[526] Манойленко А., Манойленко Ю. Полицейский надзор в Юго-Западном крае в 1830-х — 1850-х гг. // Вопросы истории, 2013, № 10. — С. 121–122.

[527] НГАБ. Ф. 1297, воп. 2, спр. 68, арк. 13–16, 92–97, 110–119; НГАБ. Ф. 1297, воп. 2, спр. 77 арк. 135–39, 142–171.

рухам і ўмацаваннем самадзяржаўя[528]. Іншымі словамі, распаўсюджанне паліцэйскага нагляду павінна было, на думку кіруючых колаў, садзейнічаць забеспячэнню нацыянальнай бяспекі імперыі Раманавых. Пры гэтым падобнае разуменне сутнасці азначанай меры было ўласціва ў першую чаргу адміністрацыйнаму апарату ў часы панавання Мікалая І, у той час як у эпоху Аляксандраўскай "адлігі", як сведчаць тыя ж самыя спісы паднаглядных, у сярэдзіне 50-х гадоў XIX ст. іх колькасць рэзка скарацілася.

Іншым істотным складнікам для разумення сутнасці паліцэйскага нагляду і яго адметнасцей на беларуска-літоўскіх землях, акрамя выяўлення прычын яго стасавання, з'яўляецца акрэсленне кола тых асоб, па чыёй волі ён мог прызначацца. І ў гэтым кампаненце мелася свая спецыфіка. Сярод іншага, яна была звязана з тым, што ў 20-я гады XIX ст. вызначальную ролю ў дадзеным пытанні адыгрываў вялікі князь Канстанцін. Гэты было абумоўлена тым, што ў 1822 г. адпаведным указам 5 заходніх губерняў былі перададзены імператарам Аляксандрам І свайму пляменніку пад яго вярхоўнае кіраванне[529]. Такім чынам, у 20-я гады XIX ст. менавіта цэсарэвіч Канстанцін (яго рэзідэнцыя месцілася ў Варшаве) быў той інстанцыяй, ад імя якой найбольш часта дадзены від спагнання прызначаўся тым ці іншым асобам. Таксама неабходна падкрэсліць значнасць фігуры сенатара Мікалая Навасільцава, які набыў немалую палітычную вагу пасля арганізаванага ім працэсу па справе аб тайных таварыствах у Віленскім універсітэце. Яго ўлада была безумоўнай. "Незразумела, якім чынам адміністрацыя ўніверсітэта ў Вільні здолела захапіць у свае рукі ўпраўленне ўсіх гэтых губерняў. Галоўныя сябры гэтай кааліцыі: г. Навасільцаў, рэктар Пелікан, пракурор [?] Батвінка і варшаўская канцылярыя. Усе жыхары гэтых правінцый дрыжаць перад гэтай кааліцыяй, якая кожнаму з іх пагражае абвінавачваннем у карбанарызме і ссылкай у Сібір"[530], — адзначалася ў адной з гадавых аналітычных справаздач ІІІ Аддзялення. Менавіта з падачы Мікалая Навасільцава да пачатку 30-х гадоў XIX ст. большая частка асоб трапляла пад паліцэйскае пільнаванне па палітычных прычынах. Менавіта яго апошняе слова адыгрывала вызначальную ролю ў справе вызвалення паднаглядных ад дадзенага віду пакарання.



*Сенатар Мікалай Навасільцаў (мастак Сцяпан Шчукін)*

[528] Романов В. Местные органы политической полиции Российской империи: структура, компетенция, основные направления деятельности 1826–1860 гг. (на материалах Поволжья): Автореф. диссерт. ... докт. истор. наук. Чебоксары. — С. 24.

[529] ПСЗРИ (изд. второе), Т. XXXVIII, № 29087, 29088.

[530] Россия под надзором. Отчеты III ... С. 39–40.

Акрамя імператарскай вялікасці Канстанціна Паўлавіча, правам аддаваць асоб пад паліцэйскі назор валодаў імператар (як непасрэдна асабістым рашэннем, так і праз зацвярджэнне канфірмацыі), галоўнакамандуючыя дзеючай і рэзервовай арміямі, генерал-губернатар, Сенат і некаторыя іншыя вышэйшыя асобы і органы імперыі. Дыскусійным застаецца пытанне аб паўнамоцтвах у гэтай сферы мясцовых губернатараў. З аднаго боку, у спісах асоб, што знаходзіліся пад наглядам, досыць часта можна сустрэць фармулёўку "па прадпісанню начальніка губерні". Але разам з тым, гэты факт не з'яўляецца безумоўным сведчаннем таго, што яны трапілі ў адпаведныя рэестры па загаду губернатара. У большасці падобных выпадкаў апошні папросту выступаў пасрэднікам паміж воляй вышэйшага начальства і ніжэйшымі паліцэйскімі інстанцыямі. Аб адсутнасці ў іх адпаведных паўнамоцтваў сведчыць і выпадак з гродзенскім губернатарам Міхаілам Мураўёвым, які аднаасобным рашэннем прадпісаў заснаваць тайны нагляд паліцыі над стацкім саветнікам і буйным латыфундыстам Войцехам Пуслоўскім. Рэзананс па гэтай справе дайшоў нават да імператара. Ніякія апраўданні М. Мураўёва не былі ўзятыя пад увагу, і з адабрэння шэфа жандараў Аляксандра Бенкендорфа, за сваю неабачлівасць ён атрымаў пісьмовую вымову ад віленскага генерал-губернатара[531].

Нягледзячы на тое, што дадзены інстытут прадугледжваў персаніфікаваны назор за той ці іншай асобай з боку паліцэйскіх органаў, патрапіць пад яго дзеянне можна было "агулам", за прыналежнасць да пэўнай сацыяльнай, прафесійнай, рэлігійнай ці нацыянальнай супольнасці людзей. Справа ў тым, што ва ўмовах паступовага ўзмацнення той агульнай сістэмы ўсебаковага дзяржаўнага кантролю за жыццём грамадзян, улады раз-пораз (у залежнасці ад кан'ектуры цякучага палітычнага моманту) выдавалі ўказы аб пашырэнні дадзенай паліцэйскай меры на цэлыя групы людзей, якія выклікалі ў іх асаблівае падазрэнне. Так было, напрыклад, напрыканцы 1830 г., калі ў сувязі з пачаткам паўстання ў суседнім Каралеўстве Польскім, галоўнакамандуючы дзеючай арміяй Іван Дзібіч-Забалканскі прасіў гродзенскага губернатара ў прэвентыўных мэтах узяць пад паліцэйскае пільнаванне ўсіх студэнтаў Віленскага ўніверсітэта, якія выехалі дахаты на калядныя вакацыі[532]. Дарэчы, пазней падобным чынам паступаў кіеўскі генерал-губернатар Дмітрый Бібікаў, суправаджаючы кожнае сваё паведамленне аб дазволе таму ці іншаму студэнту ці вучню кіеўскай навучальнай акругі на вакацыі просьбай сачыць за яго паводзінамі і ладам жыцця падчас адпачынку[533]. (Цікава, што ў дачыненні да студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта такой перасцярогі не было).

У розныя часы азначаная мера на нашых землях стасавалася ў адносінах да афіцэраў (нягледзячы на іх званне), што звальняліся з вайсковай службы[534], а таксама вайскоўцаў у водпуску[535], замежнікаў[536], раскольнікаў, усіх тых, хто вяртаўся са ссылкі ці адбываў яе на тэрыторыі беларуска-літоўскіх земляў.

[531] LVIA. F. 378, ap. 40, b. 2735.

[532] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 1086, арк. 1.

[533] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 377, арк. 1.

[534] LVIA. F. 378, ap. 141, b. 123. l 1.

[535] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 11, спр. 159, арк. 1.

[536] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 378, арк. 1.

Нельга не адзначыць досыць цікавую акалічнасць: асобы, якія ў адпаведнасці з царскім маніфестам 1856 г. атрымалі дазвол вярнуцца на радзіму з эміграцыі, падобнаму кантролю не падвяргаліся. І тут даходзіла да парадаксальных рэчаў. Напрыклад, Напалеон Орда пасля вяртання з Францыі ў 1856 г. пад паліцэйскім наглядам не знаходзіўся, а яго маці нават пасля злучэння сям'і, да свайго скону фармальна заставалася ў ліку паднаглядных за выкрытую яшчэ ў 30-я гады "перапіску са злачынным сынам сваім", гэта значыць Напалеонам.

Але найбольш маштабны паліцэйскі нагляд на нашых землях быў зладжаны ў дачыненні да медыкаў і ветэрынараў. Так, у сувязі з раскрыццём і следствам над сябрамі тайнай арганізацыі "Дэмакратычнае таварыства" ў сценах Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, усе выпускнікі гэтай навучальнай установы (з 1835 па 1840 г. уключна), згодна з рашэннем адмысловай камісіі Аляксандра Кавеліна і па канфірмацыі імператара, былі аддадзены пад тайны паліцэйскі назор[537]. Незалежна ад месца свайго пражывання і месца службы, усе, без выключэння, былыя студэнты (а гэта некалькі соцень чалавек) трапілі пад дзеянне гэтага распараджэння.

Для асоб, якія знаходзіліся пад паліцэйскім пільнаваннем, гэтая мера ў першую чаргу азначала абмежаванне ў свабодзе перамяшчэння. У розныя часы тут дзейнічалі трохі розныя правілы, але сутнасці самога інстытута гэта не мяняла. Так, у 20-я гады XIX ст. ні губернатар, ні нейкія іншыя чыны царскай адміністрацыі не мелі права выдаваць пашпарты на праезд нават у суседні ўезд тым, хто быў пад кантролем паліцыі. Прэрагатыва ў гэтым пытанні належала выключна цэсарэвічу Канстанціну Паўлавічу, які ў сваіх рашэннях адносна той ці іншай асобы цалкам давяраў меркаванню Мікалая Навасільцава[538]. А вось каб выехаць у адну з дзвюх сталіц імперыі, трэба было мець дазвол самога імператара[539].

У 30–40-я XIX ст. гады бюракратычны ланцужок працэдуры выдачы пашпартоў паднагляднай катэгорыі грамадзян зведаў некаторыя змены. У 1844 г. ён выглядаў ужо наступным чынам: для паездкі ў іншы ўезд губерні кожны раз трэба было пытацца на дазвол губернатара, а для наведвання іншай губерні звяртацца да генерал-губернатара. Пры гэтым усе асобы дадзенай катэгорыі павінны былі пісьмовымі падпіскамі запэўніць, што без адпаведнай згоды ўладаў яны не будуць пакідаць месца свайго сталага жыхарства[540]. За парушэнне азначаных абавязацельстваў, такі чалавек мог быць прыцягнуты (але не заўсёды) да крымінальнай адказнасці ў выглядзе кароткатэрміновага турэмнага зняволення[541]. Падчас выезду нават на кароткі тэрмін з месца свайго сталага жыхарства, улады мусілі паведамляць аб перамяшчэнні паднагляднага сваім калегам той тэрытарыяльнай адзінкі, куды ён накіроўваўся. Гэта рабілася для таго, каб адпаведныя органы ні на дзень не гублялі гэтую асобу з поля свайго зроку. Пры гэтым, дазвол на перамяшчэнне не меў, як гэта можа першапачаткова падацца, фармальнага, аўтаматычнага характару. Мясцовыя паліцэйскія органы павінны

---

537 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 718, арк. 1.

538 LVIA. F. 380, ap. 70, b. 6138. l. 1; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 1489, арк. 29.

539 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 197, арк. 55.

540 LVIA. F. 378, ap. 133, b. 86, l. 2, 3; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1174, арк. 1, 23.

541 НГАБ у Гродне. Ф. 581, воп. 1, спр. 376, арк. 74.

былі праводзіць “атэстацыю” сваіх падкантрольных, адметнасці якой мы разгледзім ніжэй. Наяўнасць такіх перашкод, як забарона на вольнае перамяшчэнне, наведванне сталічных гарадоў, была мерай досыць адчувальнай. У першую чаргу яна досыць балюча закранала інтарэсы найбольш актыўных у гаспадарчым плане асоб, а таксама прадстаўнікоў некаторых прафесій. Сярод апошніх можна вылучыць катэгорыю лекараў, для якіх нагляд (і гэта прызнавалася нават царскай адміністрацыяй) “надзвычай звужае кола іх практыкі”[542].


Подписка

1844 года Декабря 10го дня. Мы нижеподписавшиеся даемъ сию Нашу подписку Гродненской Городовой Полиціи въ томъ, что согласно распоряженію Его Высокопревосходительства Господина Виленскаго Военнаго Губернатора, и Генералъ Губернатора Гродненскаго, Минскаго и Ковенскаго Федора Яковлевича Мирковича объявленнаго Намъ въ предписаніи Господина Гродненскаго Гражданскаго Губернатора отъ 1го октября сего года № [illegible], [illegible] мы безъ вѣдома здѣшняго Полицейскаго Начальства изъ города Гродна ни въ другія Губерніи ни въ Уѣзды Гродненской Губерніи выѣзжать не будемъ. —

Павелъ [illegible]
Людвикъ [illegible]
Игнатій [illegible]
Викентій [illegible]

*Падпіска паднаглядных асоб аб тым, што яны не будуць пакідаць месца свайго сталага жыхарства (НГАБ у Гродне)*

Асобна ў пераліку распараджэнняў па дадзеным прадмеце стаяць імператарскія ўказы, што датуюцца 1849 г. Як вынікае з іх зместу, у ліпені месяцы гэтага года Мікалаем I было забаронена пераязджаць з адной губерні ў іншую ў межах усёй імперыі асобам, што пільнаваліся паліцыяй. Што праўда, ужо ў кастрычніку ён адступіўся ад свайго рашэння, дазволіўшы ўсім тым, “што знаходзяцца ў імперыі пад назорам паліцыі, карыстацца дараванымі правамі вольнага праезду з адной губерні ў іншую па ранейшых правілах”. Адзінае выключэнне з гэтай ласкі складалі жыхары нашага краю: “акрамя тых толькі, якія знаходзяцца на жыхарстве ў Заходніх губернях”[543] (*падкрэслена ў тэксце — А.Р.*). Калі было спынена дзеянне гэтага дыскрымінацыйнага палажэння на нашых землях, выявіць не ўдалося.

У першай палове XIX ст. (як, дарэчы, і ў пазнейшыя часы) паліцэйскі нагляд ужываўся ў якасці дадатковай і асноўнай (самастойнай) меры пакарання Пры гэтым, як сведчаць адпаведныя спісы паднаглядных, на тэрыторыі Беларусі і Літвы другі яго від выразна прэваліраваў. Гэта было абумоўлена тым, што дадзены сродак паліцэйскага кантролю ў якасці спадарожнай меры расейскім заканадаўствам быў прадугледжаны ў першую чаргу ў дачыненні да тых злачынцаў, якія былі высланыя ў Сібір ці іншыя аддаленыя губерні[544]. Што тычыцца

[542] LVIA F. 378, ap. 133, b. 86, l. 9.
[543] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 147, арк. 8.
[544] Храмцов А. Полицейский надзор в Западной Сибири… С. 11.

земляў былога ВКЛ, то тут гэтая мера, з прычыны нязначнай колькасці ссыльных і духоўных асоб, якія за датычнасць да пэўных палітычных спраў былі заключаны ў кляштары, мела досыць абмежаваны характар. У якасці самастойнага пакарання назор прызначаўся ў выпадках, калі іншая, больш жорсткая мера ўздзеяння, была непажаданай, альбо следчыя органы не маглі да канца давесці віну падазраванага. У такіх выпадках нагляд акрамя рэпрэсіўнай выконваў яшчэ прэвентыўную функцыю: узяць пад кантроль найбольш актыўных прадстаўнікоў тагачаснага грамадства і праз стасаванне ў дачыненні да іх азначанага інстытута, не дапусціць тых да любых дзеянняў, накіраваных супраць існуючага парадку. Падобны характар паліцэйскага пільнавання выразна адлюстраваны ў многіх ведамасцях паднаглядных (асабліва па Віленскай губ.), у якіх у якасці прычыны яе стасавання сустракаецца фармулёўка "з перасцярогі"[545].

Што тычыцца рэпрэсіўнага складніка паліцэйскага нагляду, то выключнай забаронай на вольнае перамяшчэнне яго карны патэнцыял не абмяжоўваўся. Паднаглядны ў значнай ступені ўшчамляўся ў сваіх грамадзянскіх правах, дзейнасці і дзеяздольнасці. Сярод іншага, гэта закранала іх магчымасці прымаць удзел у дваранскіх выбарах, а таксама рэалізацыю сваіх правоў на службу ў розных органах дзяржаўнага і мясцовага кіравання. Як адзначае даследчык гэтага пытання Алег Бекетаў, "усякі занятак, што збліжаў паднагляднага з навакольнымі, усякая публічная дзейнасць яму былі забаронены. Паднагляднаму забаранялася займаць пасаду на дзяржаўнай і грамадскай службе (яны маглі дапускацца толькі да "пісьмовых заняткаў"...г.зн. выконваць толькі тэхнічную работу), займацца педагагічнай і адвакацкай дзейнасцю ... Лекарская, акушэрская і фармацэўтычная практыка дазвалялася выключна з дазволу міністра ўнутраных спраў. Паднаглядным забаранялася чытанне публічных лекцый, удзел у сцэнічных пастаноўках; забаранялася гандляваць кнігамі; трымаць тракцірныя і піцейныя ўстановы" і шмат што іншае[546]. Таксама гэтыя абмежаванні выяўляліся ў здольнасці асоб, што знаходзіліся пад наглядам, свабодна ажыццяўляць зносіны пасродкам паштовай службы ці тэлеграфа: "у кожным асобным выпадку міністр унутраных спраў мог забараніць непасрэдна атрымліваць сваю ўласную карэспандэнцыю"[547]. Акрамя таго іх перапіска, як сведчаць адпаведныя справы, падвяргалася перлюстрацыі. Апошняя закранала пераважна тых, хто быў падвергнуты дзеянню дадзенай меры падчас пакарання ссылкай. Але разам з тым ёсць прыклады, калі яна стасавалася і ў адносінах паднаглядных на нашых землях. Так, у 1811 г., згодна з прадпісаннем міністра паліцыі, было загадана мець "за ўсімі імі (паднаглядныммі асобамі) нагляд, а таксама лісты, якія толькі ад іх для адпраўкі на пошту будуць давацца, адкладваць асобна... да мяне (кіраўніку Беластоцкай вобласці С. Шчарбіну) на прагляд"[548]. Абавязковы тайны прагляд перапіскі стаў прычынай таго, што ссыльныя пры любой магчымасці імкнуліся пазбегнуць афіцыйных каналаў дастаўкі пошты і карысталіся іншымі, альтэрнатыўнымі спосабамі яе перадачы.

---

[545] LVIA. F. 378, ap. 138, b. 165.

[546] Бекетов О. Персонифицированный полицейский надзор: становление, развитие, современное состояние. Омск, 2010. — С. 31.

[547] Токарева С. Полицейский надзор в... С. 100.

[548] НГАБ у Гродне. Ф. 320, воп, 1, спр. 8, арк. 2.

Аналіз практыкі ўжывання дадзенай меры пакарання, выяўляе пэўныя супярэчнасці паміж яе нарматыўнай базай і рэчаіснасцю. З аднаго боку, як адзначалася вышэй, адной з яе праяў з'яўляліся разнастайныя забароны і абмежаванні, у тым ліку і на дзяржаўную альбо грамадскую службу. І сапраўды, у справах за розныя гады гэтаму сцвярджэнню можна знайсці не адно пацверджанне. Так, згодна з распараджэннем вялікага князя Канстанціна ад 11 сакавіка 1828 г., усе выкрытыя ўдзельнікі тайных таварыстваў, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі, павінны былі быць адхілены ад сваіх пасадаў[549]. У розных дакументах за той перыяд адклалася шмат прашэнняў такіх людзей аб вызваленні іх ад азначанай меры ў сувязі з жаданнем паступіць на службу, альбо скаргі на тое, што нехта ўжо пасля абрання на тую ці іншую пасаду не быў на ёй зацверджаны начальствам. Агульны сэнс усіх гэтых зваротаў зводзіўся да таго, што такім чынам паднаглядныя былі "пазбаўлены крыніцы свайго існавання"[550]. У сувязі з гэтым, для такіх асоб адпаведнымі прававымі нормамі было прадугледжана "ўтрыманне ад казны". Але, як сведчыць практычнае ажыццяўленне гэтых палажэнняў, грашовую дапамогу атрымлівалі далёка не ўсе. У першую чаргу на яе маглі разлічваць тыя, хто знаходзіўся пад наглядам у ссылцы, у той час як паднаглядныя на месцы свайго сталага пражывання на такую падтрымку разлічваць не маглі. Спісы паднаглядных фіксуюць толькі адзінкавыя выпадкі атрымання фінансавай дапамогі паднагляднымі на беларуска-літоўскіх землях. І гэта пры тым, што лічба такіх "паражэнцаў" у заходніх губернях імперыі была досыць высокай. Так, у 1850 г. па Віленскай губ. насупраць прозвішчаў усіх 282 паднаглядных стаяла адзнака аб пазбаўленні іх права служыць, у Ковенскай губ. 73 чалавекам было забаронена прымаць удзел у выбарах і г.д[551]. У 1848 г. у Гродзенскай губ. у спісе тых, каму забаранялася паступаць як на дзяржаўную, так і на службу па выбарах дваранства па палітычных прычынах, фігуравала 56 чалавек. Усе яны знаходзіліся пад паліцэйскім пільнаваннем[552].

Акрамя таго, усім падобным людзям забаранялася прымаць удзел у дваранскіх выбарах. Што праўда, гэтая забарона не мела такога безумоўнага характару, паколькі ў канфірмацыях тых часоў найбольш часта сустракаецца фармулёўка аб аддачы той ці іншай асобы "пад паліцэйскі назор з тым, каб не прымаць ні ў якую дзяржаўную службу, а да ўдзелу ў дваранскіх выбарах не дапушчаць аж да рашэння мясцовага начальства"[553]. Тым не менш, нават часовае абмежаванне наносіла балючы ўдар па гонары такіх асоб: "усе яны падвергнуты жорсткім пакутам"[554], — адзначаў маршалак мінскага дваранства ў 1850 г.

Таксама трэба адзначыць, што было б няправільна забарону на службу і ўдзел у выбарах звязваць выключна з паліцэйскім наглядам. У Расейскай імперыі ў гэты час дадзеныя меры досыць актыўна стасавалі і ў якасці самастойных відаў пакарання, пераважна за злачынствы і праступкі непалітычнага характару: рэгулярныя парушэнні па службе, растраты, "паклёпніцтва", непрыстойны лад жыцця, хабарніцтва і пад. У першай палове XIX ст. у імперыі

[549] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 1469, арк. 267.
[550] LVIA. F. 378, ap. 141, b. 129, l. 145.
[551] LVIA. F. 378, ap. 141, b. 129, l. 55–67; 126–134.
[552] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 877, арк. 31–32.
[553] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532, арк. 331.
[554] LVIA. F. 378, ap. 141, b. 129, l. 146.

нават выдаваўся адмысловы штогоднік — "кніга аб непрыняцці ні на якія пасады чыноўнікаў па адносінах розных прысутных месцаў і прадстаўленні Сената", з мэтай недапушчэння такіх асоб да працаўладкавання ў любым кутку дзяржавы. У лік такіх асоб аўтаматычна трапілі ўсе ўдзельнікі паўстання 1831 г., нават у тым выпадку, калі яны атрымалі памілаванне і не знаходзіліся пад паліцэйскім наглядам. Аб гэтым, між іншым, сведчаць адпаведныя імператарскія ўказы аб неабходнасці ўсім тым, хто паступае на цывільную альбо вайсковую службу, ці з'яўляецца "казённакоштным" абітурыентам з тэрыторыі заходніх губерняў, прадстаўляць адпаведныя даведкі аб непрыняцці ўдзелу ў "мяцяжы" з рэзалюцыяй губернатара[555].

З іншага боку, вывучэнне шматлікіх спісаў паднаглядных, а таксама іх фармуляраў па службе, засведчыла досыць цікавую акалічнасць: пераважная большасць асоб гэтай катэгорыі працягвалі сваю чыноўніцкую кар'еру, а іх паднаглядны стан не перашкаджаў іх прасоўванню па службовай лесвіцы, атрыманню чарговых чыноў і ўзнагарод. На нашу думку, гэта было абумоўлена тым, што значнай іх частцы ўдалося "прыватным шляхам" дабіцца ад вышэйшага начальства адмены гэтых абмежавальных палажэнняў, а таксама недастатковым наглядам за выкананнем адпаведных пастаноў і распараджэнняў з боку мясцовых уладаў. З прадстаўленых фактаў можна зрабіць выснову, што больш жорсткая рэгламентацыя ў гэтай сферы стала нормай толькі пасля прыняцця адпаведных юрыдычных актаў у другой палове XIX ст., у той час як у папярэднюю эпоху дадзенае пытанне вырашалася воляй генерал-губернатара ці нават начальніка губерні.

Акрамя розных відаў паліцэйскага нагляду існавала яшчэ некалькі рэжымаў яго ажыццяўлення: сакрэтны (негалосны, сакрэтны, неафіцыйны *назор*) і ўласна паліцэйскі нагляд (афіцыйны нагляд), які ў сваю чаргу падзяляўся на звычайны і строгі. Несумненна, найбольш пашыраным з'яўляўся апошні. Што тычыцца негалоснага пільнавання, то ў гісторыкаў права няма адзінага погляду на яго прыроду. Адныя лічаць, што ён ладзіўся за "палітычна нядобранадзейнымі асобамі ... і меў выразную палітычную афарбоўку"[556], у той час як іншыя даследчыкі сярод галоўных прычын яго стасавання на першае месца ставяць крымінальны складнік, а менавіта "сувязь са злачыннымі элементамі"[557]. Вывучэнне практыкі яго ўжывання на беларуска-літоўскіх землях у першай палове XIX ст. сведчыць аб выразнай дамінанце палітычнага кампаненту сярод усіх астатніх прычын яго ўжывання. Акрамя таго, дадзены рэжым нагляду, у адрозненне ад афіцыйнага, не прадугледжваў нейкіх абмежаванняў свабоды ці грамадзянскіх правоў. Таксама яны розніліся і спосабамі іх ажыццяўлення.

Нягледзячы на наяўнасць такіх важных нюансаў у сутнасці і спосабах рэалізацыі кожнага з гэтых рэжымаў, на працягу ўсяго перыяду даследавання органы, адказныя за яго ажыццяўленне, а таксама і вышэйшыя ўлады, якія давалі распараджэнні па гэтым пытанні, досыць часта іх блыталі, не робячы паміж імі ніякай розніцы. Аб гэтым, між іншым, сведчыць спроба ўнесці хоць якую яс-

---

[555] ПСЗРИ (изд. второе), Т. X, № 8575а; Т. XII, № 10800; Т. XVI, № 14625.

[556] Бекетов О. Персонифицированный полицейский надзор... С. 29.

[557] Храмцов А. Полицейский надзор в Западной Сибири... С. 11; Токарева С. Полицейский надзор в С. 101.

насць у гэтае пытанне з боку віленскага генерал-губернатара Фёдара Мірковіча (хоць і ён не заўсёды вызначаўся тут паслядоўнасцю). Адразу пасля заняцця гэтай пасады ў 1840 г., ён заўважыў губернатарам падуладнай яму тэрыторыі, што ў спісах, якія накіроўваліся на яго імя, памылкова падаюцца разам прозвішчы тых, хто знаходзіўся як пад афіцыйным, так і сакрэтным назорам. Закранутая ім праблема, пэўна, выклікала шмат непаразуменняў і пытанняў, таму што ў далейшым яму неаднаразова даводзілася тлумачыць, у чым крыецца розніцца паміж імі.

Такім чынам, як вынікае з прадпісанняў Фёдара Мірковіча, сутнасць неафіцыйнага назора заключалася ў тым, каб паліцэйскія і "давераныя тайныя агенты" (чыноўнікі па адмысловых даручэннях) сачылі за паднаглядным так, каб тыя "ніякім чынам не маглі даведацца аб прынятай супраць іх па волі Урада меры перасцярогі". Дзеля захавання поўнай канспіратыўнасці генерал-губернатар нават раіў усю перапіску аб падобных асобах рабіць уласнаруч паліцмайстрам, а не перадаручаць яе пісарам ці яшчэ каму[558].

Тым не менш, нягледзячы на праведзеную вышэйшым начальствам тлумачальную работу, мясцовыя чыноўнікі і надалей працягвалі даволі часта блытаць азначаныя рэжымы нагляду. У якасці прыкладу тут можна прывесці выпадак, калі ў 1844 г. губернскія ўлады абавязалі падпіскамі ўсіх тых, хто знаходзіўся пад сакрэтным пільнаваннем, забараніўшы ім выезд без дазволу паліцыі[559]. У сувязі з падобнымі непаразуменнямі, даследчыкам даволі складана выявіць, пад якім відам нагляду ўсё ж такі знаходзілася тая ці іншая асоба. Напрыклад, выпускнікі Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі звычайна ўносіліся ў агульную ведамасць паднаглядных, хаця імператарскім прадпісаннем было загадана мець за імі сакрэтны назор. Таксама былі выпадкі, калі ўлады, даючы згоду на вызваленне з-пад афіцыйнага, загадвалі на ўсялякі выпадак працягваць трымаць у полі зроку паліцыі тую ці іншую асобу, але ўжо сакрэтным (неафіцыйным) чынам[560].

Пры ажыццяўленні ўсіх відаў і рэжымаў паліцэйскага нагляду яго выкананне ўскладвалася на тыя ж самыя органы ўлады. У гарадах гэта былі паліцмайстры ці гараднічыя, у сельскай мясцовасці земскія спраўнікі. У сваю чаргу, частку сваіх абавязкаў тыя перакладалі на падначаленых — квартальных і станавых. Згодна з логікай начальства, усе гэтыя паліцэйскія чыноўнікі павінны былі мець за паднаглядным "неаслабны нагляд, дзеля чаго ўвесь час назіраць за ладам іх жыцця, паводзінамі, дзеяннямі і за ўсімі ўчынкамі, даносячы адразу, калі што-небудзь будзе заўважана за якім з іх заганнае, і прымаць меры для спынення ўсякага шкоднага іх уплыву. І таму паліцыя павінна мець увесь час дакладныя звесткі пра спосабы іх утрымання сябе, пра склад сямейства, знаёмствы, заняткі і знаходжанні… ведаць аб адлучцы тых з іх, якім такія былі дазволены, паведамляючы адразу … куды такая асоба адлучылася"[561]. Без увагі паліцыі не

---

[558] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1581б арк. 1–2; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 717, арк. 11.

[559] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1174, арк. 62.

[560] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 187, арк. 7.

[561] НГАБ Ф. 1430, воп. 1, спр. 14928, арк. 2.

павінен быў застацца нават іх "вобраз думак"[562]. Але гэтым роля паліцэйскіх органаў не абмяжоўвалася. Яны мусілі праводзіць "атэстацыю" паднаглядных, што знаходзіліся ў іх ведамстве. Менавіта ад імя гэтых служачых вышэйшыя органы ўлады атрымлівалі інфармацыю аб паводзінах. Ад іх меркавання шмат што залежала. Напрыклад, калі такой асобе неабходна было атрымаць пашпарт на выезд у іншую губерню ці Каралеўства Польскае, першай інстанцыяй, куды ён звяртаўся, быў земскі спраўнік ці паліцмайстар (у невялікіх гарадах — гараднічы). Апошні, у сваю чаргу, даносіў аб просьбе губернатару, пры гэтым абавязкова дадаючы да азначанага прашэння сваё асабістае меркаванне, якое тычылася паводзінаў і дабранадзейнасці паднагляднага. І, нарэшце, канчатковай інстанцыяй у вырашэнні гэтага пытання з'яўляўся генерал-губернатар, які, грунтуючыся на пададзеных звестках, а таксама спраўджваючы ацэнкі паводзінаў гэтай асобы па апошніх ведамасцях, даваў сваю згоду (ці нязгоду) на выдачу пашпарта[563]. Залежны стан паднаглядных ад паліцэйскіх органаў выяўляўся і ў тым, што іх ацэнка звычайна з'яўлялася вырашальнай у справе канчатковага вызвалення той ці іншай асобы ад дадзенага віду пакарання.

Заканамерна паўстае пытанне аб якасці ажыццяўлення нагляду з боку паліцыі ў рэальным, штодзённым жыцці. У большасці выпадкаў яна (гэтая якасць) залежала ад канкрэтнага чалавека, на якога быў ускладзены гэты абавязак. Больш шчыльнае знаёмства з прадметам даследавання дае падставу сцвярджаць, што ў цэлым паліцэйскія органы падыходзілі да гэтых абавязкаў досыць фармальна. Можна прывесці шмат прыкладаў таго, як іх падапечныя без іх ведама пакідалі месцы свайго сталага жыхарства і наведвалі сумежныя і больш далёкія тэрытарыяльныя адзінкі. Аб якасці ў іншым кампаненце, а менавіта нагляд за паводзінамі і дзеяннямі паднаглядных, яскрава сведчыць прыклад Караля Нямцэвіча. Западозраны ўладамі ў 1830 г. у падрыхтоўцы паўстання на Брэстчыне, ён быў перамешчаны ў Гародню пад паліцэйскі нагляд. Тут ён фактычна ўзначаліў тайны паўстанцкі камітэт, які неаднаразова ладзіў патаемныя сходкі і падтрымліваў сувязь з іншымі рэгіёнамі. А ў красавіку 1831 г. Караль без усякіх перашкод здзейсніў уцёкі з губернскага цэнтра і ачоліў паўстанцаў у Белавежскай пушчы. Дарэчы, тут будуць некалькі іншых прыкладаў. Так, паднаглядны Пётр Цэхановіч даваў прытулак на сваёй кватэры эмісару Марцэлію Шыманскаму. Удзельнік паўстання 1831 г. Феафіл Петрашэўскі падчас папярэдняга разбіральніцтва па сваёй справе быў пакінуты на волі, абмежаваны толькі паліцэйскай мерай. Аднак, калі ўлады вырашылі аддаць яго пад ваенна-палявы суд, ён здзейсніў уцёкі за мяжу. У Ашмянскім уездзе 20 гадоў пад наглядам паліцыі знаходзіўся нейкі шляхціц Тадэвуш Ган толькі з той прычыны, што ён аказаўся поўным цёзкам паўстанца 1831 г.[564] Таксама звяртае на сябе ўвагу той факт, што перад паўстаннем 1863 г. пад наглядам паліцыі не знаходзіліся сябры мясцовых паўстанцкіх арганізацый[565].

На фармальны характар ажыццяўлення паліцэйскага нагляду ўказваюць і іншыя факты. Так, напрыклад, прагляд адпаведных ведамасцей сведчыць, што

---

[562] НГАБ у Гродне Ф. 1, воп. 27, спр. 141, арк. 20.

[563] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 460, арк. 1–4.

[564] LVIA. F. 378, ap. 141, b. 129, l. 236.

[565] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 22, спр. 1141; Ф. 1, воп. 27, спр. 1625; Ф. 1, воп. 34, спр. 51.

даволі часта там фігуруюць "мёртвыя душы" — г. зн. асобы, якія даўно выбылі ці яшчэ нават не прыбылі ў зону адказнасці таго ці іншага паліцэйскага чыноўніка. Усё той жа Караль Нямцэвіч працягваў значыцца ў спісах брэсцкай земскай паліцыі аж да 1839 г., хаця сам даўно знаходзіўся ў Францыі. Суражскі земскі спраўнік (Віцебская губ.) у 1842 г. насупраць усіх паднаглядных, за якімі ён павінен быў ажыццяўляць пільнаванне, зрабіў адзнаку аб тым, што іх "месцазнаходжанне невядома"[566]. Тут нельга не пагадзіцца з гродзенскім губернатарам Міхаілам Мураўёвым, які ў 1833 г., праводзячы мерапрыемствы па ўзмацненню паліцэйскага рэжыму ў губерні, адзначаў, што гэтыя органы "слаба назіраюць за асобамі аддадзенымі пад нагляд паліцыі і толькі галаслоўна, наўздагад адзначаюць у ведамасцях аб дабранадзейнасці іх паводзінаў, ніколькі не звяртаючы ўвагі на іх паводзіны і зносіны з іншымі жыхарамі; у хатах дапускаюць розныя сходкі і супрацьзаконныя размовы..."[567]. Хаця гісторыя ведае і іншыя прыклады: студэнт Казімір Шыняўскі быў высланы ў 1831 г. у Сібір за намер далучыцца да паўстання. У 1852 г., дзякуючы хадайніцтву бацькі, ён атрымаў права вярнуцца на радзіму ў Дзісненскі ўезд з тым, каб за ім быў арганізаваны паліцэйскі нагляд. Менавіта дзякуючы гэтай меры, у хуткім часе была выкрыта агітацыйная дзейнасць К. Шыняўскага (нагаворваў адпускнікоў-салдат не вяртацца на службу, а перахавацца ў лесе). Таму ўлады паспяшаліся ізноў як мага хутчэй выслаць Казіміра, на гэты раз у Вятку[568]. Дадзены выпадак з'яўляецца яшчэ адным пацверджаннем факту, што якасць ажыццяўлення нагляду ў тыя часы залежала ад канкрэтных асоб.

Даследуючы інстытут паліцэйскага нагляду і практыку яго ўжывання ў першай палове XIX ст., нельга не заўважыць агульнай тэндэнцыі па ўзмацненні паліцэйскага рэжыму ў азначаны перыяд у цэлым. Яна мела самыя розныя праявы. Адной з іх было актыўная стасаванне дзеля гэтых мэт жандарскага корпуса. У задачы апошніх, сярод іншага, уваходзіў "маніторынг" агульных настрояў насельніцтва і выяўленне антыўрадавай дзейнасці ў замацаваным за імі рэгіёне. Напрыклад, жандарскі падпалкоўнік Раненкампф, які адказваў за Гродзенскую губ. у 1850 г., канстатаваў, што "пачуццё шчырай адданасці да прастолу не запала ў сэрцы тутэйшага дваранства..."[569]. Акрамя таго, асобныя афіцэры гэтага ведамства накіроўваліся ў месцы "масавых мерапрыемстваў" — кірмашы, курорты і пад. Так, на мінеральныя воды ў Друскенікі штогод камандзіраваўся адмысловы чыноўнік для спецыяльных даручэнняў, з тым, каб "заставаўся там на працягу ўсяго сезона і назіраў за размовамі і дзеяннямі наведвальнікаў ... і даносіў мне"[570]. Акрамя таго, III Аддзяленне імкнулася ахапіць усе гэтыя тэрыторыі сваёй агентурнай сеткай. Аскар Авейдэ ў сувязі з гэтым адзначаў, што "тайныя агенты былі паўсюль: сярод моладзі, сяброў, ва ўсіх канцылярыях і адміністрацыях, сярод слуг. Тайная паліцыя ведала аб кожнай прачытанай кнізе, кожным нявінна выказаным слове. За даносы плацілі добра, і іх усё дасылалі

---

566 НГАБ Ф. 1430, воп. 1, спр. 9506.

567 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 351, арк. 17.

568 LVIA. F. 378, ap. 143, b. 144, l. 1, 6, 22.

569 Чукарев А. Тайная полиция России 1825–1855. Москва, 2005. — С. 490.

570 LVIA. F. 378, ap. 138, b. 82, l. 1, 8.

і дасылалі." А. Авейдэ дакладна вызначаў гэтую сітуацыю як ваенна-паліцэйскую дыктатуру[571].

Узмацненню агульнага кантролю за мясцовымі жыхарамі несумненна садзейнічала і павелічэнне колькаснага складу паліцыі. Прагляд заканадаўчых актаў за 30–40-я гады XIX ст. выяўляе дзясяткі ўказаў аб увядзенні дадатковых пасад ці павелічэнні штату існуючых паліцэйскіх ці жандарскіх каманд у заходнім рэгіёне імперыі[572]. Для барацьбы з замежнымі эмісарамі па ініцыятыве кіеўскага генерал-губернатара Дміцера Бібікава ў 1840 г. уздоўж усёй мяжы з Каралеўствам Польскім была павялічана колькасць паліцыі. Былі нават створаны конныя эскадроны, а паліцэйскім чынам павышана жалаванне[573]. У шэраг падобных мерапрыемстваў неабходна таксама аднесці ўвядзенне ў заходніх губернях інстытута ваенна-ўездных начальнікаў[574]. Гэтыя пасады займалі адстаўныя рускія вайсковыя чыны, якія дасылаліся з цэнтральных губерняў. Што праўда, пазней яны былі ліквідаваны, але зноў адноўлены Міхаілам Мураўёвым у 1863 г. Не апошнюю ролю ў пераліку гэтых захадаў адыграла імкненне царызму павысіць дабранадзейнасць паліцэйскіх каманд. Дзеля гэтых мэт, згодна з указам ад 11 лістапада 1831 г., туды было забаронена браць мясцовых жыхароў[575].

Акрамя цэнтральных уладаў, актыўны ўдзел у рэалізацыі мерапрыемстваў па ўзмацненні паліцэйскага кантролю прымалі некаторыя мясцовыя чыноўнікі. Яскравым прыкладам такіх дзеянняў былі меры, распрацаваныя і рэалізаваныя ў Гродзенскай губ. губернатарам Міхаілам Мураўёвым. У 1832–1833 г. ім у азначанай губерні было ўведзена так званае "Часовае паліцэйскае кіраванне". Стрыжнёвая частка гэтай праграмы была прысвечана захадам па ўзмацненні кантролю з боку паліцэйскіх органаў за перамяшчэннем насельніцтва. Адпаведнымі інструкцыямі, сярод іншага, прадпісвалася: забараніць праезд з губерні ў губерню без адпаведных пашпартоў з указаннем прыкмет за подпісам губернатара, забараніць памешчыкам выдаваць білеты на праезд сваім прыгонным, арыштоўваць усіх асоб без адпаведных дакументаў, увесці рагаткі на ўездзе ў некаторыя населеныя пункты, правесці праверку ўсіх кляштараў на прадмет выяўлення нядобранадзейных асоб, заснаваць ва ўсіх "нядобранадзейных" месцах сельскія каравулы, зладзіць праверку абывацельскіх кніг і г.д[576]. Звяртае на сябе ўвагу факт, што многія з гэтых мерапрыемстваў былі пасля рэалізаваны М. Мураўёвым для арганізацыі ваенна-цывільнага кіравання падчас задушэння паўстання 1863 г.

Такім чынам, падводзячы вынікі аналізу інстытута паліцэйскага нагляду, можна адзначыць, што гэта была адна з мер па гарантаванні нацыянальнай бяспекі Расейскай імперыі, якая павінна была забяспечыць ахову грамадска-

---

[571] Бовуа Д. Гордиев узел Российской империи: власть, шляхта и народ на Правобережной Украине (1793–1914). Москва, 2010. — С. 517.

[572] ПСЗРИ (изд. второе), Т. VI, № 4594; Т. VII, № 5086; Т. VII, № 5086; Т. XVI, № 14522; Т. XI, № 9173; Т. XXI, № 20509; Т. XXI, № 20655; Т. XVI, № 14939; Т. XII, № 9355.

[573] Бовуа Д. Гордиев узел Российской империи... С. 517.

[574] Гарбачова В. Паўстанне 1830–1831 гадоў... С. 160.

[575] Дополнение ко второму полному собранию законов Российской империи, Ч. I. № 4940а. СПб., 1855

[576] НГАБ у Гродне Ф. 1, воп. 27, спр. 351, арк. 17–19, 204–205; Ф. 1, воп. 10, спр. 824, арк. 3, 24.

га і палітычнага ладу як ад унутраных, так і знешніх пагроз. Нягледзячы на стварэнне нарматыўнай базы, яе стасаванне было досыць варыяцыйным і мела шэраг рэгіянальных спецыфічных рыс. Адметнасцю беларуска-літоўскіх земляў з'яўлялася прэваліраванне на пэўным этапе "палітычнага" складніка паліцэйскага нагляду. Як адзначае сучасны расейскі даследчык гэтага пытання Алег Бекетаў, "з'яўляючыся па сваіх мэтах прэвентыўнай, па метадах — прымусовай, а па зместу, пераважна, адміністратыўна-палітычнай паліцэйскай мерай (нагляд), безумоўна, меў рэпрэсіўны характар"[577].

## СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

На першы погляд, даследаванне праблемы ўжывання царызмам смяротнага пакарання выглядае справай вельмі простай. Азнаямленне з наяўнай літаратурай па гэтай праблеме засведчыла, што ніводны іншы від рэпрэсій не прыцягваў столькі ўвагі такой колькасці даследчыкаў. Зразумела, што падобная зацікаўленасць была выклікана ў першую чаргу дыскусіямі аб правамоцнасці яго стасавання, якія цягнуцца ўжо не адно стагоддзе. Аналіз гістарыяграфіі засведчыў, што асноўным прадметам вывучэння як дарэвалюцыйных, так і сучасных гісторыкаў права з'яўляецца прававая эвалюцыя гэтай меры пакарання. У шматлікіх работах прааналізаваныя розныя аспекты яе ўжывання ў Расейскай імперыі: выяўлены фактары (як унутранага, так і знешняга характару), якія аказвалі ўплыў на вырашэнне дадзенага пытання ў тую ці іншую эпоху, праведзены параўнаўчы аналіз — супастаўленне з прававымі сістэмамі іншых краін Еўропы і Амерыкі, шмат увагі нададзена маральным аспектам яго стасавання, акрэслена яго прававая база, вызначаны асноўныя спосабы ажыццяўлення і пад. Іншымі словамі, выканана грунтоўнае тэарэтычнае вывучэнне дадзенай праблемы. Галоўным хібам усіх гэтых работ з'яўляецца адсутнасць якіх-небудзь звестак аб рэалізацыі гэтых юрыдычных норм у рэальным жыцці ў канцы XVIII-першай палове XIX ст. (выключэнне складае выпадак з павешаннем 5-ці дзекабрыстаў). Акрамя таго ў літаратуры сустракаюцца досыць супярэчлівыя звесткі аб колькасці выкананых падобных прысудах. У гэтым раздзеле мы паспрабуем правесці аналіз як прававой базы, так і практыкі рэалізацыі дадзенага віду рэпрэсій за палітычныя злачынствы ў Беларуска-Літоўскім рэгіёне ў вызначаны перыяд.

Гісторыкі права, вывучаючы гэтую праблему, адзначаюць, што да сярэдзіны XVIII ст. расейскае заканадаўства ператварылася ў суцэльную санкцыю смяротнага пакарання[578]. Пры імператрыцы Лізавеце Пятроўне ў імперыі быў уведзены мараторый на ўжыванне дадзенай меры пакарання. Прычыны падобнага кроку даследчыкі бачаць у сукупнасці фактараў унутранага (да іх ліку, між іншым, належаць асабістыя маральныя перакананні імператрыцы[579]) і знешняга характару, якія выявіліся ў агульнай тэндэнцыі да гуманізацыі сістэмы пакарання ў Еўропе і дыскусіі, што разгарнулася вакол гэтай праблемы. Апошні з гэтых

---

[577] Бекетов О. Персонифицированный полицейский надзор ... С. 33.

[578] Шелкопляс Н. Смертная казнь в России: история становления и развития (IX – середина XIX вв.). Минск, 2000. — С. 59.

[579] Жильцов С. Смертная казнь в истории России. Москва, 2002. — С. 160.

фактараў аказаў значны ўплыў на тыя змяненні, што адбыліся ў расейскай прававой сістэме ў эпоху панавання Кацярыны II. Новыя павевы закранулі ў тым ліку тэорыю і практыку стасавання смяротнай кары. Яны заключаліся ў наступным: дадзены від рэпрэсій працягваў захоўвацца ў якасці досыць пашыранай санкцыі ў тагачасным заканадаўстве, але яго рэалізацыя абмяжоўвалася выключнымі, экстраардынарнымі выпадкамі[580].

Важным этапам у гісторыі далейшага развіцця прававой базы дадзенага віду пакарання была эпоха Аляксандра I. Яе адметнасць выявілася ў тым, што ў гэты час назіраецца пашырэнне юрыдычнага поля і практычнай сферы выкарыстання смяротнай кары. Адбылося гэта ў першую чаргу дзякуючы прыняццю ў студзені 1812 г. Палявога крымінальнага ўлажэння (іншая распаўсюджаная назва — Ваенна-палявое ўлажэнне), якое, у сваю чаргу, было амаль што цалкам запазычана з французскага ваенна-крымінальнага закона 11 лістапада 1796 г.[581] Менавіта гэты прававы дакумент стаў юрыдычнай падставай для вынясення большасці смяротных выракаў у першай палове XIX ст.

Смяротнае пакаранне заняло дамінуючую ролю ў Ваенна-палявым улажэнні. Яно было прадугледжана 27-ю артыкуламі з 73-х[582]. Асноўнымі тыпамі супрацьпраўных дзеянняў, за якімі яно замацоўвалася, былі здрада, непадпарадкаванне вайсковаму начальству, бунт, знішчэнне армейскага харчавання, перашкода ў прасоўванні вайсковых частак і пад[583]. Пры гэтым юрысдыкцыя дадзеных норм распаўсюджвалася не толькі на вайскоўцаў, але і асоб, што прыраўніваліся да іх, г.зн. на цывільнае насельніцтва краю, які быў абвешчаны на ваенным становішчы.

Акрамя юрыдычных падстаў, Ваенна-палявое ўлажэнне 1812 г. замацоўвала і саму працэдуру ажыццяўлення смяротнага пакарання. Згодна з яго палажэннямі, пазбаўленне жыцця магло адбывацца толькі праз расстрэл, пасля двух дзён пасля зацверджання выраку. Вельмі падрабязна быў дэталізаваны і сам парадак яго выканання. Згодна з адпаведнымі нормамі ўлажэння, смяротнае пакаранне павінна было адбывацца публічна, у прысутнасці ўсіх войск на дадзенай тэрыторыі. На месцы экзекуцыі ставіўся слуп, загадзя выкопвалася яма. Тут асуджанаму пад акампанемент барабаннага бою зачытваўся вырак, апраналася белая доўгая кашуля і завязваліся вочы. Непасрэдна экзекуцыю прадпісвалася ажыццяўляць залпам з 15-і ружжаў з адлегласці 15-і крокаў. Пасля гэтага цела пакаранага адвязвалася ад слупа, клалася ў яму, а войскі дэфілявалі перад ім[584]. Тут хацелася б адзначыць, што дзеянне гэтых норм аб парадку ажыццяўлення дадзенага віду кары, выключна першай паловай XIX ст. не абмяжоўвалася. Яны сталі падставай для выканання смяротных прысудаў, захавалі сваю актуальнасць і падчас задушэння царызмам паўстання 1863 г.[585] Пры гэтым адсутнасць кнігі Ваенна-палявога ўлажэння магла стаць

---

[580] Латкин В. Учебник истории русского права … С. 426; Шелкопляс Н. Смертная казнь в России… С. 73

[581] Энциклопедический словарь Ф. А. Брокгауза и И. А. Ефрона, Спб., 1890–1907.

[582] Фалеев Н. Цели воинского наказания. Спб., 1902. — С. 220.

[583] Головистикова А. История отмены применения смертной казни в Российском государстве [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.lawmix.ru/comm/205/.

[584] Фалеев Н. Цели воинского … С. 221.

[585] НГАБ у Гродне. Ф. 1159, воп. 3, спр. 21, арк. 328–330.

прычынай, па якой некаторыя ваенныя начальнікі адмаўляліся выносіць і, адпаведна, ажыццяўляць азначаны від рэпрэсій[586].

Усяго ў часы Аляксандра I па падліках гісторыкаў права было пакарана смерцю 25 чалавек[587]. Большасць з гэтых выпадкаў датуецца 1812 г. Прысуды тады выносіліся ваенна-палявымі судамі на падставе Ваенна-палявога ўлажэння. Сёння мы можам сцвярджаць, што частка гэтых экзекуцый мела месца па прычынах палітычнага характару. Падобная выснова вынікае з разгляду справы аб павешанні братоў Дамінінскіх (Дамінскіх) у Гародні ў 1813 г.

Звесткі па гэтым прадмеце захаваліся досыць фрагментарныя. З іх вынікае, што ў ваколіцах горада былі знойдзены папяровыя адозвы з заклікам да месцічаў, каб кожны гаспадар зарэзаў свайго пастаяльца (расейскага вайскоўца). Троп следства вывеў на братоў, гродзенскіх мяшчан Яна і Агла(?) Дамінскіх. Яны былі абвінавачаны ў тым, што "распальвалі дух абурэння" і "распаўсюджвалі шкодныя для нас чуткі". У сувязі з гэтым Дамінскія былі аддадзены пад ваенна-палявы суд, які, як можна меркаваць, кіруючыся нормамі Улажэння 1812 г., інкрымінаваў ім падбухторванне мясцовых жыхароў да непадпарадкавання. Прысуд быў канфірмаваны фельдмаршалам, кн. Міхаілам Кутузавым. Экзекуцыя адбылася 2 красавіка 1813 г. і мела публічны характар: "у прысутнасці вайсковага сходу і многіх гледачоў"[588]. Звяртае на сябе ўвагу і тое, якім чынам Дамінскія былі пазбаўлены жыцця: яны былі павешаныя, а не расстраляныя. Падобны спосаб пакарання лічыўся больш ганебным[589], і часцей стасаваўся ў дачыненні да цывільных асоб.

У часы наступнага імператара назіраецца далейшы працэс пашырэння прававога поля стасавання дадзенага віду рэпрэсіі. Пры гэтым прысуды дзекабрыстам не мелі з гэтым нічога агульнага, паколькі Мікалаем I у гэтым канкрэтным выпадку былі замацаваныя адмысловыя працэдурныя правілы, якія выключалі шэраг дзеючых крымінальна-працэсуальных норм[590]. Адбывалася гэта ў першую чаргу дзякуючы выданню сепаратных законаў аб стасаванні вышэйшай меры супраць удзельнікаў паўстання 1831 г., а таксама замацаванню склаўшайся практыкі ў кадыфікаваным Зборы законаў, Крымінальным улажэнні 1845 г. і інш. заканадаўчых зборніках. Што тычыцца першых, то тут неабходна звярнуць увагу на імператарскі ўказ ад 22 сакавіка 1831 г., якім прадугледжваўся цэлы комплекс мерапрыемстваў карнага характару супраць паўстанцаў у Заходнім краі. Ім, сярод іншага, прадпісвалася ўсіх шляхціцаў і дваран, якія будуць схоплены са зброяй у руках, судзіць ваенна-палявым судом па палявым улажэнні з выкананнем прысуду на месцы. Пры гэтым, што важна, правам зацвярджаць такія выракі былі надзеленыя камандзіры асобных вайсковых атрадаў[591]. Што

---

586 Радзюк А. Рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў 1863–1864 гг. // ARCHE, 2010, № 12. — С. 145.

587 Шишов О. Смертная казнь в истории России и Советского государства // Смертная казнь: за и против. Москва, 1989. — С. 51; Шелкопляс Н. Смертная казнь в России… С. 77.

588 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 312, арк. 1, 9, 11, 13.

589 Фалеев Н. Цели воинского… С. 277.

590 Куемжиева Я. Уголовное судопроизводство по преступлениям против государства в Российской империи первой половины XIX в.: Автореф. дис. … канд. юрид. наук. Краснодар, 2005. — С. 8, 10.

591 ПСЗРИ (изд. второе). Т. 6, № 4444.

тычыцца асоб ніжэйшых страт, то яны падлягалі юрысдыкцыі законаў ваеннага часу толькі ў выпадку здзяйснення забойстваў падчас паўстання[592]. Звяртае на сябе ўвагу і наступная дэталь. Указам прадпісвалася выконваць прысуды над падобнымі асобамі на месцы, а гэта, у сваю чаргу, азначала смяротнае пакаранне.

На сённяшні дзень гістарычная навука не дыспануе дакладнымі лічбамі адносна колькасці выкананых смяротных прысудаў у гэты час. Большасць даследчыкаў у сваіх росшуках абапіраюцца на "пайменны спіс асуджаных да смяротнага пакарання рускімі судамі", што быў выдадзены яшчэ ў 1906 г.[593] Нягледзячы на некаторыя каштоўныя звесткі, у цэлым, ён не вытрымлівае крытыкі. У ім, напрыклад, змешчаны прозвішчы 262 асоб асуджаных да вышэйшай меры за ўдзел у паўстанні 1830–1831 г., але, пры гэтым, адзначаецца, што гэтыя прысуды выкананы не былі. Насамрэч, у часы нацыянальна-вызваленчай барацьбы толькі на тэрыторыі так званых "новадалучаных" губерняў такіх выракаў было вынесена ў разы больш. Акрамя таго, у работах некаторых даследчыкаў гэтай праблемы назіраецца тэндэнцыя падмяняць колькасць смяротных прысудаў лічбай здзейсненых экзекуцый. Так, Саул Ушаровіч сцвярджае, што ў перыяд з 25 красавіка 1833 г. па 18 лістапада 1833 г. за ўдзел у паўстанні царскімі ўладамі былі пазбаўлены жыцця 24 чалавека[594]. Гэтая інфармацыя паўтараецца і ў іншых даследаваннях[595]. Мякка кажучы, гэтыя факты не адпавядаюць рэчаіснасці.

Вывучэнне гэтага пытання на падставе архіўных крыніц засведчыла, што большасць смяротных прысудаў у азначаны перыяд былі выкананы на падставе згаданага царскага ўказу ад 22 сакавіка 1831 г. Менавіта на перыяд разгортвання нацыянальна-вызваленчай барацьбы назіраецца найбольшая запатрабаванасць царскіх уладаў у выкарыстанні гэтага рэпрэсіўнага складніка сваёй палітыкі. Зразумела, што яго галоўнай задачай з'яўлялася напалохаць, зрабіць адпаведнае ўражанне на мясцовае насельніцтва. І тут варта канстатаваць, што падобныя мэты імі былі дасягнуты.

Нам удалося выявіць некалькі выпадкаў стасавання царызмам смяротнай кары ў 1831 г. на беларуска-літоўскіх землях. Найбольш аператыўна на выдадзены царскі ўказ адгукнуўся камандзір зводнай брыгады генерал-маёр Шырман. Ужо 28 сакавіка 1831 г., разглядаючы справу аб імаверным хваляванні сялян у Расіенскім уездзе ў маёнтках Агінскага і Ромера, ён загадаў усіх вінных у падбухторванні да бунту расстраляць на месцы. Аднак гэтых мер для аднаўлення спакою яму падалося недастаткова. Таму ён распарадзіўся па прыкладу рымскіх легіёнаў учыніць дэцымацыю. Пры гэтым у самым скажоным выглядзе: "З ліку схопленых сялян адабраць 3-ох найбольш вінных, а калі яны ў аднолькавай ступені вінныя..., то па жэрабі іх таксама расстраляць, але наступным чынам: далучыць да 3-ох асуджаных яшчэ 5 чалавек, размясціць іх сярод асуджаных да смерці праз чалавека, завязаць ім вочы... але пры гэтым захоўваючы адлегласць

---

[592] Тамсама

[593] Жильцов С. Смертная казнь в... С. 184; Шишов О. Смертная казнь... С. 59, 71; Шелкопляс Н. Смертная казнь в России... С. 89.

[594] Ушерович С. Смертные казни в царской России: к истории казней по политическим процессам с 1824 по 1917 год. Харьков, 1932. — С. 450.

[595] Игнатов В. Палачи и казни в истории России и СССР. Москва, 2013. — С. 51; Шелкопляс Н. Смертная казнь в России... С. 85.

і асцярожнасць каб стрэлы ружжаў ім не зашкодзілі, і пасля іх, як і іншых сялян, узорна пакараць нагайкамі"[596].

Дарэчы, цялесныя пакаранні ў часы іх існавання ў Расейскай імперыі былі адной з завуаляваных форм смяротнага пакарання. Магчыма, гэта рабілася часам ненаўмысна, але падобныя выпадкі мелі месца. У тым ліку і ў 1831 г. Як вынікае з рапарту штабс-капітана расейскіх войск Відзінскага, ім каля мястэчка Мерач, што ў Віленскай губ., быў перахоплены атрад паўстанцаў, які ўзначальваў маёр-інсургент Паўлоўскі. Падчас допыту апошні заявіў, што "нядоўга вам засталося валадарыць над намі", пасля чаго Відзінскі загадаў катаваць таго. Праз некалькі гадзін падобных выпрабаванняў Паўлоўскі памёр[597].

З гэтай выправай, што была перахоплена царскімі войскамі пад Мерачам, звязана іншая трагічная старонка паўстання. Розныя крыніцы паведамляюць, што як мінімум яшчэ адзін чалавек з таго атраду быў расстраляны. Пры гэтым у іх называюцца тры розныя прозвішчы, што аўтаматычна павялічвае колькасць верагодных ахвяр. Так, з рапарта маёра Ожыгава вынікае, што пад згаданым мястэчкам было схоплена 13 чалавек, якія мелі намер прабрацца ў Лідскі ўезд. Усе яны былі адасланы ў Гародню, дзе іх начальнік, шляхціц з мястэчка Араны Трокскага ўезда, па рашэнні ваенна-палявога суда а чацвёртай гадзіне раніцы быў расстраляны. Суд над іншымі працягваўся[598]. З іншай справы, якая тычыцца разбіральніцтва падзей у Мерачы ўвесну 1831 г. вынікае, што ў Гародні быў расстраляны ключ-войт з таго мястэчка Чыжэўскі[599]. Таксама сярод тых паўстанцаў, што былі схоплены ў красавіку пад Мерачам, быў і шляхціц, настаўнік з Беластоцкай вобласці Юльян Фальк. У адпаведнасці з данясеннем віленскага генерал-губернатара, менавіта апошні быў асуджаны да смяротнага пакарання ў Гародні "аб выкананні чаго было тады ж прадпісана мясцоваму каменданту"[600]. Сам факт выканання экзекуцыі ў горадзе над Нёманам у красавіку 1831 г. засведчыў тайны наглядальнік Пётр Розенг з Санкт-Пецярбурга: "на гэтых днях расстралялі тут аднаго з мяцежнікаў, што быў схоплены ў Мерачы". Далей ён падкрэслівае, які розгалас мела гэта падзея сярод мясцовых жыхароў: "Вядомасць аб гэтым разнеслася па горадзе ўжо напярэдадні здзяйснення пакарання..."[601]. Тым не менш, пытанне адносна выканання смяротных прысудаў у Гародні ўвесну 1831 г. застаецца: ці быў гэта адзінкавы выпадак, ці іх было больш? Таксама не можа не звярнуць увагу на сябе тая жорсткасць, з якой абышліся вайсковыя ўлады з тымі, хто трапіў у палон пад Мерачам.

Калі адносна колькасці экзекуцый у Гародні не ўсё да канца зразумела, то факт пакарання смерцю праз расстрэл за ўдзел у паўстанні ў Віленскай губ. Іпаліта Лабаноўскага пацвярджаецца дзвюма крыніцамі[602]. Таксама ёсць некалькі сведчанняў аб выкананні яшчэ аднаго падобнага выраку ў раёне Белавежскай пушчы. У адным са сваіх рапартаў генерал-лейтэнант Галавін паведамляў, што

[596] LVIA. F. 378, ap. 38, b. 525, d. 2, l. 226–227.
[597] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 1102, арк. 29.
[598] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 1, арк. 6.
[599] LVIA. F. 381, ap. 7, b. 1761, l. 24.
[600] НГАБ у Гродне. Ф. 931, воп. 1, спр. 2, арк. 288.
[601] РГИА. Ф. 561, оп. 1, д. 107, л. 10.
[602] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1, арк. 895; LVIA F. 381, ap. 10, b. 2948, l. 1.

пасля зацятага бою з паўстанцамі каля Святлічанскай старожкі, ім у палон быў захоплены адзін паранены "мяцежнік", якога ён загадаў судзіць ваенна-палявым судом з намерам "для прыкладу здзейсніць над ім смяротнае пакаранне"[603]. Як бачым, лёс гэтага інсургента быў вызначаны яшчэ да пачатку разгляду ўсіх абставін яго справы. Пацверджанне факту выканання над ім смяротнага выраку мы знаходзім у данясенні ваўкавыскага земскага спраўніка, які, апісваючы дзеянні паўстанцаў у Белавежскай пушчы, адзначыў, што адзін з іх, Лядзінскі, "быў схоплены атрадам Галавіна… і пасля ваеннага суда павешаны ў мястэчку Свіслачы ў маі месяцы (1831 г.) "[604].

Як можна меркаваць, трохі на іншых прававых падставах быў заснаваны судова-следчы працэс у выпадку з сялянамі мястэчка Шкуды Цяльшэўскага ўезда. Гэта вынікае ўжо з таго, што сам прысуд быў адасланы на канфірмацыю віленскаму генерал-губернатару, а той, у сваю чаргу, зацвярджаючы гэты вырак, спасылаецца на імянны ўказ імператара ад 19 кастрычніка 1831 г., які яму такое права прадставіў[605]. Згаданыя сяляне былі абвінавачаны ў тым, што хаваючыся ад рэкруцкай павіннасці ў карчме, што ў мястэчку ШатыІлькамірскага ўезда Віленскай губ., яны вырашылі прагнаць вайсковы атрад, які, як ім падалося, прыбыў у гэтую мясцовасць для набору рэкрутаў. Некалькімі стрэламі праз шыбу і дзверы карчмы ім удалося дабіцца сваёй мэты, пры гэтым адзін расейскі шараговец быў забіты. У хуткім часе, схопленыя, яны былі аддадзены пад ваенна-палявы суд, што быў адкрыты пры палку, дзе служыў загінулы. Сваёй канфірмацыяй Мікалай Далгарукаў пастанавіў "у страх і прыклад іншым" аднаго з іх расстраляць у Шкудах, а іншага ў Цельшах. Але, як вынікае з далейшага развіцця падзей, патрэбны ўладам эфект страху меў досыць нечаканы вынік. Пасля ажыццяўлення першай экзекуцыі 12 студзеня 1831 г. над Якавым Жадоўскім (быў расстраляны пры вялікім збегу народу з прычыны базарнага дня), другі асуджаны, Адам Вайткус, 13 студзеня быў дастаўлены ў Шкуды, "на месца забойства, … дзе праз дзве гадзіны памёр, верагодна, ад жаху ў чаканні смяротнага пакарання"[606].

У цэлым, аналізуючы дынаміку ажыццяўлення смяротных выракаў падчас задушэння паўстання на беларуска-літоўскіх землях, хацелася б зазначыць зніжэнне іх колькасці ў другой палове 1831 г. Галоўная прычына гэтай тэндэнцыі нам бачыцца ў змяненні самой сістэмы суджэння паўстанцаў. Пасля выхаду царскага ўказу ад 17 ліпеня гэта выявілася ў змяншэнні ролі ваенна-палявых судоў. З'явіліся органы папярэдняга разгляду спраў (губернскія следчыя камісіі), і, што больш важна, ад гэтага часу выракі, што выносіліся імі, абавязкова накіроўваліся на канфірмацыю вышэйшаму начальству. У выніку склалася даволі цікавая сітуацыя: ваенна-судовыя камісіі ў масавым парадку выносілі смяротныя прысуды (такая шырокая фармулёўка як "схоплены са зброяй у руках дазваляла гэта рабіць), а тыя, у сваю чаргу, не зацвярджаліся і ў большасці выпадках замяняліся на ссылку ці аддачу ў салдаты. Больш за тое. Падобная

603 НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 41, арк. 51.
604 НГАБ у Гродне Ф. 1, воп. 27, спр. 65, арк. 51.
605 LVIA. F. 378, ap. 40, b. 883, l. 96
606 LVIA. F. 378, ap. 40, b. 883, l. 99.

тэндэнцыя назіраецца ў дачыненні не толькі да шараговых паўстанцаў, але і "галоўных важакоў мяцяжу", якія ўзначальвалі паўстанне ў тым ці іншым уездзе ці кіравалі асобным атрадам[607] і былі, адпаведна, выключаны з ліку тых, хто меў права разлічваць на нейкую амністыю ці палёгку. Паўстанне было задушана і застрашальны эфект ад экзекуцый уладамі больш не быў запатрабаваны.

Аналіз вышэй прыведзеных выпадкаў не можа не звярнуць нашу ўвагу яшчэ на адну цікавую акалічнасць. Параўноўваючы практыку стасавання смяротнага пакарання ў 1831 і 1863–1864 гадах, можна заўважыць, што падчас абодвух паўстанняў улады ў большасці эпізодаў замянялі яго на іншую санкцыю. Але былі і адрозненні. Так, падчас задушэння ўзброенай барацьбы ў 1863 г. вышэйшая мера стасавалася пераважна ў дачыненні да тых асоб, чый склад злачынства меў кумулятыўны характар. Гэта азначае, што такі паўстанец акрамя непасрэднага ўдзелу ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе абвінавачваўся ў здзяйсненні іншых, крымінальных злачынстваў (забойства, гвалт і пад.)[608]. У 1831 г. падобная тэндэнцыя не прасочваецца. У гэты час датычнасць да паўстання з'яўлялася галоўнай прававой падставай для ажыццяўлення экзекуцый, у той час як крымінальныя супрацьпраўныя дзеянні вылучаліся ў асобныя справы і перадаваліся для разгляду ў цывільныя суды.




*Міхал Валовіч*

Наступныя выпадкі стасавання царызмам смяротнага пакарання на беларуска-літоўскіх землях звязаны з выкрыццём дзейнасці на гэтых тэрыторыях эмісараў. Гродзенскі губернатар Міхаіл Мураўёў дабіўся ад вышэйшых уладаў права зладзіць узорны, паскораны працэс над схопленым Міхалам Валовічам і яго паплечнікамі. Сярод выракаў, вынесеных ваенна-палявым судом, былі такія кваліфікаваныя формы смяротнага пакарання як чвартаванне, калясаванне (калясаваць і на кола пасля іх целы пакласці), пазбаўленне жывата і павешанне[609]. (Для параўнання адзначым, што ў Варшаве Асобы крымінальны суд вызначыў 7 асобам (у іх ліку і Адаму

[607] НГАБ у Гродне. Ф. 5, воп. 1, спр. 1 арк. 570, 946.
[608] Studnicki W. Rok 1863. Wyroki śmierci. Wilno.
[609] LVIA. F. 378, ap. 41, b. 1249, l. 171; Kozlowska-Studnicka J. Materiały do sprawy… S. 28

Чартарыйскаму) смерць праз адсячэнне галавы[610].) Натуральна, што ў такім выглядзе прысуд не былў канфірмаваны. У выніку, экзекуцыя была выканана толькі над М. Валовічам. Вось як апісвае яе ў сваім данясенні ваеннаму міністру віленскі генерал-губернатар: "пакаранне Валовіча здзейснена 21 чысла гэтага месяца (ліпеня) ў Гародні з якой толькі мажліва ўрачыстасцю і на гэтым ганьбішчы было некалькі тысяч markaznaга звання народу, пры гэтым ціша была цалкам захавана, і ўсе былі здзіўлены, што пры такім значным збегу народу абсалютна ўсе моўчкі глядзелі. Гэта зрабіла вельмі моцнае ўражанне на розум абывацелей, якія нарэшце бачаць, што Улады… дзейнічаючы па закону, караюць злодзеяў небаязліва, не ўпотай, але публічна, для ўсеагульнага прыкладу"[611]. Таксама адзначым, што цела Міхала Валовіча пасля здзяйснення экзекуцыі па загаду губернатара было перахавана ў невядомым месцы, "каб не было (над ім) тайных маленняў". У гэтым яшчэ адно адрозненне расправы над М. Валовічам ад іншых падобных працэсаў, і адначасова прэцэдэнт, які з ініцыятывы таго ж Міхаіла Мураўёва атрымаў шырокае распаўсюджанне ў 1863–1864 г.

З іншых працэсаў па справе так званай экспедыцыі Заліўскага, да выканання смяротнага пакарання дайшло толькі ў Беластоку. Тут 20 студзеня 1834 г. быў расстраляны эмісар Адам Пішчатоўскі. Падобную жорсткасць да яго з боку царскіх уладаў можна растлумачыць тым, што ў таго гэта было ўжо не першае сур'ёзнае супрацьпраўнае дзеянне палітычна-крымінальнага характару. Падчас следства выявілася, што яшчэ ў 1831 г. дзеля таго каб далучыцца да паўстання, падпаручнік царскай арміі А. Пішчатоўскі, змовіўшыся з двума іншымі сваімі калегамі, забіў афіцэра свайго палка[612]. Сукупнасць гэтых цяжкіх злачынстваў і прадвызначыла яго канчатковы лёс.

Симъ отъ Полиціи объявляется, что заграничный Эмисаръ, Государственный преступникъ Симонъ Конарскій, за возмутительныя покушенія противъ Правительства, приговоренъ Военнымъ Судомъ къ смертной казни, которая совершена будетъ завтра, 15 числа сего Февраля въ $10\frac{1}{2}$ часовъ по полуночи, за Погулянскою Заставою.

14 Февраля 1839 года.

*Аб'ява аб правядзенні экзекуцыі над Шыманам Канарскім*

Апошнім і, напэўна, самым вядомым прыкладам стасавання царызмам смяротнага пакарання ў Беларуска-Літоўскім краі ў першай палове XIX ст.

[610] LVIA. F. 381, ap. 6, b. 547, l. 16–17.
[611] Kozlowska-Studnicka J. Materiały do sprawy… S. 29.
[612] НГАБ у Гродне. Ф. 931, воп. 1, спр. 25, арк 1, 9; PSB. T. 26. — S. 577

з'яўляецца экзекуцыя Шымана Канараскага ў 1839 г. Яе апісанне прысутнічае ў многіх мемуарных помніках таго часу. Гэтая падзея надоўга стала сімвалам пакутніцкай смерці за ідэалы адраджэння незалежнай радзімы. З ланцугоў, што былі на Ш. Канарскім, калі яго везлі да лобнага месца, вільчане зрабілі ўпрыгожванні, якія разышліся па ўсім краі ў якасці рэліквій. Такім чынам, можам канстатаваць, што ў гэтым канкрэтным выпадку ўлады дасягнулі абсалютна адваротнага эфекту, зусім не таго, на які яны спадзяваліся.

Падводзячы вынікі разгляду тэорыі і практыкі стасавання смяротнага пакарання ў акрэслены перыяд, можна адзначыць, што менавіта ў першай палове XIX ст. канчаткова вызначыўся яго статус. У часы Мікалая I адбываецца яго замацаванне ў якасці не столькі крымінальнай, колькі палітычнай рэпрэсіі. Падобнае яго становішча было ўпершыню зафіксавана ў Зборы законаў Расейскай імперыі 1832 г., пасля пацверджана, і нават пашырана ў Крымінальным улажэнні 1845 г. У ім дадзены від рэпрэсіі быў прадугледжаны ў якасці санкцыі за "злачынствы супраць асобы імператара і членаў імператарскага дома", а таксама за "бунт супраць вярхоўнай улады" і "дзяржаўную здраду"[613]. Такім чынам, да сярэдзіны XIX ст. смяротнае пакаранне прайшло шлях ад поўнага адмаўлення (у часы Лізаветы Пятроўны), праз кампраміснае яе дапушчэнне за адзінкавыя, асабліва небяспечныя дзяржаўныя злачынствы (у эпоху Кацярыны II) да заканадаўчага панавання (пры Мікалаі I)[614]. У такім выглядзе яно стала адным з галоўных інструментаў царскага рэжыму для барацьбы са сваімі праціўнікамі ў наступную эпоху. Прадстаўленыя прыклады стасавання смяротнага пакарання ў першай палове XIX ст. сведчаць, што яго выкарыстанне было абумоўлена не столькі літарай закону, колькі палітычнай неабходнасцю ў тым ці іншым канкрэтным выпадку. Гэтая неабходнасць у большасці эпізодаў, што былі прааналізаваны, была выклікана жаданнем уладаў застрашыць, навесці страх на мясцовае насельніцтва ў выпадку ўзнікнення пагрозы захаванню спакою і палітычнай стабільнасці ў тым ці іншым канкрэтным рэгіёне.

---

[613] Российское заканадательтво … Т. 6. — С. 233, 235, 238.

[614] Шелкопляс Н. Смертная казнь в России… С. 92–93.

# ВЫСНОВЫ

Рэпрэсіі былі важнай, неад'емнай часткай той палітыкі, што праводзілася царызмам на землях Беларусі на працягу ўсяго часу іх знаходжання ў складзе імперыі. Пры дапамозе рэпрэсій расейскія ўлады вырашалі самыя разнастайныя задачы: ад захавання тэрытарыяльнай еднасці сваёй дзяржавы і правядзення маштабных сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў у рэгіёне да кантролю за думкамі і паводзінамі асобных грамадзян.

Месца і роля рэпрэсіўнага складніка ў сістэме агульнаімперскіх мерапрыемстваў у розныя часы не былі аднолькавымі. Мера яго стасавання і разнастайнасць формаў былі абумоўлены як ступенню палітычнай стабільнасці ў краі, так і перапляценнем мноства іншых фактараў унутрыпалітычнага і знешнепалітычнага характару, а таксама асаблівасцямі эпохі ў цэлым. У канцы XVIII — пачатку XIX ст. карная палітыка не была мэтанакіраванай праграмай дзеянняў, разлічанай на нейкую перспектыву з боку імперскіх уладаў. Яе асноўныя складнікі былі адасобленыя адзін ад аднаго і не ўтваралі цэласнай, прадуманай, лагічна выбудаванай канцэптуальнай сістэмы. Хутчэй за ўсё яе можна ахарактарызаваць як набор разрозненых адказаў расейскага ўрада на тыя выклікі, што ён атрымліваў з заходніх граніц дзяржавы. Яе асноўнай мэтай было задушэнне нацыянальна-вызваленчага руху і пакаранне датычных да яго асоб дзеля недапушчэння паўтарэння падобных інцыдэнтаў. Разам з тым, у працэсе рэалізацыі мерапрыемстваў падобнага характару, царызмам паступова былі выпрацаваныя новыя падыходы да вырашэння тых праблем, з якімі ён сутыкнуўся ў гэтым рэгіёне. У наступны этап гістарычнага развіцця рэпрэсіўны складнік на пэўны час становіцца вызначальным у палітыцы царызму ў дадзеным рэгіёне. Менавіта з яго дапамогай імперскія ўлады паспрабавалі ажыццявіць карэнныя пераўтварэнні, накіраваныя на нівеліраванне ўсіх адметнасцей краю і канчатковую яго інтэграцыю ў склад так званага "рускага свету".

У фарміраванні элементаў рэпрэсіўнай палітыкі былі задзейнічаны вышэйшыя эшалоны імперскай улады. Але пры гэтым важная роля ў вызначэнні некаторых яе адметнасцей належала сярэдняму звяну (губернскі, генерал-губернтараскі) уладных структур імперыі. У яе ажыццяўленні прымалі ўдзел ці не ўсе дзяржаўныя інстытуцыі з судамі, арміяй, царквой, чыноўнікамі розных узроўняў, тайнымі агентамі і іх асведамляльнікамі ўключна. Пры гэтым вядучая роля ў гэтым механізме адводзілася арміі — галоўнаму апірышчу царызму ў гэтым рэгіёне. На яе былі ўскладзены функцыі па непасрэднаму задушэнню нацыянальна-вызхваленчага руху. Яна выконвала пенітэнцыярную функцыю (была месцам адбыцця пакарання "палітычных"). Акрамя таго, вайсковыя суды і ваенна-палявое заканадаўства адыгрывала ключавую ролю ў працэсе суджэн-

ня такіх асоб. Роля цывільнай улады фактычна была абмежавана правядзеннем папярэдніх следчых мерапрыемстваў. У апошніх вялікае значэнне надавалася розным часовым калектыўным органам, якія адмыслова ствараліся вышэйшай уладай для расследавання таго ці іншага канкрэтнага выпадку, звязанага з тым ці іншым эпізодам нацыянальна-вызваленчай барацьбы на беларуска-літоўскіх землях. На паліцэйскія органы былі ўскладзены абавязкі па ажыццяўленні пошуку, арышту, суправаджэнню і пільнаванню западозраных асоб. Таксама яны павінны былі забяспечваць паліцэйскі нагляд (галосны і негалосны) за падазронымі асобамі. Для здзяйснення прысудаў "палітычным" выкарыстоўваўся ўвесь той рэпрэсіўны апарат, што і для іншых злачынцаў.

Важным складнікам рэпрэсій у гэты перыяд быў тэрор. Таму выкананне некаторых відаў пакарання (асабліва фізічнага) у гэты час мела публічны характар. Гэты і некаторыя іншыя элементы сведчаць аб захаванні ў той час у карнай сістэме Расейскай дзяржавы элементаў сярэднявечнай тэорыі і спосабаў ажыццяўлення пакарання. Праведзенае даследаванне выявіла шырокае распаўсюджанне практыкі адступлення ад агульнапрынятых норм, а таксама выкарыстанне кары і абмежаванняў, што не былі прадугледжаны заканадаўствам. На ступень адказнасці той ці іншай асобы ўплывала мноства розных фактараў, сярод якіх ці не найбольш важным быў сацыяльны статус.

У цэлым у азначаны перыяд назіраецца ўзмацненне рэпрэсіўнага складніка ў палітыцы царызму ў дачыненні да беларуска-літоўскіх земляў. З аднаго боку, гэта было абумоўлена пашырэннем нацыянальна-вызваленчага руху і ўзнікненнем яго новых форм, а з іншага — асаблівасцямі мікалаеўскай эпохі ў цэлым. Вынікі гэтай палітыкі аказвалі адчувальны ўплыў на многія сферы тагачаснага жыцця: рэлігійную, сацыяльна-эканамічную, культурную і іншыя.

Правамерным з'яўляецца пытанне аб эфектыўнасці і выніках тых захадаў гвалтоўнага характару, што былі прадпрынятыя царызмам для дасягнення пастаўленых мэт па інтэграцыі, асіміляцыі і русіфікацыі беларуска-літоўскіх земляў. Сёння, з гістарычнай рэтраспектывы, можна сцвярджаць, што ў цэлым гэтая палітыка правалілася. Нягледзячы на сотні выдадзеных указаў, выкарыстанне шматтысячнага вайсковага і цывільнага апаратаў кіравання, велізарныя грашовыя выдаткі і стварэнне ідэалагічнага падмурка сваёй дзейнасці, расейскім уладам так і не ўдалося да канца вырашыць так званае "польскае пытанне", папярэдзіць або спыніць нараджэнне і развіццё беларускага нацыянальнага руху. Затое былі скалечаны тысячы лёсаў, падверглася рабунку ці руйнаванню культурная спадчына беларускіх земляў, гвалтоўна зменена сацыяльна-палітычная і рэлігійная сітуацыя ў рэгіёне.

Адваротным бокам царскіх рэпрэсій стала фармаванне арэолу пакутніка, які, змагаючыся за свабоду айчыны, ахвяруе сваёй маёмасцю, свабодай і нават жыццём. Значную ролю ў стварэнні дадзенага культу адыгралі філаматы і філарэты. У далейшым ён атрымаў шырокае распаўсюджанне як у палітычным, так і ў культурным жыцці рэгіёна.

# ДАДАТАК

## ПЕРАЛІК КАНФІСКАВАНЫХ МАЁНТКАЎ ПАСЛЯ ПАЎСТАННЯ 1830–1831 ГГ.

## МІНСКАЯ ГУБ.

| № | Імя гаспадара | Назва маёнтка | Уезд | Колькасць душ* |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Абуховіч Л. | Рымшаўка | Рэчыцкі | 18 |
| 2 | Аколаў А. | Рымля | Слуцкі | 42 |
| 3 | Бардскія Р., Ф. | Паложын | Ігуменскі | 15 |
| 4 | Барташэвіч Э. | Свілы | Дзісенскі | 47 |
| 5 | Білевічы А., А. | Сечкі | Вілейскі | 27 |
| 6 | Блажэвіч А. | Лапуты | Барысаўскі | 42 |
| 7 | Валасоўскі Я. | Бялёўцы | Дзісенскі | 88 |
| 8 | Бародзіч Ф. | Савейкі | Слуцкі | 1 |
| 9 | Голуб Р. | Лісовічы | Вілейскі | 7 |
| 10 | Граф Н. | Капілаўцы | Вілейскі | 21 |
| 11 | Корсак І. | Камляўшчызна | Слуцкі | 50 |
| 12 | Лапацінскі А. | Замяржыцы | Дзісненскі | Без сялян |
| 13 | Ліпскі С. | Сергяевічы | Ігуменскі | 171 |
| 14 | Незабітоўскі С. | Свіслач | Ігуменскі | 1675 |
| 15 | Пузыня А. | Гаць | Барысаўскі | 75 |
| 16 | Радзевіч З. | Зосін | Вілейскі | 98 |
| 17 | Радзівіл М. | Барысаўшчызна | Барысаўскі | 8172 |
| 18 | Радзівіл М. | Цымкавічы | Слуцкі | |
| 19 | Радзішэускі С. | Ілья | Вілейскі | 299 |
| 20 | Свяжынскі П. | Любашова | Слуцкага | 71 |
| 21 | Смігельскі А. | Юхнава | Вілейскі | 76 |
| 22 | Сямашка М. | Ляхаўшчызна | Дзісненскі | 30 |
| 23 | Хелхеўскі В. | Зэмбін | Барысаўскі | 196 |
| 24 | Холмскі А. | Мачуліцы | Дзісненскі | 26 |
| 25 | Цыбульскі Я. | Маназыль | Дзісненскі | 84 |
| 26 | Чартарыйскі А. | Стоўбцы | Мінскі | 1420 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 27 | Янушкевічы А., Р., Я. | Дзягільна | Мінскі | 21 |
| 28 | Оўруцкі базылянскі кляштар | Пагоннае | Рэчацкі | 209 |

## ГРОДЗЕНСКАЯ ГУБ.

| № | Імя гаспадара | Назва маёнтка | Уезд | Колькасць душ* |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Антусевіч А. | дом | Гародня | Без сялян |
| 2 | Арамовіч А. | Міранім | Слонімскі | 28 |
| 3 | Барэйша Н. | Лясковічы | Пружанскі | 171 |
| 4 | Барэйша Н. | Крываблоты | Пружанскі | |
| 5 | Булгак А. | Сергяевічы | Слонімскі | 43 |
| 6 | Булгарын А. | Татаршчызна | Ваўкавыскі | 16 |
| 7 | Бялькевічы Ф. і М. | Навіны | Навагрудскі | 10 |
| 8 | Бялькевічы Ф. і М. | Баравікі | Слонімскі | 2 |
| 9 | Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў | Бусяж | Слонімскі | 849 |
| 10 | Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў | Рынкевічы | Слонімскі | |
| 11 | Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў | Бераза | Пружанскі | 1018 |
| 12 | Валовіч К. | Яловікі | Слонімскі | 101 |
| 13 | Валовіч К. | Гарадзішча | Слонімскі | |
| 14 | Валовіч М. | Парэчча | Слонімскі | 223 |
| 15 | Гарайны Ф. і М. | Калона | Ваўкавыскі | 173 |
| 16 | Гарэцкі А. | Біскупцы | Лідскі | 88 |
| 17 | Гацыцкі Я. | Пярэсека | Навагрудскі | 11 |
| 18 | Глебавіч В. | Глебавічы | Гродзенскі | Без сялян |
| 19 | Гоўвальд К. | Лукі | Ваўкавыскі | 87 |
| 20 | Грабоўскі М. | Гімбуты | Лідскі | 53 |
| 21 | Дзярэчанскі дамініканскі кляштар | Старая Весь | Слонімскі | 120 |
| 22 | Жылінскі І. | Навасёлкі | Ваўкавыскі | 73 |
| 23 | Залескі М. | Купілава | Навагрудскі | 14 |
| 24 | Калупайла Л. | Геруцава | Ваўкавыскі | 64 |
| 25 | Каржанеўскі А. | Сапунцы | Лідскі | 27 |
| 26 | Кашыц Я. | Ятра | Навагрудскі | 594 |
| 27 | Коркуць Д. | Цяцянкі | Лідскі | Без сялян |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 28 | Кржываблоцкі І. | Стан | Пружанскі | 7 |
| 29 | Круповіч Г. | Яновічы | Лідскі | Без сялян |
| 30 | Лейка Ф. | Крупаўшчызна | Лідскі | 2 |
| 31 | Лейка Ф. | Курлы | Лідскі | 3 |
| 32 | Макоўскі А. | дом | Гародня | Без сялян |
| 33 | Маркевіч Д. | дом | г. Навагрудак | Без сялян |
| 34 | Мержыеўскі М. | Нясуцічы | Навагрудскі | 245 |
| 35 | Мержыеўскі М. | Вержбевічы | Навагрудскі | 227 |
| 36 | Мержыеўскі М. | Задзвеі | Навагрудскі | 2 |
| 37 | Мікульсі І. | Вензавец | Слонімскі | 431 |
| 38 | Міхалоўскі А. | Астравок | Лідскі | 3 |
| 39 | Міхалоўскі А. | Пяржховічы | Слонімскі | 111 |
| 40 | Міхалоўскі А. | Іванковічы | Слонімскі | |
| 41 | Міхалоўскі А. | Льнянікі | Слонімскі | 65 |
| 42 | Міцкевіч Ф. | дом | г.Навагрудак | Без сялян |
| 43 | Незабітоўскі С. | Пясчанка | Навагрудскі | 58 |
| 44 | Незабітоўскі С. | Янаўшчызна | Слонімскі | 306 |
| 45 | Незабітоўскія Г. і К. | Кавеўчыцы | Навагрудскі | 21 |
| 46 | Незабітоўскія Г. і К. | Горкі | Слонімскі | 88 |
| 47 | Нямцэвіч К. | Чэравачыцы | Кобрынскі | 772 |
| 48 | Нямцэвіч К. | Кленікі | Брэсцкі | 66 |
| 49 | Нямцэвіч К. | Скокі | Брэсцкі | 222 |
| 50 | Орда Н. | Варацэвічы | Кобрынскі | 386 |
| 51 | Падчасны Р. | Галоўчыцы | Брэсцкі | 29 |
| 52 | Палубінскі І. | Курчаўцы | Гродзенскі | 26 |
| 53 | Палубінскі І. | Грыўда | Слонімскі | 225 |
| 54 | Парчэўскі К. | Жыдомля | Гродзенскі | 938 |
| 55 | Пац Л. | Ражанка | Лідскі | 1351 |
| 56 | Пац Л. | Гарадзішча | Навагрудскі | 611 |
| 57 | Пац Л. | Рудня | Слонімскі | 28 |
| 58 | Пржацлаўскі Л. | Льваўшчызна | Слонімскі | 143 |
| 59 | Пуслоўскі Ф. | Гарадзечна | Пружанскі | 377 |
| 60 | Пуслоўскі Ф. | Радзівіновічы | Гродзенскі | 299 |
| 61 | Пуслоўскі Ф. | Лібія | Пружанскі | 198 |
| 62 | Пуслоўскі Ф. | Лявошкі | Пружанскі | 130 |
| 63 | Пуслоўскі Ф. | Дарнава | Кобрынскі | 574 |
| 64 | Пуслоўскі Ф. | Імянін | Кобрынскі | 244 |
| 65 | Пуслоўскі Ф. | Воўчын | Брэсцкі | 341 |
| 66 | Пуслоўскі Ф. | Вostраў | Брэсцкі | 93 |
| 67 | Сапега Я. | Новая Мыш | Навагрудскі | 519 |
| 68 | Сапега Я. | Дзярэчын | Слонімскі | 3849 |

